# Змест

**ПАЭЗІЯ**



**ПРОЗА**

# ВЕРАСЕНЬ
# ПАЭЗІЯ

кацярына массэ аліна паўлоўская
кацярына глухоўская вераніка міхалёва
ірына зорка лізавета дамініка панамарова
уладзімір чараухін рагнед малахоўскі
кацярына шчасная ігар кахановіч
павал змітрук



# Кацярына Массэ

паэтка. Студэнтка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Аўтар паэтычных зборнікаў: «Льется свет в мое окно» (2012 г.) і «Двоичный код»( 2015 г.). Нарадзілася ў 1997 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Што не можа быць сказана...

## Ці палюбіш?

Час прыйдзе
і зніме з мяне
пярсцёнкі,
сукенкі,
сатрэ
мае бровы і вейкі
і вочы паб'е,
як шкло.
Заглушыць вершаў маіх
галасы
і спаліць мае валасы.
Усё знішчыць,
ён не эстэт:
усмешку,
хаду,
інтэлект ,
свядомасць,
аблічча,
жыццё.

А ты,
калі знікне ўсё,
ці палюбіш
маё небыццё?

***

Для анёла чорт — гэта чорт,
а для чорта анёл ёсць чортам.
Для адзінкі мінус адзінка — адмоўны лік,
а для мінус адзінкі — адзінка.
Усё ад таго залежыць, з якога боку глядзець,
да якога належаць.
Ці стаяць на мяжы,
дзе добра бачна, што ўсё адносна,
неадназначна,
што ўсё адно.

## Слоўнікі

Калі не разумееш Бога логіку,
шукай яе ў тлумачальным слоўніку.

Этапаў кармы спіс храналагічны
змяшчае слоўнік этымалагічны.

Пра шчырае, бясконцае каханне —
да слоўніка сінонімаў пытанне.

Ці правільна жывеш, ці гарманічна,
адкажа табе слоўнік граматычны.

Але магчыма, ты з такіх назоўнікаў,
што самі сабе пішуць слоўнікі.

## Цырымонія жыцця

Цырымонія жыцця:
разлітыя па кубках душы
пад ціскам самазабыцця
стаяць маўкліва, непарушна
на падносе,
як быццам словы ў двухкоссі.

Душу, што цалкам невымерная,
абмежавалі формаю,
памерам,
каб ейны чысты смак і водар
зрабіць чыёйсьці асалодай.

Цырымонія жыцця:
дарэшты выпітыя душы,
і толькі я
лунаю ў кубку непарушным.
Куды ўвальецца смак мой, водар
аднойчы плынню асалоды?

Я засталася тут адна —
кім бы ты ні быў,
выпі мяне да дна.

***

Я хацела знайсці,
але не змагла шукаць.
Я хацела набыць,
але не змагла трымаць.
Я хацела ісці,
але не было куды.
Намагалася плыць,
але не было вады.
Я хацела любіць,
але не было каго.
Я глядзела ўверх,
але не знайшла там Яго.
Я хацела сказаць,
але не змагла гаварыць.
Заставалася знікнуць,
але я магу толькі быць.

## Граматыка

Ты — дзеяслоў, а я — прыслоўе,
сустрэліся аднойчы ў сказе;
і ты стварыў яго аснову,
чым, шчыра кажучы, уразіў.
Хоць я па функцыі не дзейнік,
але, як выключэнне,
ты падпарадкаваўся мне
па форме і значэнні.
І я б таксама прыняла
тваёй граматыкі ўмовы,
але ж ты ведаеш, што я
нязменная часціна мовы.

## Канцэпцыя сябе

Ты хацеў быць такім, гэтакім, гэткім,
ідэалістычная канцэпцыя сябе
была арматурай крохкага існавання.
Аднак нярэдка
церпяць фіяска спробы ўтрымання
рамантычных амплуа.

Аднойчы ты апрануў шыварат-навыварат
сваё Я,
і ўсе пабачылі твой сюрэалістычны арт,
затоены пад вонкавым парадкам.
Вось так збіваюцца жыццёвыя наладкі.
І ты сам-насам застаешся
са сваёй пустэчай,
усведамляючы кон чалавечы:
быць бессістэмнасцю, быць хваляй
непрадказальнага вагання.
І хораша,
бо чалавека губяць ягоныя ж казкі
пра сябе самога.
Ідучы навобмацак па чужых сцяжынах,
мы ўсё жыццё змагаемся за маскі
і загінаем у іх руінах.

## Ні верху, ні долу

космас не мае ні верху, ні долу
нашы шляхі замыкаюцца ў кола
нашы напрамкі не маюць напрамкаў
рамкі ламаюць уласныя рамкі

сцежкі пятляць па заблытаных сцежках
ферзь і кароль пакараюцца пешкам
лёс не залежыць ад дзеяння лёсу
смерць заплятае шыкоўныя косы

бог перад мніхам з усмешкаю кленчыць
вечнасць не верыць, што будзе жыць вечна
цемра не бачыць сябе ў гэткай цемры
мера так прагне пабыць непамернай

корань не хоча раструшчваць квадраты
карты гуляюць у нас, нібы ў карты
час дзёрзка хлусіць, што ён ёсць прасторай
пункты апоры губляюць апору

нам абыяка, трыумф ці падзенне
мы без святла пазнаём прасвятленне

нам у зняволенні ведама воля
космас не мае ні верху, ні долу

***

Па сутнасці,
усё можна вымераць фразамі,
але сутнасць у тым,
што не можа быць сказана.

***

Ці чуеш ты, як трывіяльна гучанне асобнае ноты?
І як у музычнай палітры яе расцвітае істота?
І як яна ролю сваю разумее адразу?
Ты ведаеш, людзям так важна быць разам.

***

Калі б'юць,
не магу аказаць супраціву.
Я не воін, не змагар,
я — дзяўчына.
Не граніт, што трымае ўдар,
я — вада,
што зламаць немагчыма.

## Белая калона ў чорнай зале

Белая калона.
У чорнай зале.
Кветкавы ордар пад аховай
Бетону і сталі.
Мармуровая анфілада.
Каменныя контрфорсы.
Мая каралеўская памада.
Твае «найкаўскія» кросы.
«Сікстынская Мадонна» Рафаэля.
Насупраць — «Квадрат» Малевіча.
Я распасцерла крылы ды ўзляцела.
А ты застыў, як Апалон, у сваёй велічы.
Я злева: пішу ў паветры класічную фрэску.
Ты — справа: ставіш лэптоп на загрузку.

І кажаш мне штосьці па-нямецку.
А я маўчу.
Па-беларуску.

## Прызма

Сапраўды, мы глядзім на Сусвет
праз вялізную брудную прызму.
У кожным з нас ёсць прагматычны шкілет,
але не хапае нейкай...
экзістэнцыяльнай харызмы.

Мы толькі гуляем
у пошукі ісціны —
вось яна, тая сансара,
з якой мы не можам выйсці.

З чаго складаецца наша гісторыя?
Формулы, схемы, тэорыі,
сімвалы, штампы, мадэлі,
канцэпцыі, міфалагемы.
Веды, веды, веды,
інфармацыя, інфармацыя,
пачаткова, сярэдняя, вышэйшая
адукацыя,
матэматычныя
аперацыі,
грамадска-эканамічныя
фармацыі,
катэгарызацыі,
класіфікацыі,
імітацыя
валодання мастацтвам
медытацыі...

Стоп!

Мы глядзім на Сусвет
праз вялізную брудную прызму,
і жыццёвы імпэт
трансфармуецца ў дзікую трызну.
Мы толькі гуляем у пошукі ісціны.

яе, нібы сонца, проста не бачна
за шчыльным лісцем.
Як дрэва ўвосень крону агольвае,
так трэба і нам нарэшце стаць вольнымі
ад

усёй папярэдняй гісторыі
гіпотэз, схем, тэорый,
сімвалаў, штампаў, мадэлей,
канцэпцый, міфалагем.
Ведаў, ведаў, бязмежных ведаў,
бясконцай інфармацыі,
пачатковай, сярэдняй, вышэйшай
адукацыі,
матэматычных
аперацый,
грамадска-эканамічных
фармацый,
катэгарызацый,
класіфікацый,
імітацыі
валодання мастацтвам
медытацыі...

Мы толькі гуляем у пошукі ісціны,
бо чымсьці ж займацца нам трэба.
І хоць насамрэч яна блізка,
мы робім выгляд, што аб гэтым не ведаем.

## Дзень нараджэння паэткі

Мне споўнілася васямнаццаць тысяч слоў,
бо ў паэта замест лёсу —
лексікон.
Я не раблю высноў,
ці многа мне яшчэ іх засталося,
але малюся
богу сваёй мовы,
каб дапамог дажыць
да самага галоўнага
з усіх ужытых мною
Слова.

## Аўтакамунікацы Я[1]

Ёсць рэчы, якія можна абмяркоўваць
выключна з самім сабою,
бо іх разумеюць толькі дзве асобы:
Я і Я —
і вечная аўтакамунікацы Я.

Я звяртаюся да самой сябе,
сама сябе сузірае мяне.
Думкі ў думкі, вочы ў вочы,
як гэта наогул магчыма — быць двойчы?
Згортваецца і кусае сябе за хвост змя Я —
вечная аўтакамунікацы Я.

Нават пільнае самасузіранне
не дае адказу на фундаментальныя пытанні:
хто Я, Ты? і хто Ты, Я?
і чаму не складваецца нашая камунікацы Я?

## Генератар

Генератар працуе спраўна.

Хоць і высокае супраціўленне
праводнага асяроддзя,
спрадвечны ток усё яшчэ наяўны —

цячэ па жылах тваіх, народзе.

Адчуй яго. Проста. Нікога й нічога не судзячы.

Няхай нас мала —
мы будзем тым каналам,
што правядзе энергію з мінулага
і праз сучаснае

ў будучыню.

---

1 Аўтакамунікацыя — камунікацыя ўнутры аднаго суб'екта, камунікацыя з самім сабою

## Моўны дэтэрмінізм

Так сталася, што ёсць чалавек і ***человек***, ***man*** і ***Mensch***.
Першы жыве, другі ***живёт***, трэці ***lives***, а чацвёрты ***lebt***.
Трэці чытае ***a poem***, а першы ставарае верш.
Другі ***наблюдает за миром***, чацвёрты ***betrachtet die Welt***.
Першага атачаюць людзі, другога... хтосьці да іх падобны,
трэці й чацвёрты нейкіх ***people*** і ***Leute*** навокал маюць.
Першы з другім ані ***love***, ані ***lieben*** не здольны,
астатнія два наўрад ці калісьці ***полюбят*** ці пакахаюць.
Справа ў тым, што ***платье*** і ***Kleid*** — гэта розныя рэчы;
што ***Mensch*** адчувае не боль і не ***pain***, але ***Schmerz***;
што ***man*** не можа сагрэцца ля полымя ў печы;
што людзям пэтрэбна прастора, а ***people need space***.
Але ёсць такія, хто можа і ***sprechen***, і мовіць, і ***speak***.
Іх мова раўнуецца ***Sprache***, іх ***language*** не горш за ***язык***.
Яны адчуваюць штодня перцэптыўны драйв,
бо ўсё ім даступна: і ***жизнь***, і жыццё, і ***Leben***, і ***life***.

## У нас цэлая вечнасць

У нас цэлая вечнасць,
каб пражыць жыццё, пра якое мроілі.
У нас цэлая вечнасць,
каб выкупіць грахі і прыдумаць новыя.

У нас цэлая вечнасць,
каб знайсці адказы і прычыны.
У нас цэлая вечнасць,
каб зразумець, што гэта немагчыма.

У нас цэлая вечнасць,
каб нічога не было ў апошні раз.
У нас цэлая вечнасць,
каб не згадваць пра час.

У нас цэлая вечнасць,
каб жыць і паміраць.
У нас цэлая вечнасць,
каб пачаць яе ўсведамляць.

Але не хопіць вечнасці,
каб зразумець сябе,
бо больш за яе.

## Існасць

твая існасць
прама прапарцыянальная
тваёй канцэнтрацыі
ў прасторы верагоднасцей

ты існуеш роўна настолькі
наколькі моцная
твая любоў да жыцця

але жыццё —
рэч не ўніверсальная
яно складаецца з тваіх уласных
аб’ектаў любові
фактычна
гэтым яно і вычэрпваецца
усё астатняе — выпадковыя эпізоды
з прасторы верагоднасцей

любі
калі хочаш быць існым
адпускай
калі прыйшоў час
раствярыцца

## Дыханне

удых —
выдых
удых —
выдых
прыслухайся
удых —
выдых
не спыніць
удых —
выдых

музыка
гэта
б'ецца сэрца
Сусвету
удых —
выдых
дыхаюць хвалі
удых —
выдых
Дух
рухаецца
па спіралі
не спыніць
удых —
выдых
гэта
б'ецца сэрца Сусвету
ты б'ешся
сэрцам Сусвету
сэрца Сусвету
б'ецца табою
Сусвет б'ецца
тваім сэрцам
удых —
выдых
не спыніць
удых —
выдых
ты не адзін
не дыхаеш сам —
гэта
лёгкія Сусвету
удых —
выдых
у
ды
х
вы
дых
дыхае
Дух
не спыніць



# Аліна Паўлоўская

паэтка. Студэнтка 3 курса філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Нарадзілася ў 1995 годзе ў Гародні. Жыве ў Гародні.

# Мелодыя кахання

## Шчасце

Якое шчасце — сустрэць свой лёс
На ціхіх вулак перапляценні,
Не пакідаючы нават ценю,
Кружляць над цемрай сямі нябёс.

Якое шчасце — цябе знайсці
На бездарожжы пад жоўтым клёнам
І пад завесаю паркалёвай
Змяркання попелам адцвісці...

***

Ты сягоння мой, маё бяссонне.
Я сягоння — твой салодкі сон.
Не давай, малю, мне апрытомнець,
Забірай бязвольную ў палон!

Хай гучыць мелодыя кахання,
Напаўняе светлай цішынёй
Першае трывожнае спатканне
Цёплых вуснаў, белых рук сувой.

## Дваццатай вясной

Дваццатай, растрывожанай вясной
На беразе самотнага чакання
Пад хвалямі вільготнага расстання
Знікалі мары — музы дзіўных сноў.

Іх воклічы глушыліся вадой.
Іх рукі, што шукалі прагна Бога,
У роспачы хапаліся за ногі
Мае — цягнулі ў цемру за сабой.

І я ішла, пакорная, на дно,
Пакінуўшы на беразе чаканне.
Канала недарэчнае каханне
Дваццатай, растрывожанай вясной.

***

Сёння лётнае надвор'е:
Горача, зацішна.
Залятае на падворак
Белы попел з вішняў.

Сёння страчанае ўчора
Сустракае заўтра.
Сёння я — твая прастора.
Будзеш касманаўтам?

***

На падворку добрае надвор'е.
Толькі ў сэрцы зноў ідуць дажджы.
І слата, разбаўленая болем,
Па шчаках сцякае і душы.

***

А я чакала, верыла табе,
Малілася жывым і мёртвым зорам,
І жураву, і грушам на вярбе,
І сораму падманлівым узорам.

Я ўсё сваё маленькае жыццё
Гатовая была аддаць задарма,
Як дрэвы аддаюць зямлі лісцё
У полымя кастрычніцкіх пажараў...

Так, я была гатовая на ўсё.
Я верыла табе і ўсё чакала.
А ты мяне адкінуў, як рыззё.
І я рыззём ля ног тваіх упала...

***

Сямёра не чакаюць аднаго...
А я свайго адзінага чакаю
З далёкіх пераплеценых дарог,
Што спяць за бірузовым небакраем.

Чакаю, нібы маці ля акна
Чакае падарожжамі стамлёных
Сваіх дзяцей, якіх даўно няма
На свеце, гаманою заімглёным.

Чакаю, як чакаюць нежывых,
З бязглуздаю, ды ўсё ж такі надзеяй,
Што ўсёмагутны, самы чуйны слых
Пачуе маё сплаканае: «Дзе ён?..»

***

Палоняць сэрца Вашы вусны
Журботным подыхам нябёс,
Няўлоўным водарам спакусы,
Салодкім болем. Вы — мой лёс.
Ад слоў сваіх не адракуся
Ні ў вольным небе, ні ў турме.
Кахаю... дзеля Беларусі.
Таму яна яшчэ жыве!



# Кацярына Глухоўская

**паэтка, празаік. Студэнтка 4 курса аддзялення медыцынскай псіхалогіі БДУ. Аўтар паэтычнага зборніка «Калі дрэвы растуць з галавы». Нарадзілася ў 1995 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# Перад прычасцем...

## Зоркі

Гэта зоркі блукаюць у Тваіх валасах,
Весяляцца, смяюцца, нешта шэпчуць няспынна,
І мне хочацца верыць, што ўсё так, як павінна:
Ты на небе, а зоркі — ў Тваіх валасах.
Будзе вецер спяваць па бутэльках і целах —
Што адных, што другіх безнадзейна спусцелых.
Што Ты меў на зямлі? Што Ты меў, што я мела?
А цяпер — сотні зорак у Тваіх валасах.
Распускаў маладзік вербаў доўгія косы.
Першы снег на траве, першы снег на вачах —
Гэта зоркі, калядныя зоркі — не слёзы.
Тыя зоркі, што ёсць у Тваіх валасах.

*2012*

## Астрыд Ліндгрэн

Астрыд забегла па кветкі ў садок духмяны —
І крамяністай сцяблінай пячэ далоні.
Кідае вокам на Астрыд пануры ганак,
Косіцца сумна ў дзявочай руцэ балонік.
Ветразь сукенкі надзьмуў неспакойны ветрык,
Астрыд сягае вышэй за страху сядзібы —
Проста туды, дзе сады міжпланетных кветак,
Дзе з мелкай сажалкі ў неба нырнулі Рыбы,
Рак спіць пад хмарай, нібы пад камень стуліўся,
Леў залатымі кудламі трасе спрасонку.
Астрыд смяецца — Цялюк тыцнуў цёплай пысай, —
І з метэорамі смех ападае звонкі,
Сыціць і глебу, і травы, і поўсць сабакі,
Што на прызбе вартаваць заставаўся ўночы.
Падае смех у пустыя талеркі, глякі, —
Хто яго вып'е, заззяе мо сам аднойчы...
Вочкі расплюшчыць малая дзяўчынка зранку —
Тут ні кентаўраў няма, ні жывёл бліскучых.
Толькі зіхціць дзіўна посуд расой на ганку,
Просіцца кубак у рукі з вадой гаючай.

## Esse homo

Харал людскога шматгалосся
Цячэ праз дзверы і праз вокны,
Па падваконнях, як па мосце,
Па лесвіцах, пакуль не змоўкне.
І рэха-водгулле як можа
Дапамагае ў такт нястомна —
І чую раптам спевам гожым
Людзей мелодыі і громы.
І замест крыкаў мітуслівых,
Ліецца песня, песня-гоман:
У сэрцы з радасным прылівам
Біецца хваляй — «Esse homo».
Пяскі ў пярліны пераззвоніць —
Сцякае музыка гаворкі,
І чалавек з душы прадоння
На золку спараджае зоркі.

*10.07.2015*

## Звычайная гісторыя

Непрыгожая дзеўка ды бедны хлапец
Разам выйшлі на хісткі, нясталы гаўбец.
Цыгарэтку ад сонца хлапец запаліў,
А дзяўчо сваім кветкам чыніла паліў...
Ім хапала маўчання на гэтым гаўбцы —
Валасамі на жорсткім старым грабянцы
Заставаліся мары. І толькі сцішка
Дзеўка твар нахіляла слязьмі да гаршчка.
І дужэлі ў раслінак сцяблiны тады
На зямлі-папяльніцы з салёнай вады.
А аднойчы бутонаў тугіх матылі
Сотняй зорак на гэтым гаўбцы расцвілі...

*1.04.2014*

## Чорная Панна нябёсаў

«Трымай самы светлы, зіхоткі пратуберанец!» —
Так зорка вялікая кліча малую на танец.

Малая смяецца, малая адводзіць вочкі,
І вейкамі промняў паказвае згоду моўчкі.
Ніхто не чакае, што можа далей адбыцца,
Ніхто не сказаў, што за цяжар нясе драбніца:
Найбольшая ноша ў малой і прывабнай зоркі —
Няма, каб трымаць, у галактыцы ўсёй падпоркі.
А зорка вялікая ззяе сляпым каханнем,
Не бачыць той цяжар, не ведае, што з ёй стане.
І так пакрысе аддае ўсю падтрымку любай —
Знясіліўшы сэрца, да скону, да цемры, згубы.
Вось зорка малая ледзь-ледзь узнімае веі —
І ў позірку чорная бездань, душы завея.
Так гіне вялікая зорка і так, пакрыху,
Малая душу яе смокча спакойна, ціха.
Нарэшце, калі ўжо ў вялікай жыцця не стане,
Калі яна ўся ў зорцы любай сваёй растане,
Малая згарнецца да кропкі бясконца прагнай —
Да дзіркі касмічнай, для душ і прамення багны.

***

Калі мая маці ляцела над атамным краем,
Празрыстай і палкай каметай між хмар ды вясёлак,
Ёй нехта раскрыць свае вочы падступна параіў —
І маці мая нарадзілася ў свеце без зорак.
І маці мая нарадзілася кволай ды голай.
Бабуля ледзь-ледзь не памерла, сцякала крывёю,
А маці ляжала, рвучы сваё дробнае горла,
Бо зноўку хацела на неба каметай сівою.

***

Як мама кашляе ў пакоі за тонкаю сценкай.
Самота ўнутры яе поўніцца ад нараджэння,
І ў цемры ад болю звужаюцца чорныя зрэнкі,
І цела знікае ў ста тысячах тонкіх скажэнняў.
У казкі ды мроі сыходзіць яна ад прыроды,
Нібы ў хвалі мора нырае шалёным дэльфінам —
Свабодным дэльфінам, што любіць жыццё ды прыгоды —
І болей нікому нічога зусім не павінна.

*5.05.2014*

## Імша

Царква ў Ільвове моліцца за бежанцаў,
Касцёл таксама моліцца за бежанцаў,
І сінагога моліцца за бежанцаў,
І з мінарэтаў моляцца за бежанцаў,
І брукаванка моліцца за бежанцаў,
І кожны ходнік моліцца за бежанцаў,
І ўсе прыступкі, травяныя купкі,
І дрэваў карані, слупы, абрубкі,
І ліхтары, і вокны ў кожнай хаце,
І дахі ў дзірах, і страха ў багацці
Карункавай прыгожай чарапіцы,
Кавярні ды кнігарні, ды крамніцы,
Музейныя куточкі, таямніцы —
Паветра нават звыкла тут маліцца.
І так паўсюль на землях Украіны.
Тут моляцца не толькі твары — спіны.
Уголас, нема, слепа і відушча —
Сама краіна моліцца за душы...

*6.07.2015*

## З Украіны

У спёцы паўднёвай драмае вайна,
Гандлярка сядзіць на пагорку майна —
Сцякаюць гандлярчыны мажныя ногі
Да пыльнай спляванай вакзальнай падлогі.
Як дрэва, аброслае мохам і плюшчам,
І грыбам, гандлярка аброслая тлушчам —
І толькі вішнёвыя косткі са слінай
Яна вывяргае з сябе штохвілінна.
Няшчасныя ногі, завітыя венамі,
Ад спёкі расталі, пацеклі каленамі,
І капаюць пальцаў апухлымі кроплямі —
То слёзы Рабле, пот каня пад аглоблямі,
Залева, якой не было тут здаўна.
Гандлярка плюецца. Спіць мірна вайна.

*6.07.2015*

***

На Польскай зямлі сто маленькіх касцёлаў стаіць —
І кожны з іх прагне сапраўднага Бога стаіць,
А Бог прыхаваўся на кожным зямным сантыметры,
Захутаўся ўвесь, з галавой у дзявочыя гетры,
Дзіцячыя боты, старэчыя палкі ды тросткі.
Бог духам сваім угрызаецца ў нашыя косткі,
Хапае зубамі, ірве, як галодны сабака,
Каб кожны ад гневу Яго прыгажосці заплакаў.

***

Германія — сонечны рапс падпірае лясы,
З-пад дрэваў габрэяў і гномаў гучаць галасы —
Гісторыя свету чапляе гісторыю казак,
І Якаў з Вільгельмам ляжаць між старонак і красак.
Шалёнае піва змывае з-пад ног берагі —
Мы злізваем пену з русалчынай мокрай рукі —
Хвасты роўным колам па хвалі вядуць карагоды —
Нямецкая іх філасофія іншай прыроды,
Чым бачылі людзі. З навукай старога Энштэйна,
Яго капялюшык па піве плыве безнадзейна.
І Вагнера грае для скокаў шкляны чалавечак,
А ў рытме над лесам падрыгваюць Міхеля плечы.

## Вандроўнае

Ля самай мяжы
Язык пакажы,
Прасі напісаць па прыездзе,
Магніцік з вандроўкі прывезці.

І нават калі
Кветкі падвялі,
Абрам сустрэў каля брамы,
Замоўлю магніцік з крамы.

Спытаю лісты
Ці роўмінг, а ты
Чакай мяне. Як што стане
Я распавяду вяртаннем.

*17.06.2015*

***

*Памяці М.С.*

Памяць, нібы рэстаўратар старанны,
Лёгка карцінам загойвае раны,
Чорныя плямы пад пэндзлем скарае,
Рамы ўспамінам палепш абірае.
Вось і сыходзіцца: цемра — у зоры,
Гнеўнае сонца спускаецца ў мора,
Горы — хіба што ў прыгоркі ды схілы.
Дуб каранямі прастуе з магілы,
Радасць і цёплы ўспамін пра сяброўства
Разам прыходзяць праз смутак і ростань.
Памяць, нібыта святар у саборы
Перад прычасцем, здымае з нас сорам,
Шчодра грахі адпускае, правіны —
Свеціць жыццё з сэрцаў і з дамавіны.

*2.05.2015*

***

Аблокі цяжарныя сонцам,
Цяжарныя гурбы травой.
Расце казка ў кожнай старонцы,
А цуды хаваюцца ў ёй.
Бягуць прамяні па сцяжынах
Ад шыбаў да сонных вачэй,
І чорная зрэнкі ажына,
Як сокам, слязою цячэ.

## Вянкі ў Пятровічах

Люсі дагэтуль лётае ў дыяментах:
Ззяе валоссе, лунаюць сцябліны рук.
Глеб між зямлі і кветак густых, багатых
Стаў, нібы цар, ускараскаўся на гару.
Ціха бярозы пляткараць пад сонцам сонным,
Лёгкі мароз разрумяніў іх карані.
І медзяныя галінкі ледзь чутным звонам
Сон намагаюцца ў могілках збараніць.

Трэснула шкло на партрэце — ірвецца вонкі,
Вокам глядзіць на неба, сцяжыну — звыш.
І зухавата чупрына тырчыць. І стромкі
Вырас з яго галавы палымяны крыж.
Хутка і мы дакоцімся, далунаем,
З Люсі бліскучай да выраю даляцім.
Кветкі на доле дасадзім і дазбіраем —
Выпадзе час вянкамі буяць самім...

***

Затрымаеш дыханне, каб выплыць вышэй за дах —
Над закінутай хатай лунаць з груганом ды крукам.
Ты запомніў, што снег, якім дыхаеш, ёсць вада.
Ты запамятаваў, што можаш цячы па бруку.
І залевай злуецца адчайны халодны дождж —
Ён настолькі замёрз, што мы клічам яго завеяй,
Завірухай, сумётніцай — сэрца, як сумны смоўж,
Падпаўзае да горла і моўчкі казыча веі.
Адрываеш нагу — малянятка, ступай наверх.
Адрываеш другую — і нешта спадае ў цемрадзь.
Ты адолеў апошні, нябесны, жывы паверх.
А згубіў па дарозе, бадай, толькі цяжар цела.

## Анёл смерці

Маці цябе пацалуе ў набелены лоб.
Скрывішся зранку — яна, пэўна, коўдру сцягнула.
Вочы адкрый — сэрца кінецца з месца ў галоп:
Ты ўжо прачнуўся, а цела старое паснула.
Вільгаць з рукі тваёй — гэта жывая вада,
Быў быццам рыба на сушы — прымай жа адхланне:
З вуліц ускрыльваюць брудных ва ўсіх гарадах —
Сотні анёлаў-бадзяг, што на хлудзе сканалі.
Крылы іх ясныя, пругкія, пер'е пластом
Ззяе вясёлкамі і невядомым, нябачным,
Толькі прадбачаным шчасцем, святлом, хараством.
Німб з дзьмухаўцоў над усмешкамі позіркаў скача.

## Нараджэнне

Прачніся, свет, за гарызонтам, там,
Няспынны квет — пяшчотныя аблокі,
Заранка слепіць вочы дзівакам
І вабіць дух — і дух ідзе, бязногі,
Бяскрылы, непабачаны нікім,
Чароўны дух, само жыццё, магчыма.
І падаецца свет святлом такім,
Што дзівакі ўсё лыпаюць вачыма,
Не дыхаюць, бо хочацца ўцягнуць
Заміж паветра вобраз неймаверны,
І замест слёз цячэ з вачніц іртуць —
Атрамантам і фарбай да паперы.
Не стой, замёршы, гэта хараство
Не для таго, каб чалавек стаў пасткай,
А, мо наадварот, каб позірк твой
Схапіць — і ўсё астатняе каб засціць.
Каб ты пайшоў, панёс ды перадаў,
Захоплены — замкнёным у пячоры,
Што ўсё на свеце — неба ды вада,
Акно ад сёння ў заўтра ды ва ўчора;
Што прыгажосць — між мітуслівых змен,
А ўсе яны — адна жывая Вечнасць;
Што костку можа раздрабніць бязмен,
А вось душу ніколі не знявечыць;
Што толькі мы ў адказе за сябе
Прад кожным мінаком і кожным блізкім,
І ў той жа момант мы ў адной трубе
Менш за часціцу атамарнай рыскі,
Менш за слана і менш за мураша,
Нароўні з кожным, без віны ў той момант,
Калі ў здзіўленні кідаем дрыжаць —
І ўваскрасаем з амярцвелай комы.
Мінулае было — і там — не ты,
Там чалавек з тваёй душой і целам.
І ўсе табой пражытыя гады —
Як прачытаны прыклад нечы ў цэлым.
Ён вопыт дасць — нязменны кніжны факт,

Што так і так — рабі цяпер высновы.
Ці будзеш ты пасля? — І не, і так.
Такі, як ёсць, ты толькі зараз, новы.

*20.09.2014*



# Вераніка Міхалёва

паэтка. Студэнтка 3 курса Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Нарадзілася ў 1992 годзе ў Магілёве. Жыве ў Магілёве.

# Я дзякую вам...

***

З маленства навучаюць нас хадзіць,
Раскладваць кубікі і з цацкамі гуляць.
Але не вучаць нас, як мову палюбіць
І беларускае у Беларусі паважаць.

Ў садку нас вучаць ветлівымі быць,
Там пакрысе мы вучымся чытаць.
Але не вучаць нас, як мову палюбіць
І беларускае у Беларусі паважаць.

У школе вучаць складваць і дзяліць,
Нас навучаюць аднімаць і памнажаць.
Але не вучаць нас, як мову палюбіць
І беларускае у Беларусі паважаць.

Нас вучаць дома прыбіраць, падлогу мыць,
Дзяўчат матулі навучаюць гатаваць.
Але не вучаць нас, як мову палюбіць
І беларускае у Беларусі паважаць.

За годам год плыве за небакрай,
Мы, бы вавёркі, круцімся-спяшаем...
А ў час, калі мы марым пра замежны край,
Наш РОДНЫ — Беларусь, знікае.

*28.02.2015*

***

Не любім дзівакоў.
Мы з іх смяемся.
Мы ненавідзім тлустых і худых.
І, нават, калі воўк
Нас раздзярэ у лесе,
Аб дапамозе не папросім
Мы такіх.

Не любім шчырых, —
Гэта падазрона.

Слабых мы абражаем
І дурных.
Няма ім месца
Ў нашым Пантэоне,
Аб дапамозе
Не папросім іх.

Мы зняважаем тых,
Хто шчасця поўны,
І грошы не кідаем
Для сляпых.
Мы ненавідзім тых,
Хто мае гонар.
Ніколі. Ні аб чым
Мы не папросім іх.

Суровы лёс
Кладзе нас на лапаткі,
Пад дых балюча
Б'е няўмольны час...

І парадокс.
Каго мы абражалі —
Руку працягнуць
першыя да нас.

## Я дзякую вам!

Хачу падзякаваць таму,
Хто надламаў.
Усім тым людзям,
Што ў бруд тапталі.
Хачу падзякаваць таму,
Хто падымаў,
Нягледзячы на
Супярэчлівасць рэалій.

Хачу падзякаваць таму,
Хто адпусціў,
Цяпер я тая,
Хто я ёсць,
У сваёй нішы.

Таму, хто падштурхнуў
І рукі апусціў:
Я узнялася і жыву,
Як казаў Ніцшэ.

Удзячная таму,
Хто верны мне.
І не крыўдую я на тых,
Хто здрадзіў...
Бо здрада — гэта
Тыя ж перамены,
Не забіваюць нас,
А робяць шчэ мацней.

Я так удзячна тым,
Хто не са мною.
Багі, трымайце іх
Як мага далей ад мяне.
Я ўдзячна ім
Усёй сваёй душою,
Няхай жывуць,
І гора не кране.

Хачу падзякаваць таму,
Хто ў мяне верыў,
А тым, хто кпіў —
Я дзякую аж двойчы:
Хай у іх будзе
Дабрыні бязмеры.
Ды так, каб
Захлынуліся аднойчы...

Я так удзячна тым,
Хто мае гонар.
Хто быў, хто ёсць
І хто яшчэ тут будзе.
Я дзякую таму,
Хто годны.
І веру, што сапраўдныя
Ёсць людзі.

*24.11.2014*



# Ірына Зорка

паэтка. Скончыла факультэт замежных моваў Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С. Пушкіна. Нарадзілася ў 1991 годзе ў вёсцы Ражковічы на Пружаншчыне. Жыве ў Мінску.

# Дарыць любоў...

## Маленне

Вецер вольны, мне высушы слёзы!
Падзяліся крупінкаю мудрасці
І надай маім вуснам ласкавасць...
Перуноў мне не шлі на дарозе:
Сэрца прагне кіпучай бадзёрасці,
Не да часу хварэць мне на млявасць.
На мяне не шукай ты паразу!
Ну нашто табе кволае дрэўца?
Пад табою я гнуся да долу,
Але моцы гартую адразу.
«Не скаруся!» — крычыць маё сэрца.
Стан мой гнуткі, ды дух мой не кволы!

## Вера і меч

Салдаты мінулых эпох
І моцныя свету!
Чакае вас могілак мох
І чорнае пекла!
Салдаты, забойцы дзяцей,
Псы Госпада, мніхі і каты!
Не зменшыць вам веры людзей
Крывёю запэцканых латаў!
Адчуеце подых смалы
І д'яблавы кіпці на скуры.
У пекле штурмуйце валы —
Нап'ецеся подыхам буры!
Аздоба смяротных грахоў
На вашых скрываўленых спінах.
Лілі вы нявінную кроў —
Выгодны падман у былінах.
А зараз расплата прыйшла
Для катаў паходаў «святых».
І новая Зорка ўзышла:
Мы будзем маліцца за іх!

*12.05.2011*

## На могілках

На могілках няма няродных,
А пасівееш — родных шмат.
І як з сабой ты не змагайся,
Але табе тут кожны брат.

А каб жа, каб і да жывых
Заўсёды ставіліся гэтак,
Напэўна, мы перажылі б,
Сканчэнне Свету...

## Credo

Жыццё пражыць, як чарапаха,
Я не хачу. То не маё!
І халадзеючы ад жаху,
Цягнуць няўцям быццё сваё.
Не зведаць горнай прахалоды,
Не ўскінуць вока да нябёс,
І не пакінуць асалоды
Ў душы ад першых чулых слёз.
Натольвацца хачу каханнем,
А іншым падарыць любоў,
Умець дзяліцца спачуваннем
І утаймоўваць зграі сноў...
Я не памерці пры жыцці
Жадаю сэрцам апантана!
Гэй, лёс, сіло мне не пляці,
Бо я не здамся гэтак рана!

***

Туманы запалонілі сэрца...
Да вясны засталося сем дзён.
Эх, на сонца не глянеш праз шкельца!..
І не спыніш цяперашні сон.
Ад чакання мне нават няёмка:
што дурнога знайшла я ў зіме?
Але сэрца трапеча анёлкам,
гімн спявае жаданай вясне.

Хутка спевам залашчаць нас птушкі
у світальны спакуслівы час,
і вясёлак квяцістыя стужкі
намалююць на небе абраз.
Мне зашэпча на вуха каханне,
цёплы ветрык пчалой загудзе.
Хлопец любы на першым спатканні
сэрца ў светлы настрой апране!

***

Людзі няспынна шукаюць людзей.
Днём з ліхтаром бы калісьці філосаф...
Спешна, марудна, у процьме падзей.
Па Фройду альбо па Пісанні
Сплятаюцца лёсы клубкамі пачуццяў.
І тое не дзіва — прыроды закон.
У час адзіноты пякельнай пачуць бы,
Што ты не адзін свой агораеш кон...

*29.07.2014*



# Лізавета Дамініка Панамарова

паэтка, музыка. Друкавалася ў часопісах «Верасень» і «Дзеяслоў». Нарадзілася ў 1988 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# У самым сэрцы...

## Каханне

Яно, раптоўна, пашырае межы,
Як той Вялікі Выбух, першы рух.
Яно, імгнення, незалежна
Зачне адзін Сусвет з асобных двух.

Яно, як гук, які не успрымае слых,
Як пара з вуснаў, расплаўляе снег.
Яно — той самы жыццядайны ўдых,
Што ўзяў ад Бога першы чалавек.

***

Я ведаю, пройдзе стагоддзе,
я пацеркі зор назбіраю,
Я іх падару мужчыне...
І на кожнай зорчынай спіне
накрэмзаю слова «КАХАЮ».

***

Я нарадзілася абмытая дажджом
Трывогамі, тугой даўгачакання
І снегам зазіхцела ўсё вакол...
На хрэсьбіны мае халодным раннем

Шчаслівыя, пяшчотныя бацькі
Ружовы свет, заліты добрым сонцам
І рысы ўдала йдуць праз дол рукі...
Здавалася, што буду жыць бясконца

Але мне праглынуўся д'яблаў цвік
Маленькі, незаўважны і празрысты
Крывіць патроху сэрца — ён там знік
У самым сэрцы... — храме прамяністым.

А як баліць, а як цякуць ракой
Ўсе шэсць грахоў, іх пыха падганяе

Я у імгненне сталася такой,
І гэта маю вечнасць забівае

Марудна забівае, што спяшыць?
І да Канца Часоў яшчэ далёка...
Маю лістоту ветру варушыць...
Каб ссек хто ствол гнілы... Была б палёгка!

## Вялікдзень

На Вялікдзень пяць гадоў таму
Штосьці дрыготкае аддала яму
Ён узяў,
Засвяціліся промні пагарды.
Я плыла ў ёй...
Ён — добры, ён — варты...

Я шчыра, штодня, памногу
Кіравала ў Тваю сваю дарогу.
А яны не сышліся.
Праз гады закрывіла веліч малой бяды,

Незаўважнай бяды
Дзьвюх маленькіх мрой.
Класічная смерць:
«Ты не са мной».

Гэта смерць па кроплі
Смактала кроў
З сэрца, сатканага з тваіх слоў.
І цяжка было ўдыхнуць
Атручаны тлён чужых іртоў...
І тады, ламаючы пальцамі шкло,
Я зразумела Любоў.

***

Мяне ванітуе душой.
Я брыдкасць сваю не сцярплю.
Мяне ванітуе... табой...
Мне можацца грызці зямлю.

Мяне ванітуе душой.
Мне граззю свой свет зачарніць...
Мяне ванітуе... табой...
На кожным уздыху баліць.

Мяне ванітуе душой.
Мне чорная котка скрабе.
Мяне ванітуе... з табой,
Трасе і баліць... без цябе.

***

Ты мяне пацалуй на золку
Сыдзі ціха
Падалей ад ліха
Сарві рамонку
На летнім полі
Пусці пялёсткі да волі
З ветрам па свеце
Няхай твае дзеці
Растуць шчасліва
Без маіх валасоў саламяных
Без песняў маіх духмяных
Хай міне заліва
Тваё жыццё пад Богам
Да сонца твая дарога!

***

Душа ўва мне пакрыўджана шалёная,
Крывінкаю застыла на нажы,
Жахлівай праўдай моцна апалёная.
Ты ад мяне знявечаны бяжы...

Сярод людзей я адзіноту слухаю,
А з маміных вачэй мне зіхаціць
Бясконцая любоў з трывожнай скрухаю...
Няхай тваё каханне прэч ляціць.

Я п'ю віно з сябрамі за натхненне,
А ўва мне душа агнём гарыць.
Схаваюся ў сабе ад дараслення,
Каб ты ў дзяцінстве яшчэ змог пажыць.

***

Як вецер зграбна лысіць дзьмухаўцы?
Як крыж гамоніць з крыжам ў Курапатах?
Як у пачаткаў ёсць свае канцы?
Як мышы не жывуць ў бязлюдных хатах?

Як хлеб пячэцца? Як расце трава?
Сусвету не абрыдла пашырацца?
Як гэта ўсё змяшчае галава?
Пра гэта трэба ў Бога запытацца...

***

Ты — трыумф абыякавасці.
Сумневамі закляваны,
Падзелены на якасці,
Ўжо тройчы расстраляны.
Прывязаны да ролі,
Каханнем абдзялёны.
І ветрам свішча ў полі
Твой смутак улюбёны.

***

Не забывайся пра нас нават ноччу,
За намі Бог уважліва сочыць,
Ён рэгулюе дыханне,
Укладае ва ўздыхі каханне.
Трымайся мяне праз усе падзеі,
У нашым паветры ёсць слодыч надзеі,
Што прагне адбыцца ў сэрцы вясной
У тыя імгненні, калі ты са мной.

## Святая Алена-Шукальніца

Я хараводам
Ад развода да развода …
Ажно душа самлела!
Дзе ж мой ваявода,
У латах цела?
Ды так трывожна

Шукаць не можна —
Ўжо коні ў мыле!
Падумаў кожны,
Што мне б, заможнай,
Сядзець у тыле.
Не, я ж не з гэных!
Мне кроў у венах
Таго прарочыць,
Хто апускаецца на калены
Перад абразам святой Алены,
Каб адшукаць мяне,
Каб не збочыць!..



# Уладзімір Чараухін

паэт. Студэнт 5 курса Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны. Аўтар паэтычных збонікаў (сумесна з Дар'яй Дарошка): «Не наступайте птице на крыло» (2010 г.) і «Маяк» (2014 г.). Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# Ліцвінскі Пегас

## Лютаўскі дождж

Лютаўскі дождж пазіраў у вялікім здзіўленні
На гразкую глебу, на боты з пушыстым падбоем,
Што крочылі цугам па ўскрайку бяздоннага неба.
А людзі глядзелі ў здзіўленні на лютаўскі дождж:
Дарослы — з трывогай, а хлопчык — з агнём апантанага,
Той яўна стараўся ўвабраць у сябе гэты дождж,
Каб выплюхнуць потым яго на дзядулеў мальберт
з гразюкай, разлівам, пушыстым падбоем на ботах,
і, самае важнае, з тонкай бязважкай калінай
Пад плоймай маленькіх, чырвоных, як жар парасонікаў.

## На нараджэнне Хрыстова

Радуйся свет, нарадзілася тое ягня,
якое шпурнуць ваўкам з валасатымі сэрцамі!
Кроўю нявіннага паспрабавалі сцерці выскал звярыны
з твару таго, хто быў створаны па падабенстве Божым.
Сплыло дзьве тысячы год вады, і люстэркі гавораць,
што спроба была няўдалай.
Словам, табе заўжды падабаліся ванны з гарачай крыві.
І да архангелавых труб, здаецца, яшчэ так далёка.
Можа, ва Ўсявышняга знойдзецца яшчэ адзін сын?

***

Па тонкім шкле над прорвай чорнай
Брыдзе жыццё.
Празрысты след на сцежцы зорнай —
І забыццё.

***

Напаўзлі чарадою хмары —
Адляцела Жар-птушкай мара.
Да яе цяпер, быццам да сонца!
Пехатой не адолець бясконцасць.
Я гляджу на халодныя зоры,
І мяне атуляе горыч...

***

Стомлены вецер у восеньскім парку,
нібы сівы дворнік у зацёганай світцы,
ціхенька пасвістваючы сабе пад нос,
мяце па сцяжынках сухою галінкай
меднае лісце.

## Цёмныя ночы восені

*Паводле Ул. Караткевіча*

Маўкліва глядзіць у камін.
За вокнамі — ночы восені,
Цёмныя ночы восені
І шолах старых ялін!

А цемра жыве, палохае...
Здаецца, спявае рог?
Здаецца, мярцвяк галёкае?!
Зайшлося выццё далёкае!
Куды адвярнуўся Бог?!

За шыбамі дрэвы чорныя
Сцяной абступілі гмах...
І ў дзеўчыны вочы чорныя,
Нібыта віры азёрныя,
І ў зрэнках — застылы жах.

Стаіць, як струна напятая,
апошняя ў скрыпцы струна.
І ноч гэту струнку кратае,
Глядзіць, як дрыжыць за кратамі
Наструненая вясна.

## Ліцвінскі Пегас

Не ведаю, што за праява такая:
Чаму беласнежныя крылы майго Пегаса
Ператварыліся раптам у скураныя?
І чаму гэтыя крылы так жудасна выюць?
І потым, мой Пегас ніколі не смярдзеў потам!

Цяпер мне здаецца, што іншых Пегасаў на нашай зямлі не было.
Нашыя коні носяць не на Парнас,
А ў мінулае...

***

Цёмная зялёная алея.
Як заўжды, мой закуток пусты.
На галінцы кветачка бялее,
Гушкаецца ў промнях залатых.

Не чутно ні галасу, ні тлуму.
Цішыня, нібы рачная плынь,
абдымае думкі, мае думы
І нясе паволі ў далячынь.

## Шматколернасць

Тысячы гукаў, як лёгкія рукі,
Бягуць па сцяне.
Крокі і рэха сардэчнага стуку
Навокал мяне.
Бэзавы звон, лёгкі смех, быццам з інею,
Радасны ўскрык,
Нібы ў маўчанні бяздоннага сіняга —
Сонечны блік.
Фарбы бягуць па сцяне і зліваюцца
Ў казачны дзень.
Ціха між імі плыве і ўсміхаецца
Ўсцешаны цень.

## Зорны аазіс

Ноч ідзе, пастукваючы кіем,
Па бязлюднай чуйнай цішыні.
Цень двароў, самотныя агні,
Крокі, нетаропкія, цяжкія.

Там трывожна хмурыцца мужчына,
Тут — жанчына... Горад ціха спіць.
Ноч дае засмяглым душам піць,
Ноч дае кароткі адпачынак.

Прыйдзе дзень, узніме хмары пылу.
Караван пацягнецца далей.
Покуль зззяе ў небе Вадалей —
Спіце, людзі! Піце, піце сілу!

Ноч ідзе, пастукваючы кіем...

## Сэрца свету

*Дар'і Дарошка*

Альтанка — у воблаках бэзу.
Дзівосны куток над ракой.
Духмяны вятрыска-гарэза
Суквецці варушыць рукой.

Праменне струменіць скрозь лісце.
На доле дрыжыць светлацень.
Ты помніш, галубка, калісьці
Быў гэтакі ж сонечны дзень?

І толькі паслухай, Танюшка,
Пра што шамаціць гэты бэз!..
Вось гэтыя ж словы на вушка
Шаптаў я калісьці табе.

У нашым адзіным сусвеце
Дрыжыць над вадой гэты кут.
Спытаеш няголасна: «Дзе ты?» —
Адразу пачуеш: «Я тут!»

***

Лілея бялее ў абдоймах зялёнага ценю,
Вяночак пялёсткаў аж свеціцца ў цёмнай вадзе.
Мой човен паволі рассоўвае круглае лісце,
Вясло абмінае галоўкі бялюткіх карон.
Не стану ірваць хараство на букет для каханай.
Пакіну зіхоткае дзіва на чорнай вадзе.
Я лепш прывязу сваю любую ў чоўне драўляным
Самой падзівіцца.

## Яблынька

Яна стаяла ў зялёным строі пасярод вечаровага саду,
Чароўная і летуценная,
І бледны маладзік пацалаваў ёй па старым звычаі высокія грудзі.
Галантны шляхціц са срэбнай шабляй даўно ўжо пакінуў баль,
а шчокі паненкі гараць у вечаровым змроку,
і вочы блішчаць ярчэй за начныя росы!
Шэпт прыдворных яблынь далятае нібыта здалёку...
Заўтра ён прыйдзе ізноў!

## Срэбная калыханка

*Прысвячаецца Д. Дарошка*

Між аблокаў ззяе серабрысты твар.
Патанае ў казцы сцішаны абшар.
Засыпае снегам поўня ўсё наўкол,
засыпае срэбрам дах, і плот, і дол.
Спі, мая галубка, ціхім светлым сном.
Ходзіць снег па даху срэбраным катом.
На замерзлых шыбах расцвілі сады:
папараць іскрыцца, ружы са слюды.
Між крыштальных яблынь ходзяць гарцукі.
Падыдзі да коней, дай ім хлеб з рукі.
Чуеш ты, ці чуеш у паветры смех,
лёгкі і празрысты, быццам срэбны снег?
Спі, мая галубка, серабрыстым сном.
Ходзіць снег па даху срэбраным катом.
Хутка прыйдзе ранак, зазірне ў вакно —
Золатам і барвай палыхне яно!
Казытну я промнем мой любімы нос:
— Прачынайся, сонца, я чайку прынёс!

***

Гаспадыня-зіма ў ледзяных завушніцах
На парозе частуе крыштальнаю чарай
Крынічнай вадзіцы паветра марознага.
Вып'ем з удзячнасцю.



# Рагнед Малахоўскі

паэт, перакладчык, фотамастак. Аўтар паэтычных кніг: «Беражніца» (2005 г.), «У дзённай мітусні» (2012 г.), «Жыві!» (2014 г.). Нарадзіўся ў 1984 годзе ў пасёлку Сяймчан, Магаданскай вобласці (Расія). Жыве ў вёсцы Нарач на Мядзельшчыне.

# У дзённай мітусні...

***

хісткім ценем
легла на шпалеры
імпрэсія
спакуслівага танца
за фіранкай
скрыжаванне ўсіх вятроў
азяблы горад
у неонавай сукенцы

***

на досвітку
у сонным парку
застывае
хаатычны рух
аслеплых мятлікаў
вакол пагаслых
штучных сонцаў

***

стаю ў храме
як прывід
уласнай адзіноты
адчуваю і ведаю
не вечны
выйду з храма
сустрэну твой закаханы позірк
падумаю пра будучага сына

***

пажар уварваўся
у хату
закінутай вёскі
бясстрашна і бездапаможна
глухімі стрэламі

выганяе няпрошанага госця
стары шыфер

***

на аўтастрадзе
з хуткасцю няўлоўнай
у імгненне
паміж ударамі сэрца
размінуся
з уласным лёсам

***

клапатлівыя нябёсы
прарэджваюць
хмары над крыжам
промнік сонца
запальвае свечку
расінка на кноце

***

бясконцае каханне
ветру і травы
спакусіла
цікаўную павуцінку
зведаць таямніцы
новых даляглядаў

***

на падваконні кактусы
ці то жывуць
ці то паміраюць
спрабуюць укалоць
маё раўнадушша
для іх я згустак мітусні

***

пяшчота вады
наталяе смагу жыцця

пяшчота зямлі
аберагае імгненні мінуўшчыны
валуны ў полі
аблашчаныя сонцам

***

над вёскай вятры
спудзілі
чорныя хмары варання
звіняць сабачыя ланцугі
рыпяць іржавыя брамкі
не пахіснецца
прыдарожны крыж-ахоўнік

***

люстэрка
памнажае пыл
пакуль сурвэтка
жэстам дасканалым
не пакіне
сіметрыю
выключнай чысціні

***

стыхія ўзбунтавалася
ратуюся на беразе ракі
ў альтанцы
замерла сэрца
набліжаюцца
цяжкія крокі дажджу
па вадзе

***

пачуцці наросхрыст
не ўтрымалі цябе побач
не ўратавалі каханне
разганю пенныя хвалі
пакаштую вецер
надрыўна выкрыкну
вярніся

***

лета, каханне
начная крынічка
успомніць калісьці
наш першы грэх
і праз гады
я засаромлюся
зазірнуць
у яе халодныя вочы

***

шчасце быць закаханым
не азначае
быць свабодным
імгненне з табой
нараджае
тысячы прычын
маёй вернасці
табе

***

маўклівыя зоры
пакідаюць свае сузор'і
дрэваў галіны
аддаляюцца ад каранёў
моху цураюцца валуны
людзі — зоры
людзі — дрэвы
камяні

***

човен кахання
кранаецца водмелі
давай пакінем
нашы недарэчныя спрэчкі
дзесьці ў блакітнай прасторы
безпадстаўныя хваляванні
у цяжкай пазалоце
нарачанскіх хваляў

***

стракатыя кветкі
нашых сустрэч
на імгненне
ўпрыгожылі вечнасць
пялёсткі пацалункаў
абарваў
расстання вецер

***

ля крынічкі
кропелькі нябёсаў
пралескі
назіраюць за нашым каханнем
люблю твае рукі
што пахнуць вясною

****

у чорных глыбінях ночы
на прасторах
зорнага Нарочча
на чоўне натхнення
вяслую па Млечным Шляху

***

закінутая вёска
на зімовым небакраі
нясконаная
шахматная партыя
чалавека з Богам

***

цяпло тваіх вачэй
адчуюць
на вейках
чэпкія сняжынкі
каханнем нашым
грэецца зіма



# Кацярына Шчасная

**паэтка, празаік, мовазнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Друкавалася ў часопісах «Маладосць», «Бярозка», «Верасень», альманаху «Тэксты»... Нарадзілася ў 1984 годзе ў Баранавічах. Жыве ў Мінску.**

# Карціны з апалых лістоў...

## Падарожнік

Падарожнік, падарожнік,
На маладым лісце зялёным
Пражылкі сплецены жыцця
У развілку раздарожжа.

У кішэню склаў карэнне
І пакаціўся ты па полі.
Знак дарогі з паваротам,
А ці будзе там святло?

Палыном прапахла збожжа.
Смага... Ох, хутчэй бы дождж ык!
Даляціць з дзяцінства голас —
Сон пад ранак растрывожыць.

Падарожнік, падарожнік...
Паказала зорка поўнач,
А за спіною плача звонам
Табой забыты родны дом.

## Сотка

*яго асабістая гісторыя*

Дзверы зачыняюцца за ўсімі былымі,
Я не дыктар, каб паўтараць тваё імя.
Не важна, чаму аб'явілі прыпынак,
Але наш зялёны аўтобус сышоў.

Порцыя хот-бутэбродных абдымкаў,
Як цукар пад горкія ранкі і ночы.
Хачу хутка праехаць усе крыўды
І замест шасці быць дома ў восем.

У чорных акулярах бачны добра
Чужыя кніжкі і пекныя ножкі.
Хаваю стому.

Мая кашуля пахне сялёдкай,
Як выйсці з гэтай «соткі»?
Мне невядома.

Сто пытанняў мнуцца у маёй галаве,
Як сто аранжавых тысяч ў кішэні.
Новую ахвяру ля вакна прыглядзеў,
І на нагу наступіў ёй знячэўку.

З'язджае з шыі твой ланцужок,
Яго звон ўжо не хвалюе нікога.
У гармоніку «соткі» дзіравае дно.
Быць хачу не адзін і не ў сябе дома.

## Ева

Навошта знайшла яго, Ева?
Жыў бы без кветак на целе,
Без белых крылаў за спінай,
Плямкі на ўвесь лоб.

Не будзь наіўнай, Ева:
У гэтым Раі тонкія сцены,
І Адама, як манекена,
Не паставіш за шкло.

Прымі да веры, мая дзева!
Ад хуткасных манеўраў
Можа з'ехаць з рэек
Двухмесны ваш вагон.

Ева, Ева, паглядзі налева:
Там Апалонаў пантэоны,
Кругі і белыя мішэні,
Чакаюць твой патрон.

Крыўдліва знікаеш ў садзе,
Пішаш на лісцях парады,
І замест развітання
За дваіх вырашаеш ізноў.

## Стоп

Просіш быць мяне слабай
Ля вакна ў чаканні,
Загарнутай у рушнічок.
Стой там, я трываць перастану
І сама націсну *стоп.*

Не спявай калыханкі —
У тваім тоне не ласку
Чую я, а закіслы сок.
Стой там, калі скончацца танцы,
Я сама націсну *стоп.*

Сваёй Венерай не назваў ты,
Але кожны раз лепіш
Стан мой і думак ход.
Стой там, гэта гліна засохне,
Я сама націсну *стоп*.

Ад ліпучых фантазій
Спляту ахоўную сетку
Моцна, бы павучок.
Стой там, я знайду ў сабе сілы
І сама націсну *стоп*.

## Восеньскі кош

*Дому*

Нясе горда восень у кашы
Грыбы мокрыя, журавіны...
Смяецца: «Ты лету даруй,
Як птушкам услед памашы!
Павер, і з апалых лістоў
Таксама пішуць карціны!»
Спаўзае дзень, быццам вуж,
Па шкле ручайком дажджлівым.
Нясе важкі восеньскі кош
Першы мароз сарамлівы.



# Ігар Кананові́ч

паэт. Аўтар паэтычнага зборніка «Астэроід» ( 2015 г.). Працуе грузчыкам у адным са сталічных гіпермаркетаў. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Клецку. Жыве ў Мінску.

# Дым успамінаў...

## Сёння

*спадарыні А.П.*

Сёння
я табе
да непрытомнасці верны!

Сёння
п'ю тваё
поўнае Неба,
маладое віно!

Сёння
ў мяне на вуснах
толькі
ты...

## Размова на воблаку

— Ай, любая!
— Што-о?!
— Перастань!
Ты казычаш
мае чакры
сваімі крыламі!

## Шпег

Месяц зладзеявата
цікуе за мной
са шчыліны паміж фіранкамі.

Узмоцнена раблю выгляд,
што сплю.

## Імя гітары

...Я збіраўся
назваць Кацярынай,

ды гуляшчая трохі
красуня-гітара мая!

То слушней будзе —
Кэці.

## Песня цмока

Варушыцца ўнутры няўмольны цмок,
Што чхаў агнём на карныя законы.
Я выбраў час, я выбраў меч і бок.
Я жахам рэчаіснасці натхнёны.

Пашлі учынкам нашым умалот,
Айчыны ўкрыжаваная Надзея!
Ад праўды выступае горкі пот,
І кроў ад небяспекі саладзее...

## Выходны дзень

Адпачываю ад падзей і ад надзей,
Не зазіраючы ў трывожныя навіны.
Схадзіў на возера, пад хвояў вершаліны,
Пасля з гітараю гадзінку пасядзеў.

На хвалях спёкі калыхаецца спакой.
Квас і марозіва сталіца паглынае.
Не ўспамінаю, не планую, не чакаю.
Выходны дзень. Доўгачаканы. Любы. Мой.

## Мітынг пратэсту

Упершыню за два тыдні
на жнівеньскім небе
зладзілі мітынг
набрынялыя громам
хмары.

І чуецца з вышыні:
— Далоў дыктатуру сонца!
— Свабоду, свабоду дажджу!

## Сталічная раніца

Душ кантрасны і кава — выдатны дуэт.
Трэба план дасягненняў скласці.
Добрай раніцы, хворы, атрутны свет!
Я іду да цябе па шчасце.

## Сонейка

Каханая, дзе страціла надзею?
Зноў зачапіла лёсу вастрыё?
Хадзі бліжэй, то промнямі сагрэю!
Я ж сонейка чароўнае тваё!

## Накцюрн №2

Ноч пяе пра сваё і нязрушна стаіць на сваім.
Ноч вяртае з працэнтамі тое, што некалі страціў.
Ноч грыміць перагонам, праз фортку вымольвае дым.
Ноч — тваёй пладатворнай бяссонніцы маці...

## Рок-Езус

Калі грозны кароль стане простай і радаснай пешкай,
А дыханне нябёсаў на смелыя ноты ўпадзе,
Мякка струны прыцішу, цябе пацалую з усмешкай
І спакойна сыду назаўжды па азёрнай вадзе...

## Лета. Радзіма

Дым тарфянікаў,
дым дарагіх успамінаў.

Моцны напой
і моцнае слова ў размове.

Мой краявід,
але не мая рэчаіснасць...

Лета. Радзіма.



# Павал Зьмітрук

паэт. Аўтар паэтычнай кнігі «Хінжа» (2005 г.).
Нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Дукарка
на Пухаўшчыне. Жыве ў Мінску.

# Плач па Айчыне...

***

...І ў незнань адчыняюцца вароты,
І ў невараць туманяцца масты,
І ты выводзіш формулу самоты,
І спасцігаеш форму пустаты.

І спазнаеш уладнасць несуладдзяў,
І Кнігу непазбежнасці сваёй
Давершыш ты главою «голос в стаде».
На жаль, ты не апошні ў ёй герой.

На жаль, ці не на жаль, о Божа Правы!..
Начхаць на ўсе «на шчасце» і «на жаль»,
Знябыту спёка, прахалода славы —
Усё — няспыннай юхай з-пад нажа,

Якім утнута ніцая Айчына.
Даўно няма агню, ў які ты рухнуў.
Дакуль яму гарэць, палаць дакуль?!.

...Замружышся — паркаль перад вачыма,
Што некалі да Свята мела ў куфры
Бабуля Стэпа, лепшая з бабуль...

***

...Ну як вам гэты дзень, што як крык,
Ну як вам гэты дзень — без яго,
У царстве незваротных пазык,
Ў спадарстве неадплатных даўгоў;

У краі, дзе галовы далоў
Найперш — хто нейк не гэтак іх нёс.
Ну як вам гэты дзень, што як пёс,
Як псячы бог пассеклых галоў...

Ці прыймецца ва ўлонне багоў
Хаця б паўкропля вашай мальбы.

...Пацір — праз край — п'янoе журбы...
Ну як нам гэты дзень — без яго.
*10.05.2005*

***

...А сад квітнеў. Шалёна. Не ў пару...
Нібы на скон, на ўздых астатні веццям.
Нібыта Творца з уладарных рук
Перастравраў у яблыневу квецень
Ўсе туманы, і ўсе снягі на свеце...
О белы сон, о яблыневы вецер!..

І кветкі гнулі тонкае галлё,
Нібыта выпрабоўвалі на злом.
І жыццялюбна марыла пра плён,
Такога шчэ не бачыўшы,— сяло.
А белы сад, як белы быў праклён —
Ў ім каліва жывога не было.

А белы сад, як белы саван быў,
Пад пенаю няплённых пустаквеццяў
Схаваўшы яблын чорныя гарбы...
Шчэ ў аднаей вясне зламысналецця.
*2006*

***

*Браслаўскаму лаўцу Алегу Селеху*

...Я тлумным вашым горадам не жыў,
І мной не жыў халодны гэты горад,
Ўзаемна ў шчасці, ці спагадна ў горы
Ніводзін з нас нічым не даражыў...
Ні ён, ні я — ні родны, ні чужы...

І не было, каб я яго любіў,
Не сталася але, каб зненавідзеў,
І для мяне ён — ні анёл, ні злыдзень,
І сутнасцю маёю ён не быў.

Не прызнаваў я і не прызнаю
Выспавядальні ў цьмяных сутарэннях...

Не можа Творца ставіць на калені —
Ў каго ўдыхнуў душу з натомных рук...
Я ім не жыў, і я не ім памру.
Я Храмам горад ваш не прызнаю.

Я іншы Храм спасціг, я знаю дзе ён:
У неабдымнай споведнай начы,
І ў ім няма кутка для дабрадзеяў,
Для шчырых... для няшчырых. І маўчыць
Зламыснік зненавіджана ў парозе,
Праклён паслаўшы пройдзенай дарозе...

Бо вашы і любоў, і нелюбоў —
Нікчэмныя прад гэтым Храмам, бо
Ваш горад не прыму ў сваю душу...

Я ў мур астрожны сябру ліст пішу.

## З нагоды выхаду спектакля «Вандроўнік»

*Ахвярую Ларысе Сімаковіч*

Я даўно не плачу па Айчыне
немінучай, да якой належу.
Ані кроплі не плачу вачыма...
Ані мрою колішнія межы,
Ані трызню дзедавай лучынай...
Я жыву рэальным і магчымым.
І ані не плачу па Айчыне.
...Раманюк... і следства, і прычына...
О, трагізм і рухаў, і абрысаў...
Я заўчора плакаў па Айчыне...
Дзякуй Вам, цалую Вас, Ларыса.

## Сябру

...Ты вельмі доўга будзеш жыць,
І ўрэшце захлынешся болем
За плён, сабраны з нелюбові
З зямлі, спаробленай ў ілжы.

За тое, што ані спасціг
Сваіх сяброў суздромнай веры,

І што не кожны знаўся зверам,
Каго ты нішчыў па жыцці.

І што не ранак наступаў
Пасля сутонняў марнаслоўных,
І цемрадзі няўцямнай ковы
Ты вольнай воляй называў...
...
Каб пакаянныя нажы
Цябе знайшлі адплатным краем,
І шчэ — бо гэтак я жадаю —
Ты вельмі доўга будзеш жыць...

***

...Ён быў нібы палонным у краіне,
Ў чужой краіне самым быў чужым.
І чужанцы, хоць не былі павінны,
Далі яму ратунак, хто меў чым...

А сёння яму цяжка, хоць памры,
Пагана спрэс, але ў сваёй краіне.
І ворагаў няма, і ёсць сябры...

О як балюча ён сябрам павінен...

***

Ах, ізноў гэта ноч, як з дзяцінства, каб яблыкаў скрасці,
Гэткіх Поўняй працятых спаўняецца мала начэй.
Як табе за паўста, ты спасцігнуў і гора, і шчасце,
І дагэтуль не ведаеш, што з іх балела ярчэй...
І спасцігнута сувязь уласнай няшчырай малітвы
І няшчырасці сябра, спадзеў на якога растаў.
Ах, ізноў гэта ноч, як з юнацтва — для славы, для бітвы,
А найперш для Кахання... дарма, што табе за паўста.
Дуб, уткнуты ў Айчыну шчэ ў дзедавым, можа, маленстве,
Груганнёвым гняздом, нібы конаўкай, хмару дастаў.
Ах, ізноў гэта Поўня, вячыстага позірк шаленства,
А здаецца, што сёння і ёй — як табе — за паўста.
Ах, ізноў гэта Поўня, прарочае вока над лесам,

Свой няздраджаны шлях — як заўжды, з аднае стараны,
Нібы шолахны подых з юнацтва, з дзяцінства, з маленства.
Каб тлумачыць твае, між гадоў пагубляныя сны...

***

Несуладдзяў душэўных сваіх я ўсвядоміў прычыну,
Дысгармоній адвечных сусвету спасціг я цану:
Найспатольны мой боль — дзве найсамыя ў свеце жанчыны,
Дзве мае палавіны, хоць Богам дазвольна адну.

Іх усё ж такі дзве, што і раняць мяне, і ратуюць,
Два шляхі, што наўпроць і наўпроць каламутнасці дней...
З іх другой, па жыцці, што б ні сталася, ўсё я дарую,
Але першая з іх, што б ні сталася, прыме мяне.

Дзве мае пуцявіны, два ўцёкі з уласных адчаяў,
Два процьлеглых прытулкі ў маім непрытульным жыцці.
З іх другой — назаўжды я натхнёную ноч прысвячаю,
Але першай — навечна я заўтрашні дзень прысвяціў.

Гэта — шанец адзіны спажыцца ў наступным дасвецці,
Калі, нават, дасвецце — ізноў на балючым крыжы...
І для гэтай другой я гатовы хоць зараз памерці,
А для першай гатовы — дакуль ёй жадаецца — жыць.

Гэта — лёс мой адзіны ў гармоніі дыяметралаў,
Безвыходнае рэчышча несупадзенняў маіх,
Найвялікшае мноства, якога штохвільна мне мала,
Два маіх нараджэнні, хоць я нарадзіўся й без іх.

...І яднае адно іх, ў маю пасяліўшых душу
Гэту ноч, гэты ранак і дзень пасяліўшы ў ёй гэты,—
Дзвюх жанчынаў, якія... і слесара зробяць паэтам...
Іх яднае, што я ім нячастыя вершы пішу.

***

...Хто зліатаваўся з ворага майго —
Мне шчэ не вораг.

Дурнячым хто свой існы дзень назваў —
Мо шчэ й не дурань.

Хто здрадзіць тым, якія здрадзяць мне —
Мне шчэ не сябра...

Я не зважаю полымя, спаміж
Якога крочу...

***

Я зірну табе ўслед з вакна,
Я махну табе ўслед рукой;
У мяне ты такая адна,
Але сумна, бо я не твой.

Проста — вечар каньячны быў,
Проста — вечар быў давідна,
І не я тыя вершы сніў,—
Гэта поўня шаптала нам...

Проста... самы найгрэшны я,
Проста... вечар — адзін такі...
Пацалункам дыхнеш з рукі,
Але сумна — ты не мая.

***

...Каханай можа быць адна... Яна!.. не болей...
Бо дзве Любові — гэта дзве Пакуты,
Два келіхі — ў адным жыве атрута,
Ў другім — сляза, і ні ў адным — спатоля.
Каханай можа быць адна, — Яна!.. не болей.

...Бо не ўзжадай ад лёсу гэтак многа,
Адна наўскрозь прысуджана душа,
Адна наканаваная дарога...
І ўсё-ткі — нас, што пажадалі многа,
Нас многа, што не маем ні граша...

***

*Ахвярую Юры Захарэвічу*

Наладзьце, настройце, наструньце душу на акорд лістападнага гаю,
Натомлена-сонных прыбраных палеткаў адчуйце матыў,

І песню, якою чырвоны вячор дагарае,
Прыміце душою як сутнасць найродных мясцін.

Мясцін, на якія ніколі не мецьмеце права,
Бо грошай, заслугаў — займець каб такое — няма.
І толькі вячор, што ў нябёсах як песня згарае
Над гаем чырвоным — нясплатна аддадзены нам...

***

*адмыслова да Дня Бацькаўшчыны*

З нас кожны прыйдзе, дуж-нядуж, да родных ганкаў,
Дзе шаты дзедавых ігруш нібы альтанка,
Дзе гоман матчыных бяроз з прасветлым сумам,—
Галоўнае, што лёс збярог спасярод тлуму.
І хто б калі з нас не знайшоў якога бога,
Бог Ён адзін, Бог Ён Любоў, Бог Ён Дарога.
Ад шумна-хвальных берагоў, з чужынскіх мораў
Я йшоў Дарогай у Любоў — ў сваю Дукору.
Каб як на Божых даланях у травы легчы,
Яны ўсе раны за паўдня твае залечаць,
І болі высмакчуць да дна, і ты, нібыта,
Як вечаровага віна, глынуў блакіту,
І волі поўніцай глынуў з-пад небакраю.
Дукора, ўсё-ткі я адну цябе кахаю.
Як сонца, што ідзе на ўздым шляхом адзіным,
Так чалавеку назаўжды адна Радзіма.
І клён, як вежа, на мяжы з буслом наверсе,
І успамінныя крыжы ў нядальнім лесе.
І прапісаны праз вякі як на старонках:
Узвалле, Ёўня, Астраўкі і Падпіроўка —
Назовы, на якіх МОЙ род ўзгадоўваў самасць —
Іструга, Цітаў Агарод... о Памяць... памяць
Як дзед вучыў трымаць касу, як браць атаву.
І згубіш пацерку-слязу між новых траваў.
Каб не падняўшы галавы,
Каб шэптам, што нібы наўзрыд —
Якраз да Бога —
За мудрым Нілам паўтарыць:

*«...А я лягу прылягу край гасцінца старога*
*На духмяным пракосе недаспелай травы...*
*Вы шуміце шуміце нада мною бярозы,*
*Калышыце-люляйце свой напеў векавы...»*

***

*Рыгору Ермаку да 50-годдзя*

...Як вечаровы шэры аксаміт
Шалохнецца на вербах, як на кроснах,—
То значыць, ранак нарадзіўся росны,
І гэта ёсць народзін першы міг.

Ён — улюбёнец матухны-начы,
Пяшчотна так, наіўна-сарамлівы,
Ён стане жыць... Прылівы і адлівы
Ўладарстваў месяцовых — ні пры чым.

Ён стане жыць! Табе непадуладны
Ні ў якія эпохі і вякі...
Няхай дваццацітысячны які
Ў жыцці тваім ці складным, ці няскладным.

Непадуладны, бо наўскрозь адкрыты
Тваёй спатолі і тваёй журбе.
...Бо ў покрыў вечаровых аксамітаў
Найпершы міг схаваны ад цябе.

***

...Ізноў вясна!.. Ізноў непрадказальна —
Куды ты трапіш з гэтаю вясной:
Ці да якой вядзьмаркі абаяльнай,
Ці так куды, але... з вядзьмаркай той...

Ізноў вясна... Унь, бач, паненка ў сына,
А той кудлаты — друг дачкі мае...
От, шчэ б не бачыць гэтую краіну
З найнадзвычайнай мудрасцю яе!..—

Сысці б куды... забыць, адпрэчыць, кінуць...
На пенсію... і — каб не знаць вайну...

Дачку — ў замужжа, маладзічцы — сына...
І да вядзьмаркі... І на ўсю вясну!..

***

Ты ёсць. І ты такі. І ты ўміраеш.
Сусвету кропля ўмрэ з такім табой.
Ты лёг, як шэры брук у гэтым краі.
Хоць і не лёг пад нечаю нагой...

Ты ўласнай паміраеш нематою,
Ціхмянасцю суздромнаю сваёй...
Назваць пакору Вераю святою —
О колькі ж трэба моцы, Божа ж мой!..

О колькі ж трэба невымоўных сілаў,
Каб на знядбанай дзедавай мяжы
Штодня патроху рыць сабе магілу
І спадзявацца... спадзявацца жыць...

***

У пару ірдзенняў арабінных
Мы нясем да ганкаў дарагіх
Ад дзяцінства — крыўдаў непазбыўнасць,
Ад юнацтва — помныя даўгі.

Разумеем, што не прыйдзе час
Даравацт, ці кленчыць даравання...
Й арабінных барваў шкадаванне
Ледзьве-ледзь спахіліцца да нас.

І з нявыйснай памяці даўгі
Можа нас і ўтнуць калі самотай...
Й арабіннай восеннай лістотай
Вецер зграе рэквіем магіл.



# Аляксандра Сымановіч

празаік, паэтка. Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы па спецыяльнасці «Правазнаўства». Друкавалася ў часопісе «Верасень». Нарадзілася ў 1986 годзе ў Лідзе. Жыве ў Гародні.

# Дождж

Вось і скончыліся летнія дзянькі... Сонца ўжо не сагравае, паветра не тое, і птушкі пакідаюць родны край... Жыццё змяняецца, восень кранае нас сваімі мокрымі рукамі і лёгкім холадам прымушае задумацца пра тое, хто мы ёсць. Усё часцей ідуць дажджы, і кожны паддаецца рознаму настрою.

Сёння дождж. Раніца. Усё шэрае і панылае. Я выходжу на вуліцу. Вакол людзі з сумнымі і злымі тварамі спяшаюцца на працу, пераскокваюць лужыны, мармычуць нейкія непрыемнасці сабе пад нос. Сотні мінакоў хаваюцца пад парасонамі і ўсё кудысьці бягуць, хаваючыся ад кропляў, падаючых з нябёсаў. Я забыла парасон у хаце, ці навошта пакінула — не ведаю. Я выходжу і радуюся шэрай раніцы і той прыемнай прахалодзе сапраўднага восеньскага дажджу. Я люблю дождж. Ён такі адкрыты, не крывадушны і справядлівы. Яму ўсё роўна — жанчына ты або мужчына, стары або малы, спяшаешся ў офіс або падмятаць вуліцы, з добрым настроем або не ты прачнуўся сёння, якія праблемы цябе чакаюць заўтра... Дождж для ўсіх... Мы ставімся да яго такім самым чынам, як і да ўсіх падзей у нашым жыцці: можам успрымаць шэрым і брудным, а можам разглядаць як частку прыроды, як сімвал моцы, што дае энергію новаму дню. Усе так падобныя ў даждлівыя гадзіны, усе схіляюць галовы, хаваюцца ў каўняры. Чаму так мала тых, хто ўздымае галовы ўверх, хто горда глядзіць на шэрыя нябёсы і адчувае, што барацьба прыроды і чалавека не мае пераможцаў? Так заўжды ў нашым жыцці... Хтосьці хаваецца ў каўнер, а хтосьці крочыць, нягледзячы ні на што, і мужна глядзіць наперад, як бы моцна не хвастаў дождж па твары сваімі халоднымі далонямі.

Вось старая, што спяшаецца ў паліклініку. Стары парасон з паламанай спіцай калыхаецца ў слабых руках. Бачыць яна дрэнна, таму ступае, як можа. Не заўважыўшы велізарнай лужыны, спяшаючыся на прыём да шаноўнага доктара, паслізнулася і ўпала. Я падбягаю да бабулькі, працягваю руку, каб дапамагчы ёй падняцца. Яна моцна хапае мяне, уздымае твар, і я бачу, проста дзіва, яна ўсміхаецца! Прыемная ўсмешка на зморшчаным твары чалавека, што так шмат бачыў і пераў на сваім вяку, і што памятае, як радавацца жыццю! «Вось я якая нязграбная! Дзякуй табе, дзіця!» Глядзіць — і ўсміхаецца вачамі, і так цёпла становіцца на душы, не гледзячы на восеньскі холад. Бабулька ўжо не змагаецца з дажджом, яна пражыла дастаткова і вырасціла дзяцей і ўнукаў, і яна ведае, што ёсць моладзь, якая працягне руку дапамогі, і ў якой хопіць моцы, каб выратаваць старых. Ёй застаецца толькі добрая ўсмеўшка, што дае сілы і надзею!

Стаім з бабулькай пасярод дарогі, перашкаджаем руху, міма праязджае аўтамабіль. Спыняецца перад намі. Адно шкло няспешна апускаецца ўніз, дворнікі старанна чысцяць лабавое шкло. Праз адчыненае вакно дождж нахабна ўрываецца ў салон, не спытаўшы кіроўцу. Мы бачым, як перакасіўся яго твар,

як ён здрыгануўся і паморшчыўся, і чуем голас, што звяртаецца да нас: «Чаго тут сталі пасярод дарогі, месца больш няма? У такое надвор'е рабіць больш няма чаго? Зараз змакрэеце і захварэеце, так вам і трэба, калі мазгоў не маеце!» Зачыняе вакно і спрабуе нас аб'ехаць. Калі ў яго гэта атрымліваецца, нервова сігналіць нам напрыканцы. Усміхаемся з бабулькай яму ўслед. Эгаістычны, нервовы, злы схаваўся ў сваёй машыне ад мільёнаў праблем і турбот, вузка гледзячы скрозь сваё лабавое шкло, не заўважае людзей на шляху, не турбуецца ні аб чым, акрамя ўласнай карысці. Колькі іх такіх... Пад шэрым дажджом...

Увечары зноўку дождж. І вось ужо цемра апусцілася на горад. Сяджу ў цішыні, дапіваю гарбату, гляджу ў вакно. Нічога не бачна, апошні ліхтар каля хаты разбіты, я чую толькі, як кроплі барабаняць па падваконніку...І як прыемна чуць гэтую цудоўную мелодыю дажджу, што спрабуе распавесці нам аб самым галоўным у жыцці. Колькі моцы і смутку ў гэтай гамане, колькі важнага пра тое, што было, што ёсць і што будзе. Дрэннага надвор'я не бывае ў прыроды, і ў кроплях з неба ёсць свой патаемны сэнс...

І раніцай зноў дождж... Сын выбягае на вуліцу і радасна крычыць: «Ура!» Тупае нагой у новым чаравіку па самай глыбокай лужыне, і ўвесь мокры, заплюхаўшы калашыны брудам, смяецца. Яго парасон плавае побач у той жа лужыне, а ён шчаслівы назірае за тым, як апалы лісток вандруе па гэтай воднай паверхні. Гляджу ў яго вочы і ўспамінаю вочы бабулі, у якіх была надзея на такіх юнакоў. А ён, мужны і, не хвалюючыся за мокрае адзенне, глядзіць на мяне з цікавасцю, і жадае новых прыгодаў. І гэта — працяг жыцця, у гэтых вачах, што яшчэ не ведаюць страху і болю, што гатовыя ісці наперад, нягледзячы на ўсё, што ёсць навокал!

Няхай дождж абмые душы тых, хто ўжо пражыў большую частку свайго веку, няхай змые злобу і жорсткасць гэтага свету з сэрцаў тых, хто толькі пачынае жыць і няхай напоўніць новай сілай тых, хто ніколі не схіляў галавы пад ледзянымі кроплямі і не хаваў свае вочы ад нябёсаў пад прыгожым хлуслівым парасонам!..

# Сярод гарадской мітусні...

Ноч... На вуліцы холадна... Імжыць дробны дождж, халодзіць цела і прабірае да костак... Я страшэнна змерз і спяшаюся дахаты... Паварот, другі, трэці... Вунь, наперадзе бачыцца сіні дах майго дома, дзе цёпла, дзе мяне чакаюць. Я так стаміўся, так замерз, такі галодны, вось і мой пад'езд, але ж я рухаюся направа, у густую прысаду, асвечаную парай цьмяных ліхтароў, дзе пад выгоністымі клёнамі стаіць толькі адна лава... Я саджуся на мокрыя дошкі, дождж б'е па шчаках, але я ўжо яго не заўважаю. Я адзін, упершыню за апошнія пару гадоў, на пустэльнай вуліцы, я не чую гулу і шуму, не нясуся ў

шалёным рытме, не спяшаюся кудысьці, задыхаючыся на хаду, я па-за межамі гэтай штодзённай гарадской мітусні...

Сапраўды, як жа я раней пра гэта не задумваўся, як зацягвае і паглынае нас гэта гарадское жыццё, як павольна абдымае яно нас сваімі па- сяброўску пяшчотнымі рукамі, і як потым моцна сціскае, што мы ўжо не ў стане вырвацца. Мы згубіліся сярод гарадской мітусні, і самае страшнае, што мы не толькі пачалі губляць свой час, мы пачалі пакрысе губляць саміх сябе. Паглядзіце, як усё адбываецца. Тысячы спраў у нашай галаве ўжо знаходзяць сабе прытулак яшчэ да той пары, пакуль мы падняліся з ложка, званок гадзінніка і... шчоўк! «Трэба зрабіць, схадзіць, збегаць, з'ездзіць, не забыцца, напомніць, забраць, занесці, запісаць...» Тысячы «трэба» вокамгненна яркім полымем успыхваюць у мазгу, і закруцілася... Хатнія клопаты, праца, крама, спартыўныя гурткі, грамадскі абавязак — усё так высакародна і правільна. А чаму бы і не? Начальства будзе задаволена, што мы добра працуем, бацькі будуць у захапленні ад таго, што мы пастаянна памятаем пра іх і ўвесь свой вольны час у хаце прысвячаем дапамозе ім і размовамі з імі ж. Хтосьці з уладных інстанцыяў абавязкова будзе помніць пра тое, як мы прыйшлі на мітынг з балонікамі, нягледзячы на моцны лівень, і як мы прыбіралі парк на суботніку шэсць гадзін запар замест неабходных дзвюх па сваёй уласнай ініцыятыве... А спартыўны трэнер так парадуецца, калі мы атрымаем першае месца на спаборніцтвах пасля знясільваючых шматгадзінных трэніровак. Усё выдатна! Я, гледзячы збоку, таксама знаходжу гэта цудоўным, калі б не адно «але». Я адчуваю, як я губляюся, губляю сваё «я» ў гэтай мітусні, горад паглынае мяне сваёй гіганцкай пашчай, і я б'юся з апошніх сіл, каб зусім не знікнуць. Ах, як жа я стаміўся. Бясконцы шум, мітуслівы натоўп, машыны-людзі і людзі-машыны, якія робяць усё бездакорна, беспамылкова, да аўтаматызму, віхор клопатаў падхоплівае мяне і кідае ў гэты ж натоўп, і я лячу ў паветры, не адчуваючы, ці прыналежу яшчэ сам сабе...

А між тым, я пішу вершы, я абажаю прозу, яшчэ з дзяцінства мару напісаць уласную кнігу, а не так даўно я пазнаёміўся з цудоўным чалавекам, і пачуцці перапаўняюць мяне, і я так мару выліць усё гэта на паперу. Але я спяшаюся. Саджуся ў аўтобус і еду працаваць, дастаю ліст паперы, хачу пачаць сваю цудоўную аповесць... «Гэй, ты, пасунься трохі, не бачыш хіба — і так няма дзе стаяць, дома трэба было пісаць, распачаў тут пісаніну, знайшоў месца, яшчэ каму вока выкалеш сваім алоўкам...», — кожную раніцу чую я. І вось, ніводнага радка маёй аповесці так і не напісана. Праца... Бясконцая плынь даручэнняў і іх выкананне — якая ж тут уласная творчасць? І панеслася... Адно, другое, трэцяе... Мітусня, мітусня, мітусня... Я зноўку адчуваю, як мне не хапае паветра, як я жадаю спыніцца і аддыхацца хаця б на імгненне... Вось ён, аловак у маёй руцэ, піша і піша радкі маёй дзівоснай аповесці... «Паспяшайся!» — зноў чую я. Ах, зноў трэба кудысьці бегчы! «Жыццё, спыніся, пачакай, я не магу так хутка!» Ізноў я губляюся, губляюся сярод гарадской мітусні, дзень за днём, месяц за месяцам, год за годам...

Вось яно, я, нарэшце, зразумеў, што не давала мне спакою. Седзячы тут, пад клёнамі, увесь прамоклы да ніткі і азяблы, з гэтым прамоклым лістком паперы на каленях, я зразумеў, які я шчаслівы, які я бязмежна шчаслівы ў гэтыя хвіліны спакою, у гэтай суцэльнай адзіноце, што выліваецца празрыстым вадаспадам на паперу. Вось ужо пяць, шэсць, дзесяць радкоў — пачатак маёй аповесці, а заўтра зноў і зноў яна будзе нараджацца, і я буду нараджацца разам з ёй... Вось ён — глыток паветра, які дапамагае жыць у такім шалёна-мітуслівым горадзе... Як няшмат мне, на самой справе, трэба, толькі некалькі хвілін сам на сам з сабою, са сваімі думкамі і марамі, са сваёй радасцю і каханнем, у сваім, толькі сваім, патаемным сусвеце. Так, я ізноў ныРну ў вір гарадской мітусні, але на гэты раз я ведаю, што я не згіну, таму што адчуваю, што я дыхаю, што я жыву, што я ствараю!..

**Фота Алены Масцеравай.**



# Алесь Яшчанка

празаік, паэт, перакладчык. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ. Вучыўся на філалагічным факультэце ва ўніверсітэце горада Трэнта (Італія). Нарадзіўся ў 1982 годзе ў Барысаве. Жыве ў Варшаве.

# Дзеці

Цягнік стаяў на нейкай невялічкае станцыі, было яшчэ цёмна. З вакна пацягвала холадам. Натуральна, цяпер пасажыраў не так і шмат, як улетку: у плацкартным вагоне цягніка Масква — Менск з два дзясяткі чалавек, у асноўным беларусы. Насельнікі вагона куплялі ў правадніцы гарбату, коўзалі па руках гарачыя шклянкі, дзьмухалі і прысёрбвалі.

— Беларусы — гэта дзеці. — Нечакана распачаў бялявы вусач-паляшук з газетаю ў руках. Далібог, дзеці. Незалежна ад узросту. Вось гэта і ёсць галоўная рыса нацыянальнага характару.

— Што «гэта»? Дзіцячасць? — запыталася праваднiца. А як жа ж талерантнасць?

— Талерантнасці няма, — працягнуў вусач. Усё гэта прыдумкі тых, хто не хацеў, каб народ паўставаў, змагаўся, жыў. Прыдумкі чужынцаў. Сто разоў адно і тое ж талдычылі: у школцы, у войску, на працы, і на сто першы ўжо сам верыш у сваю талерантнасць. Але ці будзе талерантны спрачацца і даводзіць спрэчку, скажам, да адразання галавы?

— Не, ну талерантныя яны спакойныя, не будуць яны адразаць. Гэта ж не на Каўказе, дзе чалавека, як барана могуць аформіць — улез у размову маскаль.

— А ў нас во такія выпадкі нормаю сталі. Вось. Паляшук паказаў на газету: «У Барысаве ўчынена падвойнае п'янoе забойства», «У Бабруйску абезгаловілі дзяўчыну», — як вам? За затрымку заробка рабочыя па калені залілі бетонам прараба. Якая тут талерантнасць?

— Мы беларусы — мірныя людзі, — адазвалася праваднiца. У нас так у гімне напісана. Яна паказала рукою на стэнд з чырвона-зялёным сцяжком і нейкім вершыкам, хутчэй за ўсё гімнам.

— Малайцы! Пацвердзіў маскаль. Гэта правільна. Вось каго-каго, а беларусаў заўжды паважаў. Са мною некалькі чалавек служылі пад Омскам. Такія спакойныя, не тое, што хахлы. Бульбашы— гэта іншая справа.

Праваднiца заўсміхалася.

— Ясна, што спакойныя. Гэта, кажуць, таму, што ў нас у зямлі ёду замала. Вось там дзе мора, горы, там людзі гарачэйшыя. Дый бульбы шмат ямо.

— Я асабіста не так шта шмат яе і ем, — паглядзеў на яе вусач, — і назва бульбаш мне не зусім падабаецца. Яе таксама чужынцы прыдумалі.

— Хто чужынцы? Мы вам не чужыя, — абурыўся маскаль. Мы адзін народ. Гэта палякі з літоўцамі вас прыгняталі, а мы з вамі. Разам мы — сіла.

— Хутчэй магіла, ціха сказаў бялявы.

— Што? Ты што бандэравец? — запаліўся маскаль.

— Я беларус.

— Які ты беларус? Бандэравец ты. Бачу, што з нейкім акцэнтам гаворыш. Са мною, што служылі, во гэта хлопцы свае былі. Маскаль узняў угару вялікі палец.

— Добра, не спрачайцеся, мы ж браты. Праваднiца паднялася з палiцы. Пайду гарбату вам зраблю.

— Можна i памацней чаго, — пажартаваў маскаль.

Паляшук закутаў ногi ў коўдру i разгарнуў газету.

А маскаль працягваў.

— Кажу вам, парадак у вас, дарогi харошыя, лепшыя за нашыя, адназначна. У мяне два хлопцы з Магiлёва нядаўна рамонт рабiлi. Дык усё анекдоты расказвалi. З сябе смяюцца, хоць бы што iм. Маўляў, помнiк бульбашу — нясiсаючы хлопчык. Чаму не пiсае, бо цярпiць.

— А яшчэ пра зэдлiк анекдот ёсць. З цвiчком. На якi расеец сеў ды ўскочыў, украiнец сеў, таксама ўскочыў. А беларус застаўся сядзець, бо можа так яно i трэба. — Трасянкаю падтрымала размову кучаравая кабета.

— Во-во! I гэты расказвалi, — засмяяўся маскаль. Я iм потым заплацiў добра. Кажу, раз вы хлопцы такiя вясёлыя, накiну яшчэ па пяцьсот кожнаму зверху. Лепей вам заплачу, чым якiм чуркам. Дык яны ўзрадвалiся, у госцi запрашалi. Трымае вас бацька ўпарадку.

Паляшук скоса паглядзеў з-за газеты. Праваднiца прынесла гарбату.

— Канечне, трымае, гаспадар на зямлi. Заззяла малымi вочкамi кучаравая. Усiх трасець, як iгрушу, чыноўнiкаў. Толькi сыпяцца.

— А ў нас няма каму трэсцi. Ведаеце, каго Расеi не хапае?, — акiнуў прысутных вокам маскаль.

— Сталiна? — запытаўся з-за газеты паляшук.

— Лукашэнкi! Хаця i Сталiн бы не зашкодзiў, — дадаў з гарчынкаю ў голасе маскаль.

— Дык забiрайце гэтага Лукашэнку сабе, калi так падабаецца, — адказаў вусач.

— Мы б забралi!

— А мы не аддамо, — адгукнулася кучаравая.

— Самiм такi мужчына патрэбны, — пацвердзiла праваднiца.

— I Батэ ў вас каманда харошая. Хлопцы з завода ледзьве нi за талерку супу гуляюць, а вынiкi якiя! — працягваў хвалiць маскаль. Не тое, што нашыя лайдакi. Грошай не дасi, дык ён не тое што гуляць не выйдзе, нават не плюне. Што казаць, па-ра-дак у вас.

У гэты момант цягнiк рушыў з месца.

— А Мажайск. Мажайск толькi, — смутна канстатаваў маскаль.

— А скажыце яшчэ, што ў нас чыста, ну скажыце. Праўда чыста? — не сцiхала кучаравая.

— У вас чыста, — каротка адказаў маскаль.

Кучаравая паглядзела на свой адбiтак у вакне, паправiла рукою валасы i шчыра, неяк па-дзiцячаму, расплылася ў залатой усмешцы свежапастаўленых каронак.

*2012*

# У белай густой смузе

Пачынаючы ад сёмай раніцы тэлефон званіў разы з тры. І толькі чацвёрты настойліва-пранізлівы раз прымусіў яго падняцца.

— Хто тут?

— Я.

— Прывітанне, я таксама я.

— Ну, хопіць ужо жартаваць. Я хацела развітацца з табой. Бывай.

— Бывай.

— Сустрэцца не хочаш? Лепшыя сябры так проста па тэлефоне не развітваюцца.

— Не развітваюцца. Давай сустрэнемся.

— А дзе?

— Давай на мосціку, так будзе справядліва.

— Ага, ведаю. І мне, і табе ісці да мосціка аднолькава. Ты не мяняешся.

— Ты гэтаксама.

Ён апрануўся і выйшаў, ля ліфта зашпіліў куртку і, калі чырвоная лямпачка запалілася ля дзвярэй, увайшоў у кабінку і націснуў гузік з лічбай 1.

У шэрым двары імжэла.

На пешаходным мосціку вецер пранізаў да самых рэбраў, па-над затокай падымалася густая, нібыта малако, смуга.

— Гэй! Пачулася з тумана. Я прыйшла. На ёй была чырвоная куртка і трохкаляровы шалік. Я піва прынесла. Хочаш?

— Не, я не магу.

— Чаму? Баішся, што халоднае?

— Ды не, не баюся. Аднясі лепей тату, ён усцешыцца.

— Дык ён для цябе і перадаў. Мы ў Канаду з'язджаем сёння. Толькі мне нешта не вельмі спакойна. Я вінаватая.

— Перад кім?

— Перад табой. Я перапісвалася з Марысам. Ну, я казала табе, ён з Манрэаля. Дык вось ён мне прапанаваў...

— Што?

— Прапанаваў пераехаць да яго. У нас тут неспакойна. А тым больш у Канадзе клімат падобны да нашага і прырода таксама.

— Дык вось у чым справа. Ну, што ж, калі хочаш, едзь.

— Але мне неяк не па сабе. Мы ўчора кватэру прадалі, я з сяброўкамі развіталася. Ты апошняе звяно ў маім ланцужку, тым, які мяне трымаў тут. А цяпер бывай.

— І які ён, гэты Марыс? Высокі, худы, прыгожы?

— Ды я не ведаю. Я яго толькі па вэбцы бачыла, і то пры штучным святле. Вочы ў яго цёплыя, блакітныя. Аднак, твае цяплейшыя.

— Ну, тады нашто едзеш?

— Дык ён білеты нам купіў, з візай дапамог, сустрэць абяцаў.

— Ну, то бывай.

— Не, чакай! Я твой партрэт намалявала. На памяць. Хачу табе пакінуць. Памятаеш той здымак у кавярні? На ім мне вочы твае падабаліся. Зрэшты ты ведаеш сам.

— Я не ведаў, ты мне ніколі не казала.

— Ну, вось цяпер будзеш ведаць.

Яна перадала яму малюнак, зроблены акварэллю. Пад кропелькамі імжы твар пачаў пакрысе расплывацца.

— Схавай яго ў кішэню.

— А навошта?

— Я старалася.

— Добра. А навошта ты мяне малявала?

— Бо цяпер тут застаешся толькі ты. І толькі ты мяне трымаеш. Але роўна на столькі, на колькі засталося нашай размовы тут, на мосціку.

— І ўсё? Мяне яшчэ ніхто не маляваў. Ды і вочы на гэтым партрэце прыгажэйшыя за мае.

— Няпраўда. Твае самыя мілыя, самыя лепшыя і пяшчотныя на цэлым свеце!

— Я не разумею, навошта ты гэта гаворыш.

— І ўжо даўно не разумееш. Чаму ты быў да мяне такі халодны? Заўжды такі халодны? Табе падабалася чыніць мне боль.

— Гэта хлапцы. Яны смяяліся. Яны дражнілі мяне, яны здзекваліся. Я не мог тады ставіцца да цябе цяплей.

— Правядзі мяне да канца мосціка і я пайду.

— Так. Дазволь узяць цябе за руку.

— А навошта?

— Проста. Здаецца, табе вельмі халодна. Я хачу пагрэць твае рукі.

— Ужо надта позна грэць рукі. Праз хвіліну мяне тут ужо не будзе.

Яны дайшлі да канца мосціка і спыніліся, быццам перад імі быў неперадольны мур.

— Я табе пісаў... Карацей, я пісаў, што хачу пацалаваць цябе, па-сапраўднаму. Але не наважыўся перадаць.

— Што? Чаму ты мне гэта пісаў?

— Таму што я кахаю цябе.

— Што?

— Я кахаю цябе!

— Чаму ты кажаш гэта толькі цяпер, калі я з'язджаю?

— Гэты Марыс не ведае цябе, а я ведаю. Я прасядзеў з табой сем год за адной партаю.

— Ну, і што? Мне ўжо даўно не шаснаццаць. Ты не рашаўся, але лёс вырашыў за нас. Я пайду. Бывай.

— Не, пачакай! Хочаш, я прачытаю табе верш?

— Які верш?

— Мой. Прысвечаны табе.

— Не, лепей не чытай, іначай маё сэрца ўзарвецца.

— Ну, тады ўзарвецца маё.

— Лепей пакінь мне яго, я прачытаю ў цягніку. А ўвогуле, час развітвацца. Шкада, што ўсё атрымалася менавіта так.

— А можа, ты цяпер правядзеш мяне да адваротнага канца мосціка? Прынамсі, так будзе справядліва.

— Ты маеш рацыю. Ты правёў мяне, а я правяду цябе. І развітаемся пры ліку: 1:1.

— Пакінь мне твой скайп. Я буду сумаваць па табе.

— А чаму ты раней ніколі не хацеў ведаць мой скайп? Чаму ты не званіў, калі я чакала, чаму не прыходзіў?

— А хіба для цябе гэта было важна?

— Важна? Для мяне гэта было ўсім, а цяпер стала пылам.

— Але чаму так? Чаму?

— Бо я кахала ўсё жыццё толькі цябе і чакала толькі цябе. Але выкінь гэта з галавы, гэта бязглуздзіца.

Ён замоўк. Яны дайшлі да адваротнага боку мосціка.

— А дазволь я пацалую цябе.

— Не, я не магу, мне трэба ісці. Цягнік, ён ужо хутка адпраўляецца.

— Добра, ідзі. Толькі не азірайся. І я не буду.

Яны разышліся ў розныя бакі, і калі яе постаць амаль схавалася за далягляд, ён азірнуўся і пабег. Ён дабег да яе, крануў за плячо.

— Нешта забыўся?

— Так, я твой скайп не запісаў. І... і... — Ягоныя вусны скрывіліся, а вочы зрабіліся мокрымі ад слёз.

— І яшчэ мне патрэбна, каб цягнік на Манрэаль ніколі не адправіўся.

У той момант я стаяў непадалёк і, сам таго не жадаючы, шмат пачуў з той размовы закаханых мужчыны і жанчыны. Але хадзілі яны яшчэ доўга: ад аднаго краю маста да другога. Хадзілі, пакуль не насунулася цемра, перамяшаўшыся з туманам. А дзесьці апоўначы дзве нясмелыя постаці ўзяліся за рукі і разам растварыліся ў белай густой смузе.

*2012*



# Сяргей Белаяр

празаік. Друкаваўся ў часопісах «Верасень» і «Маладосць», тыднёвіку «ЛіМ», альманаху «Своя стихия». Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Брэсце. Жыве ў Брэсце.

# Апошняя электрычка

Вектар Сялівёрстаў кульнуў шклянку з гарэлкай, закусіў лустачкай вяндліны і спытаў пасля глыбокай зацяжкі:

— Мікалаевіч, а цябе вось сумленне не мучыць?

— З якой нагоды? — Захар Капусцін перастаў рабіць бутэрброд з салямі і чырвонай ікры ды здзіўлена паглядзеў на таварыша.

— Паклалі ж ні адну сотню!

— І што?.. Мы пакаралі смерцю не людзей, а ворагаў народа!

— Уся віна каторых заключалася толькі ў тым, што яны не хацелі ператварацца ў быдла.

— Ты што вярзеш? Блёкату аб'еўся?

— Ніякія гэта былі не контррэвалюцыянеры, дыверсанты, шпіёны, агенты фашысцкіх разведак і шкоднікі. Звычайныя людзі, якія мелі іншы погляд на рэчы.

Капусцін адклаў бутэрброд і нахмурыўся. Нягледзячы на тое, што Сялівёрстаў піў так, нібы хацеў ап'янець, а не атрымаць задавальненне, быў ён не настолькі п'яны, каб не ўсведамляць сэнс сказанага.

— А мы іх да сценкі. Без суда і следства... — Сялівёрстаў са злосцю ткнуў недапалак у перапоўненую попельніцу і пацягнуўся да бутэлькі. Напоўніўшы гранёную шклянку на траціну, выпіў і, не гледзячы, згроб з талеркі лустачку кальмара. — Усё гэта няправільна!

— Мы выконвалі загад Партыі! — У голасе Капусціна звінеў метал. — Час быў такі!

— Ваенны, — Сялівёрстаў кісла ўсміхнуўся, выцягнуў новую цыгарэту і падпаліў яе ад недапалка. — Ніколі не задумваўся над тым, чаму ўсе гэтыя шэсцьдзясят з лішкам гадоў у нас ваенны час?

— Таму што Захад не пакідае планаў знішчэння Савецкага Саюза.

— Ды не. Наўпрост наша краіна не можа існаваць без вобразу ворага. Ён дапамагае адцягнуць людзей ад рэальных праблем. І чым больш ворагаў, тым менш чалавек думае пра годнае жыццё.

— Не чакаў пачуць такое ад партыйца з паўвекавым стажам і ветэрана ЧК! — Каб супакоіць сэрца, што забівалася, Капусцін выпіў.

— Надакучыла жыць у страху... Рана ці позна давядзецца адказаць і за кроў, і за слёзы. Ні тут, дык там!

— Ты ж матэрыяліст!

— А яшчэ я забойца... Адкажы мне, Мікалаевіч, хто даў нам права вырашаць, каму жыць, а каму памерці?

— Гэтым правам нас узнагародзіла Радзіма!

— Лухта!.. Мы проста ўявілі сябе гаспадарамі жыцця... Ні сумневаў, ні жадання пачуць довады розуму, ні кроплі міласэрнасці, — Сялівёрстаў мусоліў

курыную шынку, не адчуваючы смаку. — А задумацца пра тое, што мы робім, варта... Тады зла было б нашмат менш!

— Ты запрасіў мяне, каб паспавядацца? — Накаціла злосць. — Звярнуўся не па адрасе! Я не поп!

— Захацелася пагаварыць са старым сябрам. Не баішся, што ўсё адкрыецца?

— Пакуль ва ўладзе нашы людзі, ніхто ніколі нічога не даведаецца!.. А калі архівы і адкрыюцца, знайсці праўду там будзе немагчыма.

— А як жа душа, Мікалаевіч? — Сялівёрстаў паставіў пустую бутэльку пад стол і вывудзіў са скрыні наступную. Шклянкі ізноў былі напоўненыя.

— Ды няма ніякай душы. Усе чалавечыя намеры толькі аб тым, як жыць добра. Не трэба думаць пра людзей лепш, чым яны ёсць на самой справе!

— Няхай так! Але гэта яшчэ не падстава іх расстрэльваць, вешаць, спальваць жыўцом, рэзаць і закопваць у зямлю!

— З якога часу ты стаў такім сентыментальным, Вектар?.. Раней і расстрэльваў, і вешаў, і спальваў, і рэзаў, і закопваў. Сумненнямі ж не мучыўся!

— Яны сталі прыходзіць кожную ноч. — Рукі Сялівёрстава трэсліся, і прыпаліць атрымалася не адразу. — Мужчыны. Жанчыны. Старыя. Дзеці... Стаяць і моўчкі глядзяць. А погляд такі, што мароз пранімае да костак...

— Ты занадта шмат курыш. Ды й піць варта было б паменш. Часцей бывай на свежым паветры — у нашыя гады трэба клапаціцца пра здароўе.

— Справа тут зусім не ўва ўзросце, Мікалаевіч. Ці такая ўжо добрая сістэма, якой мы служым?

— Усё, што ў цябе ёсць, — кватэра, дача, аўтамабіль, пасада, прывілеі — дала табе Сістэма.

— Я не адмаўляюся, — Сялівёрстаў накалоў на відэлец кавалак ласося,— вось толькі ці не празмерна вялікую цану мы аплачваем за матэрыяльны дастатак і становішча ў грамадстве?

— Ты павінен ганарыцца тым, што Партыя абрала цябе для асаблівай місіі!

— Нешта зусім не хочацца... Хто мы і хто яны?

— Мы вартавыя Дзяржавы, а яны — здраднікі і злачынцы!

— Толькі чорнае і белае, без паўтаноў. Ты зусім не змяніўся, Мікалаевіч!.. На нашых руках кроў пісьменнікаў, ваенных, інжынераў, лекараў, земляробаў, рабочых... Мы свядома знішчылі эліту, каб замяніць яе «шарыкавымі», паколькі кіраваць імі нашмат прасцей... Я баюся думаць пра тое, што мы страцілі!

— Маглі страціць Радзіму!

— Як з хворымі на чуму жывёламі. Нават па-чалавечы пахаваць не знайшлі магчымасці... І колькі тых ям-магіл па краіне?

— Ворагі народа і ёсць жывёлы. Драпежныя, надзвычай небяспечныя, крыважэрныя. Калі б мы іх тады не спынілі, яны б разарвалі краіну!

— Скажу табе шчыра, Мікалаевіч, не ўпэўнены. Большасць з іх аб знішчэнні краіны і не думала. Людзі проста хацелі яе змяніць. Зрабіць лепш.

— Чаму ж ты тады не выступіў супраць?.. Па якой прычыне не паклаў на стол партбілет і не здаў «наган»?

— Чаму?.. Напэўна, з-за праклятага страху. Баяўся апынуцца на іх месцы. Бо ніякай гарантыі, што цябе не забярэ «чорны варанок».

— А зараз, выходзіць, не баішся, калі наважваешся казаць такое?.. І сцены маюць вушы!

— І цяпер баюся! Асцерагаюся за дзяцей і ўнукаў... Занадта вялікі цяжар мы на сябе ўзвалілі... Эх, калі б усё вярнуць... Шклянка з грукатам апусцілася на стальніцу.

— Не стаў бы забіваць?

— Не ведаю, Мікалаевіч.

Павісла доўгая паўза. Сялівёрстаў паліў, у галаве Капусціна варочаліся цяжкія думкі. Барацьба не ведала перапынкаў. У адстаўку можна было сысці толькі пасля смерці.

— Давай памянем!

Нягледзячы на тое, што прапанова з'яўлялася цалкам чаканай, Капусцін тузануўся.

— Я за ворагаў не п'ю! — Атрымалася занадта жорстка.

— Справа твая! — Сялівёрстаў выпіў, але закусваць не стаў. — Застанешся на ноч?

Па інтанацыі станавілася зразумела, што асаблівых надзей Сялівёрстаў не меў.

— Пайду, мабыць.

— Вадзіцель давязе цябе да станцыі.

— Не варта! Праводзіць мяне не трэба!

— Дабранач!

— Бывай!

Вуліца сустрэла Капусціна начной прахалодай, асабліва прыемнай пасля гарэлкі і тытунёвага дыму.

Зірнуўшы на гадзіннік, — апошняя электрычка адыходзіла праз гадзіну, — Капусцін павольна пайшоў па сцежцы. Месяц даваў дастаткова святла, каб не збіцца з дарогі. Нават у хмелю не заблукаеш — колькі разоў бываў у гасцях у таварыша.

— Тамбоўскі воўк яму таварыш!.. Гэта ж трэба — спачуваць ворагам народа!

На пероне чакалі прыбыцця электрацягніка старая і модна апрануты хлопец. Ні ў аднаго з іх з'яўленне Капусціна цікавасці не выклікала.

Адшукаўшы таксафон, Капусцін набраў нумар аператыўнага дзяжурнага.

— Перадайце Ворану — Грак спёкся!

Сялівёрстава было ні кроплі не шкада.

Узяўшы ў соннага касіра білет, Капусцін апусціўся на лаву і заплюшчыў вочы. І не такія ламаліся, але горкі асадак на душы заставаўся.

Электрычка прыйшла на чвэрць гадзіны раней.

Капусцін падхапіўся і, намацаўшы ў кішэні білет, сеў у вагон, здзівіўшыся таму, што ні адно з месцаў аказалася незанятым. Сядзенне было жорсткім, аднак ні манатоннае калыханне, ні выпітае не перашкодзілі Капусціну заснуць. Усё роўна выходзіць на канечнай станцыі.

Прачнуўся Капусцін ад холаду.

— Што за д'ябал?

Вагон змяніўся. Зніклі вокны. Сцены, столь і падлога сталі драўлянымі. Дзверы зрушыліся. Сядзенні ператварыліся ў нары. У кутку закапціла «буржуйка».

Капусцін страсянуў галавой, але «цяплушка» нікуды не дзелася.

— Не можа быць!

Адзін за адным пачалі з'яўляцца людзі.

Капусцін імгненна працверазеў. Палкоўнік лічыў, што назаўсёды пахаваў у памяці твары забітых.

З кожным імгненнем мерцвякоў станавілася ўсё больш. Вочы на зямлістых тварах былі поўныя нянавісці.

— Вы ж даўно здохлі! — Сцены «цяплушкі» рассоўваліся, каб прыняць усіх. — Вы не сапраўдныя!

Нарэшце вагон быў поўны, і мёртвыя пацягнуліся да Капусціна. Запахла тленам.

З лёгкіх палкоўніка вырваўся крык. Капусцін спалохаўся як ніколі ў жыцці. Гэта быў страх смерці.

Інстынкт самазахавання штурхануў Капусціна да дзвярэй. Яны аказаліся зачыненымі звонку. Больш не валодаючы сабой, палкоўнік пачаў біцца аб перашкоду і, зрываючы пазногці, з крыкам скрэбці дошкі.

А мерцвякі падыходзілі ўсё бліжэй...

# Бібліяфіл

Нягледзячы на раннюю гадзіну — была толькі чвэрць на восьмую — перад дзвярыма канторы па нарыхтоўцы другаснай сыравіны выстраілася доўгая чарга з інтэлігентнага выгляду людзей. У нагах тых, хто сабраўся, стаялі рознапамерныя пачкі макулатуры.

— Добрай раніцы! Хто крайні?.. Буду за вамі! — Уладлен Ігнатавіч Савашынскі злаваўся на сябе за тое, што не здагадаўся выйсці з дому крыху раней.

Ведаў жа, што чарга абавязкова будзе. Аб'ява на дзвярах абвяшчала, што завезлі «Таямнічы востраў».

І ні з кім не памяняцца, нават за грошы. А калі Жуля Верна не хопіць?

Інжынер апусціў дваццацікілаграмовы пачак на зямлю, праверыў, ці не забыўся дома талон, пасля чаго пачаў паліць, разважаючы над тым, ці паспее ў трэст да дзевяці, як абяцаў начальніку аддзела.

Чаканне было падобна на катаванне. Пакуты ўзмацняла невядомасць — пра тое, колькі асобнікаў прывезлі, ведала толькі Тамара Рыгораўна, загадчыца канторы і мегера.

Уладлен Ігнатавіч Савашынскі быў савецкім інтэлігентам, не ўяўляўшым свайго жыцця без чытання. Кнігі займалі другое месца пасля жонкі Інэсы Паўлаўны і атожылкаў: Ірышкі і Вані.

Людзі мала-памалу падцягваліся — чым менш часу заставалася да адкрыцця, тым больш даўжэла чарга. Расло напружанне — без пяці да восьмай усе прысутныя як па камандзе ўзялі пачкі ў рукі.

Жагата, прымусіўшы людзей панервавацца, з'явілася толькі а пачатку дзявятай. Нясмелае нараканне ўціхамірылася, варта было загадчыцы нахмурыць бровы. Для згаладалых на Верна яна была царыцай і багіняй.

Чарга рухалася павольна, і інжынер здолеў патрапіць унутр бліжэй да дзявятай.

— Дваццаць адзін кілаграм!.. Талон!

— Вось, калі ласка!

Кавалак паперы, прымушаючы сэрца Савашынскага трапятаць, Жагата вывучала доўга і пільна, раз-пораз з недаверам косячыся на інжынера.

— Атрымайце!

Запаветны том Савашынскі пяшчотна прыціснуў да грудзей і са шчаслівым тварам пакінуў кантору. Чарга праводзіла інжынера зайздросна-злосным позіркам.

— Любіце літаратуру? — Да Савашынскага звяртаўся мужчына сярэдніх гадоў.

— А хто ж яе не любіць? — інжынер схаваў «Таямнічы востраў» у партфель і зашчоўкнуў замок. — Чым магу быць карысны, таварыш?

— Хацеў бы прапанаваць вам спатоленне інтэлектуальнага голаду. Вось, вазміце! — У рукі інжынера перавандравала яркая візітная картка са шчыльнай паперы.

— Любыя кнігі па нізкіх коштах... Няўжо такое магчыма? — Савашынскі чуў пра тых, хто можа дастаць УСЁ, але каб сустрэць на вуліцы... Без патрэбных сувязяў гэта было сапраўдным цудам. Яшчэ большым цудам з'яўляліся нізкія цэны. За дэфіцыт даводзілася плаціць у некалькі разоў даражэй.

— Магу вас запэўніць — магчыма.

— Калі гэта нейкі дурны жарт?..

— Не розыгрыш і не правакацыя. Прыходзьце і пераканайцеся самі!

— Паглядзім! — інжынер сунуў картку ў кішэню і паспяшаўся да прыпынку. Аўтобус прыйшоў са спазненнем і ехаў павольна, нараджаючы жаданне вылезці і падштурхнуць яго.

Па дарозе да трэста прыйшлося зноў адстаяць у чарзе для таго, каб купіць дзве бутэлькі «Жыгулёўскага». Начальнік аддзела піва ўзяў, але натацыю ўсё ж прачытаў.

— Яно таго каштавала! — усміхнуўся калегам Савашынскі, прадчуваючы, як увечары зручна ўладкуецца ў мяккім крэсле і будзе чытаць, чытаць, чытаць... — Шкада, жыццё кароткае. Не паспець пазнаёміцца з усімі жамчужынамі чалавечай думкі!

Старонкі пахлі друкарскай фарбай і клеем. І не было на свеце лепш за гэты п'янкі пах.

Фронт працы аказаўся шырокі, і інжынера гэта акалічнасць нават узрадавала — дзень праляцеў як адно імгненне.

Збіраючыся дадому, Савашынскі намацаў у кішэні старонні прадмет і не адразу ўспомніў, адкуль ён там узяўся.

— Любыя кнігі па нізкіх коштах... Зайсці? І недалёка — усяго чатыры прыпынкі аўтобусам... — Нядоўгая ўнутраная барацьба скончылася перамогай цікаўнасці. — Схаджу!

Замест таго каб пхацца ў «Ікарусе», інжынер вырашыў прайсціся пешшу. Так яно і хутчэй будзе.

Па ўказаным адрасе размяшчалася панэльная «хрушчоўка», акружаная чэзлымі дрэўцамі.

— А чаго я чакаў — бібліятэкі, крамы, храма Кнігі?

У пад'ездзе было брудна і цёмна. Савашынскі падняўся на другі паверх і пастукаў — званок не працаваў.

— Чаго трэба? — Пасля працяглай паўзы старэчым голасам пацікавіліся з-за дзвярэй.

— Я па аб'яве! — інжынер адчуваў сябе вельмі няўтульна.

— Якой яшчэ аб'яве?

— Любыя кнігі па нізкай цане!

— «Візітоўку» пакажы!

Савашынскі пацiснуў плячыма і, выцягнуўшы картку, паднёс яе да дзвярнога вочка. Пстрыкнуў замок, і абабітыя дэрмацінам дзверы адчыніліся. За імі выявіўся змрочна асветлены і цесны з-за разнастайнага хламу пярэдні пакой.

— Таварыш Дземіш, да вас пакупнік! — На кліч старой з пакоя выйшаў даўнішні незнаёмец, які змяніў паліто на дарагі хатні халат.

— Сардэчна запрашаем! Давайце знаёміцца — мяне завуць Дзяніс Паўлавіч!

— Уладлен Ігнатавіч! — інжынер пацiснуў працягнутую руку.

— Што любіце чытаць акрамя фантастыкі, Уладлен Ігнатавіч?

— Прыгоды і дэтэктывы, — трохі збянтэжана прызнаўся інжынер. Хоць чаго саромецца? Густы ў людзей розныя.

— Значыць, сектар «А»... Прашу за мной! — Кватэра была трохпакаёвай.

Столькі неацэнных кніг, сабраных у адным памяшканні, Савашынскаму бачыць не даводзілася. З-за шаф, якія даходзілі да столі, у пакоі не было дзе павярнуцца.

— Магу прапанаваць вам найшырэйшы выбар савецкай і замежнай фантастыкі — Яфрэмаў, Казанцаў, браты Стругацкія, Булычоў, Брэдберы, Лем, Азімаў, Шэклі, Саймак, Хайнлайн, Сілверберг, Гарысан, Жэлязны, Кларк, Обручаў, Уэлс, Бяляеў, Гансоўскі, Адамс, По, Бестэр, Верн, Крайтан, Талстой, Уіндэм, Гурэвіч, Лаўкрафт...

— І гэта ўсё ў вас маецца ў наяўнасці? — Не мог паверыць сваім вушам інжынер. Ён падрыхтаваўся да трох-пяці найменняў.

— Асобныя тамы і поўныя зборы твораў. Уся перакладная фантастыка. — На слове «ўся» Дземіш зрабіў націск.

— Адкуль?

— Ёсць сякія-такія крыніцы... Дапытвацца Савашынскі не стаў — гэта было б маветонам. — Можаце дакрануцца, кнігі вам не сняцца! Ну ж, смялей!

Інжынер асцярожна дакрануўся пальцамі да карэньчыка. Кніга не знікла, як інжынер таго падсвядома баяўся.

— Маючы такое багацце, хіба можна марыць пра нешта іншае?

— Можна, Уладлен Ігнатавіч. Не адной толькі ежай духоўнай...

— Вы цалкам маеце рацыю, Дзяніс Паўлавіч!.. Калі мы ўжо закранулі гэтую тэму, магу я спытаць пра цану? — Савашынскі інстынктыўна дакрануўся да кішэні, у якой ляжаў кашалёк. Зарплату выдалі як нельга дарэчы. Па дарозе інжынер прыкінуў, якую яе частку ён зможа выдаткаваць.

— Давольце запэўніць, Уладлен Ігнатавіч, такіх нізкіх коштаў вы не знойдзеце нідзе ў горадзе! Ды што там у горадзе — у краіне!

Звычайна пасля такіх слоў фарцоўшчыкі выстаўлялі завоблачныя цэны. Савашынскі ў думках развітаўся з большай часткай грошай.

— Колькі?

— Схавайце кашалёк, Уладлен Ігнатавіч! Савецкія рублі мне не цікавыя!

— Валюты ў мяне няма! — інжынер збянтэжыўся. Шчасце было такім блізкім.

— Ды адкуль ёй узяцца ў простага савецкага грамадзяніна? — Дземіш засмяяўся. — Мне патрэбны не грошы...

— Радзіму я не прадам!

— Божа, Уладлен Ігнатавіч, вы сябе яшчэ Фаўстам, а мяне д'яблам уявіце! Ні ваша душа, ні дзяржаўныя сакрэты і ваенныя таямніцы, ні рублі мяне зусім не цікавяць!

— Тады што? — Савашынскі злавіў сябе на тым, што не разумее Дземіша.

— Антыкварыят... Я хацеў сказаць рэчы і сімвалы савецкай эпохі. Можна нават быўшыя ў карыстанні.

— Вы сур'ёзна? — ахнуў інжынер.

— І ў думках не было жартаваць! Я прапаную вам кнігі ў абмен на рэчы, якія вас атачаюць і не прадстаўляюць для вас каштоўнасці.

— А чаму б вам самому не сабраць?

— Дэфіцыт часу, Уладлен Ігнатавіч... Так што — вы згодны на мае ўмовы? Шмат не папрашу.

— Па руках! — Пры думцы аб тым, што сямейны бюджэт не пацерпіць, настрой Савашынскага палепшыўся. Жонка захаплення кнігамі не падзяляла.

— Выдатна!.. У вас ёсць з сабой што-небудзь, здольнае мяне зацікавіць?

Інжынер пачаў ліхаманкавыя пошукі ў кішэнях і партфелі. Вынік парадаваць не мог — «авоська», камплект паштовак «Савецкія самалёты» і акцябрацкая зорачка, якая невядома як апынулася ў нагруднай кішэні пінжака.

Разлічваць атрымаць за такое дэфіцытную кнігу было марна, а прасіць інжынер пасаромеўся. Не настолькі ж у Дземіша нізкія цэны.

Насуперак чаканням, адмовы Савашынскі не пачуў:

— Падыходзіць!.. Можаце выбраць любую кнігу!

— Любую?

— Любы том.

Інжынер устаў перад дылемай — вочы разбягаліся. Хацелася ўсё.

Таптанне на месцы магло зацягнуцца да бясконцасці. Савашынскі заплюшчыў вочы і проста зняў з паліцы першы том, які трапіўся пад руку.

— Чатырыста пяцьдзясят адзін градус па Фарэнгейце... Даволі сімвалічна!

— Вы да якой гадзіны прымаеце? — Кніга знікла ў партфелі.

— Збіраецеся ўзяць таксі і вярнуцца?.. — Інжынер вінавата кіўнуў. Менавіта так ён і планаваў зрабіць. — Давайце ўжо лепш заўтра! Думаю, ураджанняў будзе больш чым дастаткова!

— Вы маеце рацыю! — інжынер ведаў, што яго чакае бяссонная ноч.

— Вы заўсёды зможаце знайсці мяне тут у другой палове дня. Прыносьце рэчы і атрымаеце кнігі. Да хуткай сустрэчы!

— Да пабачэння!

Сэрца выскоквала з грудзей. Каб супакоіцца, Савашынскі запаліў.

— Падумаць толькі — дзве цудоўныя кнігі за адзін дзень!

Душа спявала.

Дабраўшыся да хаты, інжынер перакусіў на хуткую руку і прыступіў да збору таго, што магло сысці за аплату.

— Ты здаровы? — на твары жонкі была напісаная трывога.

— Ніколі не адчуваў сябе лепш! Ты толькі ўяві: сустрэў чалавека, які мяняе бясцэнныя кнігі на рознае барахло!

— О Госпадзе! Мала таго, што ўся кватэра кнігамі завалена, дык ён яшчэ цягне...

— Калі б ты бачыла, што ў яго ёсць, загаварыла бы зусім інакш! Не ўсялякая бібліятэка можа пахваліцца такім зборам!

— Зусім ужо звар'яцеў са сваімі кнігамі. Лепш бы дэфіцыт дадому нёс!

— Інэса, як можна быць такой прыземленай?.. Рэчы мінаюць, кнігі вечныя!.. Грошы ў вітальні на тумбачцы. Мяне не для каго няма! — Савашынскі выцягнуў кнігі з партфеля. — Брэдберы або Верн?.. Гамлету было лягчэй... Арол — Брэдберы, рэшка — Верн!

Дзвюхкапеечная манета звалілася гербам уверх.

Савашынскі прыадчыніў фортку і, зручна ўладкаваўшыся ў крэсле, прысунуў да сябе попельніцу і цыгарэты. Пасля таго, як была адкрыта першая старонка, навакольны свет для інжынера перастаў існаваць...

— Ты спаць сёння наогул збіраешся?.. Чатыры гадзіны ночы, а табе, калі ты забыўся, заўтра, дакладней ужо сёння, на працу!

— Дваццаць старонак засталося!

— Недапалкі не забудзься выкінуць! — Жонка прыгнечана пахітала галавой і пайшла. Савашынскі кіўнуў і зноў выпаў з рэальнасці. Заснуць у тую ноч так і не атрымалася — празмерна моцным аказалася эмацыйнае ўзрушэнне.

З вялікай цяжкасцю дачакаўшыся заканчэння працоўнага дня, інжынер зноў накіраваўся да Дземіша.

— Рады вітаць пастаяннага кліента!.. Паказвайце, што прынеслі!.. Вельмі добра! Проста цудоўна!.. Выбірайце!

На гэты раз Савашынскі сумненнямі не пакутаваў, паколькі папярэдне склаў спіс таго, што хацеў бы мець у першую чаргу. Справа аказалася зусім не простай.

— Можаце нічога не казаць, Уладлен Ігнатавіч. Па вачах бачу — прыйдзеце яшчэ не адзін раз!

Нагружанаму кнігамі інжынеру не заставалася нічога іншага, як кіўнуць.

Наступныя месяцы ператварыліся ў сапраўдны баль духу. Савашынскі чытаў і ніяк не мог задаволіцца. Наадварот — з кожнай новай «праглынутай» кнігай жаданне чытаць станавілася мацней.

— Фанатык! — спачатку жонка спрабавала паўплываць на інжынера, аднак потым толькі махнула рукой. Кнігі — ўсё лепш, чым гарэлка.

А Савашынскі нават не думаў выходзіць з «інтэлектуальнага запою». У пошуках «артэфактаў» інжынер абышоў сяброў і знаёмых, выпрасіў у дырэктара НДІ спісаную маёмасць, наведаў шматлікую вясковую радню, адзначыўся ва ўсіх газетных кіёсках і крамах, не пагрэбаваў наведаць гарадскую звалку.

Старанні былі ўзнагароджаныя стакратна. Пры чарговым візіце Дземіш сказаў:

— Уладлен Ігнатавіч, я вырашыў дапусціць вас у спецсховішча!

Спецсховішчам аказалася невялікая камора, бітком набітая рарытэтамі. Выбар кніг крануў Савашынскага да глыбіні душы.

— За такое і душу не грэх прадаць!

— Уладлен Ігнатавіч, — паморшчыўся Дземіш, — вы ж матэрыяліст!

— Мне бліжэй тэорыя адлюстравання Леніна, чым Маркс з яго прамалінейнай антытэзай свядомасці і матэрыі.

— Прабачце?

— Цана значэння не мае! — інжынер быў уражаны тым, з якой лёгкасцю даліся яму гэтыя словы.

— Выбірайце! — прагучалі з вуснаў Дземіша чароўныя словы.

Савашынскі спыніўся на зборы твораў Стругацкіх. Тамоў аказалася так шмат, што ў партфель яны не залазілі.

— Я дам вам пакет!

Поліэтыленавы пакет інжынеру спадабаўся — трывалы, практычны, прыгожы. З такім не сорамна і на працу хадзіць.

Чытаць Савашынскі пачаў ужо ў аўтобусе. Кожны том утрымліваў каментары, перапіску, вытрымкі з дзённікаў, урыўкі з крытычных артыкулаў і аглядаў, а таксама падрабязную храналогію і фатаграфіі.

— Вось пашанцавала, дык пашанцавала!

Захапіўшыся, інжынер ледзь не прапусціў свой прыпынак. Ні жонкі, ні дзяцей дома не аказалася, што не магло не парадаваць. Зрабіўшы з хлеба, капусты і катлет некалькі бутэрбродаў, інжынер заняў месца ў крэсле.

— Цыгарэты і запалкі на месцы... Ну-с, працягнем!

Усе ранейшыя асалоды не маглі ісці ні ў якое параўнанне — інжынер быў на сёмым небе ад шчасця.

— І як можа гэты чалавек гандляваць такім?.. Ды яшчэ браць не грашыма!.. Стоп! А гэта што такое? — У выходных дадзеных значыўся дзве тысячы пятнаццаты год. — Памылка друку ці што?

Памылкі не было — чатыры аднолькавых лічбы прысутнічалі ва ўсіх тамах.

Савашынскі ўціснуў цыгарэту ў попельніцу і раскрыў дваццаты том. Храналогія закончвалася на дзве тысячы чатырнаццатым годзе.

— Што за трызненне? — інжынер адчуў сябе падманутым. Ні ў адной з падшывак «Кніжнага агляду» творы пасля тысяча дзевяцьсот восемдзясят пятага года не значыліся. — Гэта не сумленна!

Накаціла злосць. Савашынскі выкурыў дзве цыгарэты, пасля чаго сунуў кнігі ў рэчавы мяшок, апрануўся і, выклікаўшы таксі, выйшаў на вуліцу. Машына прыйшла праз трыццаць хвілін. Яшчэ чвэрць гадзіны заняла дарога.

— Адчыняйце! — запатрабаваў, адбіўшы кулакі, інжынер, пачуўшы крокі за дзвярыма.

— Я прасіў не трывожыць мяне ўначы, Уладлен Ігнатавіч!

— Вы прадалі мне фальшыўку! — Савашынскі і не падумаў папрасіць прабачэння.

— Хопіць енчыць!.. З чаго вы ўзялі?

— Зірніце самі! — У нос Дземіша торкнуўся злапомны дваццаты том.

— Не бачу нічога незвычайнага, — Дземіш адсунуў руку і пазяхнуў.

— Вы на даты зірніце! — інжынер кіпеў ад абурэння. — Цярпець падман я не маю намеру!

— Зразумела... Заходзьце, зараз я вам усё растлумачу!

— Вы ўжо паспрабуйце, таварыш Дземіш!

Мужчыны прайшлі на кухню.

— Гарбата? Кава? Піва?

— Нічога не трэба! Я чакаю адказу!

— Я з будучыні, Уладлен Ігнатавіч. З дзве тысячы дваццаць трэцяга года.

— Здзекваецеся?

— І ў думках не было... Вось гэты прыбор дазваляе мне свабодна перамяшчацца ў часе і прасторы.

— Вы хочаце, каб я паверыў у тое, што кішэнны калькулятар — гэта і ёсць машына часу? — Савашынскага перапаўняў скепсіс.

— Прасторава-часавы перамяшчальнік, калі быць дакладным. Яго вынайшаў адзін мой прыяцель. З прусакамі ў галаве, але ж геній!.. Зараз я вам прадэманструю працу ПЧП! — Дземіш націснуў на кнопку і знік.

— Гэта нейкі фокус! — Агляд кухні нічога не даў. Дземіш быццам скрозь зямлю праваліўся.

— Цяпер верыце?

Інжынер падскочыў ад спалоху. Ні праз акно, ні праз дзверы Дземіш увайсці не мог — Савашынскі спецыяльна зачыніў іх.

— І як там? — здольнасць гаварыць вярнулася да інжынера толькі праз некалькі хвілін.

— Адносна. Савецкага Саюза больш няма, але «савецкае рэтра» па-ранейшаму ў модзе.

— Дык вось навошта вам усе гэтыя рэчы... А я галаву ламаю...

— Мяняю тут, каб прадаць там. Усе кнігі ў гэтай кватэры, якую я здымаю ў Розы Русланаўны, з будучыні.

— Я зайздрошчу вам, Дзяніс Паўлавіч! У людзей вашага часу маецца магчымасць чытаць без абмежаванняў.

— Толькі яны ёй не карыстаюцца. Кнігі нікому не патрэбныя.

— Як? — Зямля пад нагамі Савашынскага пахіснулася. Каб не ўпасці, інжынер абапёрся аб стол.

— У людзей будучыні новыя ідэалы. Чытанне даўно перастала быць патрэбай. Я збіраю кнігі на сметніках!

Савашынскі з грукатам паваліўся на падлогу.

— Д'ябал!.. Алё, гэта бальніца?.. Тэрмінова дашліце брыгаду — у чалавека інфаркт!

# Гіпацыя

— Значыць, вы хацелі б вярнуцца дадому, у Александрыю ў чатырохсоты год новай эры? Я вас правільна зразумеў? — удакладніў Дырэктар Інстытута прасторы і часу.

— Так, — кіўнула Гіпацыя.

— Але вы ж выдатна ведаеце, чым усё скончылася!

— Маёй смерцю ад рук парабаланаў епіскапа Кірыла ў чатырыста пятнаццатым годзе. Вы шмат разоў паказвалі мне дакументы!

— «Таму людзі з гарачымі галовамі, пад кіраўніцтвам нейкага Пятра, аднойчы згаварыліся і высачылі гэтую жанчыну. Калі яна вярталася аднекуль дадому, яны сцягнулі яе з насілак і прыцягнулі да царквы, званай Кесарыён, потым, агаліўшы яе, забілі чарапкамі, а цела знеслі на месца, званае Кінарон, і там спалілі», — па памяці працытаваў Сакрата Схаластыка Дырэктар. — І вас не страшыць смерць?

— Усе мы калі-небудзь памром! Пытанне толькі ў тым, што мы пакінем пасля сябе. Або прах, або памяць!

— Ваша філасофска-навуковая спадчына сапраўды неацэнная! Сінэсій нездарма называў вас геніяльным філасофскім настаўнікам! .. Дазволю сабе яшчэ раз нагадаць — мы забіраем з мінулага не кожнага чалавека...

— ...Толькі тых, хто спрыяе прагрэсу ўсяго чалавецтва!

— Менавіта! Геніяльныя мысляры мінулага павінны працягваць тварыць!

— Уся справа ў тым, што тварыць у мяне як раз і не атрымліваецца — за тыя чатыры гады, што я жыву ў вашым дваццаць першым стагоддзі, я не стварыла нічога новага! Лепш думаць і рабіць памылкі, чым не думаць наогул!

— У вас усё яшчэ наперадзе, паважаная Гіпацыя!

— Не! Усё, што я стварыла, я стварыла паўтары тысячы гадоў таму!.. Ваш свет — чужы для мяне! Вы называеце свой час валадарствам розуму і гуманізму, я ж — тыраніяй вар'яцтва і заганаў! Дзе абяцаная вамі свабода? Я бачу рабства. Прычым — дабраахвотнае рабства!

— Мне здаецца, вы перабольшваеце праблемы нашага грамадства!

— Зусім не! Вы толькі прыкрываецеся Логасам, а самі штурхаеце Айкумену ў прорву! Вы страцілі Псіхею, калі прызналі адхіленне нормай!.. Зноў фанатызм — тады з імем Ісуса Хрыста, цяпер — Паліткарэктнай талерантнасцю... Вярніце мяне дадому — хачу пражыць паўнавартаснае жыццё! Маё сэрца ў Школе, сярод твораў Платона, Апалонія Пергскага, Дыяфанта Александрыйскага, Арыстоцеля, Пталамея, Эўкліда!

— Мне балюча гэта чуць!

— А яшчэ больш шкада выдаткаваных на мяне сродкаў! — Дырэктар успыхнуў, але нічога не адказаў. — Запускайце вашу машыну!

— Мне здаецца, ваша рашэнне прынята пад уплывам эмоцый!

— Калі б я кіравалася толькі эмоцыямі, ніколі б не стала скалархам!.. Я хачу сысці!

Некалькі бясконца доўгіх імгненняў Дырэктар глядзеў у вочы Гіпацыі, пасля чаго сказаў:

— Хай будзе па-вашаму! Я загадаю прыгатаваць часава-прасторавы перамяшчальнік!



# Юры Несцярэнка

празаік, публіцыст, перакладчык, рок-музыка. Аўтар кнігі прозы «Звычайны шоу-бізнес»(2015 г.) . Нарадзіўся ў 1965 годзе на Быхаўшчыне. Жыве ў Мінску.

# Чэмпіянат Крыма па хакеі

Чакаю Другога Крымскага Рэферэндуму! Хутчэй бы! Усё, вядома ж, звязана з нашым Чэмпіянатам свету па хакеі. Нечакана? Але калі разабрацца, то ў агульнафіласофскім сэнсе ўсё на гэтым свеце паміж сабой мае трывалыя сувязі. Так вось і тут — дзе той чэмпіянат, а дзе другі крымскі рэферэндум? Але гэта толькі на першы погляд.

Справа ў тым, што пачалося ўсё са сцягоў. Падчас чэмпіянату то там, то тут — у кавярнях, на вуліцах, у крамах, у гатэлях — раптам з'явіліся спартовага выгляду маладыя людзі, загорнутыя ў расейскія сцягі, як у плашчы.

Мне вельмі падабалася, як яны выглядалі. Я проста пачаў трызніць, каб выглядаць гэтаксама. Аднойчы ўвечары, пад'ехаўшы да «Шкло-арэны», я набраўся смеласці і ў адной кампаніі людзей у сцягах спытаўся, дзе я мог бы набыць такі самы. «Чё-чё?!» — здзівіліся каржакаватыя браткі, адразу агрэсіўна паставіўшыся да мяне. Я растлумачыў як мага дакладней. Тады адзін з іх — самы малады і самы п'яненькі — зняў свой сцяг і працягнуў мне. «Што Вы, не трэба!» — засмуціўся я. Але больш не з-за таго, што мне было няёмка браць сцяг, а з-за таго, што занадта ён быў забруджаны, дакладней, абванітаваны. «Ну так я не пол — ік — чё ты хошь тогда?» — прамармытаў чалавек у спаскуджаным сцягу. «Ізвініцэ...» — прабляяў я і рэтыраваўся.

Другая спроба ўвогуле атрымалася кепскай. Я дачакаўся заканчэння матча, на якім было вельмі шмат людзей у бела-сіне-чырвоных сцягах (дарэчы, яны і складалі асноўную публіку нашага чэмпіянату), і пасунуўся насустрач адной кампаніі. Калі пачаў тлумачыць, што я ад іх хачу, то ўжо гэтыя, іншыя браткі, спыталіся: «А ты из каков-та регион-та будешь?». «Ды не, я не з рэгіёну, я тутэйшы», — па-простаму адказаў я. «Какой, какой?!» — набычыліся браткі. «Ну, местный, значит», — паправіўся я. «Ты балакать-то научись человеческим языком! Тутэйший! Га-га-га!»

«Ды вы не хвалюйцеся, я, калі што, купіць магу!» — торгнуў мяне чорт за язык. Браткі пераглянуліся і абступілі мяне шчыльнай сцяной. Той, што адказваў на самым пачатку, скрозь зубы працадзіў: «Этот флаг не продаётся! Ты видишь красную полосу? Это кровь наших дедов!» — і гэтак ж лаканічна, як казаў, імгненна заехаў мне кулаком у твар. У мяне з вачэй пасыпаліся іскры, але я хутка ачомаўся і пачаў тлумачыць: «Дык і маіх жа дзядоў тут ёсць кроў!». «Пошёл на ... отсюда, колхозник грёбаный! Сиди тут в своей Бульбондии и не рыпайся!»

Але ж я на іх не пакрыўдзіўся. Стаяў і глядзеў услед, як зачараваны. І нават крыху ганарыўся, таму што на белым кавалку палотнішча, якім быў абгорнуты адзін з браткоў, засталіся цяпер і мае кропелькі крыві. Акурат, калі ў мяне з носу пырснула юшка, кроў мая і патрапіла на той сцяг.

Я зразумеў, што падыходзіць да гэтых гордых людзей у сцягах больш не варта. Ішоў і думаў сабе, уяўляў розныя цікавыя, як мне падавалася, моманты. Вось, напрыклад, што ў Маскве, адкуль большасць з іх прыехала, былой сталіцы СССР (а цяпер інтэрнацыянальным мегаполісе, які працягваў выконваць тую ж функцыю — аб'ядноўваць народы), усе прадстаўнікі брацкіх краінаў — Таджыкістана, Узбекістана, Латвіі, Літвы, Грузіі, Украіны — ходзяць, абгорнутыя ў свае нацыянальныя сцягі. Ну, нібыта мода такая. Эх, прыгажосць! — уяўляў я сабе ідэальную карціну.

Я змяніў маршрут і вырашыў тэрмінова заехаць дадому. Хуценька заскочыў у кватэру. Думкі мае нарэшце змацаваліся ланцужком ідэальнай логікі. Усё геніяльнае — проста! Бязгучна праслізнуў на гаўбец. Там, паміж старых рэчаў — я ведаў дакладна — павінен быць сапраўдны рарытэт: стары сцяг Беларускай ССР, з якім тата хадзіў на дэманстрацыі яшчэ за савецкім часам.

Ёсць! Я разгарнуў палотнішча, абтрос павуцінне і рэшткі тканіны, што пагрызлі мышы. Крыху выцвілы і пакамечаны — ацаніў я. Але ж у цэлым усё прыстойна! Выслізнуўшы на лесвічную пляцоўку, я загарнуўся ў сцяг і рушыў у бок праспекта, назву якога мінчукі цяпер агучвалі як «Пабедзіцелеймашэрава». Чамусьці так апошнім часам усе называлі гэты праспект. Напэўна, таму, што раней дадзены тапонім вызначаўся як «праспект Машэрава», а зараз як «праспект Пабедзіцелей». Вось і ўшанавалі памяць аб выбітным чалавеку, спалучыўшы старую назву з сучаснай.

Я, горда ўзняўшы галаву, шпацыраваў па праспекце. Па ўсім было відаць, што мінакам падабалася мая ідэя. Людзі паварочвалі галовы, назіралі за мной здалёк — хто яўна, хто незаўважна глядзелі ўслед. Я адчуваў сябе героем сваёй краіны.

У сваіх думках я і не заўважыў, як побач са мной раптам з'явіліся дзве постаці ў чорных касцюмах, белых кашулях і аднолькавых гальштуках. Яны тыцнулі нейкія корачкі прама ў вочы, і адзін з іх, ніжэйшы ростам, рэзка прамовіў: «Майор Прохоров. Почему государственный флаг используете не по назначению?»

Я разгубіўся, не зусім зразумеў пытанне, і пачаў нешта такое адказваць: «Дык я ж, гэта... на чэмпіянаце... ну, у сэнсе, балею за нашых...»

«Флаг дай сюда», — паспрабаваў другі чалавек у чорным сцягнуць мой дарагі сімвал з плячэй. «Не магу... Гэта татаў...» — неяк недарэчна ўчапіўся я ў сцяг. Чалавек адпусціў мяне, таму што побач сталі збірацца людзі. Наша кампанія пэўна прыцягвала ўвагу. «Товарищи, проходите! Не скапливайтесь!» — адпрацаванымі рухамі маёр Прохараў развярнуў пару мінакоў і элегантнымі жэстамі прапанаваў ім сыходзіць. Яго калега дастаў рацыю і нягучна сказаў некалькі словаў. Як з-пад зямлі намаляваліся людзі ў міліцэйскай форме. Я нават і азірнуцца не паспеў, як сядзеў ужо ў невядомым мне памяшканні перад следчым, які складаў пратакол па артыкуле «Абраза дзяржаўных сімвалаў».

Я зусім не пакрыўдзіўся, што ўвесь чэмпіянат правёў у камеры. Шмат карыснага вынес я адтуль. Напрыклад, пазнаёміўся з многімі добрымі людзьмі, што апынуліся ў маёй кампаніі на кароткі ці даўжэйшы час. А ў нейкі момант я стаў нават мясцовым «аўтарытэтам», таму што сядзеў тут па часе болей, чым хто. А калі заставаўся ў камеры адзін, то зразумеў, што магу чытаць руны. Так! У дальнім куце камеры сцены былі ўпрыгожаны рунічнымі надпісамі. Я падумаў — няўжо тут адбывалі свой тэрмін сапраўдныя вікінгі?

І мае здагадкі спраўдзіліся! Аднойчы ноччу ў камеру занеслі чалавека ў шлеме з рагамі. Чамусьці ён быў загорнуты ў расейскі трыкалор. Быў ён у беспрытомным стане, я вельмі хваляваўся за яго здароўе. Да позняй ночы я спрабаваў з ім пагаварыць, але толькі пад раніцу ён пачаў стагнаць і адказваць мне на нейкай дзіўнай мове. Калі яго ў хуткім часе забіралі, то ахоўнікі сказалі, што гэта фінскі заўзятар, які пасля матчу піў з рускімі. Больш я ніколі яго не бачыў — чалавека з рагамі адпусцілі на свабоду.

Вось і я мару, хутчэй бы ўжо наступіла гэтая свабода. Калі я свабодна змагу загарнуцца ў прыгожы сцяг. Калі нарэшце абвесцяць Другі Крымскі Рэферэндум, і Беларусь большасцю галасоў далучаць ... а няхай сабе і да Крыму! Мы і там пабудуем лядовыя палацы і правядзём свой чэмпіянат! Чэмпіянат крымскіх беларусаў — гэта гучыць горда!

# Падмануць ведзьму...

— Добры дзень, Аркаша! Добра, што цябе пабачыла, сусед даражэнькі. Ты ўжо прабач старую, што табе спакою не дае з самага ранку. Стаміўся, напэўна, нялёгкая ў цябе праца, што ні кажы. Выбачай, Аркаша, ніколі да цябе не падыходзіла з такімі пытаннямі, але ж во сэрца не на месцы. Пайшоў мой балбес — сын Мікіта, на тую плошчу ўчора, ды няма ад яго ні слыху, ні духу. Не хвалюйся, кажа, мама, я так, паглядзець. Ведаю я іхняе «паглядзець». На пятым курсе ўніверсітэта ўжо, а ў галаве як не было нічога так і няма. Ноч не спала, пад раніцу нібыта прыснула, ды сон такі сніўся — не ведаю, што і думаць: быццам бы Пеця мой, муж, царства яму нябеснае, пра цябе нешта казаў. Толькі не магу ўзгадаць, што менавіта. Вось я і вырашыла зранку цябе дачакацца. А тут яшчэ сябра Мікітаў пазваніў — маўляў, не хвалюйцеся, з ім усё добра, толькі ў міліцыю яго забралі. Я разумею, што ты з другіх міліцыянераў, спецыяльных, але ж можа была б у цябе магчымасць ці пазваніць куды, ці заехаць, ды даведацца, дзе ён і што з ім? Я ўжо і перадачу яму прыгатавала — катлетак, сала, хлеба. І грошы, хоць невялікія, але ж нейкае пытанне можна вырашыць...

— Да что Вы, тётъ Кать! Не волнуйтесь, и так всё узнаем. Чем смогу — помогу. Вызволим Вашего балбеса. Я сейчас пару часиков отдохну с дежурства, а к двенадцати мне снова в часть надо ехать. Там у нас «разбор полётов» будет. После этого что-нибудь да узнаем...

— Дык вазьмі торбачку з перадачай адразу! Вазьмі, вось яна якая, у стракатую палосачку, вельмі файная. Вазьмі, сынок. А зверху і грошыкі ў паперку загорнутыя. Як дзеткі твае?

— Детки-то нормально, тёть Кать. Вот на Новый год отпуск мне обещали. Хочу их в Чехию, в горы свозить, а потом на несколько деньков в Германию смотаться... Тёть Кать, передачу может не надо, да и деньги тоже?

— Ды не, Аркаша, ты ж такі аўтарытэтны чалавек! А мы што, горшыя? Працавалі ўсё жыццё, нікога не турбавалі, нікому не заміналі, ды з бацькамі тваёй Вольгачкі добра сябравалі. Па-суседску адзін аднаму дапамагалі. Таму, калі ты па нашым пытанні нешта даведаешся, дык вось і падзяка табе, за тое, што патраціў час. Ты ж зробіш усё як трэба! Вельмі спадзяюся на цябе... Ды вось нешта сэрца шчэміць і шчэміць... Не ведаю, што такое...

«Дура старая, ты б ему ещё грибочков с огурчиками... Куда деть-то эту «торбачку» в дебильные полосочки?.. Позорище... Хотя, вот и место для неё... А денег хоть сколько?.. Тьфу ты, смех один... Постричься, что ли к Лизавете Палне зайти? Потом, правда, надо будет неделю Ольге объяснять про внеплановые дежурства... Да, женщина-огонь... Если уж попал к ней, выжмет до капли... Правда, сука такая, далеко не меня одного выжимает...

А с этим «революционером» соседским что делать? Понятно, что я специально ничего узнавать не буду. Что тут узнавать? Я и так знаю, где он... Сам же его и грузил в автозак... Мало того, это лично я ему по балде длинноволосой заехал дубиной... Узнать-то он меня не мог со щитом и в шлеме... Но я хорошо попал, сбоку приложился... Он тут же всё вокруг кровянкой залил... Урод... Вечно смотрит исподлобья, как на врага народа. Я когда его засёк в толпе, сразу решил, что не уйдёт... Что-то там пытался вякать про честные выборы... Н-на тебе, скотина, выборы — хрясь и заткнулся... Таким же принципиальным растёт, как и папаша был...

Да, если б не принципиальность, папа мог бы ещё пожить... Ну а что, идёшь себе вечером домой после тренировки, никого не трогаешь, а тут пьянь эта, Волат, кажется его все звали... Мол, «дай закурыть рабочаму класу...» Колхозник, блин... Мне командир взвода на тренировке, как раз, тогда один тайный приёмчик показал. Типа, на крайний случай... А мне ж не терпится, а тут и случай предоставился. Ну, я и продолжил тренировку... В реальных условиях, так сказать... Не до самого конца, конечно. Так, до потери сознания... Хорошей грушей оказался этот Волат. Долго держался на ногах... С полминуты... Только он рухнул, откуда ни возьмись появился этот правдолюб, «дядя Петя», типа... «Ты, говорит, за что его? Он со мной много лет на заводе работал, типа, муху не обидел в своей жизни...»

Я ему предложил по-мирному разойтись. А он вдруг как закричит: «За кого ты меня принимаешь, щенок?!...» Вижу, что разговора не будет. Орёт, сейчас точно какой-нибудь зевака припрётся. Так что решать надо было быстро... Да и за «щенка» надо отвечать... Пришлось применить тот самый приёмчик... Ну, «на крайний случай»... На поражение, то есть...

Пока Волат очухался, я уже вызвал милицию, показал удостоверение, дал показания, что этот амбал отбирал у дяди Пети деньги, а я его защитить хотел, да не успел...

Волату этому ещё долго сидеть. По-моему, он в суде только врубился, куда вляпался... Хватался за голову, говорил, что ничего не помнит, мол, такого быть не может... Оно-то, конечно и не может быть, тут он прав... Только «чернила» надо поменьше жрать до беспамятства... С этой стороны здоровому образу жизни — срок в десять годков только поспособствует...»

«... Ніколі я бутэлькі не збірала па сметніцах, але вось і дажылася. Пецяа мой, канешне, на мяне моцна насварыўся б, каб ведаў пра тое... Але няма ўжо на гэтым свеце Пётрыка майго, няма каму і сварыцца. Калі б жывы быў, дык можа б і Мікіту наставіў на розум. Позна ён у нас нарадзіўся, вырас не горш, чым у людзей, і разумны, і прыгожы. Але што ён усё па гэтых сходках ходзіць? За якое яны лепшае жыццё змагаюцца? І так не дрэнна жывем — ёсць шматок сала ды цыбуліна да бульбы, кватэра, хоць аднапакаёўка, але свая, ды мэбля ў хаце, апрануць што ёсць — раней і тога не было...

...Паглядзім у гэтай сметніцы — няма бутэлечак... А тут? Ой, штосьці знаёмае вельмі... Пачакай, пачакай... Дык гэта ж торбачка мая ў стракатую палосачку, што я перадавала сыну... І ўся ежа тут, і паперка ад грошай... Пастой, дык я ж у яго спыталася... Ён яшчэ моцна спяшаўся кудысьці, казаў, што бягу на вячэрнюю працу, такі ўвесь прыгожа пастрыжаны, у прыгожых лакіраваных туфлях. Я яшчэ падумала, што водар ад парфумы вельмі моцны ды прытарны, думаю навошта на службу так абліваццa ды туфлі новыя абуваць?.. А сказаў жа, што ўсё перадаў, але невядома, як там ахоўнікі далей, у камеру, будуць перадаваць...

Што ж ён робіць? Ці ж гэта турэмныя ахоўнікі ў сметніцу каля суседняга з намі дома кінулі гэтую торбу? Выходзіць, што падмануў, калі распавядаў, што не пусцілі яго сёння, ды што, можа заўтра пусцяць? Дык што ж гэта за чалавек? Атрымліваецца, правільна казаў мой сыночак яшчэ раней, калі яго затрымалі аднойчы напрыканцы сакавіка, ды далі штраф вялікі, — што не трэба давяраць «тым, хто ТАМ працуе», здаецца так ён выказаўся, калі я прапанавала звярнуцца да суседа за дапамогай? Як жа ён мог мне, маці, так хлусіць пра сына майго? У самога ж дзеткі, ці ён не разумее нічога? Ці за каго ж ён нас лічыць? Мо не за людзей?..

...Куды ж я іду, куды цягнуся?... Як жа мне цяжка! Так цяжка, што дадому не хочацца вяртацца... Не хачу паднімацца па той самай лесвіцы, дзе смярдзіць гэтай яго парфумай... Не хачу бачыць дзвярэй у кватэру, дзе ён жыве... Нічога супраць Вольгачкі не маю, памятаю яе з маленства... Вельмі шаную памяць па яе бацьках, якіх ужо няма... Я ўсё не верыла раней, што мне суседкі казалі, нібыта гуляе кабель гэты направа і налева... Але як проста цяпер усё складаецца, нібыта з кубікаў... Значыць цяпер я магу паверыць не толькі суседкам, але і газетам, што Мікітка мне даваў час ад часу, падсоўваючы артыкулы, пра

тое, як яны, мянты гэтыя, ставяцца да людзей... Значыць праўда ўсё гэта... Куды я іду? Пра што думаю?... Але ж толькі не дадому...»

«... Вот шалава! Я ж раньше подошёл к салону случайно, спешил, как на первое свидание! А она в машину садится. Тачка не то, чтобы очень крутая, но и не из дешёвых. Но самое главное — эта хренова символика возле заднего номера. Красное с белым! Или это мне уже мерещится повсюду? «Бел-чырвона-белае», бл...! Конкретно-то мы с ней не договаривались, просто я спросил до какого времени она работает — хотел сюрприз устроить... Устроил, твою медь... Туфельки лакированные новые обул... А она взяла и спрыгнула раньше времени. И мобильный не отвечает... Теперь вот в этих туфельках и придётся шататься целый вечер неизвестно где! Домой ведь не пойдёшь раньше времени... Настроение такое, что убил бы кого-нибудь! Ладно, надо дорогу перейти. И желательно опаздывая на зелёный. Может повезёт — уроду какому-нибудь фэйс начистить, когда возникать начнёт из машины... Хоть пар выпущу... Кстати, хорошо, что оглянулся — знакомая полосатая «торбачка» с тыла по курсу... Нашла всё-таки, ведьма старая свою «торбачку»... И как она тут оказалась, старуха Изергиль, блин? Надо побыстрей валить через дорогу, чтоб не увидела меня...»

«... Вось валачуся сабе па вуліцы, а мне ўжо зданкі здаюцца. Нібыта нейкі бруднага колеру фургон вельмі хутка праехаў, у ім яшчэ такія маленькія вакенцы з кратамі. І нібыта за тымі кратамі Мікітку я ўбачыла. Толькі ён без доўгіх сваіх валасоў, такі прыгожы, зусім як Пеця ў маладосці... Ці то мне ўжо Пеця здаецца? Усё пераблыталася ў галаве ў старой... Не, не можа такога быць, гэта ўжо зданкі...

А там што здарылася? Што ж гэта за дзень такі? Людзей назбіралася на пераходзе... Чаго ж гэтыя людзі так лаяцца? А-яй! Нібыта збілі некага! Маладога хлопца?.. Перабягаў на чырвоны? Гэта аказваецца бруднага колеру фургон... Той самы, ці што?! Значыць, не падалося? Кажуць, што «аўтазак» нейкі... Без нумароў?.. І нават не спыніўся — як нёсся, так і панёсся... Што ж яны робяць? Што ж яны сабе дазваляюць? Людзі проста ў шоку — машына нават не спынілася... Вось і «хуткая дапамога»... Доктар аглядае чалавека на дарозе... Няўжо насмерць? Накрываюць насілкі белай прасцінай... Што ж гэта за туфлі вельмі знаёмыя тырчаць з пад прасціны? Лакіраваныя, новенькія... Я зараз сама тут прытомнасць страчу ад усяго гэтага... Пацямнела ў вачах... Дай Божа ўтрымацца на нагах...

Чамусьці зноў пра Пецю ўзгадваецца... І словы яго з тога сну майго ранішняга цяпер раптам можна разабраць: «... Як Мікітку будуць везці, — нібыта казаў ён, — ты проста ідзі па дарозе, не спяшайся. А я вас сустрэну на пераходзе. На пераходзе з аднаго царства ў іншае... А нечысць хай бяжыць. Яна сама сябе будзе давіць...»

Вось такія словы гаварыў мой Пеця... Як жа мне ў іх разабрацца?... Як мне іх зразумець?..»

# Чытаць не перачытаць...

Час ад часу па жыцці ўзнікае неабходнасць прыгадаць той ці іншы выпадак. Напрыклад, са свайго юнацтва. Вось хтосьці, такі малайчына, у неверагодна далёкія часы навучыў рабіць карысную справу блізкага ці проста знаёмага чалавека. Ды так, што таму чалавеку справа гэтая прыдалася на ўсё жыццё.

Уласна я не памятаў такога факта, але суседзі маіх бацькоў, простыя вясковыя людзі, упарта сцвярджалі на кожным застоллі, што менавіта я, нібыта, навучыў іхняга малодшага сына чытаць. Тады я стараўся не звяртаць увагі на гэтыя хмяльныя жарты ды несур'ёзныя суседскія размовы. Сын іхні, як здавалася, пэўна саромеўся такога моманту з уласнай біяграфіі, а мне хапала іншых справаў, і ў хуткім часе я ўвогуле забыўся на гэтыя вясковыя жарцікі і міжсабойскую легенду.

Час праляцеў, сціплы суседскі хлопчык імкліва скончыў школу, і вось — ён ужо курсант адной з навучальных установаў МЧОЗ. Хапала рознага на пачатку абранага ім шляху — і цяжкасці з навучальным працэсам, і пагроза адлічэння за групавую бойку. Але чаго не бывае ў жыцці — гартуецца характар, накопліваецца вопыт, збіраюцца веды. Адмоўны досвед ператвараецца ў станоўчы. Любая інфармацыя ідзе на карысць...

У адзін з прыгожых восеньскіх днёў на двор майго прыватнага дома раптам — не заехаў, а менавіта — уляцеў службовы УАЗік, узняўшы добры слуп пылу. З яго таксама не выпрыгнуў — а на хаду, амаль што вылецеў знаёмы суседскі хлопчык. Праўда зараз гэта быў сам ураган энергіі, моцы, спрытнасці, што належаць дваццацігадоваму юнаку, які ўладкаваўся на прэстыжную дзяржаўную службу. Нібы крыху саромячыся сваёй «ураганнасці», былы сусед падбег да мяне і тонам, не выклікаючым сумневу, амаль што загадаў: «Збіраемся прама зараз і едзем! Трэба так, як ніколі! Справа *архі* важная, *мега* неадкладная і *супер* тэрміновая! Усё ўпраўленне вобласці спадзяецца толькі на цябе!..»

Вельмі здзівіўся я ў той момант. А ў якасці невялікага бонуса, як аказалася, пажадана мець з сабой камплект дыскатэчнай апаратуры (калонкі ватаў на трыста-чатыраста, узмацняльнік, прайгравальнік кампакт-дыскаў ці касетны магнітафон, і пакунак аудыяносьбітаў з не дужа абцяжарваючай інтэлект праграмай). Гэта ўсё, што патрэбна! Дробязь! Ну, яшчэ сінтэзатар — пару песен праспяваць, мікрафончык які-небудзь. З мікрафоннай стойкай, адпаведна, — трэба ж шаноўных гасцей, спадароў афіцэраў, павіншаваць «...ты ж можаш прыгожа гаварыць!» (у сэнсе — я?!) «А начальства з вобласці ўжо разбярэцца, як разлічыцца! Зразумела, што гарэлкі і закусі ты зможаш узяць, колькі здолееш вынесці... «

Ад шчасця, што звалілася на мяне, я з паўхвілінкі нічога не мог адказаць. Думкі нагадвалі пчаліны рой. Па-першае, тое, што пра мяне ўзгадалі трэба

было дзякваць толькі майму маладому суседу — за апошнія гады я з'яўляўся дома вельмі рэдка і неперыядычна. Але ж во, на табе, вылічылі! Па-другое, аказваецца, ведаюць у адпаведных органах, чым я займаюся, хоць і не жыву ўвесь час на малой радзіме. Хай сабе туляюся недзе па нейкіх рокавых і джазавых тусоўках краіны і замежжа, але ж ёсць вера і надзея ў мясцовым аддзеле ЧОЗ, што песню «Офицеры» расейскага спевака Алега Газманава я выканаю без цяжкасцяў, і колькі трэба — на біс!

Вельмі засмуціўся сусед, калі дазнаўся, што няма ў мяне ні адпаведнай апаратуры, ні калекцыі залатых хітоў з рэпертуару Алега Газманава, ды іншых зорак расейскай эстрады, таксама як не маю я ні «ямахі», ні «касіо», каб уласнаручна акампаніраваць і выконваць добрую песню... У стане вось такога расчаравання ўжо не дужа нагадваў ён наіўнага хлопчыка. Нават па-даросламу ўпікнуў — маўляў, што ж ты так? Калісьці навучыў мяне чытаць, а зараз падвёў, можна сказаць, усё ўпраўленне...

З часам гісторыя забылася, сусед пайшоў усё вышэй па службовай лесвіцы, дабраўшыся да местачковай дошкі пашаны, што была размешчана на цэнтральнай плошчы, побач з помнікам правадыру ўсіх народаў. Гэта быў своеасаблівы пік кар'еры. Фактам непасрэднай блізасці да Уладзіміра Ільіча вельмі ганарыліся бацькі майго паспяховага суседа. Да такой ступені, што мой удзел у адной з назіральніцкіх кампаній на чарговых выбарах, бацька маладога служакі расцаніў як асабістую крыўду, і аднойчы на падпітку, прадаўшы наступную партыю бензіна са свайго самазвала, ледзь не пачаў амаль што «у прамым кантакце» высвятляць адносіны за тое, што не прагаласаваў «за нашых». Так ужо павялося ў краіне...

Паралельна з вонкавым бокам існавання ў сферы афіцыёза, зразумела, заўсёды ствараюцца і нейкія ўнутраныя ўмовы прафесійнай дзейнасці. Закон «з ваўкамі жыць — па воўчы выць» працуе вельмі дакладна, і з часам стала вядома, што наш герой, былы мой сусед, не грэбуе і тым, каб залажыць... не, прабачце, далажыць пра неправамерныя дзеянні каго-небудзь з калегаў, а то нават і з вышэйшага кіраўніцтва. Не заўсёды спрацоўвала так, як хацелася б, але аўтарытэт былога суседа заззяў новымі гранямі.

Час ад часу сутыкаючыся з гэтым аўтарытэтам, ніякага жадання мець з ім стасункі ўжо не ўзнікала. Выклікаў ён супярэчлівыя пачуцці — з аднаго боку ніяк не атрымлівалася пазбавіцца ад падсвядомага разумення таго, што гэта той самы суседскі хлапчук, з якім раней заўсёды цікава і прыемна было паразмаўляць, а з іншага — перад вачыма стаяў мацёры служака, якому таксама, як таму ж самаму ваўку, давяраць ні ў якім выпадку нельга. Нават бяскрыўдныя словы трэба кантраляваць — таму што можна перавярнуць іх так, што напрыканцы не ўзгадаеш, як было на пачатку.

Аднойчы з-за гэтай супярэчлівасці я і патрапіў у вельмі няёмкае становішча. Здарылася гэта пасля выбараў *вядомага* дня, адпаведна сумна *вядомай* раніцай *таго самага* месяца. Напярэдадні цэлы вечар праседзіўшы перад

маніторам, праз інтэрнэт-рэпартажы я ўбачыў шмат каго са знаёмых і сяброў збітымі, а то і беспрытомнымі на вуліцах сталіцы. Ды нават, калі б гэта былі проста незнаёмыя людзі, хапіла б уражанняў. Цэлую ноч у нас у кватэры ніхто не спаў. Як бы добра мы не ведалі спецыфіку гэтых выбараў і іх арганізатараў, але кожны раз яго дзеянні супраць простых нармальных людзей павяргалі ў шок.

Зраніцы, знаходзячыся ў нейкім ватным, пасляшокавым стане, я ішоў па вуліцы, падобны на сляпога і глухога чалавека адразу. У галаве маёй адбывалася гарачая спрэчка: адзін голас крычаў, маўляў, усё — акцыя супраць служакаў! Калі людзі нічога не могуць зрабіць супраць іх, то хаця б не вітацца з імі, выкрасліць іх з нармальнага жыцця! Іншы голас упарта сцвярджаў — а ў чым яны вінаватыя, ім загадалі, праца такая! У іх таксама ёсць дзеці, яны таксама людзі, проста служба такая!

Раптам у самы кульмінацыйны момант спрэчкі перад вачыма нечакана ўзнік мой сусед — той самы, якога я так любіў у дзяцінстве за яго непадробную абаяльнасць і шчыры погляд. І той, да каго з цягам часу кардынальна змяніліся адносіны з-за перакосаў і недарэчлівых умоўнасцяў існавання ў сучасным грамадстве, чый погляд стаў хутчэй фальшыва ліслівым, чым добрым, хаваючы ў сваёй глыбі шматузроўневае двудушша.

Ад нечаканасці я павітаўся — усё ж такі сусед быў без формы, і напэўна ў мяне спрацаваў нейкі стэрэатып успрымання іншага чалавека, як нармальнага. Але ў былога суседа, магчыма таксама на ўзроўні безумоўнага рэфлексу, было закладзена іншае. І не гледзячы на тое, што быў без формы, справу ён сваю ведаў добра. Можа тое цалкам і не патрэбна было, але ліслiва заглядаючы ў вочы, нібыта на ўсякі выпадак, ён весела спытаўся: «Ну, за каго галасаваў, сусед?!»

У той момант гэта пытанне для мяне прыраўнялася да моцнага ўдару дубінай паміж вачэй. Ну чаму ён не спытаўся: «Як справы?», ці «Як жыццё?». Ну хай бы ён спытаўся пра нейкіх баб, да якіх ён быў ахвочы, і з гэтай нагоды ездзіў падчас службовых дзяжурстваў па калгасных клубах, нібыта сачыць за парадкам... Але не! Ён задаў менавіта гэта пытанне! Я, пачуваючыся цалкам як на допыце, выціснуў з сябе: «Ні за каго...». А ён засмяяўся і сказаў у адказ: «Можа ты і правы...», і нават нібыта ўзрадваўся, магчыма таму (гэта была мая слабая надзея на яго адэкватнае ўспрыманне свету), што не давядзецца наступны пратакол складаць на былога суседа. А там жа столькі пісаніны, а потым ўсё гэта перачытваць...

Нават адышоўшыся, ніяк не мог адчапіцца ад думкі — ну чаму менавіта я навучыў яго чытаць?! Можа быць у іншым выпадку здарыўся б цуд прычынна-выніковых сувязяў? І мне не давялося б так перажываць за тое, што я, парушыўшы дамову з самім сабой, павітаўся са служакам, які дзеля ўласнай кар'еры пайшоў супраць свайго народа...



# Эдуард Дубянецкі

паэт, гісторык, культуролаг, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі: «Душы маёй нясканчаны палёт» (2011 г.) і «Покліч самотнага неба» (2013 г.), навукова-папулярных кніг, энцыклапедычных даведнікаў і навучальных дапаможнікаў па гісторыі Беларусі, беларусазнаўству, культуралогіі. Кандыдат гістарычных навук (1995 г.). Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

# Горад зачыненых дзвярэй

Існаваў у адной не надта высокаразвітай краіне дзівосны горад N., у якім раз на месяц чамусьці зачыняліся ўсе дзверы. І вось менавіта ў такі дзень сюды з аэрапорта патрапіў адзін замежны турыст, які нічога пра гэтую завядзёнку не ведаў. Натуральна, што яго неўзабаве апанаваў сапраўдны шок, бо адразу ўзнікла мноства непрыемных нязручнасцяў: нельга было што-небудзь купіць у краме, нельга наведаць тэатр ці кінатэатр, нельга абмяняць валюту, нельга паабедаць у рэстаране і нават нельга схадзіць у прыбіральню. Пры гэтым для госця было вельмі дзіўным яшчэ і тое, што ніхто з мясцовых жыхароў не абураўся, не пратэставаў і ўвогуле здавалася, што гараджане ўспрымалі гэты абуральны, на яго думку, выпадак як цалкам звычайную, шэраговую з'яву. Увесь выгляд насельнікаў нібы казаў госцю: «Не хвалюйся, дружа, у нас усё нармальна, усё стабільна, усё ў поўным парадку!».

Неўзабаве замежніку прымроілася, што ў гэтым горадзе не толькі зачынены ўласна дзверы, але й людскія душы і сэрцы. Праз нейкі час ён страціў звыклае для яго адчуванне ўласнай свабоды і сам сабе пачаў нагадваць адзінокага звера, загнанага бессардэчным дрэсіроўшчыкам у цесную клетку. А трохі пазней на яго нечакана нібы абрынулася цяжкая хваля задушлівасці, яму не хапала свежага паветра і хацелася кудысьці хутчэй адсюль збегчы, зноў вярнуцца ў звычайны горад, дзе ўсё працуе і дзе ўсё адчынена.

І тут вы можаце запытацца, а ці насамрэч нідзе-нідзе ва ўсім гэтым вялікім горадзе нельга было знайсці адчыненыя дзверы. А я вам адкажу, што гэтая дзіўная традыцыя датычылася толькі любых будынкаў, але ж не транспартных сродкаў — аўтамабіляў, аўтобусаў, таксі, цягнікоў у метро. І вось менавіта гэтая акалічнасць у рэшце рэшт і выратавала нашага турыста-небараку. Бо калі ён здолеў нарэшце прыйсці ў сябе і заўважыў, што непадалёку ад яго стаіць таксоўка з адчыненымі дзвярыма, то ён імгненна вырашыў на ёй хоць куды-небудзь з'ехаць. Сеўшы ў машыну, ён у першую хвілю не змог адказаць кіроўцу на пытанне, куды ж яго везці. Але затым яго нібы токам працяла адзіна слушная (так ён палічыў у той момант) думка, якая адразу ператварылася ледзь не ў крык адчаю: «У аэрапорт!»

Дарэчы, на аэрапорт, што знаходзіўся за межамі горада, правіла зачыненых дзвярэй не распаўсюджвалася. Таму госць стралою кінуўся да касы аэравакзала здаваць свой раней набыты квіток і набываць новы — на бліжэйшы рэйс. Ад касіркі ён пачуў, што на патрэбны яму самалёт застаўся якраз адзін квіток, які тут жа быў куплены...

І вось самалёт узяў курс на родны край няўдалага вандроўніка, які вырашыў больш ніколі не вяртацца ў той негасцінны горад. Праўда, прыехаўшы дадому, ён тут жа ўключыў свой камп'ютар, залез у «Сусветнае павуцінне» дзеля таго, каб там знайсці хоць якую інфармацыю пра дзіўную традыцыю гэтага горада. І неўзабаве, трохі пагугліўшы ў Сеціве, турыст высветліў, як яму здалося, га-

лоўную прычыну закрыцця ўсіх дзвярэй. Там было напісана, што нібыта вуснае распараджэнне на правядзенне такой незвычайнай акцыі даваў мясцовы мэр. Прычым дзверы ў горадзе зачыняліся толькі на некалькі гадзін у мэтах эканоміі народных грошай. Бо лічылася, што нават такое адносна нядоўгае закрыццё дазволіць зэканамоіць нямала электраэнергіі, вады і газу ў сувязі з тым, што ў шматлікіх офісах і канторах на гэты час цалкам адключалася святло, у крамах не працавалі маразільныя камеры і касавыя апараты, у рэстаранах, кафэ і сталоўках не гатавалася ежа, у банках не расходавалася папера на афармленне ўкладаў і выплату пенсій, у прыбіральнях не расходавалася вада і да т.п. Карацей, штомесяц у такія дні праходзіла т.зв. «трохгадзінка жорсткай эканоміі», якая абсалютнай большасцю гараджан разглядалася як слушная з'ява, а меркаванне меншасці тубыльцаў у гэтым горадзе (як і ў краіне ў цэлым) ўжо даўно нікога з высокіх чыноўнікаў не цікавіла.

Праўда, нельга было выключаць, што прычына ўсяго гэтага бязладдзя магла быць і нейкая іншая, і каб яе схаваць, у Інтэрнэт хтосьці мог пусціць інфармацыйную «качку». Таму вандроўнік не мог быць на сто адсоткаў упэўнены ў тым, што ён дакладна ведае хто і навошта гэта рабіў. Адзінае, з-за чаго наш турыст пазней трошкі перажываў (хаця, па шчырасці, нядоўга) было тое, што названая трохгадзінка скончылася акурат тады, калі ён ужо прыехаў у аэрапорт і, натуральна, пазбавіўся магчымасці дачакацца адкрыцця дзвярэй і ўсё-ткі наведаць розныя крамы, рэстараны, тэатры ды й увогуле пагуляць па незнаёмым, але такім дзіўным горадзе...

# Калекцыянер сноў

Я здаўна збіраю сны, дакладней, калекцыяную іх, як гэта рабілі і робяць калекцыянеры значкоў, марак, манет. Прычым запісваю як уласныя, так і чужыя сны, размяркоўваючы іх па відах, сюжэтах і тэматыцы. Звычайна я звяртаюся да сваіх сяброў, сваякоў і добрых знаёмых з просьбай расказаць пра іх найбольш адметныя, незабыўныя сны. Праўда, некаторыя з тых людзей па розных прычынах не захацелі распавядаць мне пра свае сны, нібы апраўдваючыся пры гэтым тым, што сны, на іх думку, рэч усё-ткі дастаткова далікатная і ў нечым інтымная. А хтосьці, наадварот, расказваў падрабязна, нібы смакуючы ўсе, нават самыя дробныя дэталі. І я ў такіх выпадках спачатку сумленна й дакладна занатоўваў сны, а потым шчыра дзякаваў суразмоўцам за разуменне і давер.

Увогуле, немалы вопыт калекцыянавання сноў даў мне магчымасць зрабіць выснову пра тое, што іх досыць умоўна можна падзяліць на такія віды-катэгорыі, як сны-перасцярогі, сны-прадчуванні, сны-надзеі і, урэшце, сны-мары. І вось на апошняй з названых разнавіднасцяў спынімся падрабязней. Як вынікае з іх назвы, гэтыя сны адлюстроўваюць шматлікія яўныя ці патаемныя мары людзей. (А яшчэ хочацца тут дадаць, што даследчыкі да ліку найбольш

істотных асаблівасцяў сноў адносяць абавязковую наяўнасць аднаго ключавога, цэнтральнага вобразу, які складае іх своеасаблівае ядро і выяўляе глыбінныя ўсвядомленыя ці падсвядомыя імпульсы чалавечай псіхікі).

А зараз, урэшце, надышоў час даць слова самім, так бы мовіць, «сна-бачаннікам». Іх расповеды былі больш ці менш ясныя ці цьмяныя, больш ці менш цэльныя ці фрагментарныя, але ўсе яны досыць яскрава сведчаць пра стан душы маіх суразмоўцаў, пра іх запаветныя мары...

Дык вось што прыснілася *адзінокаму*:

«Увечары іду па пустыннай вуліцы, вакол ні душы, цішыня. Паварочваю з вуліцы ў завулак і чую там нечыя крокі. Неўзбавае заўважаю, што з аркі старога дома выходзіць маладая прывабная дзяўчына, але, убачыўшы мяне, паварочваецца і хутка ідзе назад. Мне міжвольна захацелася дагнаць яе, дакрануцца да яе рукі і спытаць, хто яна, адкуль яна і чаму яна ў гэты час апынулася іменна ў гэтым завулку. Таму я паскараю сваю хаду і за ёю ўваходжу ў арку. Затым бачу, што яна ідзе па бязлюдным двары дома і заходзіць за разлапістыя дрэвы. Я подбегам кідаюся за ёй, ускрыкваю «пачакай!», але праз некалькі імгненняў з горыччу разумею, што яна...знікла, нібы прывід, і я зноў застаўся адзін».

А так распавёў пра свой сон *беспрацоўны*:

«Лячу, бы птушка. А куды лячу, сам не ведаю. Прыгожа ўнізе: такіх нерагодных краявідаў я шчэ ніколі не бачыў. І вось пралятаю я над гарамі, між якімі, у каньёне, бяжыць-блішчыць на сонцы невялікая рачулка. Потым, глянуўшы наперад, бачу там скалы, якія абрынаюцца ў бяскрайняе смарагдавае мора. І там, на самым краёчку скалы, стаіць, бы белы ветразь, высокі маяк. Нечакана мне ў галаву прыходзіць думка пра тое, што якраз вось тут мне б і хацелася застацца, тут спакойна жыць і працаваць, каб ніколі болей не чуць істэрычных крыкаў жонкі і яе бясконцых заўваг, прыдзірак... А неўзабаве я адчуў, што мая душа нібы наліваецца нейкім дзіўным спакоем... І тут, калі мне ўпершыню стала так хораша, гэты салодкі сон знік, бы ранішні туман».

І прыснілася аднойчы *бяздомнаму*:

«Блукаю ў цёмным лесе. Сонца з-за хмар амаль не бачна...Стаміўся моцна, але не спыняюся. Зачапіўшыся за нейкае карэнне, падаю... Ледзь узнімаюся. Як жа баліць нага. Але ўсё роўна крочу наперад. Трэба ісці, шукаць выйсце трэба... Стомленасць жудасная. Ісці ёй насуперак. Сілы на зыходзе. Ці ўдасца выбрацца адсюль...Гэтая ненавісная лясная глуш. І тут...Так...Тут нечакана скончыўся лес. Я выйшаў на паляну, а там...А там, далей, узгорак. На ім стаіць вялікі дом. Не-не-не. Палац...Сонца выйшла. Які ён светлы. І прасторны, відаць, гэны дом-палац...І стаіць ля ўваходу чалавек. Ківае галавою. І пальцам паказвае: ідзі сюды... Гэта не мой, гэта твой дом. Ён цябе чакае. Чуеш, ча-ка-е ця-бе...».

І расказаў пра свой сон *галодны*:

«Спякота гамана вулічная пранізлівы крык боль унізе не вытрымлівае страўнік дрыжыць рука сонца пякучы боль штосьці рухаецца справа машына едзе штосьці едзе галасы ныюць не не жывот ные набліжаецца спякотны

дзень штось злева вочы убачыць хочацца ведаць на машыне на ёй там пах ідзе едзе з гары уніз страўнік чуе там луста мо хлеб так так пахучае паветра спаць мяса там хлеб о есці хутка з'есці смачна машына там на ёй кавалак мяса цяжка з хлебам узяць о як хочацца...».

Дык хай жа спраўдзяцца гэтыя сны-мары! Дарэчы, а можа калісьці хтосьці захоча запісаць і мае запаветныя сны, якіх у маёй калекцыі сабралася ўжо досыць багата...

# Пра чалавека, які мог ператварацца ў птушку-невідзімку

У сяброўскіх кампаніях лекар Андрэй П. нярэдка любіў распавядаць незвычайныя рэчы пра супольных знаёмых, што ўсе прысутныя з вялікім здзіўленнем пыталіся ў яго, як гэта яму ўдаецца атрымліваць такую, здавалася б, (паў) сакрэтную інфармацыю асабіста-інтымнага кшталту. Натуральна, што многія слухачы спачатку не верылі ў большасць агучаных фактаў, але ж потым, калі з цягам часу таемнае пачынала станавіцца яўным, яны пераконваліся, што той лекар ніколі ім не хлусіў і практычна заўсёды меў рацыю.

І калі, урэшце, некаторыя сябры пачалі звяртацца да Андрэя з настойлівымі просьбамі адкрыць таямніцу такой своеасаблівай яго празорлівасці, то ён спачатку адмаўляўся, а потым, аднойчы не вытрымаўшы падобных просьбаў-допытаў, нечакана зрабіў дзіўнае прызнанне. Паводле яго слоў, даведвацца пра людское патаемнае яму дапамагала ягоная здольнасць час ад часу ператварацца ў птушку (часам нават у птушку-невідзімку!) і лётаць у тыя месцы, дзе жывуць, працуюць і адпачываюць іх агульныя знаёмыя. Канечне, і ў гэтае яго сенсацыйна-фантастычнае прызнанне спачатку ніхто не паверыў, але затым многія людзі вымушаны былі пагадзіцца з тым, што якім-небудзь іншым чынам атрымаць падобныя звесткі, відаць, папросту было немагчыма.

Дык вось, гэты незвычайны чалавек-птушка, незаўважна для іншых седзячы на падваконнях ці залятаючы праз адчыненыя вокны ў дамы, назіраў за паводзінамі сваіх «падвопытных» асоб і падслухоўваў іх размовы. Больш за тое, ён меў здольнасць зразумець унутраны маналог любога чалавека і нават вытлумачыць яго хаатычна-фрагментарную «плынь свядомасці». Інакш кажучы, такі своеасаблівы чалавек-пярэварэцень па сутнасці бачыў людзей, як кажуць, наскрозь, без іх шматлікіх сацыяльных масак. І падчас гэтых назіранняў-падслухоўванняў яму станавілася відавочным, што насамрэч людзі думаюць пра пэўных асоб звычайна зусім не тое, што яны ім пры размовах «тэт-а-тэт» альбо ў моманты сяброўскага застолля гавораць.

Менавіта такім чынам, скажам, высветлілася, што адзін блізкі сябар чалавека-птушкі вельмі негатыўна выказваўся пра аднаго іх супольнага знаёмага, называючы апошняга ў хатніх размовах са сваёй жонкай бяздарным пісакам-графаманам і «замацярэлым» лавеласам, які за ўвесь час свайго сямейнага жыцця змяніў не менш дзясятка палюбоўніц. Хаця ў час сяброўскіх сустрэч гэты, так бы мовіць, крытыкан, наадварот, выказваўся пра таго ж знаёмага як пра адоранага пісьменніка і добрага сем'яніна. Ці, напрыклад, у другім выпадку стала вядомым, што былая каляжанка самога чалавека-птушкі, з якой ён разам калісьці працаваў у медыцынскім інстытуце выкладчыкам і якая яго нібыта заўжды паважала, публічна выказваючыся аб яго высокім прафесіяналізме, на самой справе лічыла яго нягеглым выкладчыкам і кепскім навукоўцам, які за ўсе гады працы так і не змог напісаць манаграфію ды абараніць кандыдацкую дысертацыю. Больш за тое, тая знешне прывабная жанчына ў глыбіні душы лічыла яго ўвогуле нейкім мужыком-недарэкам з-за таго, што безліч разоў рабіла недвухсэнсоўныя спробы яго спакусіць, а ён ніколі гэтага нібыта не заўважаў і максімумам таго, на што ён мог адважыцца, былі некалькі дзяжурных кампліментаў падчас танцаў на навагодніх карпаратывах.

Увогуле, усе гэтыя расповеды чалавека-птушкі прыводзілі да розных наступстваў. Адны людзі былі вельмі ўдзячныя іх незвычайнаму сябру за тое, што ён заўжды ўмеў «дакапацца да праўды» і такім чынам расплюшчваў вочы на сапраўднае аблічча некаторых іх сяброў. Затое ў другіх, наадварот, узнікла жаданне ўвогуле спыніць сяброўскія стасункі з такім пярэваратнем з-за боязі таго, што ён і пра іх саміх можа даведавацца штосьці непажаданае і пакуль надзейна схаванае.

І сапраўды, амаль што ўсё таемнае калісьці становіцца ці, прынамсі, можа стаць яўным — толькі далёка не ўсе ў гэта вераць, не ўсе здагадваюцца, а хтосьці ўвогуле гэтага катэгарычна не жадае...

# Прага геніяльнасці

Жыў-быў адзін чалавек, які з юнацтва хацеў стаць геніем і праславіцца на ўвесь свет. Пра гэта ён марыў практычна заўсёды і паўсюль: спачатку ў старэйшых класах школы, пазней у інстытуце, на працы, у час летніх адпачынкаў і нават у ложку са сваёй жонкай. На працягу прыблізна дзесяці гадоў ціхенька пісаў вершыкі, праўда, амаль нікому пра гэта не гаварыў і нідзе свае опусы не друкаваў. У той час гэтага маладзёна практычна ўсе яго сваякі, сябры і калегі лічылі цалкам «нармальным чалавекам», пад якім найперш разумелася тое, што ён быў старанным і дысцыплінаваным работнікам, ласкавым мужам, клапатлівым бацькам, удзячным сынам.

Але потым пачаліся істотныя і, як падавалася многім, незваротныя змены ў яго псіхіцы, бо ён ад ранейшых адносна бяскрыўдных мараў перайшоў да ак-

тыўных і мэтанакіраваных дзеянняў. Напрыклад, гэты чалавек пачаў нястомна рассылаць свае нязграбныя дылетанцкія творы па перыядычных выданнях, навязліва чытаць свае опусы (і прасіць-патрабаваць іх абавязковай ухвалы!) тым, хто знаходзіўся побач, і, урэшце, пачаў амаль паўсюдна вельмі гучна й часам ледзь не істэрычна даводзіць, што ён непрызнаны геній, якому ўсе зайдросцяць, і таму не даюць магчымасці стаць сусветна вядомым пісьменнікам.

У адказ на такія змены ў ягонай псіхіцы большасць знаёмых пачалі лічыць гэтага псеўда-генія «ненармальным», «вар'ятам», «шаленцам» і прапаноўвалі неадкладна накіраваць яго да адпаведнага доктара. Але гэта яго зусім не хвалявала, і праз нейкі час ён палічыў сябе здольным напісаць які-небудзь выдатны буйны твор. І каб не разменьвацца на ўсялякую драбязу, спачатку замахнуўся на напісанне геніяльнага рамана ў вершах накшталт «Яўгена Анегіна» Пушкіна ці «Фауста» Гётэ. З гэтай задумай ён, зразумела, пацярпеў поўнае фіяска, паколькі амаль адразу быў вымушаны спыніць працу з-за таго, што агульны сюжэт ніяк не вымалёўваўся ды й персанажы, так бы мовіць, ніяк «не хацелі складвацца». Затым паэт-небарака захацеў стварыць звычайную паэму — хай сабе нават і бессюжэтную. Але і гэтыя планы не спраўдзіліся, бо ён не здолеў напісаць нават пару старонак тэксту, на якіх былі б адлюстраваны яго разбэрсаныя думкі ды няўцямныя мроі й перажыванні.

Пазней наш «геній» трохі суцішыўся і паставіў мэту напісаць хаця б адзін геніяльны верш. Але і тут ніхто з тых, каму ён паказваў свой опус, не прызнаў яго не толькі геніяльным, але нават проста добрым. І вось ад гэтага няўдалы паэт быў настолькі пакрыўджаны, засмучаны, што ў дэпрэсіўным настроі (на мяжы адчаю й роспачы) пачаў нават падумваць пра тое, каб урэшце звесці рахункі з такім сваім беспрасветным і бязмэтным жыццём.

І ў гэтай крызісна-тупіковай сітуацыі на дапамогу нашаму герою прыйшла адна яго даўняя кемлівая сяброўка, якая параіла яму замест верша паспрабаваць напісаць хаця б адзін радок ці нават адно словазлучэнне. Спачатку творца казаў, што гэта наўрад ці яму дапаможа, што гэта нерэальна ў ягоным цяперашнім стане, але ж тая прывабная жанчына не здавалася і настойліва, з выкарыстаннем сваіх чыста жаночых чараў (пра апошнія казаць тут не будзем, — лепей прамаўчым) змагла ўсё-ткі вывесці яго з цяжкога псіхічнага стану і нацэліць на змаганне за будучыню сваю і сваіх блізкіх.

Дык вось, натхнёна ўзяўшыся за выкананне гэтай сяброўскай парады, гэты вершапісец нарэшце атрымаў такую жаданую асабістую перамогу. Ён доўга, пакутліва вымучваў з сябе розныя кароткія фразы і словазлучэнні, якія потым, пасля ўважлівага іх перачытвання, звычайна адбракоўваў. І калі ўжо, здавалася, зноў набліжалася яго чарговая параза, яму прыйшлі ў галаву некалькі выратавальных (як высветлілася пазней) слоў, з якіх ён нарэшце здолеў скласці асэнсаваную фразу «быць заўжды самім сабой!».

І ўжо назаўтра менавіта гэтае выказванне было прызнана ягонымі сябрамі і сваякамі выдатным, цудоўным і нават геніяльным. А пасля, канчаткова ад-

кінуўшы сваю шматгадовую бздуру наконт уласнай геніяльнасці, наш былы гора-паэт сапраўды стаў самім сабой — то бок зноў стаў, як і было калісьці раней, уважлівым мужам, клапатлівым бацькам, удзячным сынам і добрасумленным работнікам. Напэўна, шаноўныя чытачы, вы зразумелі, што паэзія з-за гэтага выпадку абсалютна нічога не страціла, затое шмат чаго пазітыўнага набылі ягоныя сябры, сяброўкі й сваякі...

# «Пазней!..»

Хачу расказаць вам, паважаныя чытачы, гісторыю пра аднаго самотнага і вельмі скрытнага чалавека, які практычна ніколі й ні з кім не вёў працяглых задушэўных размоў, а меў звычку адказваць на любыя пытанні надзвычай лаканічна — часам літаральна адной фразай ці нават адным-двума словамі. Прычым самай распаўсюджанай формай яго адказаў было чамусьці слова «пазней». Гэтае ўлюбёнае слоўца ён ужываў вельмі часта, з-за чаго бадай усе родзічы, сябры ды знаёмыя лічылі яго дзіваком і праз пэўны час далі яму адпаведную мянушку — «містэр Пазней». Можна сказаць, што якраз з-за гэтага надакучлівага слова нямала людзей пакрыўдзіліся на названага спадара і ўрэшце спынілі з ім усялякія зносіны. Чаму, спытаеце, спынілі? А вось чаму, слухайце ўважліва.

Калі хтосьці названаму спадару прапаноўваў разам схадзіць у кіно або ў тэатр, ён казаў: «Пазней!». І калі яго ветліва запрашалі прыйсці ў вызначаны час да кагосьці на юбілей ці на вяселле, ён і тут вымаўляў сваё недарэчнае: «Пазней». Тое ж самае ў нейкі момант пачалі ад яго чуць і некаторыя сябры, якія спрабавалі яго выцягнуць на раней традыцыйныя рыбалку і ў лазню. Больш за тое, калі адзіная жанчына, якую ён калісьці па-сапраўднаму пакахаў, праз нейкі час, так і не дачакаўшыся ад яго рашучых дзеянняў, сама прапанавала яму інтымную блізкасць, а ён (во дзіва!) і гэтую спакуслівую прапанову сустрэў сваім традыцыйным: «Пазней!». Дарэчы, ён і працу страціў таму, што пасля трох гадоў сумленнага выканання сваіх службовых абавязкаў інспектара па кадрах у адной недзяржаўнай гандлёвай установе, нечакана пачаў на звернутыя да яго пытанні калег і начальства адказваць сваім манатонна-надакучлівым: «Пазней!».

...А затым здарылася так, што гэты чалавек моцна захварэў. Тыя нешматлікія сваякі ды сябры, з кім адносіны шчэ канчаткова не сапсаваліся, настойліва раілі яму хутчэй звярнуцца да доктара, пры гэтым неаднаразова пужаючы ўсялякімі цяжкімі ўскладненнямі. Але гэты дзівак па старой завядзёнцы толькі адмахваўся, бы ад назойлівых мух, ад гэтых слушных парад і з ледзь прыхаваным раздражненнем паўтараў: «Пазней!». І вось калі стан яго здароўя пагоршыўся настолькі, што яму стала зусім кепска і больш немагчыма было трываць, тады ад яго ледзь не ўпершыню пачулі іншае слова — «зараз», якое ў тым канкрэтным выпадку азначала ягоную згоду адразу ж пайсці на кансультацыю да вопытнага спецыяліста ў раённай паліклініцы.

Пасля наведвання той паліклінікі яго адвезлі ў спецыялізаваную клініку, дзе доктар паставіў яму вельмі несуцяшальны дыягназ і даў накіраванне на планавую аперацыю. Але «містэр Пазней» да гэтай аперацыі, якой трэба было чакаць яшчэ некалькі месяцаў, на жаль, так і не дажыў. І калі праз нейкі час доктару з бальніцы хтосьці паведаміў гэтую сумную навіну, то той толькі развёў рукамі і сказаў, што ў тым выпадку да яго звярнуліся надта позна, калі хвораму ўжо нельга было нічым дапамагчы. І на развітанне ўрач дадаў, што блізкім памерлага трэба было ўжо даўно ў супрацьвагу яго ўлюбёнаму слоўцу настойліва паўтараць «не пазней, а зараз і тут» і своечасова (няхай нават і пад прымусам!) адправіць яго на выратавальнае лячэнне...

# Вяроўка

...І тыдзень таму, і пазаўчора, і ўчора, і сёння жыхары шматпавярховіка, выходзячы са свайго пад'езда, былі сведкамі незвычайнага відовішча. Першае, што ім кідалася ў вочы, была досыць доўгая вяроўка, якая была працягнута паміж двума вокнамі дамоў злева і справа ад пад'езда. Прычым гэтая вяроўка ў розныя дні вісела на рознай вышыні: і даволі высока, на ўзроўні другога паверха, і досыць нізка, калі яе, падскочыўшы, можна было дастаць рукой. Але найбольш раздражнялі насельнікаў дома тыя моманты, калі вяроўка вісела прыблізна на ўзроўні вачэй, і яе трэба было паднімаць, каб прайсці далей.

Людзі выказвалі розныя здагадкі наконт, так бы мовіць, магчымых віноўнікаў гэтай нябачанай з'явы, прычым агучаныя версіі былі адна неверагодней другой. Адны меркавалі, што вяроўку маглі нацягнуць нечыя нявыхаваныя дзеці, каб такім чынам проста «забіць час» ды пазабавіцца-пакуражыцца. Другія лічылі, што гэта маглі зрабіць нейкія маладзёны, якім у стане алкагольнага ап'янення альбо пад наркатычным кайфам гэта проста «стукнула ў галаў». Трэція ж нават выказвалі дзіўнаватую, калі не сказаць неверагодную, думку, што да гэтага надзвычайнага здарэння патэнцыйна маглі «прыкласці руку» нейкія шкоднікі з мясцовага ЖЭСу, якія такім чынам хацелі прымусіць разззлаваных людзей заплаціць ім пэўную суму грошай за канчатковае вырашэнне «вяровачнага пытання».

Чацвёртыя запэўнівалі, што гэткім нестандартным чынам хтосьці спрабуе падслухаць і потым «зліць» у пэўныя структуры інфармацыю аб тым, што насамрэч думаюць мясцовыя жыхары не толькі пра арганізатараў самой акцыі, але і пра мясцовых чыноўнікаў — а такіх рэзка-асуджальных выказванняў прагучала тады нямала. А пятыя дык і ўвогуле высоўвалі фантастычную версію наконт таго, што гэта маглі зрабіць нейкія засланыя замежныя агенты-дыверсанты. Праўда, калі ў прыхільнікаў гэтай экзатычна-канспіралагічнай версіі хтосьці цвяроза спрабаваў запытацца «а навошта ім гэта?!», дык у адказ звычайна чулася безапеляцыйна-катэгарычнае: «Дзеля дэстабілізацыі абстаноўкі ў краіне ў цэлым і ў нашым мікрараёне ў прыватнасці!».

Натуральна, што гэтая праславутая вяроўка ў большай ці меншай ступені перашкаджала людзям хадзіць на працу, на вучобу, на адпачынак, а таму людзі літаральна з першага дня яе з'яўлення пачалі яе абрываць, пераразаць. Але ж кожную ноч гэтую вяроўку зноў хтосьці патаемна нацягваў між дамоў. Таму практычна ўсе мясцовыя жыхары і іх госці — ад юнакоў да старцаў — абураліся і моцна злаваліся на тых, хто гэта робіць, абяцалі знайсці віноўнікаў і сурова іх пакараць...

У выніку сама сабой сабралася купка мясцовых абарыгенаў (гэткіх своеасаблівых гарадскіх паляўнічых) дзеля таго, каб нарэшце падпільнаваць «злачынцаў» і вывесці іх, так бы мовіць, на чыстую ваду. Дык вось, гэтыя людзі шляхам нескладаных разлікаў высветлілі, у якіх кватэрах могуць пражываць гэткія таемныя «вяровачнікі». Але днём і ўвечары дзверы тых кватэр ніхто не адчыняў, як быццам там нікога і ўвогуле не было. І ўсё-ткі гэтыя няўрымслівыя псеўда-дэтэктывы змаглі вылічыць віноўнікаў, калі аднойчы апоўначы ўбачылі, як з акна другога паверха хтосьці спусціў уніз доўгую вяроўку, пасля чаго нейкі малады хлопец падышоў з ёй да дома насупраць і падняў яе на спецыяльна падрыхтаваным шосце на ўзровень таго ж другога паверха, а там хтосьці праз акно выцягнуў руку і нацягнуў вяроўку.

І вось калі гэтага маладзёна ўдалося злавіць і скруціць, то пад уздзеяннем фізічнай сілы і ўсялякіх пагроз ён не змог прамаўчаць і ў рэшце рэшт раскрыў таямніцу гэтай справы. І тут высветлілася, што яго хворы дзядуля (які ўжо некалькі год не выходзіў на вуліцу) настойліва прасіў свайго ўлюбёнага ўнукастудэнта працягнуць гэтую вяроўку з яго кватэры ў той пакой, дзе пражывала яго даўняя знаёмая, якую ён калісьці таемна кахаў, але так ніколі і не змог прызнацца ёй у сваім пачуцці. Сталася так, што гэты дзядок толькі нядаўна, ужо фактычна знаходзячыся на мяжы жыцця й смерці, усё-ткі адважыўся на такое запозненае прызнанне. І аднойчы, пасля пакутлівых роздумаў, ён вырашыў, што няхай своеасаблівым сімвалам яго шматгадовага любоўнага пачуцця і адначасова з тым знакам нейкай яго містычнай духоўнай сувязі з каханай жанчынай будзе хоць звычайная вяроўка, нацягнутая між іх пакоямі.

І ўжо на наступны дзень пасля «дзядулевага задання» ўнучак непасрэдна прыступіў да яго выканання. Папярэдне ён дамовіўся наконт плана сумесных дзеянняў з двума сваімі даўнімі й надзейнымі сябрамі. Ім прыйшлося некалькі разоў употай, па начах нацягваць новую вяроўку, бо ранейшую нехта раніцай зацята зразаў. А пазней, калі жыхары дома ўсё ж змаглі канчаткова спыніць гэты, як яны самі казалі, «беспредел», то неўзбаве той дзядуля пачаў хварэць яшчэ болей, а яго любая жанчына апынулася ў глыбокай дэпрэсіі. І толькі тады ўсім, хто ведаў пра гэты выпадак, стала зразумелым, што без той выратавальнай вяроўкі як сімвала кахання тым пажылым людзям жыць засталося вельмі мала... Карацей, гэтая незвычайная гісторыя яскрава пацвердзіла словы аднаго з жыхароў дома, каля якога вісела тая вяроўка: «Вось як бывае ў жыцці: сабе робім лепей, а камусьці — горш».



# Леанід Дайнека

паэт, празаік. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Івана Мележа і Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Кастуся Каліноўскага. Аўтар кніг: «Галасы», «Бераг чакання», «Бацькава крыніца», «Футбол на замініраваным полі», «Меч князя Вячкі», «След ваўкалака», «Жалезныя жалуды», «Чалавек з брыльянтавым сэрцам» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Змітраўка 2-я ў Клічаўскім раёне на Магілёўшчыне. Жыве ў Мінску.

# Герадоцінкі-16, або Вяртайся, мой бумеранг!

## Начная размова дзвюх самотных душ

— Не спіш? — ціха спыталася жонка.

— Не сплю, — адказаў муж.

Была чвэрць трэцяй гадзіны. Была ноч. За вакном каменна спаў натомлены за дзень горад.

— Аб чым ты думаеш?

— Аб смерці.

— Аб смерці?

Жончын голас уздрыгнуў. Яна прыўзняла галаву з падушкі. Яна адчула як нямеюць пальцы левай рукі.

— Так, аб смерці, — глуха прамовіў муж. — Калі мы былі маладымі (памятаеш?) мы думалі аб сэксе. Гэта было як наркотык. Я пастаянна думаў пра цябе, а, значыць, думаў аб сэксе.

— У нас з табой быў класны сэкс, — пасля працяглага маўчання сказала жонка. Маўчанне было такое працяглае, што мужу нават падалося, што жонка заснула і не рэагуе на ягоныя словы.

— Класны сэкс даў нам класных дзяцей, — сказаў ён і мякка паклаў руку на жончына плячо, што крохка бялелася ў паўзмроку спальні..

Няма сэнсу

Жыць без сэксу, — прадэкламавала жонка. — Гэта твае словы. Яны мне падабаліся ў маладосці. Ах, маладосць. Як хутка яна праляцела.

Зноў лёд маўчання зашкліў начную спальню. Жонка і муж амаль не дыхалі.

— З дзяцінства я быў упэўнены, што ніколі не памру, што нейкім чынам абхітру смерць, — нарэшце азваўся муж. — Але я, вядома ж, памру. А, можа, памерці адначасова? Як дачка і зяць Карла Маркса. У шэсцьдзясят год яны атруціліся і памерлі, абдымаючы адно аднога.

— Так нельга. Мы ж — хрысціяне, — даткнулася цёплай шчакой да ягонай шчакі жонка. —Так нельга.. Нехта з нас памрэ раней.

— Ты выжывеш. Ты — моцная. Але калі раптам я застануся адзін... Як я буду жыць без цябе? — нябачнымі слязамі заплакаў муж. Яна адчула ягоныя слёзы, адчула не целам — душой. Яна пачала гладзіць яго — вялікае бездапаможнае дзіця. Яна пяшчотна гладзіла яму галаву, грудзі. Ён плакаў і цалаваў ейныя рукі..

Раптам па столі спальні жвава пабег светлы-светлы праменьчык-водбліск аўтамабільных фараў, уварваўся праз няшчыльныя жалюзі з начной вуліцы.

— Калі я памру першая, мая душа будзе прылётваць да цябе ўначы, будзе прылётваць, як гэты праменьчык, — прашаптала жонка. — Нічога тады не бойся. Гэта буду я.

Пляла свае чорныя карункі ноч. Спаў горад-вуркатун. У ціхай спальні плакалі найчысцейшымі слязамі дзве родныя душы.

## Братэрства баявых цапоў

Кожны з нас хоць раз у жыцці задумваўся над сваім прозвішчам — якое яно? Прыгожае ці непрыгожае? Мілагучнае ці не вельмі? Зразумелае ці прозвішча-абракадабра? Усім яснае, напрыклад, прозвішча Казёл (Козел — папravяць мяне эстэты), Капуста, Качан, Бурак... у расейскіх цароў Раманавых за продка быў нехта Кабыла. Ёсць прозвішчы Свіннін, Дуракоў, Урод і г.д. І жывуць людзі, не страляюцца і не топяцца. Праўда, некаторыя асабліва чуллівыя мяняюць свае дадзеныя Богам, людзьмі і ўладамі прозвішчы. Так вядомы наш навуковец Уладзімір Самец узяў сабе жончына прозвішча. Зараз ён —Уладзімір Навумовіч. Што ж, як кажуць, свая рука ўладарка і свой гарбуз — цар агарода.

Маё прозвішча — незразумелае на першы погляд. Сапраўды, — што такое Дайнека? Ад слоў «даваць», «даіць»? Я маю аж тры варыянты адказу на пытанне і выкарыстоўваю іх у залежнасці ад абставінаў. Тут і германскае прозвішча Дайн і балцка-раманскае слова дайна-дойна, што азначае песня (успомніце вядомую эстрадную спявачку Вікторыю Дайнека і не менш вядомага песняра Валерыя Дайнеку).

Ды ў звязку з апошнімі падзеямі ва Украіне я лічу, што прозвішча маё паходзіць ад гераічных дайнекаў (варыянты-дэйнэкі, дзейнекі), украінскіх казакоў узброеных дубінамі і баявымі цапамі. Напрыканцы 17 стагоддзя рух дайнекаў ахапіў амаль усю левабярэжную Украіну. Адным з іхніх водцаў быў славуты Марцін Пушкар. Што ж гэта былі за людзі і чаго яны жадалі, за што ваявалі? Каб адказаць на гэтае пытанне, перанясемся ў той далёкі суровы час.

Украіна ў другой палове 17 стагоддзя толькі ачуньвала ад крывавай вайны казакоў Хмяльніцкага супраць Рэчы Паспалітай. Усё левабярэжжа Украіны разам з горадам Кіевам адышло да Маскоўшчыны. Сённяшнія адэпты «Русского мира», захлынаючыся ад энтузіязму, крычаць аб найшчаслівейшым лёсе ўкраінцаў, што «навекі з'ядналіся» з вялікім і братнім рускім народам.

Але ці так насамрэч усё было? Масква — прыгонніца адразу ж учапілася сваімі кіпцюрыстымі рукамі ва ўрадлівейшыя чарназёмы і людзей, што да гэтага часу вольна жылі тут, аб'явіўшы іх «кріпакамі», г.зн. прыгоннымі. Але хто хоча адзяваць сабе на шыю рабскі хамут? Таму й паўстаў рух дайнекаў. Яны патрабавалі выбараў у Чорную Раду, запісу ў запарожцы, вольнага прыгатавання гарэлкі(!). Напачатку за адсутнасцю зброі ўзялі ў рукі таўшчэзныя дубіны. Затым пачалі біцца баявымі цапамі, як сотні дзве гадоў таму рабілі чэшскія

гусіты-табарыты. Цікава, што такая незвычайная зброя прыйшла ў Еўропу з Турцыі, дзе цэп называецца словам дзейнек. Гэты цэп-дзейнек меў ручку даўжынёю ў два метры і прывязанае да яго сырыцаю цяжкое акаванае жалезам біла, даўжынёю восемдзясят сантыметраў.

Страшная смертаносная зброя! Вось чаму, калі пачаліся векапомныя гарачыя падзеі на кіеўскім Майдане, калі насустрач узброенаму аўтаматамі «Беркуту» праз агонь і дым выйшлі маладыя моцныя духам і целам парубкі з дубінамі ў руках, адразу спрацавала мая генетычная памяць: «Гэта ж дайнекі! Гэта-адзінакроўцы!».

У цяжкім крывавым канфлікце, што доўжыцца на паўднёвым усходзе Украіны, я адназначна на баку Кіева, Майдана, дайнекаў. Яны бароняць сваю краіну. Кожны народ і кожны ўрад павінен гэта рабіць.

Сепаратысты і Расія жанглююць словам «Новороссия». Шмат злога наварочалі з гэтай Наваросіяй! (Бачыце, я нават загаварыў вершамі!). Але гляньце на мапу. Дзе знаходзіцца расійскі марскі порт Наварасійск? На каўказкім узбярэжжы Чорнага мора. Значыць, там і Наваросія, там, а не ва Украіне.

А данецкія стэпы спрадвеку належалі ўкраінскамоўным чумакам і запарожцам. Па тутэйшых старадаўніх шляхах чумакі вазілі з Крыма соль, а запарожскія казакі імчаліся па іх, каб у Кафе (сённяшняя Феадосія) адбіць у туркаў ясыр-запалоненых людзей.

Крыху паўночней Данбаса ляжыць багатая і таксама ўкраінскамоўная Слабадская Украіна: Харкаў, Палтава, Сумы. Цудоўны паэтычны край! Хіба маглі ў міфічнай «Новороссіі» нарадзіцца славутыя нібы нябесныя «Вечары на хутары пабліз Дзіканькі»? Не. Ніколі не маглі! Тым болей, што само слова Расія ўвайшло ў міжнародны ўжытак толькі напачатку 18 стагоддзя, калі цар Пётр аб'явіў сябе ўсерасійскім імператарам.

У звязку з Данбасам, які захапілі і ператварылі ў зону баявых дзеянняў сепаратысты, варта не забываць Крым. Сёння ён расійскі, хоць зусім нядаўна быў украінскі.

Сусветная супольнасць, сцяўшы зубы, нібыта прымірылася з гэтым. Але чамусьці не згадваюць пра тое, што Мікіта Хрушчоў, АДДАЎШЫ Ў 1954 ГОДЗЕ Крым Украіне, далучыў да Расіі Карэла-Фінскую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку, значна большую па памеры, багацейшую. Там аднаго лесу на ўсю Фінляндыю хапае! А цудоўныя азёры! А магічныя белыя ночы! Памятаеце песню «Долго будет Карелия сниться»? Чаму б гуманнай Маскве, узяўшы Крым, не вярнуць карэлам незалежнасць?

Вялікая Брытанія ваявала за СВАЕ Фалклендскія выспы, Расія ваявала за СВАЮ Чачню, Украіна ваюе за СВОЙ Данбас. Усё лагічна. Усё заканамерна. Вось чаму насуперак маскоўскім галасістым тэлеканалам я, нашчадак мужных ваяўнічых дайнекаў, кажу:

Слава Украіне! Героям слава!

## Украіна

Напаўзло з балот радні змяінай,
Кожны гад у сэрца джалам б'е,
Украіна, добрая краіна,
На шматкі, на крошкі рвуць цябе,
Хто яны у масках, з аўтаматамі?
Чый яны выконваюць загад?
З матамі ідуць і пераматамі,
Як Арда ішла вякі назад.
Ты заўжды была такой зычліваю,
Шчодраю, вясёлаю была,
Дык чаму над гарадамі й нівамі
Цяжка вісне дымная імгла?
Веру — ты не будзеш парабчанкаю!
Выйдзі ў поле, стань на рубяжы,
Запарожцаў не спалохаць танкамі,
Атаман Махно імчыць з тачанкамі,
Бацька, шаблю дай! Дапамажы!

# Паэзія і палітыка

Малады паэт Віталь Рыжкоў (асабіста з ім я незнаёмы), выступаючы ў Магілёве, сказаў, што паэзія і палітыка павінны існаваць паасобку, што вершы не павінны ператварацца ў агіткі. Як я разумею, гэта сённяшняя рэдакцыя ўсё той жа, на жаль, неўміручай канцэпцыі «мастацтва для мастацтва», і, магчыма, сацыяльны заказ сённяшніх уладаў...

Што хочацца сказаць у адказ?

Па-першае, верш аб каханні таксама «агітка» за каханне. Па-другое, хочацца спытаць паэта Віталя Рыжкова:

— А паэзія Тараса Шаўчэнкі, Мікалая Някрасава, Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы — што гэта?

Не чакаючы адказу, не спадзеючыся на яго, не жадаючы ўблытвацца ў спрэчкі, прапаную ўвазе шаноўнай грамады свой верш.

Нам згараць ад сумненняў,
Нам спакою не мець
Ад станцыі Нараджэнне
Да станцыі Смерць.
Бог і д'ябал нас гоняць

Праз гадоў далячынь,
У жалезным вагоне
Мы наперад імчым.
Толькі ляскат і грукат,
Толькі вецер і пыл.
Ды халодныя рукі
Замест радасных крыл.
Ані сонца, ні зорак.
Дзікі свіст увушшу.
Рэжа суму сцізорык
Трапяткую душу.
Дрэмлюць напагатове
Злога неба грамы,
Ці ж аб гэтым, панове,
З вамі марылі мы?
Было сэрцу зацесна
Ў маладзёвых грудзях
З беларускаю песняй
Мы выходзілі ў шлях.
Паміж турмаў і зонаў
Па трывожнай зямлі
Мы ішлі за Зянонам,
Як за праўдай, ішлі.
Трапятаў кожны мускул.
Бой чакаў нас і боль.
Нам была беларускасць,
Як таемны пароль.
Брат-паэт, зубы сцісні
І спявай пра баі!
Пра каханнейка ж ціўкаць
Могуць і вераб'і.

**P. S.**

Не ўбач. Не заўваж. Абміні. І не думай.
Паперай запхні сабе рот альбо гумай.
Пад шклом акуляраў свае вочы.
Пасмейся з галоднае долі сірочай.
Спявай, калі плачуць жанчыны і дзеці.
Мы плоцім бяззубасцю за даўгалецце.

## Ліцвінскі марш

Пытае жыццё мяне гнеўна і строга:
«Адкуль тvae думкі-сваволі?»
Ад неба, ад Бога,
Ад дуба старога,
Што рос на жытнёвым полі.
Я тут нарадзіўся
І не заблудзіўся.
Знайшоў залатую сцяжыну.
Я роднаму Краю
Свой лёс давяраю.
За Край, калі трэба, загіну.
Шляхам няспынным
Крочце, ліцвіны.
Песню спявайце, ліцвіны.
Ворага зможам,
Зло пераможам,
У кубкі будзем ліць віны.
Ліцвінскую славу,
Ліцвінскую справу
Не знішчыць цямрук медналобы.
Хай пышна квітнеюць Масква і Варшава,
А нам родны Менск даспадобы.
Шляхам няспынным
Крочце, ліцвіны.
Песню спявайце, ліцвіны.
Ворага зможам.
Зло пераможам.
У кубкі будзем ліць віны!

## Шэшэшэр

Мой родны дзядзька па матчынай лініі Пятрок, чалавек звычайна негаваркі, узяўшы добрую чарку, расказаў мне аб цікавым выпадку, які здарыўся ў нашай вёсцы напачатку трыццатых гадоў мінулага стагоддзя. Хаця чаму — цікавым? Хутчэй за ўсё, трагічным, як і амаль усё тагачаснае жыццё.

— Быў у нас такі мужычок Андрэй Цапік. Еў мала, але чамусьці быў тоўсты, як капа сена. Калі нехта злаваў яго, нічога не казаў, а пачынаў густа сапці носам і хутка-хутка рабіць тое, што рабіў. Мы заўважылі гэта і часцяком карысталіся. Нехта раззлуе Цапіка, і ён за траіх горы варочае. Была ў яго ўнучка

Анюта. Пачала Анюта шапялівіць, як дзіцячыя малочныя зубы павыпадалі. Ды так смешна, так весела. Аднойчы Цапік на калгасным двары расказаў, як ён з унучкай размаўляе. На сцяне ў хаце вісела карта Савецкага Саюза, і ён папрасіў унучку:

— Скажы, Анютка, — СэСэСэр.

— Шэшэшэр!— бадзёра выгукнула малая.

— Ха-ха-ха, — смяяўся Цапік, і аж вочы былі мокрыя. — Шэшэшэр! Ха-ха-ха! Мы яго й пачалі зваць Шэшэшэрам. Шэшэшэр ды Шэшэшэр. А неўзабаве, як толькі лёг на зямлю першы сняжок, прыехалі на калгасны двор двое. Прыехалі на шырокіх санях, у белых кажухах, з наганамі набаку.

— Хто тут Шэшэшэр?

— Я, — адказаў Цапік і пабялеў-пабялеў.

— Сядай. Паедзем.

Ён сеў між іх — чорны кажух між белых кажухоў — і яны паехалі. Снег зарыпеў пад палазамі.

— Не вернецца, хлопцы, наш Шэшэшэр, — сказаў тады конюх Лявон. Так яно й адбылося.

— Вось табе й «Поднятая целина», — прамовіў мой сівагаловы дзядзька і пранізліва зірнуў на мяне.

## Не вельмі далёкая будучыня

Чарговае дзяржаўнае свята. Шчыльныя радасныя калоны дэманстрантаў затапілі цэнтр Мінска. Кветкі...Транспаранты...Гірлянды рознакаляровых паветраных шарыкаў... Граюць шматлікія аркестры...

— Живёт Белоруссия! — урачыста нясецца з урадавай трыбуны.

— Живёт! — гучнагалоса бадзёра адказвае шчаслівы натоўп.

## Меч і мяч

Славуты бард-змагар Міхалок, распусціўшы гурт «Ляпис Трубецкой», арганізаваў новы гурт. Першаю песняю сталася песня «Мяч».

Пан Міхалок<br>
(Хоць смейся, хоць плач!)<br>
Кінуў меч,<br>
Узяўся за «Мяч»...

## Сказы і ўнітазы

У рэзідэнцыі былога ўкраінскага прэзідэнта Віктара Януковіча знайшлі мноства вельмі дарагіх рэчаў, у тым ліку, залатую сантэхніку.

Застаюцца ад нас, літаратараў,<br>
Мудрыя словы і сказы,

Ад дыктатараў —
Залатыя ўнітазы.

***

Газетная аб'ява: «Ввожу в запой!».

***

Ты пытаеш, чым было напоўнена маё жыццё? Жыццём.

***

Не бойся смерці. Бойся самотнай старасці.

***

Люблю чытаць грэцкіх і рымскіх гісторыкаў ды філосафаў. Люблю корпацца ў антычным пяску.

***

«Мне на сэрцы золатам лёс мой вышывалі». Ужо адзін-адзіны гэты радок гаворыць якім геніяльным паэтам быў Анатоль Сыс!

***

«Хай здохне той, хто нас не любіць!». Тост запарожцаў.

***

Пранізваюць Космас каметы —
Сперматазоіды вечнасці.

***

— Чаму чыгуначная каляіна ў краінах былога СССР шырэй, чым у Заходняй Еўропе?

— Гэта яшчэ адзін доказ «широты русской души»!

***

«Што ні кветка, то сакура, што ні мужчына, то самурай». Толькі ў Японіі магла нарадзіцца такая прымаўка.

***

Быў паяцам, ці быў прарокам —
У палёце Паэт спатыкнецца.
Упадзе з-пад нябесных аблокаў
Зледзянелая кветка сэрца.
Нехта кветку тую растопча,
Не зірне, усміхнецца нявеtла.
Толькі крыкне ўражаны хлопчык:
— Ах, якая прыгожая кветка!

## Габрэйская прыпавесць

(1000 год да н.э.)

Дрэвы абіралі сабе цара. Ні вінаград, ні кедр, ні аліва — ніхто не захацеўараваць. Толькі калючы цярноўнік даў згоду і пыхліва сказаў:

— Ідзіце, хавайцеся ў ценю маім, а не тое выйдзе агонь з цярноўніку і спаліць кедры ліванскія.

І хітрую расліну абралі царом.

Мараль прыпавесці — толькі халодныя сябелюбцы і пыхліўцы рвуцца да ўлады, але карысць ад іхняга царавання такая ж, як цень ад цярноўніка ў спякотны дзень. Няма ценю ад цярноўніка...

***

Чытаю вершы Грышановіча.
Цябе, Валера, ўспамінаю.
Нібы ў вайсковае становішча
З жыцця цывільнага трапляю.
Усё грыміць тут і шрапнеліцца,
Бянтэжыць, ледзь не забівае.
Тут слоў гарачая мяцеліца
Гудзе, дыханне забівае.
Тут не асфальт — сцяжына коўзкая,
Сухар, а не з какавай грэнкі .
Тут шмат чаго ад Маякоўскага.
Тут чуцен голас Еўтушэнкі.
Сваёй зямлі ты быў радовічам.
Рабіў Паэзію, не цацку,
Дзе думкі мкнуць за Багдановічам
Па-беларуску, па-зямляцку.
Гарыць не для халопаў Зніч.
Цкаваць людзей халопам звычна.
Валера, хлочыкам з Халопеніч
Ты рос — ранімым, рамантычным.
Перабудовы дні бурлівілі.
Быў сход у выдавецкай зале.
І тыя, што табе ліслівілі,
Сапраўдны твар свой паказалі.
О, ненаедныя драпежнікі,
Як яны грызлі тваё сэрца!
Хоць ты памёр, як гром над вежамі,

Ляціць твой верш, удаль нясецца.
Пападалі халопы ніц.
Гарыць не для халопаў Зніч.
Я чую твайго сэрца грук.
Я не забыў цябе, сябрук!

***

«А для чаго вам галава?»

Такое пытанне задалі неяк футбалісту.

— Каб забіваць галы, — адказаў бадзёры рыцар скуранога мячыка.

— Каб стаяць на ёй, — шчасліва рассмяяўся цыркач-фокуснік.

— Для чаго галава? — на хвілінку задумаўся кухар. — Я ёй ем!

Гэты даволі прымітыўны анекдот усплыў у мяне ў памяці пасля прагляду тэлеперадачы, якую зладзіла наша тэлебачанне. Тэмай дыскусіі быў стан сённяшняй беларускай літаратуры, яе, так бы мовіць, папулярнасць у народзе.

Прыемна ўразілі дзве акалічнасці. Па-першае, на гаворку запрасілі два творчыя саюзы — праўладны і незалежны. Па-другое, вядоўца Гігін, аказваецца, цудоўна валодае беларускай мовай.

Выступалі Мікалай Чаргінец і Барыс Пятровіч, маладыя літаратары, сачыніцелька папулярных «жаночых» раманаў Наталля Батракова. Я ўпершыню на свае вочы пабачыў гэту сімпатычную інтэлектуальную бландзінку.

Вельмі непрыемнае, нават мярзотнае ўражанне выклікалі інтэрв'ю, якія на вуліцах Мінску бралі ў прахожых тэлевізійнікі. Усе гэтыя людзі, і маркотныя пенсіянеры, і шчабятлівая бесклапотная моладзь, не ведаюць, як вынікае з іхніх адказаў, НІВОДНАГА(!) сучаснага беларускага пісьменніка. Зрэдзь прыпамінаюць Мележа, Быкава, Шамякіна... І, што асабліва абурае, распісваюцца ў сваім невуцтве (іншага слова не падбяру!) з вясёлым рагатком. Адказваюць выключна на расійскай мове:

— Не читала... Не слышала... Ой, у нас не хватает времени на литературу!

Пераміргваюцца. І зноў смяюцца.

Адкуль узяўся гэты народ, гэты, ПАДКРЭСЛІВАЮ, малады народ? Можа, ён прыляцеў з Венеры, ці з Марса? У часы павальнага Інтэрнэту, смартфонаў, планшэтаў і т.п. не чуць і не ведаць, да прыкладу, выдатнага паэта і палітыка Уладзіміра Някляева, які ў турме напісаў цудоўнейшыя лірычныя вершы, не ведаць Гілевіча, Арлова, Казько... Патрэбна быць бязвухім і (не ўказваю на яшчэ адзін орган чалавечага цела, які змяшчаецца ў чарапной каробцы)... Ды вы, шаноўныя, пэўна ж, здагадаліся.

Нездарма наша выдатная паэтка Раіса Баравікова, якая брала ўдзел у гаворцы, з найвялікшым абурэннем назвала гэта дзікунствам і нацыянальнай здрадай.

Яны весела смяюцца, а ўвечары пабягуць у канцэртныя залы, у клубы, каб да ачмурэння слухаць чарговых маскоўскіх «спевакоў»-гастралёраў — усіх гэтых Шатуновых, Ахлабысціных, Валерый, таньчыць-крыўляцца пад прымітыўныя мелодыі. Гэтым усяісным гастралёрам зачынілі дзверы ў Прыбалтыку, ва Украіну, і яны, як саранча, ляцяць у Беларусь, ляцяць «сшибать бабло». Так і хочацца ўсклікнуць:

Грукоча за годам год.
Няўжо беларускі народ
Не аб'еўся расійскай папсой,
Як ліварнай каўбасой?

Цяжка, панове, быць беларускім беларускамоўным пісьменнікам, але ТРЭБА БЫЦЬ! І мы — будзем, мы выстаім. І нас будуць чытаць!

***

Мой кашалёк і мае кішэні вельмі часта былі пустыя-парожнія, быццам птушыныя гнёзды ўвосень.

***

Камунізм, як і педыкулёз, заводзіцца ад беднасці.

***

Вясковы алкаш хваліцца сваім субутэльнікам:

— Я выпіў пяць тон гарэлкі!

І яшчэ:

— Не глядзіце, хлопцы, што я тоўсты. У мяне душа тонкая-тонкая.

***

Іосіф Сталін пра Папу Рымскага:

— Кажаце, што ён моцны? А колькі ў яго дывізіяў?

***

Дзяўчынка-падлетак падчас дэманстрацыі агарнула сябе бел-чырвона-белым сцягам і ідзе паміж моцных суровых мужчын. Дзяўчынка ты мая! Танканожка ты мая! Няхай беражэ цябе Бог.

***

Восеньскае ярка-жоўтае лісце МАЎЧЫЦЬ на дрэвах. ЦІШЫНЯ. Лісце ВЕДАЕ, што яно памрэ.

***

Хоць конь у калгасе і працаваў болей ды даўжэй за ўсіх, але старшынём калгаса так і не стаў.

***

На вуліцы ўбачыў ВЕЛЬМІ прыгожага мужчыну. Прыгожага да НЕПРЫСТОЙНАСЦІ.

***

Русы-руды-рыжы... Слова «рыжы» — РЭЖУЧАЕ слова. Яго не было ў славянскіх мовах. Гучала мякка — руды, чэрмны... Слова «рыжы» прынеслі са сваіх стэпаў ваяўнічыя манголы.

Яны былі перакананыя, што ўсе людзі павінны быць толькі чарнагаловымі і чарнавокімі (!). Людзі інакшай масці (еўрапейскай масці!) — рыжыя і іх патрэбна РЭЗАЦЬ. Што й рабілася. На жаль, ва ўсходнееўрапейскіх землях, землях, дзе некалькі стагоддзяў уладарнічалі шабля, аркан і лук, і па сёння захавалася ў некаторых не вельмі адукаваных людзей генная памяць такога дзікунства.

А які гэта прыгожы колер — колер Сонца, Агню і Золата! Старадаўні еўрапейскі колер кельтаў. «Эти волосы взял я у ржи...» Сяргей Ясенін.

***

«Расія — бензакалонка, што з усіх сілаў рвецца-імкнецца стаць сусветнай дзяржаваю». Амерыканскі сенатар Маккэйн.

## Расслаенне душы

Ведаю адну жанчыну, якая, на мой погляд, хварэе на расслаенне душы. Шчырая хрысціянка-каталічка яна можа ў нядзелю разам з дзецьмі пайсці ў касцёл на імшу, са слязамі на вачах, укленчыўшы, маліцца Богу, а ўвечары, нібы азвярэўшы, плюнуць у твар старой свякрові, схапіць за глотку і душыць свёкра, старога чалавека, які перанёс цяжкую аперацыю. Як магчыма такое? Няўжо падчас ейнай споведзі святар не адчувае хлуслівасць гэтай жорсткай душы?

Не называю імені. Бог бачыць усё і ўсё ведае.

***

Карае жыццё непазбежнасцю нас,
Вядзе да глухой дамавіны.
Убач і адчуй, як сціскаецца Час,
Як карацеюць хвіліны.
Мы мусілі столькі пакутаў цярпець
У пошуках волі і хлеба.
Канчаецца дзень. Пачынае цямнець
Крылатае вечнае неба.
Канчаецца дзень. Набліжаецца змрок.
Вось-вось нас бязмоўе абдыме.
Сваёю крывёй расчырвонім пясок,
Як гладыятары ў Рыме.
І хто нам адкажа на цэлай Зямлі:
Дзеля чаго мы жылі?

***

Гарэлка не п'ецца.
Мо дап'ямо?
Хлеб застаецца.
Мо даямо?
Жыццё не жывецца.
Дажывямо!

## Кніжкі

Кніжкі — дзеці Бібліі.
Яны — розныя.
Яны мудрыя,
Добрыя,
Светлыя,
Разумныя,
Цікавыя,
Гнюсныя,
Подлыя,
Хлуслівыя...
А яшчэ яны — смачныя.
З найвялікшым апетытам
Іх есць кніжны жучок.
А нядаўна кніжку,
Якую я паклаў на канапу,
Згрыз мой сабачка Рокі.
Аказваецца, жучкі і сабачкі
Не чытаюць кніжак.
І, значыць, кніжкі неўсясільныя.
Іх можна не пісаць і не публікаваць.
І ВЕЛІЗАРНАЕ МНОСТВА (!) зямных істот
Нават не заўважыць іхняй адсутнасці.
Задумаемся, панове-пісакі.

## Памяці майго любімага сабачкі Рокі, які памёр 20 чэрвеня 2014 г.

... Рокі, Рокі, чую твае крокі,
Як ідзеш ты ноччу па кватэры.
Аглядаеш нашы вокны-дзверы,

Сцеражэш спакой і сон глыбокі.
Помню, як насустрач мне ты бег.
Не забуду твой шчаслівы брэх.
Не забуду тваіх мудрых воч.
Іх навекі праглынула ноч.
Маё сэрца не суцешыцца:
Дзе ты, мілы сябручок?
Па якіх пайшоў ты сцежачках
У нябыт, у вечны змрок?

***

Наспела неабходнасць напісаць фантасмагарычны раман вось на якую тэму. Малады і ў меру цынічны доктар пералётвае з 21 стагоддзя ў самы пачатак 17, у так званы Смутны Час, і бярэ там аналізы ДНК у Ілжэдзмітрыя І і Ілжэдзмітрыя ІІ.

Ды, пэўна ж, сам я і вазьмуся за такое. Чаму? А вы ўважлівей пачытайце маё прозвішча —Д а й Н е К а!

***

Калі ў 1768 годзе Рэч Паспалітая задушыла ва Украіне паўстанне гайдамакаў, то палоннага казака Івана Гонту і ягоных паплечнікаў вазілі аголенымі па сёлах і люта секлі бізунамі.

Раскрываняць спіну, затым пераварочваюць жыватом уверх і зноў хвошчуць. Страшная, трэба зазначыць, кара. Шмат хто паміраў пад бізунамі. А Гонта цярпеў. І нават смяяўся. Быў ён з тых вельмі-вельмі рэдкіх людзей, што не адчуваюць фізічнага болю. Польскія жаўнеры, заўважыўшы такое, пачалі рэзаць нажамі і здзіраць з яго скуру. Ды Гонта і тут смяяўся. Нарэшце павярнуў галаву да гетмана Браніцкага, які прысутнічаў пры катаваннях:

— Нахілі, пан гетман, вуха. Нешта хачу сказаць табе.

Гетман, думаючы, што пачуе словы мальбы і прыніжэння, крыху нахіліўся.

— Ведаеш, хто твой круль? — спытаў Гонта. (Круль — кароль па-польску).

— Хто? — наструніўся Браніцкі.

— Твой круль — сруль! — выкрыкнуў Іван Гонта. І зноў засмяяўся.

## Сучок у чужым воку

Кажа народная мудрасць: У чужым воку сучок убачыш, а ў сваім і бервяно не заўважыш. Вось і я, прашу прабачыць, пайшоў дарогаю «пошуку сучкоў».

*Першы сучок:*
Бессонница. Гомер.Тугие паруса.
Я список кораблей прочёл до середины.

Восіп Мандэльштам.

Які нецікаўны чалавек! Я б да самага канца прачытаў увесь спіс!

*Другі сучок:*

Зима. Крестьянин, торжествуя,
На дровнях обновляет путь.
Его лошадка, снег почуя,
Плетётся рысью как-нибудь.
Аляксандр Пушкін.

З якой такой трасцы «торжествовать крестьянину»? Ідзе зіма. Халадэча. Завірухі. Ногі ў лапцях мёрзнуць. А барын ягоны ў гэты самы час, седзячы каля гарачага каміна, смакуе салодкую налівачку, якую яму на падносе ды ў залатой чарцы паднесла з паклонам прыгожая чаранабровая пакаёўка Палашка. Вось барын дапівае чарку і са смакам цалуе Палашку ў мяккія пакорлівыя вусны.

Як можна «лошадке плестись рысью как-нибудь»?

Вось як тлумачыць слова рысь у сваім «Словаре русского языка» С.І.Ожэгаў: «Бег(!), при котором лошадь ставит на землю одновременно одну переднюю и одну заднюю ногу». Згадзіцеся, што «лошадке» так немагчыма «плестись».

*Трэці сучок:*

«Лёд неокрепший на речке студёной
Словно как тающий сахар лежит».
Мікалай Някрасаў.

У дадзеным выпадку напрошваецца альбо «словно», альбо «как». Пастаўленыя ж побач яны — «масла маслянае».

*P.S.*

Гэтыя мае «прыдзіркі» ніякім чынам не зніжаюць маю глыбокую павагу да трох вялікіх расійскіх паэтаў: Пушкіна, Някрасава, Мандэльштама!

***

Мне часта сняцца гарады, дзе ўсё наўкол чужое.
Я там-ніхто. Я — нуль. Я — здань. Я — горкі прах.
У гэтых гарадах няма маіх сяброў, няма маіх герояў.
Навошта водзіць Бог мяне па гэтых гарадах?
Жыццё там, як міраж. Яно здаеццм дзіўным мітам.
Там валасы жанчын, як пух нябесных аблачын.
Маё там сэрца ад кахання не ўзарвецца дынамітам.
Ніколі мне не цалаваць прыгожых тых жанчын.
І там спакон жыве Салодкіх Сноў Імператрыца.
Ёсць у яе Палац і таямнічы цёмны Храм.

Мне там чужое ўсё. Але, каб зноўку давялося нарадзіцца,
Я б паляцеў туды і нарадзіўся толькі там.

***

Крытыкуюць, што на акцыю зладжаную Юрасём Беленькім з нагоды Дзядоў выйшла ўсяго 500 чалавек. Але ж — 500! Але ж — выйшла!

Не забудзем, што пад Тэрмапіламі 300 спартанцаў-гаплітаў (усяго 300!) спынілі амаль трохсоттысячныя персідскія полчышчы і выратавалі Грэцыю!

## Прадала і не прадавала

Расія ПРАДАЛА Злучаным Штатам Амерыкі Аляску. Украіна НЕ ПРАДАВАЛА Расіі Крым. Вось і ўся розніца.

## Сала і мова

На слыху раман Віктара Марціновіча «Мова». Усе ці амаль усе хваляць яго. Парадуемся за аўтара, бо быць раманістам тое самае, што рваць пралескі на мінным полі. І прыгожа, і рамантычна, і ў кожную хвіліну можа так бабахнуць, што разнясе аўтара на дробныя кавалкі. У рамане па аўтарскай задуме-фантазіі Мова выступае найвялікшай каштоўнасцю, як нейкі скарб, як золата. Яе перадаюць з рук у рукі ў скрутках, як старадаўнія манускрыпты, як хрысціянскую плашчаніцу.

Самае ашаламляльнае, што амаль такая дзея адбывалася ў рэальным жыцці ў 20-30 гадах 20 ст. у сталінскіх лагерах. Паэт-пакутнік Сяргей Грахоўскі ўспамінаў. Зрэдзьчасу з волі да рэпрэсаваных беларускіх інтэлігентаў прарываліся прадуктовыя пасылкі. Аднойчы ён сам атрымаў ладнаваты кавалак сала, загорнуты ў беларускамоўную газету. Здаецца, гэта была «Беларуская вёска». Дык землякі-беларусы, пачуўшы пра такое, збягаліся да яго з усіх куткоў Зоны. І, што дзіўнае, не сала вабіла ўшчэнт згаладалых людзей, не сала, а БЕЛАРУСКАМОЎНАЯ ГАЗЕТА!

— Сяргей, дай узяць у рукі, дай глянуць на шрыфт, дай хоць адным вокам убачыць надрукаванае беларускае слова, — малілі людзі, якія да свайго арышту ў Менску грэбліва адносіліся да беларушчыны. Вось якая сіла была ў Мовы!

## Даў слова. Аддаў жыццё.

У часы майго школьнага юнацтва, калі пагалоўна ўсе (за рэдкім выключэннем) былі акцябратамі, піянерамі і камсамольцамі, падтрымліваўся і выхоўваўся культ вернасці дадзенаму слову.

«Чэснае піянерскае!», «Чэснае камсамольскае!» гучала на кожным кроку ў школьных класах, на школьных калідорах. Асабліва «чэснаслоўнымі» былі дзяўчынкі. Пэўна ж, жаночая псіхіка такая — вылучыцца, быць навідавоку, прыцягнуць да сябе як мага болей увагі. Іншая справа, ці заўсёды трымалася дадзенае слова, ці не было яно наборам прыгожых пустых гукаў? Гэтак жа сама наш народ кляўся ў непарушнай вернасці ідэалам марксізму-ленінізму.

А вось рымскі флатаводца Марк Атылій Рэгул у ІІІ-ім стагоддзі да н.э. стрымаў дадзенае слова. Тады грымела Першая Пунічная вайна. Рым і Карфаген, нібы леў з тыграм, счапіліся ў крывавай смяротнай бітве за Міжземнае мора.

Некалькі разоў Рэгул тараніў-спальваў карфагенскі флот, ды ўрэшце рэшт патрапіў у варожы палон. Бог вайны Марс адвярнуўся ад шчаслівчыка. Праз пяць гадоў нялёгкага палону карфагенцы адпусцілі Марка Атылія ў Рым.

Ён даў чэснае слова, што будзе ад імя Карфагена прасіць у рымлян міру, а затым вернецца назад... Але, ступіўшы на родную зямлю, пабачыўшы раны і пакуты сваіх землякоў, пачуўшы плач асірацелых дзяцей, убачыўшы сівізну ўдоваў, Рэгул выступіў у Сенаце з палымяным рэзкім заклікам не спыняць, а прадоўжыць вайну-помсту, вайну-адплату.

Рымляне, і сенатары, і прасталюдзіны, шумна віталі славутага флатаводцу. Здавалася, збірай марскія экіпажы, узыходзь на баявую адміральскую трыеру і кіруйся наўпрост да афрыканскіх берагоў, каб уславіць Рым і ягоную непераможную зброю.

Ды Рэгул, наіўная або святая душа (гэта як і каму глядзець) ўспомніў пра дадзенае пунійцам чэснае слова і вырашыў вярнуцца ў палон, вярнуцца аднаму, без караблёў, без войска.

— Ты звар'яцеў, — казалі яму старыя сябры. — Пунійцы — каварны крыважэрны народ. Не ўсоўвай галаву ў пашчу кракадзілу. Жонка з дзецьмі валіліся ў ногі, са слязамі прасілі не пакідаць іх. Ды непахісны Марк Атылій Рэгул апрануў сваю белую ваўняную тогу з парпуровай аблямоўкай, сваю toga praetexsta, якую носяць службоўцы і жрацы, і паплыў насустрач лёсу.

У Карфагене ад лазутчыкаў і перабежчыкаў ужо ведалі пра палымяную мілітарысцкую прамову Рэгула ў Сенаце. Адразу ж у гавані яго схапілі, здзерлі з плячэй тогу і голага ўвапхнулі ў скрынку, унутр якой былі забіты доўгія вострыя цвікі. Гэтую скрынку скацілі з гары. Потым, няшчадна б'ючы бізунамі, напаўжывога рымскага флатаводцу пагналі ў горад і на цэнтральнай плошчы адсеклі галаву...

Узірнемся ўглыб стагоддзяў. Колькі там крыві і любові, пакутаў і незразумелых нам, сённяшнім людзям, падзеяў. Вось закаваны ў ланцугі брыдзе па каменістай пыльнай дарозе скрываўлены знявечаны рымскі флатаводца, які стрымаў дадзенае слова... Хто кіне камень у Марка Атылія Рэгула?

Даў Слова. Аддаў Жыццё.



# Ісмаіл Кадарэ

Імя таленавітага албанскага празаіка і паэта Ісмаіля Кадарэ, бадай, адно з самых вядомых у навачасным еўрапейскім прыгожым пісьменстве. Нарадзіўся пісьменнік у 1936 годзе, а ягонай калыскай стала старажытная Дзіракастра — горад, дзе з'явіўся на свет і камуністычны дыктатар Энвер Ходжа.

Яшчэ ў юнацтве будучы лаўрэат Міжнароднай Букераўскай прэміі выявіў паэтычны талент і быў накіраваны ў Маскву, у Літаратурны інстытут. У расейскай сталіцы, дарэчы, пуцявіны Ісмаіля Кадарэ перасякліся з пуцявінамі нашага Уладзімера Караткевіча — у 1960 годзе яны разам вучыліся на Вышэйшых літаратурных курсах.

Першым ягоным празаічным творам, які займеў усясветную вядомасць, стаў раман «Генерал мёртвага войска». За часамі камуністычнай дыктатуры пісьменнікам Краіны горных арлоў выдавацца на Захадзе не выпадала, ды і не было ў Еўропе кваліфікаваных перакладчыкаў з албанскай мовы. Але творам Ісмаіля Кадарэ пашанцавала: іх пачаў перакладаць на французскую мову, седзячы ў вязніцы, вядомы ў Албаніі інтэлектуал Юсуф Урыёні. Пераклад згаданага рамана быў тайна перапраўлены ў Францыю, дзе яго адразу ж пусцілі ў набор. Пасля таго «Генерала мёртвага войска» пераклалі на асноўныя еўрапейскія мовы, а італьянцы знялі па яго матывах мастацкую стужку з Марчэла Мастраяні ў галоўнай ролі. Перапраўляць рукапісы за мяжу было справай рызыкоўнай, і пісьменнік мог лёгка патрапіць туды, дзе знаходзіўся перакладчык, аднак розгалас, які атрымаў раман, ўратаваў Ісмаіля Кадарэ ад вязніцы. Нават дыктатары зацікаўленыя ў адпаведным іміджы сваёй краіны, а таму пісьменніку дазволілі друкавацца на Захадзе.

Потым, літаральна адно за другім, з-пад пяра пісьменніка — кампутараў тады яшчэ не было, — выйшлі раманы «Вяселле», «Фартэца», «Вялікая зіма», «Змарнаваны красавік», «Палац сноў», «Канцэрт прыканцы зімы», якія займелі не меншы поспех у еўрапейскіх чытачоў.

Раман «Хроніка ў камні», фрагмент якога прапануецца чытачам «Верасня», самы біяграфічны ва ўсёй творчасці Ісмаіля Кадарэ.

У ім, вачыма хлопца-падлетка, паказаны родны горад пісьменніка Дзіракастра за часамі італьянскай, а затым нямецкай акупацыі. Крытыкі ў адзін голас адзначаюць, што гэта не толькі самы біяграфічны, але і самы лірычны твор жывога класіка албанскай літаратуры.

Раманы Ісмаіля Кадарэ перакладзены сёння практычна на ўсе асноўныя мовы свету. Нарэшце, знакаміты творца загаварыў з чытачом і па-беларуску.

# Хроніка ў камені

*(Урывак з рамана)*

У нашым горадзе надарылася некалькі падзеяў, якія, здавалася, не былі міжсобку звязаныя. На скрыжаванні ля цытадэлі была заўважана кабета з закрытым вэлюмам тварам, якая сядзела на зямлі. Неўзабаве яна ўстала, папырскала вадой тое месца, дзе сядзела, і раптам, на подзіў усіх, знікла без следу. Яшчэ адна невядомая старая з'явілася пад вакном дома Назы ў той час, калі яе маладая нявестка абразала пазногці. Старая сабрала абрэзкі і, пасміхаючыся, пайшла ўпрочкі. Нечакана сярод ночы абудзіўся Біда Шэрыфі. Ён пракрычаў два ці тры разы пеўнем, заснуў, а з ранку нічога не памятаў. Праз два дні Кака Піна знайшла ў двары свайго дома кучу вільготнага попелу. Ну а пасля здарэння, што напаткала жонку Манэ Воцы, усім стала зразумела, што паміж гэтымі з'явамі, якія толькі на першы погляд не мелі нічога агульнага, была пэўная сувязь. Неяк апоўдні ў дом Манэ Воцы пагрукала цёмнаскурая жанчына і папрасіла вады. Гаспадыня, вядома, вады дала, але тая выпіла толькі палову шклянкі. Калі ж жонка Манэ Воцы працягнула руку, каб забраць посуд, незнаёмка раптам запытала: «Чаму ты дала мне папіць у брудным посудзе?» — і выплюхнула рэшту вады ёй у твар. Небарака збялела ад страху, а госця дзіўным чынам знікла з вачэй. Жонка Манэ Воцы хуценька паставіла на агонь казан, вымылася з галавы да ног і спаліла вопратку, якая на ёй была.

Цяпер усім стала зразумела: у горадзе лютуе вядзьмарства. Нябачныя рукі распіхалі псоту паўсюль: пад дзвярнымі парогамі, у сцены, пад стрэхі, загарнулі ў старыя паперы ці брудныя мэтлухі... Людзі казалі, што сурокі напусцілі на дом Цутаў, дзе брат узненавідзеў брата, і яны кожны дзень сварыліся. Сурокі даймалі і Дзіна Чычу, адзінага ў горадзе чалавека, які займаўся вынаходніцтвамі , і якому чорныя сілы псавалі ўсе распрацоўкі. Апроч таго, паводзіны некаторых маладых дзяўчат апошнімі днямі можна было растлумачыць толькі ўплывам чорнай магіі.

Аднойчы мы сядзелі дома і чакалі Джэджу. І вось яна прыйшла, як заўсёды, цяжка дыхаючы, і, яшчэ не адчыніўшы дзверы, заенчыла сваім гугнявым голасам:

— Ці чулі вы, людзі добрыя? У Бабарамінай нявесткі малако знікла!

— Што ты кажаш! — усклікнула маці і спалатнела.

— Што робіцца, людцы добрыя, што робіцца! Яны там шукалі сурокі ад гарышча да падвала, перакулілі дагары дном усе куфры. Абшукалі ўвесь дом, пакуль, нарэшце, не знайшлі!

— Знайшлі?

— Знайшлі! У дзіцячай калысцы. Там былі пазногці і валасы зрэзаныя з нябожчыкаў. Што робіцца, што робіцца! Там у іх такі страшны енк усчаўся, свету не было бачна, аж пакуль старэйшы сын не вярнуўся дадому і не выклікаў паліцыю!

— Ведзьмакі, — сказала мама. — Як гэта ніхто не можа злавіць хаця б аднаго?

— А ў вас тут нічога такога не надарылася? — запытала Джэджа.

— Не, — адказала бабуля. — Пакуль нічога.

— Дзякуй богу.

— Ведзьмакі, — раз за разам паўтарала маці.

— А Назін хлапец яшчэ не ачуняў? — спыталася Джэджа.

— Пакуль што не, — адказала бабуля. — Двойчы выклікалі хаджу, але нічога не дапамагло. Там таксама ўсё пераглядзелі, шукаючы сурокі, але так нічога і не знайшлі.

— Быў нейкі грэх, — сказала Джэджа. — Вось ён і адбіўся на хлопцы.

Ілір распавёў мне пра Назінага сына, Максута. Той зусім нядаўна ажаніўся і амаль адразу пасля вяселля пайшла пагалоска, што на яго наслалі замову. Нам было цікава даведацца, што адбываецца ў яго зачараваным доме. Таму мы цэлымі гадзінамі сядзелі каля варот, але нічога незвычайнага не бачылі. За вокнамі, як заўсёды, было ціха. Наза з нявесткай у двары развешвалі памытую бялізну, а шэры кот, як заўсёды, ляжаў на даху, грэючыся на сонцы.

— Што гэта за сурокі такія? — пыталіся мы адзін аднаго. — Ніхто не лаецца, ніхто не б'ецца.

Я неяк спытаў бабулю:

— А што здарылася з Назіным сынам, калі яго сурочылі?

— Слухай, — сказала бабуля, — як табе не сорамна... ты яшчэ малы для такіх размоў. Зразумеў?

Я распавёў пра гэта сябрам, і яны яшчэ больш зацікавіліся.

Неяк адвячоркам, у час, калі хаджа маліўся ў мячэці і буслы паселі на комінах ды мінарэтах у свае, падобныя на чорныя чалмы, гнёзды, мы выправіліся цікаваць за домам Назы, дзе ўбачылі Максуціну маладую жонку. Яна сядзела разам з Назай каля варот. Яе пальцы перабіралі тоўстую касу, а вочы поўніліся дзіўным, чароўным святлом. У нашым квартале яшчэ ніколі не было такой прыгожай нявесткі. Міжсобку мы называлі яе «прыгажуня-нявестка» і нам вельмі падабалася, як яна паглядала на нас, калі на змярканні мы ганяліся міма Назіных варот за светлякамі. Яна і цяпер сядзела і глядзела на нас сваімі вялікімі шэрымі вачыма, але ў думках яна была недзе далёка. Неўзабаве з кірмашу, а можа з кавярні, вярнуўся дахаты Максут з вялікім караваем хлеба пад пахай. Маладая жонка і свякруха пайшлі ў дом, і цяжкія вароты за імі жаласліва зарыпелі.

Там, за каменным парогам, панавалі сурокі. І нам было шкада «прыгажуню-нявестку», якая кожны вечар знікала за змрочнымі варотамі. Пасля таго вуліца рабілася пустэльнай, і адразу ж адпадала ахвота тут заставацца. Мы бачылі ў вакне Назінай хаты жоўтае і мутнае святло газніцы, якое любога чалавека магло панурыць у сум.

— Так, мая Сэльфіджэ, — сказала Джэджа, — мы самі ва ўсім вінаватыя. Далёка зайшлі людзі, ой, далёка. Кажуць, у хуткім часе ўсе мужчыны і жан-

чыны горада збяруцца разам і пойдуць са сцягамі, музыкай і крыкамі: «Няхай жыве лайно!» Ці бачыў хто-небудзь у свеце такую злыбеду?

Маці абхапіла рукамі твар.

— Колькі жывем, столькі пра тое і чуем.

— Ганьба, ганьба, — выдыхнула бабуля.

— Хто ведае, што мы яшчэ пабачым, — прамовіла Джэджа. — Але Ён там, у вышыні, — Джэджа тыцнула пальцам угору, як рабіла заўсёды, згадваючы Ўсявышняга. — Ён пакуль што чакае, але нічога не забывае. Учора Ён наказаў, каб у дачкі Чэчы Кайлі вырасла барада, а заўтра, чаго добрага, пакрые нашы целы шыпамі.

— Адкасніся, нячысцік, — выгукнула маці.

Перад адыходам Джэджа дала некалькі парадаў. (Кожны раз, калі яна давала парады, яе голас рабіўся яшчэ больш гугнявым).

— Калі будзеце стрыгчы пазногці, не раскідвайце іх абы-дзе. Спаліце, каб ніхто не мог сабраць.

— Чаму? — спытаў я.

— Таму што іх выкарыстоўваюць ведзьмары, сынку. А ты, нявестка, я прашу, калі расчэсваеш валасы, будзь асцярожнай, не пакідай пучкі навокал, бо нячысцік толькі таго і чакае.

— Адкасніся, нячысцік, — выдыхнула маці.

— І попел з печкі збярыце і зарыйце ў зямлю.

Джэджа сышла як і прыйшла — цяжка дыхаючы, пакінуўшы пасля сябе няўпэўненасць і трывогу. Такой я яе і запомніў — жвавай, заклапочанай, якая ніколі не скажа нічога вясёлага, а толькі гамоніць пра нешта цёмнае і тым натхняецца. Ілір падазраваў, што гэта яна сурочыць людзей.

Пра вядзьмарства гаварылі ў кожным доме. Спачатку, пасля першых выпадкаў, усе адчулі нейкую разгубленасць. Але потым, як гэта звычайна бывае, разгубленасць знікла, і людзі паспрабавалі дакапацца да каранёў зла. Спыталіся пра тое ў самых старых кабет. Кабеты былі ў такім веку, што іх ужо нішто не здзіўляла і нішто не пужала. Старыя порхаўкі даўно перасталі выходзіць з дому, бо свет даўно ім абрыдзеў, і ўсялякія там падзеі, у тым ліку і такія значныя, як вайсковыя перавароты і войны, былі толькі паўторам таго, што яны бачылі раней. Ужо за каралеўскім часам, а то і раней, за часамі рэспублікі, яны выглядалі бабулямі. Яны састарэлі яшчэ падчас Першай усясветнай вайны, а некаторыя — на пачатку стагоддзя. Старая Хаджэ не выходзіла са свайго дома дваццаць два гады. Яшчэ адна старая з сям'і Зэкі не пакідала дом дваццаць тры гады. Бабуля Несліхан апошнім разам выйшла з хаты васямнаццаць гадоў таму, калі хавала апошняга ўнука. Бабуля Шано правяла у хаце трыццаць адзін год да таго дня, калі зрабіла некалькі крокаў ад парога свайго дома і счапілася з італьянскім афіцэрам, які заляцаўся да яе праўнучкі. Гэтыя бабці былі па жыцці вельмі моцнымі, іх нервы і косткі былі трывалымі, нягледзячы на тое, што кабеты зусім мала елі і цэлымі днямі палілі цыгарэты ды пілі каву. Калі бабуля Шано

схапіла італьянскага афіцэра за вуха, той віскнуў і вырашыў вызваліцца адным лёгкім рухам, выхапіўшы пісталет і дзеўбануўшы металічным дзяржальнам па яе руцэ . Старая, аднак, не толькі не адпусціла вуха, але стала біць ваяку касцістай рукой па твары, пакуль не паваліла на зямлю. У бабуль было зусім мала мяса на костках, і яны не адчувалі болю. Іх целы былі падобныя на гатовыя для бальзамавання трупы, з якіх выдалілі ўсе, што магло гнісці.

Разам з тлушчам і мясам час выдаліў з іх усе эмоцыі: цікаўнасць, страх, прагу папляткарыць, хваляванне і трывогу. Явэр неяк казаў, што бабуля Шано можа з такой жа лёгкасцю, з якой схапіла італьянскага афіцэра, схапіць за вуха і самога Беніта Мусаліні.

Пра вядзьмарства старыя бабці выказалі надта асцярожныя меркаванні, згадаўшы некаторыя даўнішнія гісторыі, з якіх вынікала, што ведзьмары звычайна абуджаюцца напярэдадні нейкіх значных падзеяў, калі душы людскія трымцяць, як лісце перад бурай.

Многія пытанні, аднак, засталіся не высветленымі. У тым ліку і самае галоўнае: хто займаецца чарадзействам? І людзі, замест таго, каб марнаваць час на высвятленне гэтага пытання, пачалі рабіць адпаведныя захады. Дзеці Акіфа Кашаху сталі па чарзе — і днём, і ноччу, — вартаваць дом, хаваючыся на даху. Кака Піна, якая найбольш цярпела ад вядзьмарства, бо была майстрыхай упрыгожваць маладых, набыла вялікага воўка, і ён цэлымі днямі бегаў па двары. Манэ Воца выцягнуў з падвала старую дубальтоўку, якая ляжала там з турэцкіх часінаў. Нарэшце, мэрыя дала яшчэ аднаго вартаўніка на ахову гарадскіх могілак.

Поруч з тым месцічы ўжылі і прафілактычныя меры. Хатнія гаспадыні сталі хаваць пячны попел пад замок, нібыта гэта была мука. Мужчыны, выходзячы з цырульні, неслі ў руцэ газетныя жмуткі: цырульнік загортваў у іх абрэзкі валасоў.

Гэтыя меры засцярогі, па ідэі, павінны былі ўтаймаваць ведзьмакоў. Людзі ў сваіх размовах сталі зноў гаманіць пра звычайныя клопаты, пра якія яны забыліся з-за вядзьмарства. Паволі стала вяртацца пачуццё бяспекі і спакою. Але гэта доўжылася нядоўга. Якраз тады, калі злыдні, здавалася, зніклі, вядзьмарства заявіла пра сябе з нечуванай сілай. Першым сігналам таму стаўся выбух закрытай і запячатанай бочкі з сырам, што надарыўся пасярод ночы ў доме артылерыста Аўды Бабарамы, і які нарабіў шмат шуму.

У адказ на новую хвалю чорных чараў, мэрыя расклеіла зварот, заклікаючы людзей дапамагчы затрымаць ведзьмакоў. Але гэта не спрацавала. Вядзьмарства працягвалася. Адной ночы нейкі незнаёмец усміхнуўся жонцы Акіфа Кашаху з дахавага вакна, потым махнуў рукой, як бы кажучы «хадзі сюды». Пасля выбуху бочкі з сырам старэйшы сын Аўды Бабарамы, казалі, стаў халодным да жонкі. Але найбольшы розгалас атрымаў трэці інцыдэнт, звязаны з Кака Пінай. Гэта не было нейкім надзвычайным вядзьмарствам (зноў быў попел, але гэтым разам паліты воцатам), ды навакольная дзятва, пабачыўшы чорны знак, усчала вэрхал, прыцягнуўшы ўвагу італьянскага ваеннага патру-

ля. Патруль паведаміў аб надзвычайнай сітуацыі ў гарнізон, адкуль праз паўгадзіны ў двор Кака Піны прыбеглі чатыры італьянскіх сапёры са зброяй і з мінашукальнікам. Яны глянулі на дзятву, зыркнулі на перакрыўлены твар Кака Піны і, не патрабуючы аніякіх тлумачэнняў, сталі абшукваць тое месца.

— Д'ябал, — раз за разам паўтараў адзін з ваякаў. — Мінашукальнік нічога не паказвае.

Неўзабаве ваякі, раззлаваныя, сышлі. І ўжо здалёк адзін з іх гучна крыкнуў:

— Che puttana!

Слова гэтае ён адрасаваў Кака Піна.

Кожнага дня, адвячоркам, галовы нашы былі занятыя думкамі аб ведзьмаках. Мы ўяўлялі, што калі ноч апаноўвае ўсё наўкол, пачынаючы ад цытадэльнай вежы і да каменьчыкаў на дне ракі, дзесьці ў пустэльных завулках рукі нейкіх незнаёмцаў збіраюць абрэзаныя пазногці і валасы, сажу з комінаў ды іншыя цёмныя рэчы, загортваюць у анучы і шапочуць страшныя словы замоў.

Горад, вялікі і пануры, які калісьці кінуў выклік дажджам, грымотам і вясёлцы, цяпер з'ядаў сам сябе. Нахіленыя дахі, крыва закручаныя вуліцы — усё сведчыла аб гэтым.

«Горад у ліхаманцы».

Я ўжо двойчы чуў гэтыя словы. І не мог дапяць розумам, як гэта горад можа захварэць? У двары Манэ Воцы, на пару з Ілірам, я слухаў размову Явэра і Ісы пра вядзьмарства. Як заўсёды ў сваіх размовах, яны ўжывалі складаныя і незразумелыя словы, гучанне якіх не надта пасавала гэтаму таямнічаму пытанню. Некалькі разоў прагучалі словы «містыка» і «масавы псіхоз». Між тым Іса спытаў Явэра:

— Ты чытаў Юнга?

— Не, — адказаў Явэр. — І не збіраюся чытаць.

— Я выпадкова яго прачытаў. Піша якраз пра гэтыя рэчы.

— Што мне той Юнг, — сказаў Явэр, — тут усё і так зразумела. Псіхоз слугуе інтарэсам рэакцыі, адцягваючы ўвагу грамадскасці ад надзённых праблемаў. Вунь што пішуць у газеце: «Вядзьмарства з'яўляецца часткай фальклорнага багацця нацыі».

— Фашыстоўская тэорыя, — прамовіў Іса.

Явэр адкінуў газету.

— Гэтыя варвары з пёрамі на капелюшах будуць рады адраджаць любы сярэднявечны звычай, калі гэта будзе на карысць Мусаліні.

Явэр два тыдні таму быў выключаны з гімназіі за ўдзел у збіцці італьянскага настаўніка. Цяпер ён працаваў у гарбарні Мака Карлашы.

Былы настаўнік выцягнуў з кішэні аркушык і напісаў касым почыркам: «Кіньце вы гэтае вядзьмарства. У нас ёсць іншыя праблемы».

— Нядрэнна, — сказаў Іса, праціраючы акуляры, — але, магчыма, было б лепш, калі б мы патлумачылі гэта крыху больш навукова.

Явэр спахмурнеў, але не надоўга: сябры, нарэшце, заўважылі, што мы слухаем іхныя размовы.

— Гэй, вы... паляўнічыя за прывідамі, — гукнуў Явэр, — падслухоўваеце?

І сапраўды, мы, як і большасць падшыванцаў, шукалі знакі вядзьмарства. Дзень пры дні шукалі іх дзе давядзецца: пад ганкамі, на дахах, у праломах муроў. Сляды нашых пошукаў можна было бачыць паўсюдна, асабліва пасля дажджу, калі дахі пачыналі працякаць у тых месцах, дзе мы лазілі. Найбольш мы засяроджваліся ў сваіх пошуках на доме Назы, таму што нам падабалася яе прыгожая нявестка.

Пошукі, аднак, былі марнымі: мы не знайшлі ніякіх слядоў чорнай магіі, і натрапілі на яе толькі калі ўжо страцілі апошнюю надзею.

Гэта здарылася сонечным днём на Вар'яцкай вуліцы. Вулка была крывая і нехлямяжая, але мы ніколі не прамянялі б яе ні на якую іншую, бо ніводная вуліца ў свеце не была такой велікадушнай і не дазволіла б нам, падшыванцам, выбіваць з яе брукаванкі камні і штосьці будаваць, прычым сярод белага дня. Вар'яцкая вуліца, як сапраўдны шаленец, дазваляла нам рабіць гэта.

У той дзень мы гулялі з камянямі, як раптам адзін з нас крыкнуў:

— Вядзьмарства!

Усе з жахам кінуліся да сябрука. У яго быў збялелы твар і ён паказваў пальцам на зямлю. Там, сярод камянёў, ляжала тая самая магія памерам з кулак. Мы кідалі спалоханыя погляды адзін на аднаго, а нашы словы захраслі недзе ў горле. (Джэджа пазней казала, што гэта чорная магія заняла нам мову.) Але тут, нечакана, мы асмялелі, як гэта часам надараецца ў сне, калі апынаешся на нейкай паўцёмнай і бязлюднай вуліцы і сэрца пачынае шалёна калаціцца ад страху, і ты адчуваеш, што зараз, на гэтай незнаёмай вулцы, павінна надарыцца штосьці кепскае, і ты чакаеш, што вось-вось з'явіцца злыдух, але той не з'яўляецца, а ты ўсё чакаеш, і страх набірае моц, і вось ужо там, наперадзе, нехта рухаецца, з'яўляецца цень, набліжаецца нечы напаўасветлены твар, і ў цябе падкошваюцца калені, ты нямееш, губляеш апошнія сілы, але раптам, у апошняе імгненне, табой авалодвае нейкая вар'яцкая лютасць, цела адчувае свабоду, голас робіцца грымотным, і ты з крыкам кідаешся на цень, каб схапіць яго, і прачынаешся.

Тое надарылася і з намі.

— Магія!— нечакана закрычаў Ілір штомоцы, схапіў яе і падняў над галавою.

— Магія, магія! — закрычалі мы ўсе і, нічога не цямячы, на злом галавы кінуліся ўніз па вуліцы. Ілір бег першым, усе заходзіліся ад крыку, задыхаючыся ўадначас ад радасці і страху.

Аканіцы адна за адной з шумам расчыняліся, і з вокнаў вытыркалі галовы маладыя і старыя жанкі, якія ўлякнута пыталіся:

— Што здарылася?

— Магія, магія! — крычалі мы, задзёршы галовы, шалёным клубком коцячыся ўніз квартала.

Кака Піна, зірнуўшы ў вакно, перажагналася; прыгожая Назіна нявестка употай усміхнулася; Манэ Воца вытыркнуў доўгую рулю дубальтоўкі з да-

хавага вакна, а Іса пасміхнуўся вачыма праз акуляры, якія блішчэлі, як два сонцы.

— Ілір! — гукала жонка Манэ Воцы. Сціснуўшы шчокі далонямі, яна кінулася следам за намі. — Ілір, гэта дрэнь, кінь тую магію, кінь!

Але Ілір нічога не чуў. Вылупіўшы вочы, ён ляцеў па вуліцы так, што мы ледзь паспявалі.

— Магія, магія!

Нашы маці крычалі нам з вокнаў, з разнасцежаных варот і муроў. Яны дзерлі шчокі, хісталіся ў бакі, плакалі, але мы ўсё роўна беглі далей і не кідалі магію. Мы былі перакананыя, што менавіта гэты загорнуты ў анучу пухір трымаў горад у трывозе. Урэшце мы стаміліся і на Ланцужным пляцы прыпынілі бег. Потныя, пакрытыя пылам, усе цяжка дыхалі, але нашы твары свяціліся ад радасці.

— Што будзем з гэтым рабіць? — спытаў нехта.

— Спалім. У каго ёсць запалкі?

Адзін з нас меў пушку запалак.

Ілір падпаліў магію і кінуў на зямлю. Пакуль яна гарэла, мы з крыкамі спусцілі порткі і накіравалі на магію тонкія струмені, а потым, з ухвальнымі воклічамі, сталі паліваць ад радасці адзін другога...

— Ты знясілеў, — сказала неяк бабуля. — Пагасці колькі дзён у дзеда.

Мне падабалася бываць у дзеда (па кудзелі). Там заўсёды было весела і ўтульна і, галоўнае, там добра кармілі — не тое, што дома. У бацькоўскім вялікім доме, у яго калідорах і, асабліва, у пустым падвале, голад адчуваўся найбольш моцна. Наш квартал быў шэрым і цесным з-за дамоў, што грувасціліся адзін на адным. Усё тут было калісьці і на сотні гадоў непахісна ўмацавана. Вуліцы, павароты, закуты, ганкі дамоў, слупы і ўсё іншае, здавалася, было адліта з каменя раз і назаўжды. Тым часам у дзеда ўсё было інакш. Там усё было мяккім і зменлівым. Там сцяжыны і вуліцы нібыта забывалі пра тыя мясціны, дзе беглі тыдзень таму, і ціхенька, без шуму адсоўваліся то ўлева, то ўправа. А ўсё таму, што яны не былі выкладзены каменнымі плітамі. Зямля магла там свабодна рабіць усё, што захоча — заставацца роўнай, ці згорбіць спіну і накіраваць долу патокі вады, нібыта мул, які скідвае свой груз. Апроч таго, зямля была слізкай, а краявід меў чалавечыя рысы: то быў здаровы, то знясілены; то прыгажэў, то цямнеў, а то наогул рабіўся пачварным — у залежнасці ад пары года. А вось наш квартал не цярпеў ніякіх перамен.

Самым дзіўным было тое, што ў гэтай частцы горада стаялі толькі два дамы: дзедаў і яшчэ адзін, на адлегласці двухсот крокаў. Мясціна паміж дамамі была пустэльнай. Туманнымі ранкамі якая-небудзь куніца прабягала па ёй, а потым цэлы дзень там ніхто не з'яўляўся. Толькі змеі рыхтаваліся да зімоўкі пад зямлёй. І яшчэ некалькі скал і больш дробных камянёў, якія прыкаціліся сюды немаведама калі і леглі сярод кустоў на рэдкай траве, рабілі мясціну яшчэ больш закінутай. Гэты квартал быў адной з тых частак горада, якая ўвачавідкі памірала. І невыпадкова тутэйшыя дарогі і сцяжыны ўвесь час мянялі

кірунак, нібыта прагнучы пакінуць гэтую мясціну. Да таго ж, кусты тут рабіліся ўсё больш смелымі і буялі там, дзе іх ніхто не чакаў: пасярод вуліцы, каля крыніцы, пасярод двара, а адзін куст нават паспрабаваў вырасці непасрэдна насупраць варот. Хаця і разумеў, што праз такую безразважную смеласць можна згубіць жыццё.

Кусты былі прадвеснікамі смерці. Блукаючы з Ілірам па верхніх кварталах, уздоўж мяжы паміж гарамі і горадам, мы заўважалі, што за руінамі дамоў, даўно кінутых жыхарамі, буяла кустоўе. Кусты хаваліся там, як маленькія падступныя звяркі, і ўвесь горад быў аточаны імі. Па начах я, здавалася, чуў іх галасы. Гэта было здушанае, ледзь чутнае выццё і ўсхліпы.

У паўночным баку квартала віхлялася дарога, якая вяла да цытадэлі і звязвала верхнюю частку горада з цэнтрам. Яе праклалі вышэй тых двух дамоў, і аднойчы грузавік з'ехаў долу і разбіў ганак дзедавага котлішча. Часам і п'яныя падалі на дах, пасля чаго са столі крапала вада. Але такое надаралася зрэдку, бо па гэтай дарозе мала хто хадзіў. І толькі зрэдзьчасу нехта вяртаўся з кірмашу і сярод летняга сквару штодуху спяваў:

*А сёмай вечара*
*Падышоў да яе варот*
*І пачуў голас Мэры:*
*«Баліць мая галава».*

У нейкай Мар'ям, якую каханы любіў называць Мэры, балела галава, і заўсёды а сёмай гадзіне яна скардзілася на боль. У песні той нічога такога не было, але яна мне вельмі падабалася. У нашым квартале ніхто б не адважыўся заспяваць такую песню. Калі б хто-небудзь і паспрабаваў, дык адразу б расчыніліся дзясяткі вокнаў і жанкі ды старыя цётухны з перакрыўленымі ад агіды тварамі абрынулі б на смельчака праклёны, а, магчыма, і вядро вады. Але тут, на гэтым пустынным шырокім абшары, вы маглі скаланаць крыкам небасхіл і ўсё наваколле, і ніхто б на тое не звярнуў увагі. І не дзіва, што той незнаёмец гарлаў сваю песню толькі тады, калі апынаўся на гэтай дарозе. Песня круцілася ў ягонай галаве цэлы дзень: на кірмашы, у кавярні, дзе-небудзь у цэнтры горада і чакала, калі ён дабярэцца да пусткі і дасць волю сваім лёгкім.

У тым квартале асабліва прыгожымі былі вечары. Заўсёды, калі чую, як людзі кажуць «Добры вечар!», у думках вяртаюся у дзедаў двор, дзе цыганы, якія жылі ў прыбудове да дзедавай хаты, гралі на скрыпках, а дзед, расцягнуўшыся на шэзлонгу, ляжаў і пыхкаў вялікай чорнай люлькай. Цыганы не давалі рады сплаціць арэндную плату за жытло, і таму знайшлі спосаб адпрацоўкі часткі доўгу — ладзілі летнімі вечарамі канцэрты для дзеда.

— Дзеду, скруці мне цыгарку, — прасіў я ўмольным шэптам і той, ні кажучы ані слова, скручваў тонкую цыгарку, прыпальваў і перадаваў мне. Я з захапленнем сядзеў побач з дзедам і, не хвалюючыся, што за гэта мяне будуць ушчуваць, глытаў тытунёвы дым.

Той хвіляй я думаў, што няма большага шчасця ў свеце, як добра павячэраць, а потым прыпаліць цыгарку і слухаць, як той дзядуля, з прыплюшчанымі вачыма, цыганоў, якія граюць на скрыпках.

Ах, думаў я, вось вырасту і набуду сабе вялікую чорную люльку, што пыхкае клубамі дыму, адгадую такую ж, як у дзядулі, бараду, і буду цэлымі днямі ляжаць на канапе ды чытаць тоўстыя кнігі.

— Дзеду, ты навучыш мяне турэцкай мове? — пытаўся я працяглым, як пасля сну, голасам.

— Сам навучышся, — адказваў дзед, — вырасцеш і вывучыш мову.

Голас дзеда быў нізкі і спакойны. Я прытульваўся да шэзлонгу і, ачмурэлы ад тытунёвага дыму, думаў пра тое — колькі тытуню змагу выпаліць і колькі турэцкіх кніг прачытаць да часу смерці.

Тоўстыя кнігі ляжалі ў куфры, адна на адной, хаваючы бясконцае мноства арабскіх літараў, якія чакалі мяне, каб узяць да сябе і раскрыць свае сакрэты і таямніцы. Бо толькі арабскія літары ведалі шляхі да таямніц, як мурашкі ведаюць адтуліны і расколіны пад зямлёй.

— Дзеду, а можаш прачытаць мурашак?

Дзед пасміхаўся і пяшчотна кудлаціў мае валасы.

— Не, хлапчына, гэтага ніхто не можа прачытаць.

— Але чаму? А вось збяруцца яны ў кучу і стануць падобныя на турэцкія літары.

— Так здаецца, але так не бывае.

— Але я іх бачу, — упарціўся я да апошняга.

Я зацягваўся цыгаркай і думаў, што мурашкі дзеля таго і мітусяцца, каб ніхто не змог прачытаць іх як кнігі.

Бязладныя ўспаміны апанавалі мяне ў той момант, калі я падыходзіў да дома старога артылерыста Аўды Бабарамы. Дом самоціўся ля самага падножжа цытадэлі. Я шыбаваў па вузкай сцяжыне, што бегла долу і апошнім часам змяніла свой напрамак. Рой успамінаў, абрыўкі фраз, слоў, згадкі пра нейкія малазначныя падзеі змянялі адна другую, мітусіліся, казыталі вушы і нос і ўсё больш абуджаліся, калі я прыспешваў крок.

А вось і дом Сюзанны. Як толькі дзяўчына чула, што я ў дзеда, адразу ж пачынала круціцца каля нашай хаты: бегала між краем абрыву і цыганскай прыбудовай, дзе мы звычайна з ёю гулялі, альбо стаяла пад цяністым дрэвам і глядзела здалёк — ці выйду я з дому. Дзяўчына была адначасова падобная на матыля і на бусла. Яна была старэйшая за мяне, хударлявая, з доўгімі валасамі, якія кожны раз зачэсвала па-новаму. Усе называлі яе прыгажуняй. У гэтым квартале не было яе раўнагодак — ні хлапцоў, ні дзяўчын, таму Сюзанна заўсёды чакала, калі я з'яўлюся ў дзеда. Дзяўчына казала, што ёй абрыдла жыць сярод дарослых, абрыдла сядзець дома і вышываць, абрыдла хадзіць па ваду да крыніцы, абрыдла тутэйшая ежа і што ёй сумна тут — і днём, і ўвечары, і нават раніцай. Карацей, дзяўчыне было надзвычай сумна. Яна любіла пабалбатаць, але гаварыла з пэўнай асцярожнасцю, усё адно як баючыся прыкусіць язык зубамі.

Мінулым разам я распавёў Сюзанне пра падзеі, што надарыліся ў нашым квартале. Яна мяне слухала, уражана варушачы бровамі. Пры канцы, калі я згадаў пра бараду дачкі Чэча Кайлі, яна выгаліла вочы, два ці тры разы прыкусіла вусну і ўжо збіралася нешта сказаць, аднак чамусьці стрымалася і потым зноў набрала паветра, каб выдыхнуць нейкія словы, і зноў прамаўчала. Нарэшце, яна са збялелым тварам наблізілася вуснамі да майго вуха і запытала:

— Ці ведаеш ты якія грубыя словы?

— Ты што, з глузду з'ехала? — прамовіў я ў адказ.

— Сам ты з'ехаў, — амаль закрычала Сюзанна і пабегла. І ўжо бегма, здалёк, крутнула пальцам ля скроні і крыкнула: — Ідыёт!

Адвячоркам яна прыйшла ў наш двор, паклала свае доўгія тонкія рукі мне на плечы і ціха прашаптала на вуха:

— Прабач, што я назвала цябе ў абед ідыётам. Проста хацела падзяліцца сваім сакрэтам, але забыла, што ты яшчэ маленькі хлопчык.

— А я і не хачу ведаць твае сакрэты, — адказаў я, — у мяне дома сваіх процьма.

Яна ледзь стрымалася, каб не засмяяцца, і зноўку збегла ад мяне, узрадаваная, што мы збольшага замірыліся.

Гэтым разам я з'явіўся ў дзядулі перапоўнены страшнымі навінамі, пачуваючы сябе пры гэтым ледзь не героем, які вярнуўся з валадарства чорнай магіі. Я ўяўляў сабе, як тут здзівяцца ўсе, калі пачуюць мае аповеды. І яшчэ нічога не ведаў пра той сюрпрыз, што чакаў мяне ў старым дзедавым доме... Маргарыта.

Я ўвайшоў праз вароты ў двор, міжволі ўзняў галаву і ўпершыню яе ўбачыў ля аднаго з вокнаў на другім паверсе. Мне ніколі не даводзілася сустракаць у дзедавым доме жанчын, ды яшчэ такіх прыгожых. Дагэтуль я бачыў тут толькі сваіх дзядзькаў, цётак ды арабскія літары.

Яна стаяла каля вазонаў з кветкамі, падобная на іншаземку, на чароўную іншаземку, якая нечакана, нібыта ранішняя ружа, расквітнела на пакрытым шыпамі сцябле.

— Хто гэта? — трохі збянтэжана спытаў я бабулю.

— Маргарыта, пастаялка, — адказала бабуля. — Тыдзень таму мы здалі ёй бакавы пакой.

Маргарыта, стоячы сярод кветак, усміхнулася і спытала:

— Гэта ваш унук?

— Так, — адказала бабуля.

Адчуўшы, што ў мяне загарэліся вушы, я выбег са двара.

Стоячы ля брамы, пачуў штосьці падобнае на шоргат крылаў. «Сюзанна», — падумаў я.

— З'явіўся? — спытала дзяўчына.

На Сюзанне была светлая сукенка, якая рабіла яе яшчэ больш танклявай і лёгкай. Валасы свае яна, як заўсёды, зачасала на новы манер.

— Ну, давай, — прамовіла, — расказвай.

Я раптам страціў жаданне штосьці ёй распавядаць.

— Што расказваць? Нічога цікавага не здарылася.

— Так ужо і нічога?! — выгукнула Сюзанна з такім здзіўленнем, нібыта пачула штосьці неверагоднае.

— Ну, хіба што пра вядзьмарства, — прамармытаў я.

— Вядзьмарства? Якое яно? Распавядзі.

— Вядзьмарства бывае розным...

— Ты не хочаш гаварыць?

Я прамаўчаў.

— Чаму ты не хочаш нічога распавесці? Раскажы пра вядзьмарства альбо пра італьянцаў.

Маўчанне.

— А ты сапраўды ёлупень, — сказала дзяўчына, — прычым, неверагодны.

— Сапраўды неверагодны?

Я спехам выцягнуў з кішэні пінжака павелічальнае шкло і ўставіў у вока, сціснуўшы шчакой і брывом. Каб утрымаць шкельца, мне давялося перакрывіць твар і напружыць шыю.

— У-у, толькі людзей пужаеш, — сказала Сюзанна. — Чаго ты крывішся?

— А мне падабаецца.

Каб уберагчы шкельца ад падзення, я пачаў павольна рухацца, і цяглíцы твару і шыі сталі яшчэ больш напружанымі. Дзяўчына глядзела на мяне з пагардай. На імгненне я забыўся пра недарэчнае раздражненне, якое яна ўва мне выклікала, і так захапіўся ўтрыманнем шкельца, што ўвайшоў у цыганскую прыбудову, дзе мяне сустрэлі воклічы здзіўлення — павелічальнае шкло заўсёды выклікала ў людзей подзіў і страх. Я адчуў, што шчокі мае пакрысе нямеюць і ўжо не ў стане трымаць шкельца, таму зняў яго і піхнуў у кішэнь.

Сюзанна, убачыўшы, што я прыхаваў павелічальнае шкло, падышла да мяне і мяккім голасам запыталася:

— Чаму ты прыходзіш са свайго квартала такім раззлаваным?

Я ўважліва паглядзеў на дзяўчыну і зразумеў, што на яе чыстым твары блукае, хутчэй, усмешка, чым незадаволенасць. Дзяўчына наблізілася яшчэ на адзін крок.

— Мне тут адной так сумна...

Сюзанна адчула, што я збіраюся штосьці сказаць і загадзя расплылася ва ўсмешцы, і я, нібы рухомы нейкай сляпой і неадольнай сілай, раптоўна і бяздумна выпаліў, па-замежнаму расцягваючы гукі, словы, якія чуў ад італьянскага жаўнера:

— Che puttana!

Дзяўчына сціснула рукамі рот, адступіла на крок, потым на два, павярнулася і пабегла, мільгаючы між кустоў сваімі даўгімі нагамі.

Нейкі час я стаяў нерухома. Пры гэтым лоб мой пакрыўся потам. Мяне вярнуў да жыцця голас бабулі, якая клікала на абед.

Усе чатыры дні, што я гасцяваў у дзеда, я не бачыў Сюзанны. Часам мне здавалася, што недзе непадалёку чую яе крокі, але яна не з'яўлялася.

Стары дзедавы дом па-ранейшаму радаваў вока, хаця набліжалася восень і ружы, што раслі ў двары, даўно завялі. Усё наўкол паволі пусцела. Гэта былі апошнія вечары, калі цыганы гралі ўжо ў цёмным двары на скрыпках, а дзед, які да таго цэлы дзень чытаў кніжкі, ляжаў у шэзлонгу і паліў люльку. Я па-старой завядзёнцы сядзеў непадалёку ў крэсле, але мяне ўжо мала цікавілі тытунь і турэцкія кнігі, бо поруч са мной сядзела Маргарыта, абвіўшы рукой маю шыю. Неба было цёмным, і па ім раз-пораз слізгалі знічкі.

— Зорка ўпала, — ціха сказала Маргарыта. — Ты бачыў?

— Я кіўнуў галавой.

Шчыра кажучы, зоркі, што падалі з неба, уражвалі мяне прыкладна так як і адарваныя ад палітону гузікі. Густыя кудзеркі краналіся шыі, і ад цела Маргарыты ішоў тонкі, хвалюючы водар, якога я ніколі не чуў ні ад маці, ні ад бабуль, ні ад сваіх цётак. Ніякія іншыя пахі, якія мне раней падабаліся, у тым ліку і пах маіх улюбёных страў, не былі такімі прыемнымі.

Павеяла прахалодай, і дзядуля ўстаў з шэзлонга раней, чым гэта ён рабіў летнімі вечарамі. Усе таксама падняліся, цыганы схавалі свае скрыпкі ў футаралы, і на імгненне запанавала цішыня. Тым часам на даляглядзе бліснула, і дзед паведаміў:

— Заўтра будзе дождж.

— Дабранач, — сказалі цыганы, ідучы да сваёй прыбудовы.

— Дабранач, — ціха сказаў муж Маргарыты.

— Дабранач, — паўтарыла Маргарыта пяшчотным голасам.

— Добрай ночы, — сказалі ўсе адно другому.

Апошнім, хто сказаў «Дабранач», быў я, ужо напаўсонны; старыя ўсходы яшчэ колькі часу рыпелі, пасля чаго ўсё панурылася ў спакой і сон.

Раптам у доме абудзілася столь. Мышыная валтузня, спачатку нясмелая і спарадычная, рабілася ўсё больш хуткай і смелай, пакуль не ператварылася ў нястрымную арду, што лётала з аднаго кута ў другі. Яшчэ крыху, і яна стала нагадваць арду Чынгісхана, якую я бачыў у кіно. Спачатку яна сабралася недзе ў глыбіні Азіі (Азія была там, дзе спала Маргарыта). Гэта была падрыхтоўка да бою. Потым кароткае маўчанне. Чынгісхан, відаць, даваў наказ сваім ваярам. Ён працягнуў руку да межаў Еўропы (там была вітальня), і арда пакацілася ў той бок. Грукат мацнеў. Масніцы стагналі. Арда перасекла межы Еўропы. Загрымела на поўную моц. Цяпер яна была над маёй галавой. Жах. Крывавая бойка. І вось арда адкочваецца ў другі бок. З азіяцкіх глыбінь ганец прынёс навіну пра паўстанне нейкага племені. Арда вяртаецца туды, адкуль прыйшла. Ізноў перасякае мяжу. Цяпер яна ў Азіі. Там пачынаецца грукат. І пасярод гэтага бою спіць Маргарыта. Чынгісхан павінен спыніць гармідар. Хіба ён не разумее, што перашкаджае Маргарыце спаць? Але Чынгісхан гэтага не чуе. «Калі ідзе вайна, тут не да сну», — гукае ён. І бітва працягваецца.

Раніцай бабуля паклала руку мне на лоб.

— Звечара ты размаўляў у сне, — сказала бабуля, — цябе не б'юць дрыжыкі?

— Не.

Гэта быў чацвёрты і апошні дзень маіх пагасцін. Пасля сняданку я выправіўся дахаты.

Я рушыў дадому з вялікім кавалкам бюрэка[1], які бабуля старанна загарнула, і з імем Маргарыты (пірог я трымаў у руцэ, а імя Маргарыты было ў сэрцы). На Базарнай вуліцы я ўбачыў некалькі шкаляроў. Усе скрозь былі са збянтэжанымі тварамі. Відаць, іх настаўнік Чані Кекезі зноў разразаў котку падчас уроку.

Ні дома, ні ў самім квартале анічога не змянілася, а вось на раўніне за ракой штосьці адбывалася. Па-першае, зніклі каровы, якія там звычайна пасвіліся. Стагі сена таксама прыбралі. Па полі туды-сюды ездзілі некалькі грузавікоў. Не адразу, але ўсё ж такі я ўцяміў, што там адбывалася. Новае, дагэтуль зусім невядомае слова, якое складалася са слоў «аэра» і «порт», загучала то тут, то там. Цяпер усё стала зразумела: на раўніне за ракой, поруч з горадам, будавалі аэрапорт.

Месцічы, ідучы вулкамі і завулкамі, часцяком спыняліся, паварочвалі галовы ў бок ракі і доўга ды задуменна глядзелі ўдалячынь.

Так з'явіўся новы госць. Госць незвычайны, які заняў цэлую раўніну, але быў амаль нябачны. Калі б не адсутнасць кароў і стагоў сена, магчыма, ніхто б і не заўважыў яго прыбыцця.

Мне стала шкада кароў.

— Чаму гэта назвалі аэрапортам?

Явэр наставіў на мяне свае шэрыя ўдумлівыя вочы.

— Таму што гэта брамы[2], праз якія самалёты патрапляюць у горад.

Новы госць. Да лепшага ён ці да горшага? Ён прыпоўз плазам, без шуму. Тысячы ўражаных вачэй глядзелі на яго, не надта ўсведамляючы — што гэта такое. Расцягнуўшыся ўздоўж раўніны на ўсю сваю даўжыню, незразумелы і пагрозлівы, ён пазбавіў людзей спакою.

— Падрыхтоўка да вайны.

— Магчыма. Але аэрадром зрабілі дзеля абароны горада.

— Не думаю. Гэта знак таго, што будзе вайна.

— Можа і так. Але ж шмат хто атрымаў там працу і зарабляе грошы.

— Грошы, што там зарабляюць, пазычаныя ў смерці.

Гэта была размова двух незнаёмых мне людзей.

Усё больш і больш чуваць было размоў пра аэрапорт. І калі раўніну ўпершыню назвалі «лётным полем», людзі згадалі, што дагэтуль яна не мела назвы. Мяркуючы па ўсім, раўніна чакала той хвілі, калі стане аэрапортам.

**Прадмова і пераклад з албанскай мовы Максіма Мудрова**

---

[1] Слоены пірог.

[2] Aeroport па-албанску гучыць як «паветраныя брамы».



# Vittorio Alfieri / Віторыё Альф'еры

**(1749 — 1803)**

Віторыё Альф'еры, якога называюць «айцом італьянскай трагедыі», нарадзіўся ў г. Асці (княства П'емонт, Італія) у багатай арыстакратычнай сям'і, пасля ранняй смерці бацькі дзевяць гадоў вучыўся ў Турынскай ваеннай акадэміі. У 1766 г., пасля падарожжа па Еўропе, Альф'еры вырашыў прысвяціць сябе літаратуры і самаадукацыі. У 1775 г. напісаў сваю першую трагедыю «Клеапатра», наступная перапісвалася пяць разоў. У 1783 г. былі надрукаваныя дзесяць напісаных на той момант трагедый, сярод іх — «Філіп» на сюжэт з іспанскай гісторыі, апрацаваны пазней Шылерам у «Доне Карласе».

У 1777 г. Альф'еры, які валодаў французскай мовай і п'емонцкім дыялектам, пераехаў у Таскану для вывучэння тасканскай гаворкі, дзе пазнаёміўся з графіняй Луізай д'Олбані, на той момант жонкай нашчадка каралеўскай дынастыі Сцюартаў, пад уплывам якой працягваў свае літаратурныя заняткі, у прыватнасці, вывучэнне літаратуры эпохі Адраджэння, перш за ўсё твораў Дантэ і Мак'явэлі, якія паўплывалі на фарміраванне яго поглядаў. У тым жа годзе напісаў трактат «Аб тыраніі» (апублікаваны ў 1789 г.), дзе адлюстраваў ідэал грамадзяніна і тыранаборцы, а таксама трагедыю «Віргінія». У сваіх празаічных памфлетах Альф'еры сцвярджаў, што літаратура павінна грунтавацца на праўдзе і маралі і можа квітнець толькі ў свабодным грамадстве.

У тасканскі перыяд творчасці Альф'еры стварае чатырнаццаць трагедый, сярод якіх «Змова Пацы» і «Тымалеён», «Марыя Сцюарт», «Дон Гарсія», «Саўл», прасякнутых тыранаборчым пафасам. У 1784 г. пераязджае ў Францыю, дзе ў 1788 г. бярэ шлюб з Луізай д'Олбані, на той час ужо ўдавой. Горача вітае Французскую рэвалюцыю, аднак распачаты тэрор мяняе яго стаўленне. У 1792 г. вяртаецца ў Фларэнцыю, а яго маёмасць у Францыі канфіскуецца. У апошнія гады вядзе замкнёны лад жыцця, рупліва аддаецца навуковым заняткам, перакладае старажытнагрэцкія і лацінскія тэксты. У 1799 г. стварае зборнік вершаў і прозы «Мізагал» («Франканенавіснік»), дзе асуджае рэвалюцыю ў Францыі. У 1800-1803 гг. піша шэсць вершаваных камедый.

Пасля смерці Альф'еры быў пахаваны ў Фларэнцыі ў славутай царкве Санта-Крочэ паміж Мікеланджэла і Мак'явэлі.

Трактат «Пра ўладара і літаратуру», над якім Альф'еры працаваў у 1778-1786 гг. (апублікаваны ў 1789 г.), адлюстроўвае погляды пісьменніка на ролю літаратуры і мастацтва і несумненна ўзыходзіць да славутага твора Мак'явэлі, на што ўказвае і сам аўтар на апошніх старонках твора.

# Пра ўладара і літаратуру

*(1786 г., урыўкі)*

## Кніга другая

***Тым нешматлікім літаратарам, якія не дазваляюць ствараць сабе пратэкцыю***

Вам, незаплямленым пісьменнікам, можа здацца, што я здрадзіў вашай справе, бо пакуль што раскрыў некаторыя, безумоўна, не таемныя маніпуляцыі, але амаль што такія, бо ніхто не адважваецца пра іх распавесці. А пра тыя рэчы, пра якія мала гавораць, мала хочацца і думаць, таму кола ўяўлення круціць іх больш павольна, і ў выніку яны робяцца заржавелымі і бескарыснымі. У першай кнізе я, калі можна так сказаць, растлумачыў уладарам не самі сродкі знішчэння ці стварэння перашкодаў літаратуры, якія ім ужо часткова былі добра вядомыя, а прычыны, якія штурхаюць іх карыстацца гэтымі дробнымі, але тым не менш да цяперашняга часу эфектыўнымі сродкамі. Прычыны, невядомыя самім уладарам, хоць гэтымі сродкамі яны карыстаюцца; прычыны, невядомыя многім з іх падначаленых, хоць іх наступствы яны адчуваюць на сабе. Цяпер я рыхтуюся да таго, каб напісаць другую кнігу, у якой крыху шырэй асвятлю лепшыя, на маю думку, сродкі, каб нешматлікія пісьменнікі, якія насамрэч заслугоўваюць сапраўднай волі, часткова ці цалкам пазбавіліся ганебных кайданаў, што заціскаюць іх розум і пяро, перашкаджаюць іх славе ці знішчаюць яе.

## Першы раздзел

### Ці павінны пісьменнікі дазваляць уладарам даваць ім пратэкцыю?

Неабходнасць пісаць ёсць патрэбай многіх, і не ўсе, што пішуць, з’яўляюцца сапраўднымі пісьменнікамі, і я не ўсіх такімі лічу: пісанне — гэта неабходнасць выказвацца нешматлікіх асобаў. Правільна скіраванае і адукаванае, вольнае ад усіх іншых патрэбаў, яно можа падштурнуць чалавека адчуваць сябе амаль што Богам.

Вельмі часта, аднак, здараецца (на жаль!), што і вышэйшыя таленты нараджаюцца з патрэбай у хлебе надзённым. Не тое, каб я збіраўся тут усхваляць багатых, якія, наадварот, часцей за ўсё нараджаюцца куды менш моцнай прыроды як целам, так і розумам. Я б хацеў, безумоўна, запэўніць і пераканаць усіх пісьменнікаў, што яны ніколі не змогуць атрымаць сапраўдную славу, а таксама чыстую і доўгую вядомасць, і, такім чынам, выклікаць сапраўдную і найвышэйшую патрэбу ў сваіх чытачоў, калі іх пісьмо не будзе высокім, праўдзівым, вольным і цалкам вызваленым ад любой іншай дробнай мэты. Дык вось, калі

я гавару з вялікімі талентамі (але толькі з нешматлікімі найвялікшымі), якія па несправядлівасці лёсу нарадзіліся беднымі, то кажу ім: каб своечасова спасцігнуць саміх сябе, найперш яны павінны па магчымасці любым іншым рамяством палепшыць свой лёс, каб потым мець магчымасць, дзякуючы ўласнай незалежнасці, вольна карыстацца сваім талентам. І заклікаю іх у імя той высокай карысці, якую з іх пісання могуць атрымаць усе людзі і дзеля той найчысцейшай славы, якую яны самі ад літаратуры могуць атрымаць. Але калі яны не могуць абсалютна ніякім чынам дзейнічаць так, як вышэй было сказана, я раю ім адмовіцца ад пісання і знайсці іншыя сродкі для пражыцця, бо ўсе людзі незалежна ад часу і ўраду могуць рабіць тое, да чаго яны найбольш схільныя, акрамя пісьменніцкага рамяства. Адным словам, я лічу, што багацце павінна служыць таленту, а не талент багаццю.

Калі самы высакародны, самы ўзвышаны, самы свяшчэнны і амаль што боскі занятак паміж людзьмі — гэта імкненне распаўсюджваць сярод іх святло, радаваць іх розум, запальваць любоўю сапраўдную вартасць і высакародна ў гэтым спаборнічаць, дык ці асмеліцца абраць сябе дзеля такой важнай справы той, хто дзеля неабходнасці павінен быць ці зрабіцца баязлівым? Амаль пры ўсіх дэмакратычных ладах не ўдзельнічалі ў выбарах тыя, хто не меў ніякай маёмасці, вольныя грэкі забаранялі рабам займацца нават жывапісам, тым больш займацца такім высакародным мастацтвам, як літаратура. Хто ж будзе дапушчаны ў такую вялікую рэспубліку, якой павінна быць рэспубліка свяшчэннага пісьменства: тыя, хто жадае, тыя, хто просіць, або тыя, хто мае патрэбу ў іншым, а не ў чыстай найвышэйшай славе? Я не лічу несправядлівым такі адбор, а факты мне гэта пацвярджаюць: або найвялікшыя пісьменнікі былі забяспечаныя самі па сабе, або былі задаволеныя ўласнай беднасцю. А калі не было ні першага, ні другога, то былі яны менш вялікімі праз усё, што ім давялося зрабіць, каб палепшыць свой лёс. І ці не павялічыў бы нашмат болей славу пісьменнікам, а чытачам — святло, радасць і карысць той, хто забраў бы ў Віргілія хваласпевы Аўгусту і Цэзарам, у Арыёста і Таса — сям'і д'Эстэ, а ў многіх іншых пісьменнікаў — усе іх хвалебныя творы або сціплыя іх паслугі?

Я так настойваю на гэтай поўнай незалежнасці, неабходнай аўтару, каб выдатна пісаць, што маю смеласць сцвярджаць наступнае. Калі б уладары, улічваючы ўмовы іх жыцця, адукацыю і звычкі, маглі калі-небудзь добра вывучыць людзей і навучыцца добра выконваць хоць якую-небудзь справу, то я лічу, што праз поўную незалежнасць і адсутнасць баязлівасці да любой іншай, больш магутнай за іх, асобы, яны маглі б несумненна быць выдатнымі пісьменнікамі: бо ніякая павага, асцярожнасць ці баязлівасць не прымусілі б іх кожны раз маўчаць або скажаць праўду, калі б было магчыма пераадолець у іх саміх прыродную да яе непрыязнасць, і кожны раз атрымлівалі б яны ад прыроды шчодрую долю і здольнасць адкрываць ісціну, якая ім была б вельмі шкодная. Але паколькі гэтага не можа здарыцца ніколі, то хай мне даруюць падобнае

фантастычнае дапушчэнне, што я прывёў у якасці простага прыклада і, выкарыстаўшы яго, вярнуся да маіх намераў. Тая прыватная асоба, якая здолее паяднаць у сабе ўсю незалежнасць уладара (але куды больш высакародная і больш законапаслухмяная, якая падпарадкоўваецца толькі памяркоўным і мудрым законам) з грамадзянскім выхаваннем, розумам, любоўю да прастаты і праўды, пры ўмове аднолькавых здольнасцяў выйдзе значна наперад многіх іншых выдатных пісьменнікаў, чаго б у іншых умовах ніколі б не здарылася.

Ну што ж, я не магу адкрыць дарогу ў сэрца сапраўднага пісьменніка ні іншаму страху, акром страху недастаткова добра пісаць, ні іншай надзеі, акрамя як стаць карысным іншым і слаўным сабе самому. Усталёўваючы падобны прынцып, падумайце, ці зможа найлепшы пісьменнік у княстве быць асобай, што жыве ў кляштары, ці сакратаром кардынала, ці сябрам акадэміі, ці прыдворнай асобай; абатам, што імкнецца да дабрабыту; бацькам, сынам ці мужам; заканаведам; універсітэцкім выкладчыкам; распаўсюджвальнікам газетных лісткоў; вайскоўцам; фінансістам; угоднікам ці любым іншым чалавекам, які з-за свайго рабскага становішча вымушаны баяцца чагосьці іншага, акрамя сораму пісаць кепска, ці жадаць нечага іншага, як цноты і славы выбітнай асобы.

Паколькі такі бязмежны натоўп непрыдатных асобаў сам сабой выключаецца з гэтага мастацтва, мне толькі і застаецца, што размаўляць з нешматлікімі прыдатнымі. Такім чынам, я звяртаюся да тых, хто імкнецца і можа стаць сапраўдным пісьменнікам, кажучы, што не могуць яны дазволіць сабе мець чыюсьці пратэкцыю без найвялікшай шкоды для мастацтва. І, на жаль, дакладна тое, што, калі яны цалкам выканаюць цяжкі свой абавязак заўсёды настойліва спавядаць і гаварыць праўду, то не будуць мець ніякай цяжкасці, каб ухіліцца ад любой пратэкцыі, калі яны стануць пісьменнікамі, за выключэннем пратэкцыі прасветленых чытачоў — адзінай пратэкцыі, якою з гонарам можна і хваліцца, і прымаць.

## Другі раздзел

### Чым ёсць літаратура — прычынай або наступствам прадажных нораваў, ад якіх яна здаецца неаддзельнай?

Але пра што я вам распавядаю? Я б хацеў, каб Катоны былі пісьменнікамі, і адначасова хацеў бы вытанчанасці, гармоніі і чысціні маўлення, як у таго, хто пакінуў самым далёкім нашчадкам аб сабе радкі *Relicta non bene parmula*[1]. Інакш кажучы, як у таго легендарнага рымскага трыбуна, які жартуе з таго, што пакінуў свой уласны шчыт у бітве, а ў наш час гэта адпавядала б таму, як нейкі палкоўнік у выдатных вершах распавёў бы, жартуючы, нашчадкам пра тое, як атрымаў поўху.

[1] Калі я бясслаўна кінуў свой шчыт (з лац.). Гарацый, Кніга II, Ода VII.

З-за якіх непапраўных чалавечых якасцяў адбываецца так, што прыгожае слова, здаецца, ніколі не атрымліваецца зніtаваць з добрымі справамі? Толькі Афіны здолелі паяднаць адразу ўсё: свабоду і мастацтва, вайсковую мужнасць і навукі, багацце і норавы, — чаго толькі не мела гэтая багаславёная зямля! Нядоўгім было гэтае жывое бруенне такіх насамрэч супрацьлеглых між сабой рэчаў; калі сталі пераважаць багацці, добры густ і мастацтвы, то свабода, вартасці, норавы і мужнасць сэрцаў паступова зніклі. Што датычыцца літаратуры і мастацтва, то я б сказаў, што Рым, як і ва ўсім іншым адрозны ад ніколі не пераўзыдзенага ім суперніка Афінаў, заставаўся ў межах чалавечых здольнасцяў і ніколі не мог паяднаць гэтыя розныя вартасці. Не ачысціў сваю гаворку, не меў вытанчаных і сапраўдных пісьменнікаў да Цыцэрона, Катула, Гарацыя, Віргілія і г.д. А па іх з'яўленні, глядзеў, як паступова слабела любоў да радзімы, саступаючы месца росту сервільнасці, а таксама пісьменства і прыгожых мастацтваў. Увогуле, пісьменнікаў залатога веку (інакш кажучы веку імператара Аўгуста) можна лічыць такімі з пункту гляджання мовы, а ў тым, што датычыцца рэспубліканскіх ідэалаў, яны — пісьменнікі веку жалеза і ланцугоў. [...]

З усяго гэтага я прыходжу да высновы, што дасканалая літаратура ў тым сэнсе, у якім яе такою лічым і якой карыстаемся мы — цывільныя, адукаваныя, вінаватыя, сціплыя, гультаяватыя, інертныя і ў большай ці меншай ступені рабскія народы, не можа існаваць інакш як у гультайстве і ў рабстве, што ёсць яе бацькам, і што пісьменства ў тым выглядзе, у якім было ў часы антычных грэкаў з вялікім памнажэннем карысці магло б зноў з'явіцца на зямным шары ў якога-небудзь разумнага народа, менш далікатнага і менш адукаванага, але тым не менш цалкам вольнага, — такая літаратура дасягнула б іншага роду дасканаласці ад суровай праўды, што з'явілася б перад вачыма людзей з усёй сваёй энергіяй, сцісласцю, відавочнасцю і натуральнасцю. Паменела б тады аратарства, якое павінна існаваць дзеля пераканання грамадзянаў у палітычных і маральных цнотах, а гісторыя і паэзія — дзеля расповяду і апісання вялікіх падзеяў, чыстага кахання, шчодрага сяброўства, бацькоўскай пяшчоты, боскіх цудаў; урэшце, філасофія, рухаючыся ў згодзе з ужо ўсталяванымі ў тым вольным і шчаслівым народзе палітычнымі правіламі і рэлігійнымі запаветамі, ніякага іншага абавязку на сябе не брала б, акрамя як рухацца наперад, захоўваючы і выпраўляючы справядлівасць думак, чысціню нораваў і мудрасць законаў.

Мне скажуць, што мы таксама клапоцімся пра тое, каб здабыць у літаратуры ўсе гэтыя перавагі. Аднак я адкажу, што нашыя мастакі не такія, каб маглі іх нам здабыць, таму што ні аратарскае майстэрства, ні гісторыя, ні сапраўдная філасофія ніколі не могуць нарадзіцца ў рабскай душы або патрапіць у вушы і сэрца рабскага народа; тым больш паэзія, створаная рабскімі аўтарамі, не можа высока разважаць аб высокіх рэчах, не засмечваючы іх памылкамі, страхам і сервільнай лісліваcцю. І такім чынам, адбываецца так, што для нас

увесь квет прыгожых прамоў і смак красамоўства ніколі не ператвараюцца, так сказаць, у покрыва праўды, і здаецца, што энергія, сцісласць, відавочнасць і натуральнасць нашых пісьменнікаў заўсёды вымучаныя ці адсутнічаюць зусім, бо не ствараюць адпаведнага тэмам стылю.

Але здараюцца пэўныя моманты, калі народ, што быў свабодным і непадступным, пераходзячы ад грубасці і сумленнасці нораваў да выхаванай прадажнасці, на імгненне яднае ў сабе два зерні былой моцы і сучаснай культуры, хай сабе саслабелыя і недасканалыя. З далейшым штодзённым памяншэннем цноты і аддаленнем красамоўства ад праўды гэтае святло, як часовая ўспышка, амаль цалкам знікае. Так Рым меў найвыбітнейшых пісьменнікаў, як па думцы, так і па вытанчанасці формы ў той кароткі век, калі ён ізноў згадаў страчаную свабоду і веліч былой рэспублікі. Нават пасля ўсталявання рабства яго першародная сіла ізноў дала паміраючый літаратуры Ювенала і Тацыта, але толькі іх адных, бо састарэла пасля ў сервільнасці і не зрабіла больш нічога вялікага. І відаць з гэтага ўсеагульнага заняпаду, што абсалютная ўлада чарговых імператараў стала пасля нават разбуральнай праз тую пустую вытанчанасць літаратуры, што, застаючыся пазбаўленай усялякай вышыні і праўды думак і атрымліваючы ў Рыме жыццё і пратэкцыю ад аднаго з тыранаў, здавалася, павінна была б атрымліваць іх і пад уладай іншых тыранаў, але пацвярджае, што мы вельмі падманваем саміх сябе, калі верым, што ўладар можа быць сапраўдным абаронцам літаратуры, нават калі тая адхіляецца ад сваёй простай і законнай мэты.

Такім чынам, на завяршэнне я скажу, што, на маю думку, дасканаласць літаратуры ў вытанчанасці (такой, як мы, на жаль, яе разумеем) куды лягчэй можа нарадзіцца ў народзе несвабодным і падкупных нораваў, чым у народзе вольным і здаровым; хоць Афіны заўсёды даказваюць нам адваротнае. Але калі так і ёсць, я лічу, што такая дасканаласць літаратуры сталася вынікам падкупнасці народа, які яшчэ некаторы час можа заставацца адначасова і падкупленым, і свабодным. Вось, мне здаецца, я патлумачыў уяўную супярэчнасць паміж Афінамі і ўсімі іншымі адукаванымі нацыямі, вядомымі пасля іх. Сапсаванасць, якая робіцца ўсё больш поўнай і надзвычайнай, не кажучы ўжо пра патухлую свабоду, псуе і вельмі хутка зусім гасіць саму літаратуру, як любую другую неабходную рэч. Але калі літаратура можа яшчэ ўхіліцца ад усеагульнага разбурэння, то яна ўсё роўна даходзіць да такога стану нізкасці, што страчваючы сваю прыроду, сама, так сказаць, робіцца прычынай сапсаванасці і ворагам праўды, і сама, скажаючы палітычныя ідэі, становіцца сапраўднай прычынай іншых нораваў, нашмат больш сапсаваных і брудных за тыя, ад якіх яны паходзяць.

У залежнасці ад розных эпох і становішчаў аднаго народа і ў залежнасці ад тыпу тых людзей, што ў ім займаюцца літаратурай, яна, такім чынам, можа быць вынікам і прычынай сапсаваных нораваў, але ў добрых руках можа таксама стаць найлепшай крыніцай свабоды і цноты.

## Трэці раздзел

**Пра тое, што літаратура нараджаецца сама па сабе, але, здаецца, мае патрэбу ў пратэкцыі, каб удасканальвацца**

Яна ёсць страсцю, што нараджаецца ў чалавеку, як толькі задавольваюцца яго першасныя патрэбы, жаданнем адрозніваца ад іншых, ствараючы лепшыя і значнейшыя рэчы дзеля ўласнай карысці і для карысці іншых. Сярод дзікіх народаў гэтая любоў да славы выяўляецца ў жаданні чалавека зрабіцца найлепшым паляўнічым ці рыбаком, сярод ваяўнічых — лепшым салдатам, сярод народаў адукаваных — лепшым палітыкам, філосафам, гісторыкам, паэтам і г.д.

Вось што мы высветлілі: першым штуршком да літаратуры, як да кожнага іншага прыгожага мастацтва, з'яўляецца натуральнае прыроджанае жаданне адрознівацца: і гэтая чалавечая страсць павінна быць пакладзена ў якасці найпершай і сапраўднай асновы мастацтва. Але здаецца сумніўным, што ў розных індывідыумах аднаго гэтага жадання, хоць яно і моцнае само па сабе, дастаткова, каб удасканальваць літаратуру; і многія пісьменнікі, асабліва пад уладай уладара, вырашылі і паверылі, што не. Я ж прытрымліваюся супрацьлеглай думкі, і паспрабую пацвердзіць яе, абмяркоўваючы гэтае пытанне з усіх бакоў. Гэта, на маю думку, адна са шматлікіх рэчаў, якая падаецца такой тым, хто не надта заглыбляецца ўсярэдзіну і хто не імкнецца многа разважаць. Кожны дзень гавораць: «Гэты маладзён несумненна мае ад прыроды вялікі талент да паэзіі, але ён паходзіць ад небагатых бацькоў, якія прымушаюць яго найперш займацца законамі, дзе ён ніколі не зможа раскрыць свой талент». На гэта адказваю я: «Гэты маладзён да такой ступені бедны, што павінен жабраваць? Не». Такім чынам, першасныя патрэбы яго не сціскаюць. Працягваю і пытаюся: «Ён атрымаў дастатковую адукацыю, якая дазваляе чалавеку забяспечыць сябе? Цудоўна, ён вучыўся і вучыўся паспяхова, бо калі б было інакш, сапраўдным вар'яцтвам з нашага боку было б лічыць яго здольным выбітна пісаць. Гэтага дастаткова, заключаю я, і калі ён сапраўды мае здольнасці, як вы дапускаеце, то гэтыя здольнасці запаляць яго і прымусяць куды мацней пісаць вершы, вучыцца і спавядаць законы, чым жыццёвыя патрэбы або гнеў бацькі. Так рабілі і боскі Петрарка, і Таса, і Авідзій, калі казаць пра старыжытных, і іншыя, пра якіх я не кажу. Калі ж ён нарадзіўся, каб быць паэтам, то выйдзе з гэтага вашага маладзёна выдатны паэт, не зважаючы ні на што, бо прырода мацней за ўсё».

Ды вельмі часта недастатковы талент і слабы імпэт блытаюцца з сапраўдным натхненнем, і таму часта плача няспелая слава многіх будучых вялікіх людзей, задушаных, так сказаць, неспрыяльнымі абставінамі, а калі б абставіны былі спрыяльныя, то расчараваліся б іншыя ў сваім салодкім чаканні. Гэта мяне прымушае паверыць і не без прычыны, што пратэкцыя можа нават пайсці на карысць пасрэдным талентам, якія дзякуючы ёй даюць мала, а без яе не давалі б увогуле нічога; але яна абсалютна шкодная вышэйшым талентам, паколькі яны б давалі нашмат больш, калі б яе не мелі. І мы знойдзем гэтаму пацверджанне ў

прыкладах. Дантэ не меў пратэкцыі: што больш вялікага ён мог бы даць? Можа быць мне скажуць: «Больш вытанчанасці», але ў яго была ўжо ўся вытанчанасць свайго часу, і меў ён яе куды большую за ўсіх папярэднікаў, што пісалі на адной з ім мове. А Гарацый і Вергілій мелі пратэкцыю, і таму далі нашмат менш, бо залежнасць і страх забіралі ў іх кожны дзень энергію, якой і так няшмат было ў іх сэрцах. Мне могуць запярэчыць, што Дантэ пры такім чыстым і далікатным двары, як двор Аўгуста, не ўжываў бы столькі грубых і непрыстойных выразаў. Адкажу, што магчыма і так, але дадам, што Віргілій і Гарацый без гэтага двара не былі б атручаны подлым падхалімствам ды ілжывасцю. Што горш?

Праўда таксама ў тым, што можа быць яны нічога б не напісалі, калі б не пратэкцыя Аўгуста, але што гэтым можна даказаць? Што іх імпэт быў слабым і другасным. Сам Гарацый бессаромна і наіўна гэта гаворыць, распавядаючы пра сябе:

*... Paupertas impulit audax,*
*ut versus facerem. Sed, quod non desit habentem,*
*qu? poterunt unquam satis expurgare cicut?,*
*ni melius dormire putem, quam scribere versus?*[2]

Ясна, што, калі аўтар, які гаворыць так пра сябе самога, і які прызнае ў якасці нагоды для свайго вершаскладання найперш неабходнасць, і што найвышэйшым шчасцем для яго з'яўляецца нічога не рабіць, не адчувае сябе безумоўна кранутым ніякім бруеннем душы, і не мае ні высакароднага характару, ні палымянага сэрца: і, такім чынам, не зробіць высакародным характар і ніколі не запаліць сэрца таго, хто яго чытае. Дык вось, Гарацый [...] павінен быў пісаць з вялікай вытанчанасцю вельмі слабыя думкі: і так насамрэч і пісаў, і так думаў, таму што ён быў народжаны, каб так пісаць і так думаць. Але Дантэ, вымушаны дзеля ўціску і нястачы бадзяжнічаць, не перастаў пісаць вершы; і ні мярзотным падхалімствам, ні замоўчанай праўдай не атруціў сваіх твораў і сябе самога. Тая самая нястача, якая прымушала Гарацыя пісаць і не дазваляла яму быць нічым іншым, як толькі прыемным пісьменнікам, не магла перашкодзіць Дантэ высока разважаць і пісаць паўнакроўна. Розныя, такім чынам, і вельмі розныя былі па прыродзе сваёй душы гэтых двух пісьменнікаў.

Але да якога заключэння я хачу прыйсці ў выніку гэтага доўгага адступлення? Што пратэкцыя ўладара можа пайсці на карысць, ці, прынамсі не нашкодзіць удасканаленню літаратуры ў плане мовы і вытанчанасці прамовы, а што датычыцца сапраўднай яе дасканаласці, якая хаваецца ў выбітнасці думкі і павінна ў асноўным выяўляцца ў свабодзе выказвання, то ёй не толькі не прыносіць карысці, але відавочна шкодзіць любы тып залежнасці [...]

**Прадмова і пераклад з італьянскай мовы Аксаны Данільчык**

---

2 51 …побуждаемый бедностью дерзкой,
начал стихи я писать. Но когда я имею достаток
полный, какие могли б исцелить меня зелия, если б
лучшим не счел я дремать, чем стихов продолжать сочиненье?
(Гораций. Полное собрание сочинений. М, Ленинградская правда, 1936. - С. 334. – Пераклад Н. Гінцбурга).

# ВЕРАСЕНЬ

# КРЫТЫКА
# ПУБЛІЦЫСТЫКА
# ЭСЭ

ірына хадарэнка васіль дэ эм
кацярына ваданосава эдуард акулін
леанід дранько-майсюк
алесь емяльянаў-шыловіч
ала петрушкевіч генадзь лапацін
таццяна мацюхіна анатоль трафімчык
вітаўт мартыненка



# Ірына Хадарэнка

паэтка, празаік, навукоўца. Кандыдат культуралогіі, дацэнт, прафесар Міжнароднай Акадэміі славянскай асветы. Выпускніца Усходне-Еўрапейскай школы палітычных даследаванняў, удзельніца Школы маладых менеджараў публічнага адміністравання. Аўтар зборнікаў паэзіі і прозы: «Лабірынты душы», «Чорная ружа», «Танцы на шкле». Нарадзілася ў 1976 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Выкраданне Еўропы

Сучасная сацыякультурная сітуацыя ўсё больш пераканаўча дэманструе: Еўропа — не столькі геаграфічны панятак, колькі семантычны, псіхалагічны і, урэшце рэшт, каштоўнасны.

Упершыню ў дачыненні да геаграфічнага арэалу тэрмін «Еўропа» быў скарыстаны на мяжы VI — V стст. да н. э. Гекатэем Мілецкім у ягоным «Землеапісанні». Пры гэтым Еўропа абмяжоўвалася Балканскай паўвыспай і спалучанымі з ёй землямі — інакш кажучы, тэрыторыяй пражывання прадстаўнікоў старажытнагрэчаскай цывілізацыі. У перыяд існавання Рымскай імперыі і значна пазней у заходнім напрамку Еўропа пашырылася да Брытанскіх выспаў, а ва ўсходнім — да адпаведных межаў Рэчы Паспалітай.

Таму, калі ў XVIII ст. Пётр I падкупіў нямецкага картографа Гумбальта, каб той пашырыў еўрапейскія межы на ўсход, — гэта была сапраўдная авантура па «прарубанні вакна» ў Еўропу — значна больш істотная за заснаванне Пецярбурга. Замест таго, каб галантна пагрукацца ў дзверы і, ласкава атрымаўшы запрашэнне, увайсці ў цывілізаваны свет, рускія вырашылі па-махлярску ўлезці туды праз вакно, бо ім насамрэч карцела пачуваць сябе еўрапейцамі, а не дзікімі азіятамі.

Сёння, гледзячы на мапу кантынента, мы разумеем, што мяжа Еўропы ўздоўж Уральскіх гор — гэта абсурд і гістарычная памылка. Мяжа Еўропы цяпер мусіць заканчвацца за басейнам ракі Днепр, і ў гэтым выпадку апошнім бастыёнам паміж Захадам і Усходам з'яўляецца Беларусь.

Паводле міфалогіі, Еўропа — прыгожая дачка фінікійскага цара — была выкрадзена Зеўсам у абліччы быка і звезена на Крыт. Беларусь, у сваю чаргу, была выкрадзена са сваёй спрадвечнай калыскі — Еўропы — праз прыгнятальную палітыку Расійскай імперыі, а пасля і Савецкага Саюза, каб загрувасціцца азіятчынай, сервілізмам і надакучлівымі мантрамі пра «славянскае братэрства».

Вядомая з часоў Івана Жахлівага палітыка «збірання земляў» сёння трансфармуецца ў фармаванне дзіўнаватай канструкцыі пад назвай Еўразійскі Саюз, які, як вядома, будуецца на аскепках былога СССР. Падмурак новага формаўтварэння падмацоўваецца не толькі прагай расейцаў да захавання панавання ў рэгіёне, але і шматбаковымі крызіснымі працэсамі ў Заходняй і Паўднёвай Еўропе.

Калісьці Даніэль Фрыдрых Ліст, разам з іншымі прадстаўнікамі нямецкай палітэканоміі, разглядаў эканоміку як частку гаспадарчай культуры таго ці іншага народа і падкрэсліваў, што «нацыя — гэта прамежкавая ступень паміж індывідам і светам, якая аб'ядноўвае сваіх чальцоў патрыятычнай сувяззю». Відавочна, што бягучыя эканамічныя праблемы паўднёвых рэгіёнаў Еўропы шмат у чым абумоўлены не толькі нацыянальнымі традыцыямі і асаблівасцямі менталітэту мясцовага насельніцтва, але і глабалізацыйнымі працэсамі.

Сімвалічнай алегорыяй да сітуацыі ў еўрапейскай культурнай прасторы можа выступіць вядомая карціна «Terror Antiquus» (“Старажытны жах”) нашага земляка, народжанага ў Гародні, мастака Лявона Бакста, з той толькі розніцай, што цяперашні жах для еўрапейцаў спалучаны не з містычным Фатумам, а з калапсам сістэмы каштоўнасцяў, якая выяўляе слабы імунітэт перад наплывам чужынцаў.

Захоп Рыма варварамі, бясспрэчна, не быў выпадковасцю — кожная імперыя, як і кожная цывілізацыя, пачынае хіліцца да распаду, калі, выкарыстоўваючы тэрміналогію Льва Гумілёва, рэзка змяншаецца пасіянарная энергія ў грамадстве, а месца эліт пачынае займаць маргіналізаваная пасрэднасць. У моду ўваходзяць фрыкі, вычварэнні ўзносяцца на ўзровень нормы, а разняволенасць і лагоднае стаўленне да іншаземных уплываў істотна павышаюць верагоднасць асіміляцыі з боку больш актыўных і агрэсіўных супольнасцяў.

Еўрапейцы настолькі захапіліся гульнёй ва ўсеагульную талерантнасць, што, здаецца, забыліся пра першапачатковае медыцынскае значэнне гэтага слова — неўспрымальнасць арганізма да антыгену, або адсутнасць імуналагічнай рэакцыі да іншародных целаў. І як на фоне гэтай усеагульнай талеранцыйнай істэрыі існаваць чалавеку, які, напрыклад: 1) не з’яўляецца нейкім там трансгендарам; 2) не належыць ні да якой канфесіі, прадстаўнікам якіх увесь час мроіцца «знявага» іхніх рэлігійных пачуццяў; 3) наўпрост паходзіць з адной з так званых «тытульных» нацый і шануе традыцыі сваіх продкаў, а не шпацыруе з папулярным штандарам касмапалітызму і барацьбы з «нацыяналістычным цемрашальствам»?..

У нашых рэаліях досыць часта можна пабачыць заклікі да ўдзелу ў разнастайных семінарах, прысвечаных развіццю талерантнасці і мульцікультурнасці. Але чаму б нашым заходнім (і асабліва — усходнім) суседзям не павучыцца талерантнасці ў беларусаў? У гэтым кірунку мы ўжо даўно можам пасяхова спаборнічаць за ролю сусветных лідараў, бо канфлікты на міжнацыянальнай або рэлігійнай глебе ў Беларусі — з’ява настолькі рэдкая, што падаецца форсмажорным выпадкам. Але ёсць і другі бок медаля — беларусы настолькі прызвычаіліся рабіць рэверансы ў бок іншых культурных традыцый, што амаль страцілі сваю, якая або прадстае ў выглядзе напаўпрыхаванай партызаншчыны, або прэзентуецца (у тым ліку, і ў медыясферы) амаль як экспанат кунсткамеры. Дадамо сюды і адпаведныя посткаланіяльныя комплексы — прыстасавальніцтва, прагу да стабільнасці, невысокі ўзровень амбітнасці (памкненне «быць, як усе, не вылучацца”), а таксама рэха вынікаў культурнага імперыялізму — настальгія па савецкасці, успрыманне рускай культуры як сваёй, выхаванне на ўзорах і артэфактах пераважна з культурнай прасторы суседзяў.

Пакуль Заходняя Еўропа сарамліва хавала твар і заставалася агорнутай у коўдру калектыўнай віны за каланізатарскую мінуўшчыну і наступствы нацысцкіх рэжымаў, Расія працягвала па-мазахісцку цкаваць і нішчыць сваіх суайчыннікаў, ніводнага разу нават не зварухнуўшыся, каб засведчыць факты

генацыду ў форме фізічнага знішчэння велізарнай колькасці продкаў сучасных беларусаў — ліцьвінаў — у сярэдзіне XVII ст., а таксама таго ж генацыду ў форме прымусовай дэпартацыі шматлікіх прадстаўнікоў народаў Каўказа і Сібіры. Пакаяння пакуль немагчыма дачакацца і ад Турцыі, якая дагэтуль адмаўляецца прызнаваць генацыд армян, грэкаў і асірыйцаў, і працягвае марыць аб адраджэнні Атаманскай імперыі. Верагоднасць апошняга, між іншым, значна ўзрасла б у выпадку афіцыйнага прыняцця Турцыі ў склад Еўрасаюза.

Асноўнымі прыкметамі імперыі могуць выступаць наступныя:

— экспансіўная знешняя палітыка;

— няспыннае падтрыманне ваеннай моцы;

— цэнтралізацыя ўлады;

— наяўнасць шматнацыянальнага паліткультурнага грамадства;

— укараненне практыкі культурнага імперыялізму на падпарадкаваных тэрыторыях.

На бягучы момант на ролю імперый у самым агульным сэнсе могуць прэтэндаваць толькі дзве краіны — Расія і Злучаныя Штаты. Еўрасаюз, нягледзячы на ягоны памер і адносную уніфікацыю ў кіраванні, усё ж такі да «імперыялістычнага» статуса крыху не дацягвае. Як не было імперыяй і Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, знешняя палітыка якога грунтавалася на абароне сваіх тэрыторый, а не захопе новых уладанняў, а ўнутраная — не на дагматычным навязванні сваіх культурных практык і каштоўнасцяў, а на стымуляванні лагоднага суіснавання лакальных супольнасцяў.

Кожная імперыя, якой бы магутная яна ні была, з цягам часу пачынае пераходзіць у фінальную стадыю свайго існавання. Аднак, калі прагназаванне распаду ЗША сёння было б недарэчнасцю, дык аналагічная гіпотэза ў дачыненні да Расійскай Федэрацыі можа спраўдзіцца ўжо нават пры нашым жыцці. І нічога добрага ад гэткай перспектывы чакаць не даводзіцца — хаос у суседзяў заўсёды негатыўна ўплываў і на нас.

Наогул, любая імперыя — гэта Мінатаўр, які сядзіць у лабірынце дэспатычнай ідэалогіі і якому перыядычна трэба падсілкоўвацца чалавечымі ахвярамі. Таму фактычна імперыялізм і генацыд у гісторыі існуюць поруч.

Вядома, працэс прызнання генацыду складаны не толькі з маральна-этычнага пункту гледжання. Факт прызнання такой з’явы звычайна вымагае пэўных наступстваў, у тым ліку, наяўнасці кампенсацыйных выплат і прамой або ўскоснай культурна-гістарычнай прамоцыі народаў-ахвяр. Але пакуль тэматыка генацыду на ўзроўні сусветнага геапалітычнага ландшафту амаль цалкам «прыватызавана» Ізраілем, іншым застаецца толькі цярпліва чакаць, покуль у інфармацыйным віры дойдзе чарга да іхніх гістарычных праблем.

Адмаўленне прызнання фактаў генацыду часта суправаджаецца тлумачэннем кшталту таго, што гэта была грамадзянская вайна або праява таталітарнай палітыкі. Аднак сістэмнае забойства і высяленне тысяч людзей, наўмыснае вынішчэнне прадстаўнікоў мясцовай эліты, стварэнне невыносных умоў для



*Л. Бакст «Старажытны жах»*

жыццядзейнасці насельніцтва — гэта менавіта праявы генацыду, а не чагосьці іншага, таму ўсталяванне своеасаблівай «манаполіі» на прызнанне такіх фактаў у дачыненні да той ці іншай этнічнай групы — справа недапушчальная.

Падаецца, што сучаснай Еўропе патрэбны якасны SWOT-аналіз і чарговая пераацэнка каштоўнасцяў. Проста на «аўтапілоце» працягваць дэклараваць роўнасць правоў і дэмакратычнасць прынцыпаў функцыянавання грамадскага ладу ўжо недастаткова. Праблема, безумоўна, не ў роўнасці правоў і дэмакратыі як такой, а ў разнастайнасці іхніх трактовак. «Святое пісанне» найноўшага часу пад назвай «дэмакратыя» набывае сёння надзвычай розныя формы ў залежнасці і ад асаблівасцяў разумення дадзенага феномену, і ад характару маніпулявання гэтым паняццем тымі ці іншымі палітычнымі коламі. Апроч таго, даўно варта паклапаціцца аб культурным пратэкцыянізме, бо «Заход Еўропы» Освальда Шпэнглера па-ранейшаму актуальны. «Варварызацыя» і кардынальная трансфармацыя Еўропы непазбежныя з-за велізарнага наплыву нелегальных імігрантаў і крызісу палітыкі мульцікультуралізму.

Некантралюемы натоўп імігрантаў з Усходу ўжо ў бліжэйшай перспектыве моцна зменіць не толькі характар агульнаеўрапейскай культуры, але і ў чарговы раз сам змест паняцця «Еўропа». Апошняя можа віртуалізавацца да такой ступені, што ператворыцца ў аналаг сучаснай Атлантыды, пра якую дагэтуль дакладна вядома толькі тое, што яна некалі існавала і вылучалася высокім узроўнем развіцця. Таму ёсць рызыка, што ў гістарычным плане справа не абмяжуецца здзейсненым некалі метафарычным «выкраданнем» пэўных еўрапейскіх этна-супольнасцяў (як, напрыклад, ліцьвіны-беларусы) з Еўропы. Магчыма, і сама Еўропа як культурная прастора можа быць выкрадзена з уласнай лакацыі, ператвараючыся ў эфемерны міраж мінулага...

*Родас, жнівень 2015*

**Фота Анастасіі Лях**



# Васіль Дэ Эм

(Васіль Дранько-Майсюк) — драматург, акцёр, дзіцячы педагог, мастак. Скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў (рэжысура драмы). Працаваў у тэатрах РТБД (дзе паставіў музычную камедыю «Шчаслівы муж» паводле Ф. Аляхновіча), СНАРК (г. Масква). Зараз працуе ў Тэатры юнага гледача. Друкаваўся ў «Літаратурнай Беларусі», «Дзеяслове», «Тэкстах», «Верасні». Аўтар п’есы «Пясняр», якая зараз ідзе на сцэне НДТ імя М. Горкага. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

# Шчаслівая залежнасць, альбо Час прыборкі прэлага лісця...

## 1.

Беларуская савецкая літаратура...

Беларуская дарэвалюцыйная літаратура...

Прыемна адкрываць у вядомым невядомае, знаходзіць нешта такое, што да цябе ніхто не бачыў...

Прыемна, але ж у выніку становіцца вельмі прыкра.

Прыкра ад вядомай, такой балючай, магчыма, нават ужо і банальнай у сваёй праўдзівай заўсёднасці, думкі — ні савецкая беларуская літаратура, ні дарэвалюцыйная, намі як след не прачытаная, не прааналізаваная, не пераасэнсаваная.

Мы не толькі не цікавімся творамі нашых пісьменнікаў другога шэрагу, але нават як след да канца не ўяўляем, што сабой прадстаўляе да прыкладу творчасць Якуба Коласа, альбо Міхася Зарэцкага, Янкі Маўра ці Андрэя Макаёнка, Міхася Лынькова і Аркадзя Куляшова.

Дзе ярка-змястоўныя артыкулы, што паказваюць нам Якуба Коласа жарсным, эмацыйна-ранімым чалавекам, якому «шанцавала» на нешчаслівыя каханні (прыгадаем яго дзівосную лірыку 1940-х гадоў)? Дзе аналіз імпульсіўнанасычанай, як італьянскія вестэрны, прозы Івана Шамякіна? Дзе манаграфія пра першую антыўтопію ў беларускай літаратуры «Падарожжа ў пекла» Янкі Маўра? У якой кнігарні ці бібліятэцы можна пазнаёміцца з падобнымі даследаваннямі? І гаворка ідзе толькі пра самых што ні на ёсць класікаў, імёны якія ведаюць са школы.

Мы (г. зв. інтэлігенцыя, крытыкі, літаратуразнаўцы, тэатральныя рэжысёры) не чытаем сваё. А калі раптам нешта і чытаем, то не хочам і не ўмеем цікава, па-новаму прадставіць творы нашых літаратараў у артыкулах, рэцэнзіях, хрэстаматыях, спектаклях.

А навошта? Дастаткова ж проста напісаць, што адзін пісьменнік «любіць свой народ...», другі складаў вершы «замілаваны роднай прыродай», той «апостал нацыі», а гэты «вялікі сын сваёй бацькаўшчыны». Дастаткова проста пісаць пустыя словы, якімі мы закідваем постаць пісьменніка, як восеньскім прэлым лісцем, і закідваем так шчодра, што нават рэальных абрысаў творцы не бачна.

Такім чынам, калі вучань альбо студэнт, хоча вывучыць асобу таго ці іншага пісьменніка, то атрымоўвае не цікавы, аб'ектыўны і ЗМЯСТОЎНЫ партрэт літаратара, а проста гурбу прэлага, гнілога лісця. А падобныя крытыкі і літаратуразнаўцы становяцца магільшчыкамі нашых класікаў.

Не падрыхтаваныя НАМІ да ўспрыняцця складана-апісальніцкіх раманаў Івана Чыгрынава, тонка-асацыятыўнай прозы Міхася Стральцова, напалоха-

ныя (як спецыяльна падабранай!) рэвалюцыйнай паэзіяй Цёткі ці дыдактычнымі творамі Пімена Панчанкі (бо навошта шукаць у вялікай спадчыне гэтых двух паэтаў другіх, эстэтычна больш цікавых рэчаў?) вучні, альбо студэнты цалкам натуральна могуць падумаць: «А ну яе, на фіг, такую літаратуру!»

Многія такія вучні, калі вырастаюць у модных культуролагаў, рэжысёраў, празаікаў і паэтаў — могуць затым бяздумна заяўляюць, што «беларускія пісьменнікі пішуць не па-людску». І гавораць яны гэта шчыра, бо ў іх занадта слабы зрок, каб разгледзіць пад накіданым іх настаўнікамі смеццем ТВОРЦУ, у іх занадта слабыя рукі, а ўсё цела паралізавана лянотай, каб прыбраць гэты бруд, каб разгрэбсці і спаліць, нарэшце, гэтае прэлае лісце.

## 2.

Школьнікам я амаль не чытаў беларускіх пісьменнікаў. Так, я разумеў, што гэта наша літаратура, яе трэба любіць, ведаць і г.д. і г.д., але ж чытаць яе не хацелася.

Было нудна.

І зараз сорамна згадваць, якія сачыненні я пісаў пра таго ці іншага нашага паэта альбо празаіка. Які б небудзь сучасны сцебануты гамбургскі рахункавод Б. запляскаў бы ў ладкі такім сачыненням.

Усё змяніла Масква.

Кожнае лета я ездзіў туды да сваёй бабулі — Валяніцны Міканораўны Шчадрыной. Тое, што яна да выхаду на пенсію была кансультантам па беларускай літаратуры ў СП СССР і перакладала нашых пісьменнікаў, мяне неяк асабліва не цікавіла. Цаніў я больш яе кулінарныя таленты — яна лепш чым хто ўмела гатаваць катлеты.

І трэба ж здарыцца, што ў адзін з летніх прыездаў я захварэў. Грып. 39-40 градусаў! А на вуліцы, прыкладна такая ж гарачыная. Жах!

Вочы баляць, цела ломіць — ні чытаць, ні маляваць, ні глядзець тэлевізар не магу. А сумна ж! «Бабуля, пачытай мне!» «А што табе пачытаць?» «Ну, мо пра Тарзана ці хаця б там якога Булгакава!»

Баба Валя дастала нейкую кнігу, якая была напісана па-беларуску. «Я ж прасіў...», — хацеў перапыніць чытанне, але не змог. Бабуля чытала роўным, спакойна-неэмацыйным тонам. Але тое, што яна прамаўляла, зачароўвала, захапляла.

Гэта быў раман Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім».

У гэтым творы дзейнічалі незвычайныя людзі. Па свайму спрыту і сіле яны былі не горшыя за Тарзана ці авантурыстаў-супермэнаў Луі Бусенара.

І гэта былі беларусы!

Ніякіх лапцяў, ніякага наракання і енку, ніякіх слёз!

На старонках «Каласоў...» паўставалі моцныя і гордыя беларусы-арыстакраты. Такога яшчэ я не сустракаў.



Асабліва мяне ўразіў эратызм рамана. Гэта пазней я зразумеў, што беларуская літаратура (творы Міхася Зарэцкага, Івана Чыгрынава, Івана Шамякіна, Міхася Стальцова, Міхася Лынькова) эратычна-разняволеная (толькі гэтая разняволенасць не плакатнага кшталту, маўляў вось я якая, а як бы крыху прыхаваная).

Юны, па-сутнасці яшчэ зусім падлетак, Алесь Загорскі кахае такую ж па-джульетаўску юную Майку Раўбіч. У адным з разделаў, яны вымушаны спаць

разам у нейкай закінутай хаце. Як пісьменнік перадае гэты хлапеча-усхваляваны настрой, гэтае ап’яненне ад эратычнага жадання, калі вось яна, каханая, ляжыць побач! Можна абняць яе, пацалаваць, авалодаць, урэшце, але ж... не! Сорам, выхаванне і перадусім страх, што адзін неасцярожны рух — і ты згубіш яе назаўсёды.

Вось другая сцэна. Алесь пасварыўся з Майкай. Яны не бачацца. Ён пакутуе. Ноччу да яго ў пакой прыходзіць актрыса Гелена. Яна дорыць спакутванаму маладому чалавеку шыкоўную ноч кахання.

Падобныя сцэны (асабліва, калі ты сам падлетак!) ўражвалі. Гэтага я не знаходзіў ні ў раманах пра Тарзана, ні ў «Прыгодах у краіне Бізонаў» Луі Бусенара.

Твор Караткевіча стаў для мяне лепшы за любыя лекі. Праз колькі дзён я акрыяў.

Я адкрыў для сябе ўнутрана свабодную, нечаканую беларускую літаратуру.

Я адкрыў для сябе ЖЫВОГА пісьменніка.

Бабуля Валя не толькі чытала мне яго творы, але і расказвала пра самога Караткевіча.

Вось ён на Чорным моры злавіў сапраўдную акулу; вось ставіць пласцінку Забэйды-Суміцкага і пад оперныя арыі гатуе-чаруе, па аднаму яму вядомаму старадаўняму рэцэпту, каву; вось ён вучыць, як трэба правільна страляць са шляхецкага пісталета 18-га стагоддзя; а вось, хваліцца, што яго кнігі настолькі папулярныя, што іх нават з бібліятэк крадуць.

Вярнуўшыся ў Менск, я перачытаў усе творы гэтага пісьменніка, а перачытаўшы, падумаў: няўжо толькі ён адзін варты ўвагі?

Прыгодніцка-гістарычная творчасць Караткевіча заахвоціла мяне па-іншаму зірнуць на нашу літаратуру.

Я пачаў чытаць Шамякіна (спярша дзеля смеху, ведама ж савецкі партыйны раманіст, чым ён можа здзівіць?) А ён мяне здзівіў. Вострай інтрыгай, па-галівудску выразна выяўленым канфліктам, кінематаграфічна-запамінальнымі вобразамі (як не згадаць аповесць «Шлюбная ноч», дзе аголеная купальшчыца-партызанка расстрэльвае ва ўпор паліцая з ягонага ж аўтамата).

Мяне загіпнатызаваў Іван Чыгрынаў сваім медытатыўным (і такім несавецкім па духу!) раманам «Плач перапёлкі».

Я быў зачараваны дзівосна-паэтычнай прозай Цёткі і па-новаму ацаніў яе выбуховыя вершы, часоў рэвалюцыі 1905-га года.

Мяне ўзрушыў непрыхавана-жорсткі раман «На чырвоных лядах» Міхася Лынькова.

Ашаламіла касмічнасць раманаў Кузьмы Чорнага «Сястра» і «Зямля».

Узрадавала вострая самаіранічнасць Францішка Аляхновіча.

Захапіла экспрэсіўная адкрытасць вершаў Пімена Панчанкі.

Ніколі не адчуваў сябе залежным.

Ні ад цыгарэт, ні ад алкаголю.

Але калі пачынаеш разумець, што гаючая энергетыка нашых савецкіх і дарэвалюцыйных пісьменнікаў мацней за істэрычна-няпэўнае культурніцкае надвор'е рэчаіснасці, калі разумееш, што дзякуючы ўплыву іх твораў, ты адчуваеш сябе абароненым ад любога грыпу, — то не сорамна прызнацца ў залежнасці.

Так, я стаў залежным.

Маім опіумам, алкаголем, какаінам — сталі непадманна-яркія творы беларускіх літаратараў — той унікальны наркотык ад спажывання якога ты становішся духоўна моцным.

Бабуля Валя адкрыла для мяне пісьменніка Уладзіміра Караткевіча.

Пісьменнік Уладзімір Караткевіч адкрыў для мяне ўсю беларускую літаратуру.

Прыйшоў час прыборкі прэлага лісця.

*19-21 кастрычніка, 2015 г.*



# Кацярына Ваданосава

паэтка, музыка. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка. Лаўрэат конкурсаў бардаўскай песні: «Пецярбургскі акорд — 2008», «ОРРА — 2009» і «Бардаўская восень — 2009». Нарадзілася ў 1986 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Неба ў глыбіні душы...

***Яе называюць беларускай Мерыдай — прынцэсай з «адважным сэрцам». Абсягу яе творчых захапленняў можна толькі пазайздросціць: музыка, паэзія, пепраплётная справа, дэкаратыўная каліграфія, вышыўка, шытво, выраб жаночых упрыгожванняў, рэстаўрацыя мэблі, праца фотамадэллю... А яшчэ яна лаўрэатка адразу некалькіх прэстыжных песенных фестываляў і маці дваіх цудоўных дзетак... Знаёмцеся — Кацярына Ваданосава!***

**Эдуард Акулін:** — *Пачнем нашу гутарку з «Alta mente». Так называўся створаны вамі музычны гурт, што ў перакладзе з лаціны азначае « У глыбіні душы»... Як і калі ўзнікла ідэя стварэння гэтага музычнага праекта? Што легла ў аснову музычнай стылістыкі калектыву?*

**Кацярына Ваданосава:** — Ідэя стварэння гурта з'явілася ў маёй галаве яшчэ ў далёкім дзяцінстве. Мой бацька быў музыкантам, у доме заўсёды гучала музыка, і, колькі сябе памятаю, мне заўсёды хацелася выступаць на сцэне. Потым, калі мне было 4 гады і бацька пайшоў з жыцця, ідэя стварэння музыкі набыла для мяне крышку маніякальны характар: страшэнна хацелая даказаць камусьці (на той момант пераважна цацкам ды маме), што я змагу стаць такой, як тата, нават без нічыёй падтрымкі. На жаль, здзейсніць у поўнай ступені сваю мару я змагла толькі ва ўніверсітэце, калі знайшла некалькіх аднадумцаў, якія не толькі ўмелі граць, а яшчэ і змаглі вытрымаць мой даволі няпросты характар. А стылістыка музыкі была прадыктаваная маімі музычнымі перавагамі: з самага дзяцінства я ведала на памяць усе песні «Бітлз», у кватэры была сабраная агромністая фанатэка на вініле, і «Led Zeppellin», «Deep Purple», «The Doors», «Pink Floyd» ды іншыя аксакалы класічнага року выхавалі мой музычны густ. Пазней праз рок я прыйшла да фольку — спачатку ў ягоным больш сучасным выглядзе (той жа «Jethro Tull», напрыклад), а потым і да велізарных пластоў народнай музычнай культуры, а таксама сярэднявечнай музыкі. Мне вельмі пашанцавала: сям'я, а таксама 11 гадоў вучобы ў музычнай школе сфарміравалі мой музычны сусвет, у якім не знайшлося месца для звычайнай папсы.

**Э.А.** — *Па якім крытэры адбіраліся ўдзельнікі гурта? Як часта і ў сувязі з чым мяняўся склад музыкаў?*

**К.В.** — Першы ды найважнейшы крытэр — гэта жаданне граць ды хадзіць на рэпетыцыі. Таксама важны ўзровень валодання інструментам — ён павінен быць хаця б прыстойным. Ну і, што немалаважна, трэба вытрымліваць мае заўвагі ды апантанасць творчасцю. Склад гурта мяняўся па розных чынніках: часцей за ўсё людзям проста не хапала цярпення (бо працэс стварэння песень, аранжыровак ды вывучэнне матэрыялу — даволі руцінная насамрэч праца), і яны ціхенька сыходзілі. Часам мы проста не маглі «прыцерціся» характарамі — натхненне не церпіць псіхалагічнага дыскамфорту...

**Э.А**. — *У адным з інтэрв'ю вы назвалі «Alta mente» — «музейным гуртом». Чаму?*

**К.В.** — Таму што склад гурта поўнасцю акустычны, тэксты ды музыка даволі сур'ёзныя — гэта не кабацкія разухабістыя прыхлопы-прытопы, якія даспадобы большасці звычайных людзей. Для нашых выступленняў патрэбная вельмі інтымная, удумлівая атмасфера, калі слухачы могуць асэнсаваць тое, што яны чуюць, ды атрымаць нейкія эмоцыі, недаступныя ў паўсядзённым жыцці, а калі мы добра адыграем — катарсіс нават перажыць, хаця б маленечкі такі, кароценькі катарсічак!.. Музейныя прасторы якраз у найбольшай ступені пасуюць для падобных выступленняў.

**Э.А.** — *Працэс стварэння песеннага рэпертуару для гурта — калектыўны? Ці гэта асабіста ваша творчая прэрагатыва?*

**К.В.** — Я пішу тэксты ды мелодыю. Раней пісала і партыі для ўсіх інструментаў, але зараз з цяперашнімі сваімі музыкамі спрабую адысці ад гэтай даволі заганнай практыкі: згадзіцеся, што, напрыклад, партыю для цымбал прасцей напісаць цымбалісту, чым вакалісту, бо я не дужа ведаю ўсе тэхнічныя акалічнасці валодання гэтым інструментам. Таму зараз мы практыкуем пэўныя «мазгавыя штурмы»: я паказваю песню, задаю стылістычны накірунак, мы садзімся ды калектыўна прыдумваем кожнаму ягоную партыю. Канешне, гэта не тычыцца сэсійных музыкаў: ім ноты прапісваю я.

**Э.А.** — *Чыёй ініцыятывай стала прыўнясенне ў канцэртную дзейнасць гурта «балканскіх матываў»? Я маю на ўвазе выкананне сербскіх, македонскіх і баснійскіх песень?*

**К.В.** — Маёй. Мне вельмі падабалася балканская музыка: дзікая сумесь еўрапейскай ды ўсходняй традыцый, нечаканыя для нашага вуха хады ды пульсуючы нязвыклы рытм. Але зараз я крышку адышла ад «балканшчыны». Мы граем выключна напісаны мною матэрыял. Бо народныя, напрыклад, сербскія матывы лепш за ўсё сыграюць самі сербы, а вось мае песні, акрамя мяне, не сыграе ніхто...

**Э.А**. — *Што стала плёнам творчай працы гурта «Alta mente» — канцэртная дзейнасць, студыйныя запісы, выпуск кампактдыску?*

**К.В.** — Так, гэта шматлікія канцэрты, некалькі запісаў, розныя музычныя ўзнагароды, а таксама асэнсаванне таго, якое менавіта зерне я хачу ўзрошчваць на музычнай ніве.

**Э.А.** — *Чаму ўзнікла неабходнасць стварэння новага калектыву — «Птушыным шляхам»?*

**К.В.** — Па-першае, мне насамрэч вельмі не падабалася назва старога калектыву. Яна аказалася вельмі цяжкатраўнай для славянскага вуха. А, па-другое, склад гурта столькі разоў мяняўся, што я не бачыла сэнсу называць аднымі і тымі ж словамі арганізм, састаўныя часткі якога поўнасцю змяніліся з моманту яго стварэння. Але «Птушыны шлях» не надта дапамог мне ў вырашэнні гэтай праблемы. Я зразумела, што музыканты прыходзяць ды сыходзяць, а я заста-



*У вобразе Мадонны*

юся, і называць нейкай (любой) назвай тое, што па сутнасці з'яўляецца вельмі аморфнай адзінкай, немэтазгодна. Таму зараз я выступаю проста як Кацярына Ваданосава, але з дапамогай музыкантаў — ансамбля, у якім ёсць маленькі касцяк-«шкілет», а «мышцамі» ён абрастае па ступені неабходнасці.

**Э.А.** — *Хто ці што падштурхнула вас да захаплення музыкай? Дзе вы атрымалі азы музычнай адукацыі?*

**К.В.** — Як я ўжо казала, першым правадыром у свет музыкі для мяне стала сям'я: тата, а за ім старэйшы брат, з якім у мяне 13 гадоў розніцы ды якому прыйшлося замяніць мне бацьку, калі той памёр. Для мяне не паўставала пы-

тання, ісці ці не ісці ў музычную школу: усё было передвырашана, прычым перадвырашана мной. Пасля 9 класаў музычнай школы (якую я ненавідзела, уласна кажучы), я перавялася ў гімназію з музычна-педагагічным класам, дзе адвучылася яшчэ два гады. Але працягваць адукацыю ў гэтай плыні не стала, бо зразумела, што мне ў значна большай ступені падабаецца рабіць сваю музыку, чым граць чужую. Канешне, зараз адчуваю: мне часта нестае ведаў, і тыя моманты, якія мне даюцца цяжкім эмпірычным шляхам, былі б значна прасцей дасяжныя шляхам тэарэтычным, але на момант выбару вышэйшай адукацыі я гэтага яшчэ не разумела.

**Э.А.** — *З чым звязана ваша імкненне да інструментальнай разнастайнасці: фартэп'яна, гітара, акарына?..*

**К.В.** — Я проста люблю гучанне розных інструментаў і ўсё. Таксама быў у маім жыцці перыяд, калі здавалася, што валоданне рознымі інструментамі зможа замяніць мне ансамбль: я проста буду сама пасцежкава запісваць партыі, потым зводзіць іх у песні, і атрымаецца шэдэўр. Але зараз мне ўсё ж-такі падаецца, што мультыінструменталіст — гэта чалавек, які не валодае нармальна ніводным інструментам, і я імкнуся займацца пераважна тым, што атрымліваецца лепш за ўсё: пісаць песні, а потым спяваць іх. І «дэлегаваць паўнамоцтвы» — інструментальныя партыі аддаваць на водкуп прафесіяналам.

**Э.А.** — *У 12 нумары «Верасня» вы дэбютавалі вялікай вершаванай нізкай... А ці памятаеце вы свае першыя паэтычныя крокі? На якой мове вы пачалі пісаць? Ці плануеце выданне вершаванага зборніка?*

**К.В.** — Вершы я прыдумвала яшчэ ў дзіцячым садочку. У памяці захаваліся ўрыўкі з жыцця: бацькі вядуць мяне дадому, а я ім расказваю нейкія вер-



шаваныя «опусы» свайго сачынення. А таксама ў нас з мамай была гульня, якая называлася «палка-сялёдка» (як алюзія на Нязнайку, які хацеў стаць паэтам ды рыфмаваў гэтыя словы). Мы загадвалі адна адной словы і прыдумвалі на іх рыфмы ці нават вершаваныя радкі. Тое, што можна назваць канкрэтна вершамі, стала з'яўляцца падчас навучання ў школе. Некалькі разоў мяне прасоўвалі на нейкія конкурсы, выступленні, але ніхто не сказаў мне, што гэта можа быць сур'ёзнай справай, таму да вершаскладання я ставілася як да свайго асабістага ды крышку ганебнага з боку атачэння занятку. Сярод сваіх аднакласнікаў я заслужыла рэпутацыю «ненармальнай». Першыя вершы, як ні дзіўна, былі па-беларуску: пачатковыя чатыры гады ў школе прыйшліся на беларусізацыю, навучанне вялося цалкам на беларускай мове, і пачаць пісаць менавіта на ёй было для мяне абсалютна натуральнай з'явай. Цяпер у сваім арсенале я маю даволі шмат твораў (з іх на музыку пакладзена больш за сотню), і, канешне, выданне хоць невялічкага зборнічка было б для мяне вельмі ўрачыстай падзеяй. Але я зусім недасведчаная ў плане ўсіх арганізацыйных акалічнасцяў гэтага працэсу, а таксама вельмі не люблю нахабна «прасоўваць» сваю творчасць. Таму, як сціплая Асоль, чакаю свайго літаратуразнаўчага Грэя, які возьме мяне за руку ды выведзе ў паэтычны свет, дзе мне падкажуць, што трэба рабіць для выдання ўласнага зборніка вершаў.

**Э.А.** — *Каго з беларускіх паэтаў вы лічыце сваім духоўным настаўнікам?*

**К.В.** — Духоўны настаўнік — вельмі моднае зараз азначэнне, і я, уласна кажучы, не надта яго люблю. Няма ў мяне настаўнікаў. Ёсць тыя, чыя творчасць натхняе, працінае душу, робіць больш добрай, разумнай, спагадлівай. Напэўна, усё даволі трывіяльна, але гэта ў першую чаргу — Караткевіч ды Багдановіч.

**Э.А.** — *Назавіце свае любімыя творы з сусветнай класікі.*

**К.В.** — «Уладар пярсцёнкаў» Толкіна (думаю, што магу назваць гэты твор класікай, хаця масавая культура зрабіла яго і сваім здабыткам), «Майстар і Маргарыта» Булгакава, «Цяжка быць богам» Стругацкіх.

**Э.А.** — *Што, акрамя сціплага заробку, дае вам праца ў Купалаўскім музеі?*

**К.В.** — Сыходзячы з таго, што я агулам ужо больш за чатыры гады ў дэкрэце, зараз не магу пахваліцца нейкімі подзвігамі на ніве музейнай працы. Раней — адчуванне таго, што я веру ў дасягальныя ідэалы, і ў мяне ёсць аднадумцы, для якіх беларуская культура — не міф ды не здранцвелы мярцвяк. Ну, а таксама я магла многа чытаць, пашыраць літаратурны кругагляд, а таксама ладзіць розныя мерапрыемствы ды імпрэзы не толькі «дзеля птушачкі», але і для душы.

**Э.А.** — *Аднойчы вы прызналіся, што «кладзецеся спаць з планамі на заўтра»... Гэта таму, што абсяг вашых творчых захапленняў проста неверагодны: музыка, паэзія, пепраплётная справа, дэкаратыўная каліграфія, вышыўка, шытво, выраб жаночых упрыгожванняў, рэстаўрацыя мэблі, праца фотамадэллю... Для ўвасаблення творчых задум у вас нават ёсць уласная дызайнерская студыя... Як пры гэтым вам удаецца ашчаджаць час на сям'ю?*

**К.В.** — Сакрэт просты: я вельмі мала сплю ды не гляджу тэлевізар. Пастаянна хачу спаць, але прага рабіць нешта карыснае ці прыгожае пераважае прагу залезці пад коўдру хаця б гадзінак на шэсць запар. Мяне насамрэч здзіўляюць мамачкі ў дэкрэце, якія скардзяцца, як цяжка ім жывецца ды як яны нічога не паспяваюць, а самі абмяркоўваюць серыялы ці ток-шоу. Я зусім не гляджу ні фільмы, ні перадачы, ні серыялы — духоўны голад спатольваю аўдыёкнігамі, якія слухаю падчас працы ў майстэрні, пакуль дзеці спяць. Таксама шмат якія дзеянні я раблю з малымі: хаджу па магазінах, гатую ежу, раблю прыборку, а калі мне прыходзіцца выходзіць на подыум ці на сцэну, дзеці знаходзяцца за кулісамі. Увогуле, той, хто скардзіцца на адсутнасць часу, проста не надта хоча нешта паспець.

**Э.А.** — *Сямейны клопат вас стамляе, ці, наадварот, надае творчага імпэту? Што для вас — вашы дзеці?*

**К.В.** — Вядома, стамляе. Я не буду маляваць усё ружовымі фарбамі ды казаць, што хатнія справы — гэта «жыватворная крыніца майго натхнення». Але гэта і не катарга. Я не змагу зрабіць, напрыклад, прыгожую кнігу, калі вакол мяне бардак. Таму стаўлюся да хатніх абавязкаў як да натуральнай часткі жыцця — як да чысткі зубоў, напрыклад. А дзеці — гэта тое, дзеля чаго я існую, як бы патэтычна гэта не гучала. Таму, у каго няма дзяцей, гэтую думку давесці не атрымаецца — яна прыходзіць толькі пасля пачатку мацярынства.

**Э.А.** — *Дзе вы пазнаёміліся са сваім мужам? Хто ён па адукацыі? Якая ягоная роля ў сямейным і творчым тандэме? Ці падрымлівае ён вашы творчыя памкненні?*

**К.В.** — Вось дзіўна, чаму ўсіх так цікавіць мой муж? Ды і мае дзеці таксама... Мне падаецца, што гэта трывожны званочак, які характарызуе стан нашага айчыннага грамадства: калі ў маладой жанчыны ёсць муж ды дзеці, а яна паспявае (і хоча) рабіць нешта па-за межамі трыяды «Kinder, Kuche, Kirche», то гэта ўспрымаецца як нешта незвычайнае — маўляў, творчасць ды сям'я несумяшчальныя, а замуж да 30 гадоў увогуле не варта выходзіць... Пазнаёміліся мы з будучым мужам у мяне дома — сябар прывёў на хатнюю рэпетыцыю свайго знаёмага, сказаў, што «нармальны такі гітарыст», а мы якраз знаходзіліся ў пошуках музыканта. Таму знаёмства адбылося «на маёй тэрыторыі». Па адукацыі муж гісторык, як і я, толькі ягоная спецыяльнасць — этналогія, а мая — рэлігіязнаўства. Ягоная роля — быць маім рыцарам, цярпець усе мае выбрыкі, дапамагаць рэалізоўваць ідэі, граць на гітары ў гурце, а таксама любіць ды выхоўваць нашых дзяцей. Можа, ён быў бы і рады, калі б я менш фантаніравала рознымі праектамі ды хоць час ад часу давала магчымасць проста пасядзець ды паглядзець фільм, але, спадзяюся, каханне пакуль перамагае прагу спакою.

**Э.А.** — *Нехта з журналістаў назваў вас беларускай Мерыдай — прынцэсай з «адважным сэрцам». А як называе вас ваш абраннік? Якія рамантычныя ўчынкі ён здзейсніў, каб заваяваць вашу прыхільнасць?*



*«Дзеці — гэта тое, дзеля чаго я існую...»*

**К.В.** — З усіх азначэнняў, якімі ён мяне надзяляе, мне найбольш даспадобы «querida» (нават сугучна з Мерыдай, ці не праўда?), а таксама вельмі трапяткое ды глыбокае «душа мая». Зараз мала хто так звяртаецца да сваёй жонкі. Ніякіх «коцікаў», «малышак», «дарагіх» ды «бусечак» мы не практыкуем. Хаця, праўду кажучы, гэта нашая асабістая справа — як ён мяне называе ды якія рамантычныя ўчынкі здзяйсняе. Я не 17-гадовая дзяўчынка, якая любіць пісаць у сацсетках, як ёй падарылі кветкі ці прысвяцілі чужымі рукамі напісаны верш. Хай нашае прыватнае жыццё і надалей застанецца больш-менш прыватным.

**Э.А.** — *Вы задаволены сваім сённяшнім жыццём? Ці хацелі б жыць у іншым месцы і часе?*

**К.В.** — Задаволенасць — прыкмета абмежаванага інтэлекту, мне падаецца. Я шмат чаго хачу паспець, шмат чаго хачу зрабіць. Але гэта няблага, напэўна. А ў іншым часе, думаю, мне б цяжкавата прыйшлося — як гісторык я цудоўна разумею, што, напрыклад, маё ўлюбёнае Сярэднявечча было зусім не такім, як у раманах Вальтэра Скота. Я люблю эстэтыку іншых часоў, але тагачаснае жыццё не было пастаянным атрыманнем духоўнай асалоды ад культурных здабыткаў ці, напрыклад, ад прыроды. Таму, для спатольвання прагі эскапізму мне хапае гістарычнай рэканструкцыі, а таксама выраблення нечага сваімі рукамі ці галавой — пачынаючы ад копій сярэднявечных кніг, заканчваючы напісаннем вершаў у рэнесанснай стылістыцы.

**Э.А.** — *Зразумела, што пры такім рытме жыцця ў вас зусім не застаецца часу на адпачынак... І тым не менш, калі ўдаецца, як і дзе вы любіце адпачываць?*

**К.В.** — Там, дзе няма людзей — толькі самыя блізкія ды родныя. Цудоўна, канешне, калі гэта марское ўзбярэжжа ці горы, парослыя лесам, але такое было толькі некалькі разоў у маім жыцці. Я не мізантроп, проста сучасныя спосабы

баўлення вольнага часу амаль выключаюць захапленне прыродай, цішынёй, ветрам, а менавіта яны з'яўляюцца для мяне першаснымі крыніцамі натхнення.

**Э.А.** — *У 2009 годзе вы сталі лаўрэаткай адразу некалькіх прэстыжных песенных фестываляў: «Культурная эвалюцыя —2009», «Бардаўская восень — 2009», «ОРРА —2009». Як вы ставіцеся да сцэнічнай славы? Ці падзяляеце думку Барыса Пастэрнака, які пісаў: «Быць знакамітым — непрыгожа...» ?*

**К.В.** — Я не лічу сябе знакамітай. Думаю, я ёй у поўнай ступені і не з'яўляюся, таму аб'ектыўна адказаць на гэтае пытанне не змагу. Мне падабаецца азначэнне «шырока вядомая ў вузкіх колах» — гэта якраз мая сітуацыя (як і сітуацыя большасці прадстаўнікоў беларускай культуры, на жаль). Але не буду хлусіць — да сцэнічнай славы я стаўлюся добра. Мне падабаецца быць на сцэне, падабаецца дзяліцца сваёй творчасцю, бо песні — гэта нібыта мае дзеці, і шкада, калі яны змарнуюць сваё жыццё без святла, нікому не паказаныя, нічога не змяніўшыя (хаця б на крышачку) ў людскіх душах. Калі я доўга не выступаю, я натуральна хварэю: не проста сумую, а фізічна адчуваю сябе блага, з тэмпературай, арытміяй ды іншымі праявамі. Але, калі кожны крок чалавека асвячаецца ў прэсе ды абмяркоўваецца потым у размовах пасажыраў маршрутак — гэта сапраўды крышку прыніжальна, на мой погляд.

**Э.А.** — *Падчас вучобы ў БДПУ імя Максіма Танка вы вывучалі гісторыю і рэлігіязнаўства. Якое ваша стаўленне да веры? Выказванне Уладзіміра Караткевіча: « Чалавек носіць сваё неба з сабою...» — для вас толькі цытата, ці нешта большае?*

**К.В.** — Мне яшчэ вельмі падабаецца цытата з Евангелля, якую потым Булгакаў уклаў у вусны Воланда: «Кожнага ўшануюць па веры яго». Неба ў кожнага чалавека — сваё. І вера таксама. Гэта ні ў якім разе не звязана з рэлігіяй, толькі з унутраным адчуваннем праўды. Таму я не люблю абмяркоўваць каштоўнасці розных рэлігійных сістэм альбо адметнасці розных цэркваў, дэнамінацый ці, напрыклад, сект — гэта вельмі інтымная справа.

**Э.А.** — *Ці згодныя вы з тым, што сапраўдная паэзія нараджаецца з болю? Хто ці што дапамагае вам перажыць жыццёвыя выпрабаванні?*

К.В. — Згодная, але толькі ў дачыненні да такіх, як я. Не ўпэўненая, што гэтае выказванне правільнае для ўсіх. Самыя лепшыя вершы, песні нараджаюцца ў мяне ў часы трывогі. Але нехта, напэўна, можа пісаць толькі ў гадзіны шчасця ды эйфарыі. Гледзячы, пра што пісаць, напэўна. Жыццёвыя выпрабаванні я пераадольваю за працоўным сталом — творчасць, няважна якая — ад напісання песень да пераплётнай справы, надае сіл. Таксама ад любой дэпрэсіі выратоўваюць дзеці — з імі не атрымаецца пазаймацца самаедствам ці рэфлексіяй, гэта заняткі для свабодных людзей.

**Э.А.** — *Вы прымхлівы чалавек? Чаму вы лічыце, што «лёсавызначальнай падзеі ў вашым жыцці яшчэ не адбылося»?*

**К.В.** — Я абсалютна непрымхлівы чалавек. Не веру ні ў якія забабоны. Увогуле, мяне як рэлігіязнаўцу заўсёды цікавіла, як у людскіх галовах могуць ужы-



*З рыцарам сэрца*

вацца вера ды цемрашальства. Ці, наадварот, атэізм ды цемрашальства. І ў лёс я не веру. Таму і лёсавызначальнай падзеі, напэўна, не дачакаюся ніколі. Усе падзеі людзі ствараюць сабе самі.

**Э.А. —** *Што , на вашу думку, трэба рабіць «таму, хто з крыламі народжаны...»?*

**К.В. —** Лётаць над зямлёй, канешне. Хаця рэдка той, у каго ёсць сапраўдныя крылы, згодзіцца лётаць у небе адзін, пакінуўшы каханых на зямлі...



## Леанід Дранько-Майсюк

паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг: «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

# Ніякай сімволікі ў гэтым няма...

*(Урыўкі з «Памятнай кніжкі”)*

***7 студзеня 1994 г.***

Над маім пісьмовым сталом два партрэты — гіпсавы барэльеф Янкі Купалы і фотаздымак А. Блока; фотаздымак не прыклеены і не прыкноплены — проста падсунуты пад цяжкаваты барэльеф і гэтак трымаецца.

Сёння раніцай, мяняючы пасцель, я так моцна махануў коўдраю, што паветрам «выбіў» фотаздымак з-пад барэльефа.
Партрэт А. Блока ўпаў на падлогу, а гіпсавае адлюстраванне Янкі Купалы засталося на сцяне.

Ніякай сімволікі ў гэтым няма, і тым не менш...

***29 студзеня 1994 г.***

Раніцай пазваніў кампазітар Ігар Лучанок...

Над купалам цырка ў напрамку Дома літаратара паляцелі два белыя галубы.

Ці заўважыў іх Ігар Лучанок?

Уздоўж Свіслачы мы йшлі ў Дом літаратара развітацца з Алесем Адамовічам.

Я ўспомніў, як Адамовіч плакаў над труною Міхася Стральцова, — было гэта на Чыжоўскіх могілках 25 жніўня 1987 года.

Адамовіч любіў Стральцова, і Стральцоў любіў яго, ласкава называў Сашам.

Неяк Стральцоў сказаў мне: «Сашу *нашы* не любяць за тое, што ён піша прозу па-руску. Але чым чытаць *іхнюю* прозу па-беларуску, я лепей буду чытаць Сашаву прозу па-руску!»

Акцэнт на словах *нашы* і *іхнюю* не патрабуе тлумачэння.

***12 лютага 1994 г.***

Васіль вызначае педагагічную вартасць сваіх настаўнікаў па іх адносінах да імпрэсіяністаў: хто любіць гэтых мастакоў — той добры настаўнік.

Вольга пацікавілася:

— І ў каго ты першага спытаўся пра імпрэсіяністаў?

— У прыбіральшчыцы...

***13 лютага 1994 г.***

Мае маскоўскія адрасы: вуліца Малая Грузінская д. 31, кв. 77 і вуліца Прафсаюзная д. 60, корп. 1, кв. 67.

Жывучы на Малой Грузінскай, Валянціна Міканораўна Шчадрына на кухонным стале пераклала на русскую мову раман У. Караткевіча «Чорны замак Альшанскі», а на Прафсаюзнай жыла яе дачка Вольга, мая будучая жонка...

Былі і такія адрасы — інтэрнат Літаратурнага інстытута на Дабралюбава 9/11 і сам гэты слаўны інстытут на Цвярскім бульвары 25; а яшчэ Арбат, у Старраканюшанным завулку якога знаходзіліся кватэры Лідзіі Аляксееўны Абухавай[1] і яе сяброўкі, якую Лідзія Аляксееўна называла Валкондай, утварыўшы гэту мянушку ад першых складоў яе імя і імя па бацьку — ВАЛентина КОНДратьевна...

Праз нейкую хваробу ці няшчасце Валконда, жанчына вельмі прыхільная да людзей, засталася калекай, яна кульгала і нават дома не выпускала з рукі блакітную кавеньку.

У Валконды я жыў усю другую палову траўня 1978 года; пасля звальнення з вайсковай службы прыехаў з Саратава ў Маскву, каб сваё завочнае навучанне ў Літінстытуце памяняць на вочнае, аднак жа на месцы не аказалася рэктара Піменава, давялося чакаць яго і жыць па рэкамендацыі Лідзіі Аляксееўны ў яе гасціннай сяброўкі.

За гэтыя два тыдні, не маючы асабліва што рабіць, я абышоў увесь Арбат і не толькі Арбат; вывучаць цэнтр Масквы выходзіў з самага ранку — у салдацкіх чаравіках і салдацкіх штанах, аднак без кіцеля, фуражкі і гальштука; зялёную армейскую кашулю расшпільваў ажно на тры гузікі, а рукавы закасваў, як найвышэй, бо не хацеў, каб мяне прымалі за салдата — аднаго разу прычапіўся патруль, а ваенны білет мой застаўся на кватэры, і я ледзьве адцерабіўся, даказваючы: «Хлопцы, я ўжо адслужыў...»

На Валхонцы, метраў за сто ад Пушкінскага музея, ля знакамітага басейна, у адзін спякотны дзень сталася і такая прыгода.

Па-дзявочы паправіўшы свае кучаравыя валасы, да мяне падступіў нейкі нізкаросы фацэт у чорных, як з чужой часопіснай вокладкі, акулярах і, дакладна ўгадаўшы мой пасляказарменны настрой, загаварыў пра дзвюх дзяўчат, якія даюць каханне і якія чакаюць яго, фацэта, але сёння ўжо яго чакаюць не аднаго, а з сябрам; з дзяўчатамі гэтымі ён учора быў, і яны свабодныя ў сваіх манерах, аднак жа час выходзіць (тут ён паглядзеў на гадзіннік), а сябра нешта няма, але можа і не варта яго чакаць, мы ж можам і разам абставіць сустрэчу з тымі дзяўчатамі — словам, «... пошли, старик, и почувствуешь себя настоящим мужчиной!»

Я не звярнуў увагу на тое, што ён зноў па-дзявочы паправіў свае кучаравыя валасы; не думаючы, я паказаў затуманенымі вачыма: «Пайшлі...»

Йшлі мы нядоўга, мінулі помнік Энгельсу, трапілі ў пад'езд шматпавярховага дома і не на ліфце, а пешкі падняліся на апошні паверх; на лесвіцы нікога не сустрэлі; фацэт лёгка адчыніў нейкія дзверы і першы ступіў у памяшканне, але гэта была не кватэра, а... гарышча, на якім дзявочым духам і не пахла.

Мой дабрадзей зняў акуляры і, хвалюючыся, загаварыў, што дзяўчаты зараз прыйдуць, а пакуль мы можам і самі, без іх...

Я адштурхнуў яго — без ніякай гідлівасці, проста адштурхнуў і выбег з цёмнага гарышча, а тады ўжо паляцеў уніз па шырокіх сходах, зноў жа нікога на іх не сустракаючы; памятаю, зайшоў у нейкую кнігарню, купіў паэтычны зборнік

[1] Л. А. Абухава (17.08.1922 – 26.04.1991) – руская пісьменніца.

Льва Озерава[2], на вуліцы прачытаў адзін верш і пакінуў кнігу на лаўцы паблізу ўсё таго ж помніка Энгельсу.

Увечары не ўтрымаўся і пра ўсё расказаў Алегу, сужыцелю Валконды — чалавеку практычна-цынічнага складу і аматару чаркі, таму клапатлівая Валконда ці не штодня падсоўвала яму брашуркі аб шкодзе алкаголю.

Той Алег быў крыху Хлестаковым, ён хваліўся, напрыклад, што працуе ў недалёкім ад Арбата амерыканскім пасольстве загадчыкам гаража.

Я не верыў яму, але заўсёды слухаў уважліва і з цікавасцю.

І вось пачуўшы мой не абы-які расказ пра сустрэчу на Валхонцы, Алег зацягнуўся дарагой цыгарэцінай «Саюз Апалон”:

— А ты смелы! На тым гарышчы магло быць яшчэ пяць-шэсць такіх тыпаў, і яны цябе ўжо не выпусцілі б!

***28 лютага 1994 г.***

Аб'ява на тралейбусным прыпынку: «Требуются лица для чистки обуви!»

Адзін папяровы пялёстак з тэлефонным нумарам быў сарваны — значыць, ужо знайшлося «лицо» для такой работы.

Ніколі не бачыў, каб «лицами» ваксавалі чаравікі!

***5 красавіка 1994 г.***

Раніца; па Францысканскай (пакуль яшчэ вуліца Леніна) Васіль дайшоў да кавярні «Світанак» і завярнуў налева — да станцыі метро «Кастрычніцкая»; Васіль ужо закрыты ад мяне домам, у якім знаходзіцца кавярня «Світанак», а я ўсё яшчэ бачу ягоны чырвоны школьны ранец...

***26 ліпеня 1994 г.***[3]

Пачуўшы маю просьбу зрабіць падрадкоўнік аднаго з вершаў Олафса Стумбрса[4], дзяўчына з Елгавы (латышка па маці) спалохана адмовілася:

— Я ведь могу ничего не понять! Это же поэзия!

Яе адмова — ушанаванне той мяжы, якая вечна аддзяляе літаратурную мову ад мовы бытавой.

О. Стумбрс нарадзіўся ў 1931 годзе, як і мой бацька, таму і захацелася мне што-колечы даведацца з ягонай творчасці, бо да паэтаў, якія з бацькавага года нараджэння (скажам, да А. Лойкі, Н. Гілевіча, С. Гаўрусёва, А. Вярцінскага) адносіны ў мяне заўсёды асаблівыя.

***28 ліпеня 1994 г.***

На праспекце Булдуры каля аптэкі, непадалёку польскай амбасады, мяне запыніў хлопчык, Васілёў аднагодак; ён размаўляў па-руску:

---

[2] Леў Озераў (1914 – 1996) – рускі паэт і перакладчык.

[3] Гэты і наступныя два запісы зроблены ў Юрмале.

[4] Олафс Стумбрс (1931 – 1996) – латышскі паэт.

— Дайте, пожалуйста, пять сантимов, а еще лучше шесть! Моему дедушке нужен валидол...

Атрымаўшы грошы, хлопчык сапраўды пабег у аптэку...

У распаленым пляжным паветры востра бліскаюць голкі камфортнай зморы; прайшлі ўжо тыя дні, калі балтыйская вада не супакойвае, а стамляе; калі пачынаеш думаць аб чым заўгодна — ну, аб тым, напрыклад, што ў фальклоры мора заўсёды сіняе і гэтага эпітэта дастаткова для вызначэння колеру камфортнай зморы.

А вось і нешта зусім нечаканае — хваля прыбіла да берага скрыпку з напалоханай чайкай, якая заблыталася ў аслабелых струнах.

***29 ліпеня 1994 г.***

На захадзе Латвія мае мора, на ўсходзе — Расію; на захадзе Латвія можа «ўтапіцца», на ўсходзе — загінуць.

Захад жа пакідае надзею «выплысці»...

А ў нас на захадзе Польшча, а на ўсходзе — усё тая ж Расія.

Не маючы мора, мы «гінем» ужо якое стагоддзе!

***27 лістапада 1994 г.***

Нягледзячы на недавер да сучаснай прозы, перачытваю быкаўскі «Кар'ер»...

"Нямала апанураны, Агееў вярнуўся да свае палаткі, перасмыкнуў плячыма ад дажджлівай прахалоды. Дождж усё сыпаў, і ён, залезшы ў палатку, запаліў на парозе маленькі бляшаны вогнік на сухім спірце. Хацелася сагрэцца, абсохнуць, але, мабыць, абсохнуць да заўтра ўжо не ўдасца, прыйдзецца бавіць ноч сярод зябкай сырасці. Зрэшты, гэты невялічкі дыскамфорт, прынесены нечаканым дажджом, не надта назаляў Агееву, у якім пад старасць усё настойлівей заяўляла аб сабе неўтаймаваная цяга да прымітыўнасці быту...»

Заместа чужога назоўніка «дыскамфорт» можна было б ужыць свой назоўнік, скажам, — «няўтульнасць», але няхай сабе...

А наогул жа гэта вельмі дакладна заўважана пра імкненне старога чалавека да прымітыўнасці быту.

Быкаўская дакладнасць не празаічная, а філасафічная, і ў гэтым сэнсе мяне ўразіла і такое назіранне:

«Агееў ужо разумеў, што, хаця магчымасці чалавечага духу амаль бязмежныя, яны надта несуразмерныя са сціплымі сіламі цела. Цела заўжды надта слабое, асабліва для такой злыбеды, як вайна, яно больш за ўсё іншае задае чалавеку клопату і прычыняе пакут».

Уразіла таксама думка і пра ўнутранага суддзю, што «... паступова пачаў арыентавацца на сапраўдны кодэкс пастаянных каштоўнасцей, першае месца сярод якіх ён адводзіў самацэннасці самога жыцця».

Суддзя гэты прачнуўся ў душы Агеева, галоўнага героя рамана, на схіле жыцця.

Агееў — ахвяра не так вайны, як сацыяльна-палітычных догмаў; ён вельмі позна зразумеў самае простае: жыццё вышэй за ўсё.

У мяне несавецкае выхаванне, таму я ўспрымаю як нешта неістотнае, калі ў застаронку пападдзі Бараноўскай паранены Агееў непакоіцца аб савецкай дзяржаўнасці, успамінае прысягу і г.д.

Успамін Бараноўскай аб сваім пакутным жыцці ў сэнсе стылістыкі надта літаратурны; у меру ўжытая размоўнасць гэтаму горкаму ўспаміну не пашкодзіла б...

Ваенныя сцэны рамана цікавейшыя за мірныя; наогул, мірныя сцэны (напрыклад, сустрэча ў кар'еры з адстаўніком Еўсцігнеевым і яго «камісіяй»; вобраз прагматычнага Агеева-малодшага; размова на памінках і г.д.) крыху нагадваюць шамякінскую прозу, — няма тут аналітычнага дынамізму...

Асноўная якасць рамана ў тым, што ён паказвае, як літаратура можа прадбачыць будучую з'яву.

Спачатку быкаўскі герой пачынае свае раскопкі ў кар'еры, а пасля Зянон Пазняк прыходзіць у Курапаты!

Раман выйшаў у 1987 годзе, часопісная публікацыя была, мусіць, на год раней, а пра Курапаты мы даведаліся ў 1988-ым.

Я не хачу сказаць, што Васіль Быкаў сваёй кнігай непасрэдна паўплываў на пошукі Зянона Пазняка, але пісьменнік стварыў верагодную сітуацыю, страшную праўду якой адкрыў археолаг...

***30 лістапада 1994 г.***

Баляслаў Лесьмян, зборнік «Пан Блішчынскі» (пераклад з польскай А. Мінкіна): пачаў чытаць гэту кнігу з апошняй старонкі і недзе за гадзіну дайшоў да першай; мусіць жа, Лесьмяна так і трэба чытаць — з канца — каб імгненна ўвайсці ў яго бясконцы сум, адзіноту, нярадасную эротыку — імгненнасць успрымання найбольш тоіцца ў фінале......

Пераклады Мінкіна сумленныя, аднак жа часам вельмі немілагучныя; асабліва раздражняе неахайная рыфмоўка: сьцені — цела, дзявочы — конча, палохаў — ногі, нікому — доме і г.д.

Сустракаюцца «збітыя» націскі, таму замест «па як***і***м жвіры...» даводзіцца чытаць «па ***я***кім жвіры...»; ёсць радкі, якія наогул цяжка чытаюцца: «Хтось з плачам з дна горкае долі...» або «Нібыта пэрл аб пэрл у лёце палкім...»

Шмат перакладчык ужывае праставатай лексікі — гарчэча, сінеча, цямрэча, нацубіў...

Палякі лічаць Лесьмяна адначасова ўстарэлым і трагічным паэтам.

Неяк у Любліне Збігнеў Дзмітроца падараваў мне свой зборнік, у якім я знайшоў такія вершаваныя радкі:

*Tylko mowa tutaj nie wiele sie zmienila*
*Ta mowa z ktorej poczal sie Boleslaw Lesmin...*[5]

[5] Толькі мова тут не вельмі змянілася
Тая мова з якой пачаўся Баляслаў Лесьмян… (польск.)

*5 снежня 1994 г.*

Леапольд Стаф, кніга «Высокія дрэвы»: да перакладчыка з польскай А. Мінкіна ўсё тыя ж заўвагі — шмат немілагучнага, неахайная рыфмоўка і г.д.

Учора, калі дачытваў Стафа, было праваслаўнае свята Уводзіны Багародзіцы ў храм, па-давыд-гарадоцку — Вадзанне...

*17 снежня 1994 г.*

Юльян Тувім, паэма «Польскія кветкі».

Чытаю другі раз, першае чытанне, дзесяць гадоў таму, амаль забылася.

Здзіўляюся з перакладчыка Васіля Сёмухі — праца падзвіжніцкая!

Адсутнасць сюжэта замаруджвае чытанне і, мусіць, замаруджвала пераклад...

Праглядваю біяграфію Тувіма — сярэдняга ўзроўню кніжку М. Жывава; знайшоў тэму для маленькай навелы — Тувім у Лісабоне...

*1 студзеня 1995 г.*

Не люблю навагоднюю шампанскую саладжавасць; не люблю навагоднія склератычныя віншаванні і жаночую мітусню...

Разгарнуў «Дзённік пісьменніка» за 1873 год і тут жа загарнуў: калі баляць вочы, чамусьці заўсёды хочацца чытаць Дастаеўскага...

*4 студзеня 1995 г.*

Менск яшчэ можа прыемна здзіўляць; сёння я йшоў па вуліцы Гусоўскага, завярнуў у нейкі закавулак і прачытаў на драўляным доме шыльдачку: «Завулак Снежны».

Якая назва! І гэткая ж цудоўная сённяшняя раніца — марозная, сонечная і таксама снежная.

*16 студзеня 1995 г.*

Быў у Максіма Танка, ён паказаў сваю бібліятэку — у асноўным кнігі польскіх паэтаў; ва ўсякім разе так мне здалося, што большасць кніг — вершаваныя зборнікі на польскай мове...

Я буду рэдагаваць яго новы рукапіс «Errata»...

Смех Максіма Танка!

Як сказаць пра гэты смех?

Так хіба: ён, як той вялікі спелы яблык, які коціцца ўздоўж па доўгім услоне і от зараз упадзе з прыглушаным стукам на падлогу.

“О, не пакідай мяне, смех...» — просьба цалкам натуральная для паэта...

Вельмі цёпла ён гаварыў пра Пімена Панчанку; расказаў, як разам з Панчанкам у кастрычніку 1941-га пераклалі (!) верш Янкі Купалы «Беларускім партызанам», які з’явіўся ў «Красной звезде» ў рускай версіі М. Галоднага.

Рэдактар газеты «За Савецкую Беларусь», у якой яны працавалі ваеннымі журналістамі, хацеў даць яркі Купалаў твор у арыгінале, па-беларуску, але арыгінала пад рукой не было — вось так і з’явіўся «адваротны» пераклад.

— Мы з Піменам амаль угадалі Купалаў тэкст, і Купалу наш варыянт спадабаўся! — зноў жа са смехам сказаў Максім Танк.

***15 сакавіка 1995 г.***

Выдавецкая прыбіральня — у суседняй кабінцы нехта шамаціць паперай, як мыш. Гукі таропкія, напалоханыя.

І яшчэ адно параўнанне, адпаведнае інтэр’еру: страшны, як фотаздымак на пашпарт...

***17 сакавіка 1995 г.***

Напісаць апавяданне пра донара, які здае кроў у заапарк хворым ільвам, а яшчэ і апавяданне пра 28-гадовую жанчыну, якой сніцца сон: яна нараджае дзіця і вельмі ўсцешана, бо вельмі хацела мець гэтае дзіця.

Аднак жа прачынаецца і бачыць — побач спіць сямігадовы сын, і жаданне мець другое дзіця імгненна знікае.

***2 ліпеня 1995 г.***

Кузьма Чорны, кніга «Ідзі, ідзі»: паводле М. Тычыны, назва рамана — вынік узвышанскай эстэтыкі і біблейнай мудрасці; наогул жа, раман пра «пераўтварэнне чалавечай душы», у што, здаецца, сам аўтар не надта верыў, мяркуючы, па наўмысна павярхоўным апісанні сацыялістычнай вытворчасці (калектывізацыя, будаўніцтва раённай электрастанцыі), якой, паводле задумы партыйных ідэёлагаў, павінна была належаць асноўная выхаваўчая роля...

Праз увесь раман праходзіць тэма палявой дзічкі (яе ўрэшце спілавалі калгасныя хлопцы) — сімвал нашай прыроды і нашай незалежнасці...

У тэксце вельмі шмат цытат з лістоў — можна гаварыць пра наяўнасць эпісталярнага стылю, аднак жа ўсе гэтыя лісты вельмі літаратурныя; відавочна, героі рамана пісалі іх пад «прымусам» аўтара...

На дзіва цікавая спрэчка, нават сварка, ваяўніча-слязлівай Галены Сегень з Алесем Гарусам, якому блізкая палітычная мадэль нацыянальна-дэмакратычнай Беларусі; па сутнасці без гэтай спрэчкі не было б рамана.

Сённяшні дзень паказвае — Беларусі Галены (гэта значыць, Савецкай Беларусі) няма, як няма і Беларусі Алеся Гаруса.

А якая Беларусь ёсць?

Магчыма, рэферэндумная...

***3 ліпеня 1995 г.***

Лідзія Аляксееўна Абухава памерла 26 красавіка 1991 года, якраз на чарговую чарнобыльскую гадавіну; пяць сутак мучылася — ажно з 21красавіка...

Апошні ліст да мяне (некалькі радкоў прозаю і дзве вершаваныя страфы) напісала 17 сакавіка: «Это тебе закладка для книги. Лёня! Получила твою весеннюю телеграммку — спасибо! Когда-то я писала:

*И эта зима уходит,*
*Сосульки слез растеряв,*
*И ее до ворот провожает*
*Буйный хмель народившихся трав.*
*И я ухожу отсюда,*
*Не прощаясь и губы сжав.*
*И меня провожает тоже*
*Неуёмная радость трав.*

Л.О.[6]»

Гэты ліст — невялічкі з цыгарэтны пачак прамавугольнік ватманскай паперы; на адным баку — рука Лідзіі Аляксееўны, на другім — намаляваны тры дрэвы: жоўтае, сіняе і чырвонае.

Нібыта рэпрадукцыя з нейкай мініяцюры.

Памятаю, недзе праз два дні я яшчэ раз паглядзеў на гэтыя дрэвы, перачытаў верш і пакінуў пісьмо ў геаграфічным атласе, і ажно 11 траўня, калі пайшоў ужо трэці тыдзень, як Лідзіі Аляксееўны нестала, шукаючы мала патрэбную мне Эрытрэю, разгарнуў атлас і скалануўся, нанова перачытаўшы ліст: «А я ухожу отсюда...» — што выяўна значыла, Лідзія Аляксееўна развіталася са мною назаўсёды яшчэ 17 сакавіка — за месяц з лішкам да сваёй пакутлівай смерці, а я не адчуў гэтага.

А вось апошняе яе пажаданне («Это тебе закладка для книги...») міжволі выканаў — забыў пісьмо ў геаграфічным атласе.

***7 ліпеня 1995 г.***

Прысніўся якар, нават не якар, а польскае слова kotwica — я выразна ўбачыў кожную літару гэтага слова, а раніцай прыйшоў з Давыд-Гарадка ліст ад Васіля:

«Пазаўчора, позна вечарам, каля нашага дома было шмат соў. Дзед сказаў, што гэта маладыя совы...»

А ўдзень над Францысканскай праляцеў белы голуб, а ўвечары на пляцы Волі мяне ледзьве не збіла машына — паміж мной і машынай прамільгнуў каштанавы ліст.

***31 ліпеня 1995 г.***

На эстрадным канцэрце ў Рэчыцы я атрымаў саламяную ліру, і гэта ўзнагарода абудзіла такую імправізацыю:

«... некалі паэтаў ушаноўвалі лаўровымі вянкамі. Аднойчы такі вянок займеў і Петрарка. Узрушаны паэт вырашыў адсвяткаваць сваю ўзнагароду і, зайшоўшы ў бліжэйшую карчму, паклаў вянок на адчыненае акно. Але не паспеў ён дапіць да

[6] Л. О. – Лидия Обухова.

дна першы кубак віна, як у акно прасунулася асліная морда, і вянок знік. Я спадзяюся, што маю ліру не чакае такая трагічная доля. Па-першае, пасля канцэрта я не пайду ні ў якую рэчыцкую карчму. А па-другое, калі нават і пайду і, як вялікі італьянец, пакладу сваю ўзнагароду на акно, якое таксама будзе адчынена, то ўсё адно мая саламяная ліра застанецца цэлая, бо ў Рэчыцы няма аслоў...»

У зале засмяяліся.

— А, можа, ёсць?! — удакладніў я.

Зноў пачуўся смех.

— Не, я ўпэўнены, што няма. Аслы ёсць толькі ў Італіі!

***1 жніўня 1995 г.***

У рэдакцыю паэзіі паэт Артур Вольскі прынёс рукапіс вершаў пад назваю «Укрыжаванне».

Я не паверыў:

— Артур Вітальевіч, вы... І раптам — укрыжаванне?!

Паэт імгненна закрэсліў гэту назву і зверху напісаў новую — «След завірухі».

***12 жніўня 1995 г.***

Люблю Камароўку, само гэта слова падабаецца: Ка-ма-роў-ка!

Вуліцу Веры Харужай я называю Камароўскай вуліцай...

Як верш, невыпадкова запомніўся мне самы пачатак аповесці Кузьмы Чорнага «Люба Лук’янская»:

«Вэня Шпулькевіч быў родам з Камароўкі. Цяпер гэты мінскі квартал ці, праўдзівей сказаць, кварталы зменьваюць сваё аблічча. Тады ж, калі Вэня Шпулькевіч лёгка насіў на сваіх плячах першае сваё юнацтва, гэта сапраўды была Камароўка. Тут нават не «тракціры» былі, а карчмы...»

Сапраўднай Камароўкі з яе сапраўднымі корчмамі я не бачыў і ўжо ніколі не ўбачу — позна з’явіўся на свет; мне засталася толькі назва і сённяшнія базарныя цэны: маладая бульба — 6 тысяч зайцоў, гуркі — 2 тысячы 500, памідоры — 17 тысяч.

***Пяць дзён у жніўні***

17.08.1995 г. Упершыню за сваё адзінаццацігадовае існаванне цэлы дзень не працаваў менскі метрапалітэн — забастоўка.

18.08.1995 г. Другі дзень забастоўкі — метрапалітэнаўцам пагражаюць...

19.08.1995 г. Забастоўка працягваецца, аднак пачынаюць з работы выкідваць машыністаў; тэлебачанне паказвае абураных пенсіянераў — яны, вядома, на баку ўлады.

20.08.1995 г. Чацвёрты дзень метро зачынена; пагрозы ўзмацняюцца; заробак машыніста, паводле ўсё таго ж тэлебачання — чатыры мільёны.

21.08.1995 г. Першыя арышты, штрэйкбрэхерства, метро працуе — «новых» машыністаў ахоўваюць міліцыянты.



# Алесь Емяльянаў-Шыловіч

паэт, перакладчык, бард. Аўтар зборніка вершаў «Парасонечнасць». Лаўрэат шматлікіх паэтычных конкурсаў. Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Крычаве. Жыве ў Мінску.

# Калі ты паэт...

***Што робіць творцу папулярным? Ці схільныя паэты да авантур? На што здольны пісьменнік дзеля вядомасці? Што трэба рабіць, калі ты паэт?.. Вакол чаго гуртуюцца беларускія літаратары? Адказы на гэтыя і іншыя пытанні ў гутарцы з маладым паэтам і бардам Алесем Емяльянавым-Шыловічам.***

**Верасень:** — *З чаго пачаць?*

**Алесь Емяльянаў-Шыловіч:** — Пачнем з Радзімы...

**В.** — *Сапраўды. Пачнем нашу гутарку з твайго радавода. Дзе ты нарадзіўся? Хто твае бацькі?*

**А. Е.-Ш.** — Нарадзіўся я на Крычаўшчыне. Бацька мой — трэнер, у свой час трэніраваў Крычаўскую футбольную каманду, маці — інжынер-хімік, працуе ў ЖКГ. Пасля таго, як бацькі разышліся, з першых месяцаў ад нараджэння жыў у Слуцку. Гадавалі мяне бабуля з маці. Бабуля паўплывала на мяне і маё сталенне.

**В.** — *Ты вучыўся ў беларускай ці рускай школе? Які твой любімы школьны прадмет?*

**А. Е.-Ш.** — Школа была беларускай недзе да 4 класа, а пасля ўсе прадметы ў нас выкладаліся па-руску. Класным кіраўніком была настаўніца рускай мовы і літаратуры, вельмі прыемны і шчыры чалавек. Менавіта руская мова і літаратура сталі маімі ўлюбёнымі дысцыплінамі да заканчэння школы.

**В.** — *У якім узросце прыйшло да цябе захапленне паэзіяй? Пісаць па-беларуску — гэта твой свядомы выбар? Бо, не сакрэт, што многія з сучасных беларускіх паэтаў, у тым ліку, такія выбітныя як Уладзімір Някляеў, Алег Мінкін, Міхась Шэлехаў і іншыя пачыналі як рускамоўныя...*

**А. Е.-Ш.** — Цікавіцца паэзіяй пачаў класе ў восьмым. Больш за ўсё любіў Высоцкага, з яго і пачалося захапленне паэзіяй. Да таго ж, я вучыўся граць на гітары і гэта таксама падштурхнула мяне да прыгожага мастацтва слова. Я таксама пачынаў пісаць вершы па-руску, бо «дзякуючы» нашай школьнай праграме, якая і на той час была не лепшай ад сённяшняй, я не любіў беларускую мову. А ў школе не было таленавітых педагогаў. Любоў да беларускай мовы і літаратуры прыйшла да мяне, як ні дзіўна, у медвучэльні. Я паступіў туды пасля дзявятага класа і вывучаў на першым курсе скарочаную школьную праграму 10-11 класаў. У той перыяд я пазнаёміўся з лепшымі творамі айчыннай класікі і яна мне вельмі спадабалася. Другім штуршком да беларушчыны стаў фестываль маладых паэтаў Міншчыны ў 2007 годзе да 125-годдзя Янкі Купалы. Там я пазнаёміўся з сапраўднымі беларускімі паэтамі — Леанідам Дранько-Майсюком і Раісай Баравіковай. Яны зрабілі на мяне вялікае ўражанне, асабліва шляхетныя манеры і цудоўная мова сп. Леаніда.



*З Музай*

**В.** — *Кажуць, што першы верш, як першае каханне — самы незабыўны. Ці памятаеш ты яго?*

**А. Е.-Ш.** — Так, канечне, памятаю. Неўзабаве пасля Купалаўскага фэсту ён і напісаўся. Не па гадах сур'ёзны, але вельмі наіўны.

**В.** — *Мяркуючы па тваёй адукацыі, сёння на змену філалагічнаму пакаленню ў паэзіі, якое дало такіх бліскучых майстроў слова як Ніл Гілевіч, Міхась Стральцоў, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак, прыйшло пакаленне біялагічнае... Як табе, прафесійнаму масажысту, біёлагу ўдаецца так гарманічна балансаваць паміж фізічным і духоўным светам? Гэта дапамагае ці перашкаджае табе ў творчасці?*

**А. Е.-Ш.** — Адна мая сяброўка псіхолаг сказала, што мая прафесія непасрэдна звязаная з пісьменніцтвам, бо, аказваецца, людзі, якія працуюць пальцамі, у якіх развітая дробная маторыка, маюць схільнасць да літаратуры. Проста праца — гэта праца, а вершы — гэта вершы.

**В.** — *Першыя свае паэтычныя публікацыі ты падпісваў як Алесь Емяльянаў. З нядаўняга ж часу ты стаў Алесем Емяльянавым-Шыловічам... Шляхетны дадатак да прозвішча — гэта ад жадання быць больш паэтычна гучным?*

**А. Е.-Ш.** — І так, і не. У першую чаргу я зрабіў так, каб не выклікаць блытаніны з іншым Алесем Емяльянавым. Я доўга думаў, як зрабіць так, каб не браць псеўданім і адначасова застацца самім сабой. Выйсце падказаў адзін з нашых пісьменнікаў. Прапанаваў дапасаваць да прозвішча яшчэ якое-небудзь. Я абраў дзявочае прозвішча бабулі.

**В.** — *У мінулым годзе ў серыі «Кнігарня пісьменніка» выйшаў твой дэбютны зборнік вершаў «Парасонечнасць», які атрымаў шырокі розгалас і высокую крытычную ацэнку. Сам жа ты падчас ягонай прэзентацыі прызнаўся, што «пакуль яшчэ шукаеш сябе» і «хістаешся ад верлібра да класічнага верша». Твае творчыя хістанні працягваюцца, ці ўрэшце рэшт ты зрабіў свой паэтычны выбар?*

**А. Е.-Ш.** — Чалавек заўсёды шукае. Пакуль я вызначыўся і схіляюся больш да верлібра. Час ад часу пішу рыфмаваныя вершы, але гэта хутчэй выключэнне. У вольным вершы мне зручней выказаць нейкія думкі, пачуцці. Рыфма іх не скоўвае і не вядзе за сабой. Але верлібры пісаць складаней, і працую я з імі болей, чым з класічнымі.

**В.** — *Твой зборнік вершаў выйшаў разам з кампакт-дыскам. На кружэлцы твае аўтарскія песні ці нешта іншае? Хто ці што падштурхнула цябе да бардаўскай песні?*

**А. Е.-Ш.** — На дыску не зусім песні, там проста вершы з музычным суправаджэннем, а недзе і без яго. А песні я пачаў пісаць нават раней за вершы, дакладней, спяваць пачаў раней, чым пісаць. Але песні пішу апошнім часам усё радзей і радзей, бо пакуль я шукаю свой накірунак у музыцы і эксперыментую.

**В.** — *Я ведаю, што ты з'яўляешся яшчэ й сузаснавальнікам музычнага гурта «аРБа». Што гэта за гурт? У якой стылістыцы працуе? Якога музычнага кірунку трымаецца? Дзе ўжо паспеў выступіць з канцэртамі?*

**А. Е.-Ш.** — Гурт створаны мной і маім лепшым сябрам, цудоўным чалавекам, таленавітым гукарэжысёрам і музыкам Аляксандрам Вальковым. «аРБа» расшыфроўваецца, як анархічна-рамантычна-брутальны аркестр. Стылістыку вызначыць складана, нават мы час ад часу не ведаем, як назваць тое, што мы робім. Я лічу, што музыка проста павінен пісаць добрую музыку, як і пісьменнік якасныя творы, а ў якой стылістыцы мы працуем — не так істотна. Тое самае магу сказаць пра кірунак. Аднойчы мы жартам вызначылі яго як дыска-фольк-панк, але гэта вельмі ўмоўна. Вялікіх канцэртаў і праграм пакуль не было, але паспелі атрымаць нейкі прыз на «Купалаўскіх вакацыях».

**В.** — *Алесь, як ты лічыш, паэты схільныя да авантураў? Я маю на ўвазе твой удзел у жаночым слэме... Што падштурхнула цябе на такі неардынарны ўчынак?*

**А. Е.-Ш.** — Перш за ўсё — неўтаймоўная энергія і спроба выйсці з нейкіх рамак, зрабіць сабе самому свята. Шкадую, што я не пайшоў у тэатральнае. У мяне б атрымалася. А жаночы слэм — гэта менавіта рэалізацыя нейкіх акцёрскіх здольнасцяў. А паэты збольшага людзі авантурныя. І дзякуй Богу, што ў добрым сэнсе гэтага слова. Такія бяскрыўдныя жарты патрэбны. Паэт таксама павінны ўмець пераапранацца.

**В.** — *Адкуль у такога «парасонечнага» паэта як ты з'явіліся такія радкі: «Калі ты паэт, абавязаны ганіць і пляміць...», «калі ты паэт, абвяргай збранзавелых ідалаў...»? Ты, насамрэч, так лічыш, ці гэта даніна сучаснай паэтычнай модзе? Таму што іначай, як паэтычным пазёрствам гэта назваць нельга... Табе не сорамна за гэты паэтычны «шэдэўр»?*

**А. Е.-Ш.** — Гэты верш не даніна модзе, і я яго спачатку напісаў, а пасля пашкадаваў, што дзесьці ён прасачыўся. Калі «Маніфест» пісаўся, я меў на

мэце спарадыраваць сучасную модную манеру пісьма сваіх калегаў па пяры, і гэты верш хутчэй носіць сцёбны характар, чым выказвае мае асабістыя думкі. Спрэчны твор, і я хваляваўся, што яго могуць не так успрыняць.

**В.** — *Скажы колькі словаў пра сваё супрацоўніцтва з інтэрнэтсайтам «Тэкстура». Што ён сабой уяўляе? Якую мэту ставіць перад сабой? Чыімі творамі на ягоных старонках прадстаўлена беларускамоўная паэзія?*

**А. Е.-Ш.** — Літпартал ставіць на мэце папулярызацыю літаратуры праз інтэрнэт-прастору. Геаграфія пісьменнікаў і літаратараў вельмі шырокая. На жаль, на сайце бракуе беларускамоўных аўтараў, але я з гэтым актыўна працую і збіраюся надалей працаваць. А пакуль там ёсць вершы такіх вядомых аўтараў як Наста Кудасава, Ілля Сін, Алесь Замкоўскі, Віктар Жыбуль, Адам Шостак, Андрэй Хадановіч і шмат іншых. Сайт існуе з 2012 года, заснаваны ён Андрэем Фаміцкім, рускамоўным паэтам, маім добрым сябрам.

**В.** — *Ведаю, што ты даўні сябра літаратурнай суполкі «Літаратурнае прадмесце», удзельнік паэтычнага тэатра АРТ.С, неаднаразовы пераможца шматлікіх конкурсаў... Гэта ад жадання лішні раз «засвяціцца» на публіцы ці ад імкнення да творчага сумоўя?*

**А. Е.-Ш.** — Наконт засвяціцца — гэта, па шчырасці, было ўжо даўно, але такі перыяд сапраўды быў, калі пачынаў пісаць, вельмі хацелася і туды, і туды трапіць, на сённяшні момант я магу сабе дазволіць абіраць куды пайсці, а куды не. Я стаў больш пераборлівы, ці што? Творчае сумоўе мне патрэбна ў меншай ступені. Калі я хачу параіцца ці кагосьці паслухаць, я звычайна сустракаюся з сваімі сябрамі з літаратурных суполак.

**В.** — *Не так даўно ты абзавёўся сям'ёй і нават паспеў стаць бацькам... Міжволі згадаўся геніяльны Анатоль Сыс, які заўсёды казаў, што, «каб стаць сапраўдным паэтам, трэба быць жанатым толькі з паэзіяй...» Не баішся, што сямейнае шчасце можа аднойчы ператварыцца ў паэтычнае балота?*

**А. Е.-Ш.** — Калі я стаў бацькам, месяцы два не мог анічога напісаць. З аднаго боку гэта цяжка, але калі побач такая мілая, непаўторная мая дачушка, забываюся і на вершы, і на песні. Адчуваў сябе героем аднаго з вершаў згаданага Анатоля Сыса:

> *Каб сагрэць каханую,*
> *пілігрым спаліў свой посах,*
> *які толькі адзін ведаў*
> *дарогу да роднага краю,*
> *вандроўны музыка — скрыпку,*
> *якая помніла яшчэ прадзедавыя песні,*
> *рыбак — вёслы*
> *на пустэльным востраве,*
> *якія не раз ратавалі яго*
> *ў самыя жорсткія штормы.*



У Таліне

*Ці змагу я спаліць свае вершы,*
*каб агнём іх сагрэць*
*дарагога мне чалавека?*

Але цяпер магу з упэўненасцю сказаць, што калі спатрэбіцца спаліць апошняе, што маю — не задумваючыся, зраблю гэта.

**В.** — *Адна з «яркіх» прадстаўніц твайго паэтычнага пакалення неяк заявіла, што «у адрозненне ад папярэднікаў, мы яднаемся не вакол нацыянальнай ідэі, а вакол літаратуры»... Насамрэч так? Што, на тваю думку, сёння павінна аб'ядноўваць маладых літаратараў у іх творчых памкненнях?*

**А. Е.-Ш.** — Трэба ствараць якасную літаратуру — гэта асноўнае. Якасную, у самым шырокім сэнсе слова, беларускую літаратуру. Гэтая ідэя і павінна гуртаваць вакол сябе творцаў.



# Ала Петрушкевіч

паэтка, крытык, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычнага зборніка «Пярсцёнак». Апублікавала звыш 200 навуковых прац, сярод якіх кнігі: «Іду па слядах: Літаратуразнаўчыя артыкулы, эсэ» (1997 г.), «Пра творы і творцаў: літаратурна-крытычныя артыкулы» (2002 г.), «Некаторыя старонкі беларускай літаратуры пачатку ХХ стагоддзя» (2010 г.) і інш. Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава на Гродзеншчыне. Жыве ў Гародні.

# Шчонаўскія абразкі

## У кнізе знакамітага мастака

Запытала ў усяведнага GOOGL-а, ці чуў ён што пра маё Шчонава. Зразумела, выдаў пра адміністрацыйную адзінку, багата спасылак на сайты, дзе згадваецца «вядомая» асоба са Шчонава, якою, ізноў жа зразумела, аказалася Ала Барэйкава. Але самае цікавае — гэта ўрывак з кнігі «Край дзіцячых гадоў» знакамітага фотамастака Яна Булгака, чый род паходзіць з нашых мясцінаў. У раздзеле VII «Дарогі і двары. Чамброў» з вялікім хваляваннем прачытала: «Прыгажэй за ўсё было пачынаючы ад Шчонава каля Райцы... Ужо за Шчонавам ваколіца пераходзіла ў прыгожы парк — гарысты і лясісты, зарослы дубамі і елкамі і акружаны цудоўнай далінай: здавалася, прырода зрабіла ўсё, каб сабраць тут пейзажныя элементы, якія складалі адзінае цэлае, поўнае прыгажосці і гармоніі. Дарога вілася ля падножжа лесу, што ўзвышаўся на пагорках, і вяла за край прыгожай даліны, прыцягальная зацішнасць якой не паддавалася ніводнаму апісанню. Даліна завяршалася прыгожай дубровай і фанабэрылася сваёй прыгажосцю, як залётная дзяўчына, якая ведае сілу сваёй красы і ведае, што на яе глядзяць...

На гэтай дарозе я зведаў першыя хвіліны эстэтычнай прыгажосці, якую моцна перажываў, і гэты вопыт узнаўляўся потым не раз з ніколі не змяншаючымся напружаннем, уводзячы мяне ў стан гарманічнай згоды з акружэннем, які з'яўляецца падставай для шчасця, якое я адчуваю з усёй паўнатой».

Даўно няма тых дубоў. Няхай даўно няма і тае дарогі. Ёсць іншая. Едучы па ёй, зведваю не меншую асалоду, чым калісь знакаміты мастак. Зведваю вялікае шчасце. І ад сузірання красы маіх родных мясцінаў, і ад адчування паўнаты жыцця, і ад далучанасці да жыцця ў гэтым Краі, яго мінулага, пра якое збіраю аскепкі, каб скласці мазаіку.

## Здзек

Чаму мае дарагія шчонаўцы так цяжка, так пакутна, у невыносным болі дажываюць свой век? Чаму яны клічуць смерць, як тое неаднойчы чула ад нашае няні цёткі Ганны Юлькавай, ад цёткі Фані Сцяпанавай? На мае ўгаворы пра тое, што свет гэты такі прыгожы, што сонейка цёплае, што неба блакітнае, а больш нідзе гэтага няма, яны толькі самотна ўсміхаліся, гаворачы: «А што я ў гэтым жыцці бачыла?», «Я ж тут толькі пакутавала», «Калі ж мне гэтак усё баліць...»

Невыносна цяжкаю была іхняя праца. З самага маленства. Як ва ўсіх людзей з беларускіх вёсак. Але было і тое, чаго быць не павінна. Бо гэта здзек, злачынства. У рамане Аляксея Карпюка «Карані» заўчасна памірае жонка галоўнага героя Лаўрэна Маркевіча, якая атруцілася, полючы калгасныя буракі, што

былі апрацаваныя хімікатамі. Нядаўна даведалася пра тое, як апрацоўвалі лён шчонаўскія кабеты. Завялася ў ім нейкая мошка. Прыцягнулі вялізную бочку з дустам. Цалюткі дзень звеннявая Ніна Пасэсарава насыпала з тае бочкі голаю рукою (якія пальчаткі тады хто ведаў?) гэты дуст у капронавыя панчохі, а жанчыны з імі цалюткі дзень па полі хадзілі і сеялі тую атруту. І труцілі сябе.

Дзе ж тое здароўе будзе?

## Каб вы вярнуліся, дзеткі...

Найцяжэй пакутавалі ўдовы. Бяспраўныя, безабаронныя. Найбольшы клопат — чым у печы паліць. Не жаночы. Ніколі жаночым быць не павінен. Але якраз тое і было, што не павінна.

Прыйшла Волька Апанасіха, удава Апанаса Яўсея, у кантору да старшыні машыну прасіць, каб торф прывезці. Адмаўляе. Бо таму трэба даць, хто ваяваў. Хто з вайны вярнуўся. Хто паранены быў. А як жа сем'ям, сіратам тых, хто палёг на вайне? Так балюча кабеце зрабілася, так крыўдна. Выйшла яна ў калідор, а там поўна шафёраў, хлопцаў маладых. Не пабаялася, што ў канторы, выказала свой боль гучна, на ўвесь голас: «Як, ня дай Бог, хлопчыкі, вайна будзе, ды забяруць вас, падымайця рукі, падымайця ногі, каб вам стрэльнулі ды толькі паранілі. Каб вы вярнуліся, дзеткі!»

Колькі жыла жанчына, столькі пра тую крыўду памятала, столькі расказвала. А колькі расказвала, столькі плакала.

З тым болем і на той свет, мо лепшы да яе, сышла. Каб і там расказаць.

## Няўдалыя залёты

А тым часам дзяўчаты, новае пакаленне працаўніцаў шчонаўскіх, падрасталі. Дзеці вайны. Якім пра сваё, маладое думаць хацелася. Ужо і на нявестаў пабраліся. Шмат хто з'ехаў. Хто ў Мінск. Як Надзя Петрукова, Клаўдзя Лідзіна. Хто на цаліну, хто ў Запаляр'е. У Мурманскую вобласць. Як Анюта Апанасішына, Люба Барэйкава. Але большасць тут, у Шчонаве, засталіся, у калгасе працаваць. Палачкі за працадні атрымліваць.

Суседні калгас, што ў Валоках, быў багаты. Кіраўніцтва магло дазволіць раскошу — запрасіць самалёт для апрацоўкі поля. Самалёты тыя лěталі зусім нізка. Лётчыка лёгка было разгледзець. І ён, відавочна, усіх бачыў.

Вось жа, звеннявая Ніна Пасэсарава, маладая прыгажуня, відаць і ўпала ў вока тому лётчыку. Яе поле было побач з валоцкім. Напрацуецца з самага ранку, стоміцца, схаваецца пад бэзавы куст ля Якубавай хаты, каб хоць крыху прыдрамнуць, таго сну, якога так мала ў маладосці было, дабраць. А тут самалёт лятаць пачынае. Над ёю кружыцца. «Нізянько. Відаць, як у кабіне сядзіць», — кажа цётка Ніна, быццам і зараз таго лётчыка з мінулае маладосці бачыць. Аднойчы дык і асвянціў яе, лінуўшы вадою халоднаю. Раззлавалася дзяўчына, нахапала купінаў і давай па самалёце шпурляць...

Ніколі больш не залятаў той лётчык на шчонаўскае поле. Такі крыўдлівы аказаўся. Так і скончыліся тыя залёты нічым. «Скончылася любоў», — робіць выснову колішняя звеннявая. А каб стрывала ды прыветліва рукою памахала, то хто ведае, ці засталася б у Шчонаве...

## Куклы

Што такое куклы? Не, гэта не лялькі. У Шчонае два такія словы-амонімы. Першае — закручаныя ў вузел на патыліцы валасы. Але не пра гэтыя куклы размова. Так называлі скрутак з каласоў, які рабілі як метку на полі: дасюль сёння зжалі, адсюль заўтра пачынаем.

Тым разам Ніна Пасэсарава, Маруся Майдзюкова, Валя Мікітава, Гэля Валенцікава, Волька Апанасішына на полі за Прахорыхай ячмень жалі. А зрабіць больш вельмі хочацца! І прыдумалі шчонаўскія стаханаўкі, як начальства абхітрыць. Аднясуць куклы на зробленае ўчора і прысыплюць зямлёю. Стаяць яны закапаныя, законныя. А сёння і тое ўлічана будзе. І так у смак увайшлі, што па звестках атрымалася на тым полі зжата 140 гектараў, а засеянае мо з 70 было.

Смяецца цётка Ніна Пасэсарава, пра тое згадваючы:

Разаблачылі нас. Як палічыла бухгалтарка Соня, то і ўгледзелі ўсе, што махлявалі мы.

Брыгадзірам тады Міхась быў. Добры чалавек. Вечарам мернікам зжатае поле мераў. Не заўважыў, што куклы падстаўныя. Таксама смяяўся. Мо і захапляўся кемлівасцю жнеек:

Як вы такое ўздумалі!

Бо таксама ж не ягонае, калгаснае. Але пасля ўжо веры не даваў: кожную куклу падымаў — ці сапраўдная, ці не прыкапаная.

Не ведалі шчонаўскія дзяўчаты, што па ўсёй краіне савецкай, дзе толькі маглі, працоўныя так рабілі. Бо не на сябе, не на сваё. Бо праца была вельмі цяжкаю. Туфтою гэтая лухта называлася.

## Бухгалтэрыя

Спачатку шчонаўскі калгас называўся «1-га Мая». Зразумела: праца ў калгасе — гэта ж свята працы. Мо яшчэ і таму, што партызанскі атрад, што дзейнічаў на гэтай тэрыторыі, таксама так называўся. Першым сраршынём стаў Рыгор Дубень.

Кантора была ў хаце Мішыхі, насупраць могілкаў. А раз кантора ёсць, то і бухгалтэрыя быць павінна. Пісьменных, граматных, як у Шчонаве казалі, каб у той канторы сядзець, і не было. Якраз тады Толя Якубаў прывёз з войска сабе жонку Соню. Яна і стала першаю бухгалтаркаю. Адна на ўсю кантору. На савецкім кампутары — костачкавым лічыльніку — працавала. Пасля на паперу лічбы пераносіла. А звесткі перадавалі ёй учотчыкі. Звычайна імі былі маладзейшыя, крыху больш граматныя хлопцы-калгаснікі. Вось і ўся бухгалтэрыя.

## Ганебнае пакаранне

Самае ганебнае пакаранне ў шчонаўскім калгасе — гэта крытыка ў насценнай газеце. Нат і газетаю тую нагляднасць назваць не выпадае. На картоннай паперы Лёнік Паўлючышын, таленавіты мастак-самародак, маляваў карыкатуры на тых, хто нейкую правіну меў, з'едліва падпісваючы свае зусім не сяброўскія шаржы. Праўда, ніколі не прызнаваўся, што гэта ягоная творчасць. «Нічога не ведаю! Нічога не маляваў!» — адмахваўся ад абражаных аднавяскоўцаў. Бо і злавалі, і сварыліся, і праклінaлі. Гэта ж ганьба якая! На сцяну вывесілі! Колькі сваркі было! Асабліва, калі скрытыкаваныя былі дзяўчаты маладыя: ніхто ж замуж не возьме дзеўку з такою «славаю».

Лёнік часам не толькі ўказы старшыні выконваў, тую крытыку наводзячы, але і самадзейнічаў. Зазлуе на каго, ды і адпомсціць, скрытыкуе. Аднойчы Ніна Пасэсарава штосьці яму не дагадзіла, дык намаляваў яе з траплом у руках. Набралася дзяўчына сораму.

## Вось табе і адпачылі!

Дзяўчаты з хутароў шчонаўскіх Каця Харанджукова, Жэня Аляксандрава, Ніна Пасэсарава, Зіна Валенцікава, Клаўдзя Лідзіна і Жэня Міхасёва жалі жыта на полі якраз за хатаю Барэйчыхі. Брыгадзірам тады быў Аляксандр Гіль, Жэнін бацька.

Напрацаваўшыся зраніцы, пайшоў брыгадзір паснедаць. Хата іхняя якраз насупраць поля. А ў хаце вакенца маленькае, ды на тое поле глядзіць.

Давайце і мы адпачнем! — гэта Жэня, брыгадзірава дачка, смелая такая, прапаноўвае.

А як убачыць твой бацька праз акно, то будзе нам!

Не ўбачыць. Лягайце за снапы.

І сама першая легла. А на нагу, на падэшву, хустку сваю белую завязала, быццам на галаву. Ляжыць, а сама нагою бахкае. Здалёк павінна падацца, быццам гэта галава жнейкі то падымаецца, то апускаецца...

Не перахітрылі, аднак, дзяўчаты брыгадзіра. Добра разгледзеў ён праз тое акенца маленькае іхнія хітрыкі. І скрытыкаваць загадаў. Намаляваў Лёнік вельмі абразлівую карыкатуру: сноп вялікі, а на ім конна ўсе тыя дзяўчаты паселі, ногі выцягнуўшы, а на нагах хусткі пазакручваныя.

Ну і ганьбы было! На ўсё Шчонава. Вось табе і адпачылі!

## «Хлеб наш забіраюць!»

Аднаго разу і старшыня Алёша Барэйкаў таксама быў абняслаўлены, крытыкі тое дастаў.

А было гэта так. Жалі тады, зразумела ж, уручную. А тут камбайн калгас атрымоўвае. Радавацца павінны б жнейкі, дапамога ж такая. Ды дзе там! Праўдзівы

бабскі бунт узнялі. Павыходзілі на поле з сярпамі і старыя, і малыя. Пасталі, сярпы перад сабою паскладалі. Загаласілі на ўсё наваколле:

Не пусцім камбайна! Працу нашу забіраюць! Хлеб наш забіраюць! Як жыць будзем? Што есці? Дзе заробім?

І старшыні дасталося. Вырашыў ён камбайн адправіць: «Добра. Без яго справімся». Свой хлопец, не захацеў супраць людзей ісці.

Выклікалі яго ў раён. Добрага прачуханца далі. І ў Шчонава з раёна падскочылі, на месцы разбіраліся. Скрытыкаваць Лёніку загадалі, што той і выканаў, відаць, не без задавальнення. Бо толькі праз указ зверху і можна было тое зрабіць.

Намаляваў мастак камбайн, зачэплены за штаны старшыні. Быццам цягне ён гора-кіраўніка, а той упіраецца, крычыць: «Не хачу камбайна!» Вось сораму набраўся тады Алёша Барэйкаў!

Зразумела, прыйшла тэхніка на поле. Было гэта ў 1952 годзе.

А хлеба таго шчонаўцы як уволю не елі за тымі першымі калгасамі, так яшчэ няхутка наеліся.

## Цяжкі хлеб

Дзе ж было хлеба наесціся, калі свайго не было з чаго спячы, а купіць можна толькі ў Наваградку. Няблізкі свет. Найменей кіламетраў 25 будзе. Трэба ж яшчэ і грошы каб былі. А дзе іх набрацца? У калгасе ж не заўсёды плацілі.

Вось жа, калі ўсё ж капейка якая з'яўлялася, выбіраліся шчонаўцы ў Наваградак. Бралі з сабою санкі, бо з мяхамі ішлі. У тым горадзе чэргі па хлеб вялікія, а на рукі толькі адну буханку давалі. Станавіліся па 25 разоў, каб поўны мяшок набраць. Ладавалі поўныя мяхі, да санак лейцы прывязвалі і цягнулі на сабе...

25 буханак 25 кіламетраў.

Цяжкім быў той хлеб шчонаўцам.

## Пастаноўка

Але не толькі цела патрабавала наедку. Душа чалавечая таксама спажытку прагне.

Ой, як мы культуры хацелі! — кажа цётка Ніна.

Прыдумалі дзяўчаты пастаноўку зладзіць. Як яе рабіць, з чаго пачаць? Да настаўніцы па раду звярнуліся. Тая прапанавала «Машэку» паставіць. Зарганізавалі гурток у хаце ў Барэйчыхі. Ролі размеркавалі. Мялешчыха Ганкаю была. Падказваю: у Купалы не Ганка, а Наталька.

То ў Купалы. А мы мянялі, як хацелі. Каб той Купала ўстаў, то назад бы памёр. Бо мы скурожылі ўсё, што ён напісаў. Дабаўлялі, перараблялі.

Пачаліся рэпетыцыі. Пры газоўках. Хлопцы не дапускаліся. Такі тэатр антычны наадварот: усе ролі дзяўчаты выконвалі. Ніна была князем (у Купа-

лы — малады баярын). Сорам вялікі быў дзяўчыне штаны апрануць. Але што зробіш — роля абавязвала.

А хлопцам вельмі хацелася на тыя рэпетыцыі трапіць. Ды дзяўчаты мужна трымаліся, выгналі іх, закрыліся. І вырашылі тады хлопцы (Коля Барэйкаў, Аркадзё Антонішын, Міцё Чайкаў, Коля Харанджукоў, Пеця Паўлючышын, Коля Варвараў) адпомсціць акторкам.

Пастаноўка рыхтавалася ў старой школе. Але бяда: сцэны не было. Вырашылі папрасіць у Юльчыхі дзверы ад хлява. Двайныя былі, вялікія, цяжкія. Вось тут тая помста хлапечая і адгукнулася. Загадалі, каб ніхто не дапамог, ні на кані не падвёз, ні паднёс. Да таго ж яшчэ гаспадыня дзвярэй за «пракат» запатрабавала гной з-пад каровы выкінуць. Цэлы дзень выкідалі акторкі той гной. А назаўтра цэлы дзень дзверы насілі. На сабе. Па чатыры чалавекі. Увесь час змяняючыся. Бо не для дзявочых сілаў ноша тая. Спачатку адны прынеслі. Пасля вярнуліся па другія. Кіламетры паўтары ў адзін бок. Але што ж зробіш: ахвота горш за няволю. Культуры хацелі!

Удалася на славу тая пастаноўка. Поўная школа людзей сабралася. Не толькі са Шчонава, але і з Валокаў прыйшлі. Месца ўсім не хапіла, пад вокнамі стаялі. Нацешыліся, насмяяліся...

А як жа дзверы вярталі?

Адпусціліся хлопцы, даравалі. На кані адвезлі...

## Крыж

Крыж у Шчонаве стаяў на перакрэсці дарогаў. Адна спускалася з высокае гары, другая разыходзілася праз вёску ў абодва канцы. Насупраць Прымачышынай хаты.

А час быў змагарны. Не, ніякіх ворагаў не было і звання. Усіх перамаглі. Камунізм будавалі. Амерыку вось-вось абагнаць збіраліся. Але якое ж жыццё ў Савецкай краіне без барацьбы? Змагаліся з рэлігіяй. Антырэлігійную прапаганду, відавочна, патрабавалася праводзіць на ўсім фронце. Асабліва ў навучальных установах.

Дырэктарам Шчонаўскай пачатковай школы ў той час быў Лапата Міхаіл Уладзіміравіч. На ягоныя плечы ў асноўным і клаўся той няпросты абавязак. Раз у год, перад Вялікаднем, праводзіў ён выхаваўчую гадзіну, расказваў вучням, што Бога няма і ніколі не было. Што і яйкі фарбаваць ды святкаваць нявар-та. Па хатах хадзіць ні ў якім разе нельга. І ніякае гэта не свята. Відаць, перад тым меў наш настаўнік належныя дырэктывы з раёна.

Менавіта яму давялося і крыж зваяваць. Мяркую сёння, не была то ягоная ініцыятыва. Папрасіў ён кагосьці з мужчынаў, каб крыж спілавалі. А за гэта бутэльку гарэлкі паставіў.

Сёння па ўсіх вёсках крыжы стаяць, упрыгожаныя, дагледжаныя. Сустракаюць тых, хто прыходзіць, і праводзяць тых, хто пакідае свой край.

Доўга не ведала, хто той наш шчонаўскі крыж знішчыў. Баялася ўведаць, мяркуючы, што гэта зрабіў мой бацька...

## Будаваліся...

Вельмі цяжка было жыллё сабе пабудаваць. Пра гэта ўсе шчонаўцы згадваюць.

На хату Алёшы Антонішынага і Мілкі Лысішынай дрэва куплялі аж за Беняконямі. Праца будаўніка цяжкая, што і казаць. І сёння таксама. А тады яшчэ больш, бо ўсё ўручную рабілі. За дзень майстар прасіў 5 рублёў. Добрым будаўніком быў Трахім Дубень. Але дзе ж тых рублёў набрацца, каб наняць работнікаў? Настаўніцкая зарплата Валі Барэйкавай цалкам на аплату будаўнікам ішла. Атрымае грошы, як на шчонаўскія меркі то і неблагія, ідзе дахаты і ведае, што там ужо чакаюць яе. Адразу і аддае ўвесь заробак.

Алёша Антонішын сам амаль усё рабіў. Няблага сталярыць налаўчыўся. «Каб не сам, — кажа цётка Мілка, — то яшчэ горш пакутавалі б». І так не адразу ў хаце жыць пачалі. Закончыць не маглі. На гарышчы спалі. А ў хаце торф ляжаў, парасяты стаялі. Нават карову Мілчыну пасажную прадалі, каб грошы на хату мець. Цяжкі час быў. На Вялікдзень на стол баначку камсы, картоплю і агуркі салёныя паставілі. Гэтак самае вялікае свята справілі...

Іх сям'я — адзіная на ўсё Шчонава засталася, дзе гаспадар і гаспадыня з таго пакалення ў сваёй хатцы жывуць.

Як жа балюча глядзець на пакінутыя хаты, у якія столькі сілаў, сродкаў укладзена, дзе жыццё пражыта, дзеці пагадаваныя. У лепшым выпадку дачакаюцца тых дзяцей з горада хоць на летні, цёплы час. У горшым — трухлеюць, развальваюцца, каб аднойчы быць зруйнаванымі, закапанымі. Бо ўсё ў нас хораша павінна быць, гладка. Каб вока начальніцкае старыя хаты не мазолілі.



# Генадзь Лапацін

паэт, фальклaрыст. Аўтар кніг паэзіі: «Без чисел и дат» (1997 г., 2003 г.), «Лепить из снега» (2002 г.), «Луны преобладанье» (2003 г.), «Увидеть дерево» (2008 г.), «Около облака» (2012 г.) а таксама шматлікіх публікацый у альманахах і часопісах. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# «Тады ўсе людзі зналі, калі якія песні пець...»

Размаўляючы з жанчынамі нашых вёсак, разумееш, што ўсё, чаму калісьці вучылі дзяцей, было падпарадкавана адной мэце — жыць на сваёй зямлі так, каб не нашкодзіць ні сабе, ні сваім блізкім. Дзяцей змалку рыхтавалі да жыцця ў грамадстве, у калектыве. У гэтым плане вельмі цікавым падаюцца аповеды Варвары Аляксандраўны Грэцкай з веткаўскай вёскі Амяльное: «Матка наша нікалі не хваліла. Там у нас адна была: «Ой! Мае ж та дзеці!» А наша матка, усё ж дзелаім, як і нада: «Хваліць ніхай вас людзі пахваляць, а не я буду хваліць вас». Калі дзіцёнак рабіў нешта не так, у гэтым абвінавачвалі сям'ю: «Маткі не навучылі, дак яны, пяюць песні абы-калі!» Песні ўваходзілі ў абавязковую праграму выхавання дзетак. Дзетак вучылі, што песню нельга пераносіць праз мяжу. За кожнай песняй стаіць тое альбо іншае Боства. І гэтае Боства рэагуе на тэкст. Яно адгукаецца на яго. Калі спяваем нешта не тое — яно прыдзе і будзе перашкаджаць таму Боству, чый час уладарыць у прыродзе. А калі рабіць усё, калі патрэбна — можна нават кіраваць прыродай. І для кожнага ўзросту ў старых людзей знаходзіліся свае аргументы. І зноў-такі звернемся да традыцый, якія існавалі ў сям'і Грэцкіх.

«Калісь сядзім так ўвечары, — узгадвае сваё маленства Варвара Аляксандраўна, — пяёма, што ўздумаім... Наша баба як пачуя: «Ааа! Бяспутныя. Ня пейця етыя песні». — «Баб, чаго?» — «Ім больна будзя, што вы не воўрэмя пеяцё». Ужо нас страша. Мы тады кініма».

Для больш дарослых знаходзіліся іншыя аргументы: «Во ўжо бязбожніца. Калі папала якія пяеш... Людзі смяяцца будуць». І яшчэ дзетак вучылі, што кожнае свята трэба абавязкова ўшанаваць песняй: «Баба, які празнік, к тому і песні зная. Напрымер, пра Маслінку ё песня. Як Маслінка прышла, яна: «Мая ўнучка, прапей жа песню пра Маслінку». Я ўжо і прапяю: там, ці пра Пост. К каждаму празніку песні былі». І да гэтага часу Варвара Аляксандраўна штогод на Ушэсце (знакавы дзень у веткаўскіх вёсках, дзень, да якога прымеркаваны абрад «Пахаванне «Стралы») выходзіць на двор, каб выканаць хоць адну-дзве «стрэлавыя» песні.

Сапраўды, песням — шчадроўкам і валачобным, купальскім і жніўным — адводзілася асаблівая роля ў стасунках чалавека са з'явамі прыроды. Неяк адвольна, само па сабе, узнікае ва ўспамінах жанчын, з якімі мне даводзілася размаўляць — усе гэтыя песні былі своеасаблівай размовай з Боствам. Боствам старажытным, якое ўводзіць нас у далёкую дахрысціянскую культуру:

***

*«Каляда-Калядзіца, добрая маладзіца,*
*А мы цябе год дажыдалі і табе шчодры гатавалі...»*

***

*«Масленіца-Масленіца,*
*Добрая, маладзіца,*
*У нас ты сем дзён гасцюіш,*
*І дзе ж ты год піруіш?..»*

***

*«Вісна-Вісна, Вісняначка,*
*Дзе твая дочка Мар'яначка?...»*

***

*«Лялечка мая харошая,*
*Захаваю цябе к налецейку,*
*К налецейку, к Ушэсцейку...»*

Асаблівае месца ў традыцыйнай культуры веткаўчан займаюць «лёлюшкі» — веснавыя песні, наскрозь пранізаныя паўторамі, кшталту, «лю лі лю лі», «вой люлі, вой люлі», «лёюш лёлі лёлі» ды інш. У свой час адметны фалькларыст А.М. Весялоўскі, аналізуючы абрадавыя тэксты самых старажытных культур, выказаў меркаванне, што ў свой час яны пачыналіся з некалькіх самых нязначных шмат разоў паўтараемых слоў і проста вызначалі пэўны такт пры выкананні тых ці іншых прац. І менавіта з гэтага ў павольным руху гісторыі развіліся тыя змястоўныя тэксты, якія дайшлі да нашага часу. А за тымі пачатковымі словамі захавалася роля прыпеваў і рэфрэнаў. Вялікая спакуса выказаць меркаванне, што нашы веснавыя тэксты таксама развіліся з «вой лю лі». Але з адной агаворкай: яны не былі «нязначнымі», а былі зваротам да Лелі і Леля, і былі на той час самадастатковымі. А самі «лёлюшкі» можна параўнаць са старажытнагрэцкімі «аданізмамі», прысвечанымі Адонісу і «дыанізмамі», прысвечанымі Дыянісію.

Падчас размовы з былой жыхаркай Амяльнога Таццянай Дзімітраўнай Рыштковай, 1927 г. н., узнікла спакуса выказаць меркаванне, што песня з'яўляецца адным з магчымых увасабленняў Боства: «Стрялу» вадзілі. Сабіраяцца, хто жалая: і маладыя, і старыя за рукі пабяруцца, ідуць на ўсю вуліцу, ідуць і пяюць песні, а тады астанаўліваяцца ў адным месці і танцуяць, ета ўжэ «стрялу» тую закапываяць. С адныя стараны ідуць, колькі там сабяруцца людзей, і з другія стараны. Уместа сабяруцца, і тады там танцуяць, «стрялу» тую закапываяць у зямлю. Ямак накапаяць. Ну якая там «стряла»... Песні пяюць... Ета, уродзе, «стрялу» закапываяць».

[У ямку што закопваюць?]

Нічога такога не закапывалі. Уродзе, песні пелі... Дак, уродзе, песні тыя ў зямлю закапывалі... Трошкі прысыпяць зямелькай. (Запіс 2011 г.)

Нашы каляндарныя песні захоўваюць уяўленні нашых старажытных продкаў не ў меншай ступені чым індыйскія «Махабхарата» і «Рыгведа», егіпецкія «Кніга пірамід» і «Кніга мёртвых», нямецкая «Песня аб Нібелунгнгах». Безумоўна, амаль ніхто ў наш час свядома не верыць у рэальнасць Каляды і Масленіцы, Купалінкі і Вясняначкі. Ну, тым не менш, у песнях яны ёсць. Але, падкрэслю, у песнях старажытных. Такім жа чынам, як ў міфах егіпцян ёсць Ра і Саціс, Таіт і Асум, а ў старажытных рымлян ёсць Юпіцер і Дзіяна, Вакх і Венера, у егіпцян Ра і Асірыс, а ў старажытных грэкаў ёсць Зеўс і Афрадыта, Гермес і Дземетра... І гэты шэраг можа быць працягнуты бясконца. На старажытных міфах грунтуюцца ў сваіх творах рымляне Авідзій і Вергілій, на міфах старажытных грэкаў грунтуюцца ў сваіх творах Гамер і Эсхіл, Гесіод і Сафокл, на тэкстах амяленскіх песен грунтуецца, разважаючы пра Каляду і Маслінку, Варвара Аляксандраўна Грэцкая.

«Каляда — ета жэнскага роду... Жырная Каляда называлі... Там, жырная баба... «О, ты ўжа разраслася, як Каляда!» Еслі жырная, дак падойдуць: «Разраслася, як Каляда!» У каляды ўсё ж смашная ядуць. Яна атлічаіцца дабратой: Усё хаваюць к калядам. Песню ж пяюць:

— *Верабейка чубаценькі,*
*Ці не бачыў ты гавядзінкі?*
*А я бачыў, а я бачыў, да й не дам,*
*А схаваю гавядзіну к Калядам.*
*А ў Каляды святы дзень, святы дзень,*
*Буду есці гавядзіну цэлы дзень.»*

Безумоўна, тут вызначальнае: «Песню ж пяюць...»

І такім жа чынам пра іншых: Вісняначку, Маслінку, Купалінку. Дарэчы, менавіта з культурай старажытных грэкаў у нас шмат аналогій. Так у веткаўскіх вёсках Барталамееўка, Бесядзь, Фёдараўка на Ушэсце «хавалі Вясну», увасобленую ў ляльку, зробленую з кавалкаў тканіны. Як распавядала жыхарка вёскі Барталамееўка Матрона Цітаўна Еціпнёва, 1919 г. н.: «На Ушэсце ляльку рабілі з трапачак. Дзелаем гробік з каробкі з-пад пячэння. Туды падушачку, адзяяльца, пакрывальца — з гардзін. Нясем у жыта, хаваем. Крыжык ставім. Галосім. Калі вясна была халодная: «Ты была халодная. Мы не нагуляліся, не нагрэліся. Больш такая не прыходзь!» Калі была цёплая: «Ты сёлета была цёплая. Мы і босыя нахадзіліся і голыя. І на той год такая будзь». На Дабравесце гэтую ляльку адкопваюць, і ў большасці нашых весак у гэты дзень пачынаюць «гукаць вясну». На мой погляд, у дадзеным выпадку мы маем справу з рэліктам міфа пра Персіфону, якую выкраў Аід, але, паводле рашэння Зеўса, на пэўны час яна вяртаецца на зямлю да маці — і на зямлі наступае вясна. Па-свойму, і таксама на Ушэсце, з вясной развіталіся ў веткаўскай вёсцы Прысно. Вясну, увасобленую ў колік, абвіты кветкамі, кідалі ў рэчку. Гэта дзеянне суправаджалася словамі: «З вады прыйшло... З вадой пайшло...» На мой погляд, прамая аналогія з міфам пра нараджэнне Афрадыты. У грэцкай міфалогіі Афрадыта — багіня кахання і прыгажосці. Паводле міфа яна нарадзіла-

ся з крыві вылегчанага Кронам Урана, якая патрапіла ў міфалагічнае мора і ўтварыла пену. У Лукрэцыя ў паэме «Пра прыроду рэчаў» Афрадыта вызначаецца, як багіня ўрадлівасці, вечнай вясны і жыцця. Яна заўсёды ў асяроддзі руж, анемонаў, фіялак, нарцысаў, лілей і ў суправаджэнні харыт. Уяўленне пра нараджэнне Афрадыты ўзнікае і ад прыснянскіх рушнікоў. Буйныя кветкі, чырвоны, белы, сіні колеры. Чырвоны — кроў, белы — пена, сіні — мора...

Родняцца паміж сабой у абрадава-песеннай прасторы дзве ластаўкі: ластаўка старажытнагрэцкая, пра якую спявалі дзеці з вострава Родас, які знаходзіцца у Эгейскім моры:

*Прыляцела ластаўка*
*З надвор'ем,*
*З яснаю вясною.*
*Кучка ў яе белая,*
*Спінка чорненькая.*
*Што ж ёй ягад не даеш*
*З хаты багатага?*
*Ці дасі ў кубку ёй віна,*
*Ці сыра на сподачку*
*І пшанічкі?*
*І ад кашы ластаўка*
*Не адмовіцца.*
*Ці сысці нам, ці ж атрымаем?*
*Адкрый, адкрый хутчэй дзверцы ластаўцы,*
*Перад табой не старыя, а дзетачкі.*

І ластаўка з каляднай песні, якую выконвалі дзеткі з веткаўскай вёскі Вялікія Нямкі:

*Сею-сею, пасіваю,*
*З Новым Годам паздраўляю.*
*Ластавачка-ластавачка*
*Прылітала, прысідала,*
*З Новым Годам паздраўляла.*
*Пан-панічу,*
*Запалі свічу,*
*Свічу яснаю,*
*Свічу краснаю.*
*Пчолкі гудуць,*
*Мёду дадуць.*
*Адкрывайця сундучкі,*
*Даставайця пітачкі.*
*Хоць руб, хоць пітак,*
*Я ні выду з хаты так.*

(Ад Пасканай Валянціны Рыгораўны, 1969 г. н., з в. Вялікія Нямкі у 2008 г.)

Нас не павінна бянтэжыць тое, што радоскія дзеткі выконвалі сваю «Ластаўку» з надыходам вясны, а нашы — на стары Новы год. У свой час беларусы таксама адзначалі Новы год, прымяркоўваючы яго да веснавога раўнадзенства.

Народная практыка паказвае, што кожная песня, кожны абрад маюць сваё трывалае месца ў прасторы года. Несвоечасовае альбо недакладнае іх выкананне ці невыкананне ўвогуле могуць, паводле ўяўленняў носьбітаў традыцыі, прывесці да самых непажаданых наступстваў. Як вызначыла Варвара Аляксандраўна Грэцкая: «Ціперяка етаму ня веряць. Прагноз глядзяць. А тада песні пелі».

## «Тады ўсе людзі зналі, калі якія песні пець...»

[*Ці маглі веснавыя песні выконваць пад час жніва, жніўныя ў каляды?*]

Так ні было, штоб жніўныя ў Каляды. У Каляды калядныя пеюць, у жніво — жніўныя, вясна — толькі да Ушэсця, і болей вясну ні пелі.

[*Такі закон быў?*]

Да, такі быў закон. Такі быў закон прыняты народам. Яны зналі, калі якія песні пець. Тады ўсе людзі зналі, калі якія песні пець. Як цэрквы былі кадасьці, яны зналі якія песні пець. (Ад Ганны Данілаўны Чуяшковай, 1927 г. н. з в. Шарсцін у 2007 г.)

## «Калі спяваць песні не ў час, запрашаць боства, якое зараз не ўладарыць...»

Калі спяваць песні не ў час, запрашаць боства, якое зараз не ўладарыць. Гэта быў каляндарна-абрадавы цыкл. Гэта кожнае свята адпавядала нейкай гаспадарчай дзейнасці, нейкаму часу, нейкаму стану прыроды. У коле дзён усяму быў свой час. У людзей быў нейкі алгарытм жыцця, алгарытм спрадвечны. Сонца хадзіла па небе, і ў людзей жыццё каціласяў гэтым рытме. Спяваць калядныя песні ў жніво, не было нават такой думкі і патрэбы. І кожнаму перыяду года быў нейкі свой Бог. Які ўладарыў. І яго ўслаўлялі. Пачыналіся маланкі-грамы, што б не запаліла вёску, хвалі маланку, карагоды вадзілі. Каб зіма добра прашла, ішчэ нешта заклікалі, ушаноўвалі, задабрывалі, каго іншага. (Ад Зінаіды Міхайлаўны Ганчаровай, 1955 г. н. з п. Лазараў у 2013 г.)

## «Што на празнік паработаў, эта на адзін абед...»

Расказылі, што нільзя на празнік работаць. Гаворяць: «Што на празнік паработаў, эта на адзін абед. На празнік нільзя работаць. Нада празнікі ўсе спраўляць».

*[Што значыць, на адзін абед?]*

Паеў. І німа болей нічога. На адзін абед. Паеў. І німа нічога болей. Залежаў нікакіх нет. Што на празнік паработаў, эта на адзін абед». (Ад Марозавай Антаніны Пятроўны, 1924 г. н. з в. Пыхань у 2012 г.)

## «Што вы голад сабе вяшчуіця?..»

*[Ці маглі веснавыя песні выконваць пад час жніва, жніўныя ў Каляды?]*

Старыя людзі... Вот вазьмі запей на Соракі...

А ні ткаха, ні пряха, а ні ў полі жняя.

Вышла ў поля жыта жаць... У-у-у...

Етага нільзя была. Еслі мы на Соракі запяём, нас старыя бабы проста б'юць, гаворяць: «Што вы голад сабе вяшчуіця? На што так... Пейця: вясна — вясняныя, лета — летнія, пейця песні, на жніво — жніўныя...» (Ад Зінаіды Якаўлеўны Лапіцкай, 1926 г. н. з в. Гарысты у 2012 г.)

## «Дзе пяюць, там і хваробы ні будзя...»

Расказывалі... На этыя шчодры ехала хвароба... Ехаў мужык з жонкай на кане. І хвароба папрасілася пад'ехаць: «Падвязіця да тэй да тэй дзярэўні». Яны яе ўжэ вязуць. І дзеці пяюць. Самыя ж шчодры. Дак яна кажа: «О, не ! У эту дзярэўню ехаць ні нада. Тут дзеці пяюць». Дзе пяюць, там і хваробы ні будзя. А дзе ні пяюць, там хвароба будзя. (Ад Надзеі Антонаўны Шчыравай, 1943 г. н. з в. Раманавічы Гомельскага раёна у 2012 г.)

## «Да каго мы прышлі, мы зрабілі пашану...»

Гэта былі часы, калі забаранялі іконы трымаць. Бацька з маці, памятаю, сварыліся... Бацька быў камуніст, а матка да Бога хінулася... І якія сваркі былі... Хадзілі парційныя работнікі і глядзелі: калі ікона ў хаці, гэта былі вялікія непрыемнасці. Але маці ўсё-такі ікону ў хаці трымала. Гэта былі сямідзесятыя гады. І калі б даведаліся ў школі, што мы гэта рабілі, хадзілі па дварах, нам давалі нейкая сала, давалі цукеркі, хто грушы сушаныя, бліны... Нас частавалі... Мы, дзеці, былі вельмі рады... І дабрыню гэтых гаспадароў на сабе адчувалі... Іхні характар, адносіны да ўсяго да гэтага... Але ў школе, каб ня ведалі. Сараліся гэта рабіць ціхінька, каб ніхто не пачуў і ў школі класнаму кіраўніку не расказалі... Некалькі гадоў было, што мы нават зусім не хадзілі. А жанчыны: «Дзетачкі, ну што гэта такоя? Такі вечар, такая прыгажосць, а нават гуку німа, песен над вёскай ні чуваць. Мы нікому ні скажым, прыдзіця хоць ка мне». Тая кажа: «Ка мне прыдзіця. Гэта ж нашы маткі так рабілі, нашы продкі. Мы ўжо да гэтага прызвычаіліся. Прыходзьця, мы нікому ні будзім казаць». І мы ўжэ хадзілі да тых людзей і нешта ўжэ спявалі. Дамаўляліся: «У тым дварэ будзім тую пець песенку. Там будзім гаспадыню віншаваць. Там будзім дзяцей успамінаць». І гэта было вельмі цікава... Так таямніча, загадкава так было. І гэтыя

ўспаміны нават і зараз маё сэрца саграваюць. І хацелась, каб гэта заўсёды было. У міня нядаўна ўнук пайшоў у школу, і з ім таксама ў тую зіму хадзіла. І нават малявала яму нейкія вусы, загадзя разучывалі гэтыя песенкі. І яму было цікава. І было прыемна, што сустракалі ў пад'ездах шматпавярховых дамоў іншых калядоўшчыкаў. Было прыемна, што гэта традыцыя жывая, што нейкія нашы карані, нашы вытокі захаваліся. Каб хлеб радзіў, каб прыплод быў... Яны ў гэта па-сапраўднаму верылі... Што гэта як магічнае ўздеянне будучым іх ураджаям, будучым іх багаццям. Усё-такі яны спадзяваліся, што гэта як бы якая малітва да нябёс... І яна будзя пачута. І тое, што яны далі нам нешта сваё, тое, што ім Бог даў, падзяляліся з намі, ім назад верніцца ў некалькі разоў.

[*Вы сказалі, што вырашалі: да каго зайдзім, каго прапусцім?*]

Прапускалі... У каго сабакі злыя. Гэта значыць у гаспадара характар такі... Хто пакрыўдзіў калі-небудзь. Гэта да каго мы прышлі, мы зрабілі пашану, мы яго славім, мы яго велічаім. А калі нейкія людзі нам не даспадобы, гэта было за абразу для іх, што мы мінулі яго дом... І спадзяваліся на тое, што ён ужо адмоўныя рысы характара пераменіць.

Таго шта мы прышлі да тога гаспадара, для яго была вялікая пашана. Абмінуць двор — гэта была ганьба. Мы дзіцячым розумам так выказывалі сваі адносіны да якіх-та з'яў, якія ў грамадстве існавалі. (Ад Зінаіды Міхайлаўны Ганчаровай, 1955 г. н. з п. Лазараў у 2013 г.)

## Замест пасляслоўя

У песен свая памяць — даўжэйшая за памяць людскую. Галоўнае іх помніць. Вучыцца ім. Любіць іх. І ставіцца да іх так, як ставіліся да іх продкі. Нават і не самыя далёкія ад нас па часе.

Аднойчы гэтыя песні вярнулі мяне ў маё далёкае дзяцінства. Калі хто-небудзь з дзяцей у летні час выходзіў на вуліцу ў цёплым адзенні, яго дражнілі: «Зіма-лета, папугай, наша лета не пужай!..» І нават спрабавалі пры гэтым пабіць. Было незразумела і вельмі крыўдна. Дзякуючы гэтым песням, я зразумеў, што наша цёплае адзенне было своеасаблівай правакацыяй у адносінах да Боствоў. Гэтак жа, як і не ў час праспяваная песня...



# Таццяна Мацюхіна

паэтка, крытык. Навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук. Аўтар кнігі паэзіі: «Адчуць гармонію душы» (2015 г.) і манаграфіі «Беларускі імпрэсіянізм» (2015 г.) Нарадзілася ў 1984 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.

# Кожны сам гаспадар сваёй долі, або Вясковая ідылія ў характарах...

***Барысік, Т. Жанчына і леапард: апавяданні / Таццяна Барысік. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 132 с.***

Таццяна Барысік — удзельніца рэспубліканскага конкурсу маладых талентаў «Дэбют», лаўрэат прэміі Ежы Гедройца ў 2015 годзе за кнігу «Жанчына і леапард» (2-е месца). Яе празаічная кніга — «Жанчына і леапард» — прыцягвае ўвагу сучаснага чытача не толькі сваёй назвай, але і праблематыкай (вёска, яе радасці і беды; маральны выбар асобы, барацьба за сваё шчасце; хібы і заганы грамадскасці і інш.), шматстайнасцю характараў персанажаў і сакавітай, вобразнай мовай. У апавяданнях рэалістычная манера аповеду дае магчымасць усвядоміць і асэнсаваць тыя праблемы, якія не проста закранаюць соцыум, а «пранізваюць» яго наскрозь недвухсэнсоўнымі праявамі — падхалімніцтва, ліслівасці, нават хабарніцтва («На Каляды», «Жанчына і леапард»), фармалізму ў асэнсаванні каштоўнасцей жыцця («Маленства пад горку кацілася»), п'янства, дэградацыі асобы, бюракратызацыі работы настаўніка-арганізатара («Падарунак для Дзеда Мароза»). Найчасцей у апавяданнях Таццяны Барысік прысутнічае адна сюжэтная лінія, аднак мадэль прыгодніцкага, нават дэтэктыўнага ўспрымання свету дазваляе падзеям мастацкіх твораў развівацца не ў ланцужковым парадку, а па спіралі, што надае творчасці аўтара прыкмету надзённасці і актуальнасці. Мастацкія творы вызначаюцца глыбокім псіхалагізмам і інтэртэкстуальнасцю, што дае магчымасць казаць пра адзінства рэалістычнага і знакава-сімвалісцкага ўяўлення пра творчасць беларускага празаіка.

Кніга, якая складаецца з разнастайных апавяданняў, побытавых замалёвак, псіхалагічных эцюдаў, пазначаная аўтарскім ужываннем вялікай колькасці трапных выслоўяў, што грунтуюцца на вясковых назіраннях нераўнадушнага да свету аўтара і проста назіральнага, далікатнага, удумлівага чалавека. Лейтматывам яркага, запамінальнага апавядання «Жанчына і леапард» Таццяны Барысік гучаць наступныя радкі: «Усё-такі леапард у Індыі і чалавек са Слабодкі, што ні кажыце, шмат агульнага маюць: абодва вольнымі нараджаюцца. Але пасля ў чалавека з'яўляецца прысядзібная гаспадарка, праца, дзеці <...>, і ён паўстае на раздарожжы: або ўласная годнасць, чыстае сумленне, але замардаванае існаванне штодня ды малыя шанцы дасягнуць пенсійнага веку ў выніку, альбо з аптымізмам у будучыню — з паляндвічкаю для чулага кіраўніцтва пад пахай <...>. Тады фінал крыху іншы — трасфармацыя імкнення да свабоды і самапавагі ў нечаканае жаданнне стаць леапардам [1, с. 25]. Воля і слабахарактарнасць, сумленне і крывадушнасць становяцца свайго ро-

ду гарантамі шчасця ці гора, поспеху ці няўдачы ў свядомасці персанажаў... Аднак, тое, што знаходзіцца ў свядомасці дзеючых асобаў кнігі, і тое, што яны выказваюць услых, выражаюць учынкамі, у большасці выпадкаў не супадае — часткова ці поўнасцю. Так узнікае адчуванне «экзістэнцыйнай адзіноты», «экзістэнцыйнага падзення». І ў выніку — крызіс мыслення і неўтаймоўная прага свабоды выбару.

У вышэйузгаданым апавяданні «Жанчына і леапард» Таццяна Барысік незнарок адзначае сапраўдны стан прадукцыі і яе попыту ў ААТ «Добры гаспадар» і акрэслівае праявы махлярства з боку кіраўніцтва колішняга філіяла завода гароднінных кансерваў. Разліковы, прагматычны падыход да работы, як адзначае аўтар кнігі, пануе і ў раённай газеце.... Празаік ускосна супрацьпастаўляе паняцці «народная памяць» і «свет ілюзіі ўласнага шчасця» ў «знявечанай свядомасці ўдарніцы працы» Алены Багуненка. Таццяна Барысік акцэнтуе ўвагу і на тым, што ў дыялогу Алены з журналістам з карціны пасляховага, бездакорнага, узорнага жыцця выпадае «фрагмент» няўдаласці яе блізкага сваяка — брата мужа. Так наспявае праблема, якая гучыць наступным чынам: «Што падумаюць пра мяне людзі? Якое ў мяне акружэнне? І якой я павінна (-нен) быць у грамадстве, каб мяне цанілі і з маім меркаваннем УСЕ лічыліся?».

Выбар сумлення — падхалімніцтва ці поспех, шчырасць душы ці цяжкая, невыносная праца? — абмежаваны сацыяльнымі патрабаваннямі, прынцыпамі, штампамі ці іх адсутнасцю. А значыць, выбар асобы павінен быць заснаваны на пачуцці любові да цэлага свету, людзей, Бога, прыроды, самога сябе і непахісным памкненні несці ў свет нязгаснае святло асветы, рэлігіі з мэтаю згуртавання людзей. У сваёй кнізе Таццяна Барысік заклікае дасягаць сваёй мэты, не адмаўляючы сваё крэда, сваю мару, свой талент і права быць сабой у імя любові, шчасця, радасці і дабрабыту іншых людзей. А не толькі шануючы самога сябе, як у эгацэнтрычным утапічным свеце абсурду...

Глыбокае веданне вясковага ладу жыцця, звычаяў сялянства раскрываецца ў апавяданнях Таццяны Барысік шматаспектна. Па-першае, празаік стварае рэалістычныя вобразы тыповых герояў у тыповых абставінах (Валя Чацвяртушка, Сцёпішын сын — у апавяданні «На Каляды»; Грышка Бык — у апавяданні «Казліная помста»). Па-другое, пры ўплыве знешняга асяроддзя перайначваецца канцэпцыя ўнутранага свету вяскоўцаў, бо ў вёсцы ўсе людзі навідавоку, а іх летуценнасць, мройлівасць і паэтычнасць душы нярэдка выклікаюць асуджэнне з боку тых, хто штодзённа, без адпачынку, працуе на зямлі, вырошчвае жыта і ўстае а пятай гадзіне раніцы, каб дагледзець гаспадарку. Так людзі з творчым запалам у душы выходзяць замуж па неўзаемным каханні і адмаўляюцца ад сваёй высокай мары ў надзеі адпавядаць сацыяльнаму стандарту правільнага жыцця (вясковая настаўніца — у апавяданні «Па наезджанай каляіне»), а крэатыўныя асобы закопваюць свой талент у зямлю (Віталь Мурашоў — у апавяданні «Прыступка да поспеху»), ходзяць на нялюбую працу (педагог-арганізатар — у апавяданні «Падарунак для Дзеда Мароза»).

Асобнае месца ў кнізе займае апісанне працы на зямлі, якая штогод прыносіць людзям багаты ўраджай. Казачнае, абагоўленае дзейства апырсквання картапляніка атрутнай для жукоў вадкасцю дэталёва паказанае Таццянай Барысік у апавяданні «Кропелькі»: «Клятая даёнка рэжа руку, часам вадкасць булькае і пляскае мне на боты. Рухамі старажытнага сейбіта з падручніка гісторыі я раскідваю па наваколлі пырскі казюрчынай смерці» [1, с. 81—82]. Аўтар кнігі «Жанчына і леапард» выкарыстоўвае рэтраспекцыю, каб суаднесці вобраз самой сябе — па-юнацку гарэзлівай, далікатнай, рухавай і клапатлівай па гаспадарцы, і абагулены правобраз сваёй бабулі — строгай, працавітай і любячай. Адметна тое, што Таццяне Барысік як выдатнаму празаіку дастаткова адной рэплікі, фразы, каб перадаць душэўны стан сваіх персанажаў (той жа бабулінай суседкі ў апавяданні «Кропелькі»). Чорнаўская дэталёвасць і лаканізм, коласаўская яснасць, стральцоўская любоў да прыроды ў яе неабмежаванай прасторавай выяўленасці ў поўнай меры характарызуюць творчасць Таццяны Барысік і даюць ёй магчымасць адметным чынам перадаць трапяткі каларыт вёскі. Той, дзе «ў лужыны можна шпурляць каменьчыкі і мерацы іх глыбіню» [1, с. 66] і дзе «жыццё было цудоўным» [1, с. 66]...

У той жа час для творчасці Таццяны Барысік характэрна містычнае светаўспрыманне, якое, побач з рэалістычнаю формаю асэнсавання рэчаіснасці, грунтуецца на адвечных пытаннях, якія задаваў сам сабе Архіп з апавядання М. Гарэцкага «Роднае карэнне»: «Мы не ведаем, што будзе пасля нашае смертухны, а на гэтым свеце на ўсё адгадкі знайсці не можна, шукай не шукай. І шчасліў той, хто мірыцца лёгка з гэткім будаваннем жыцця або хто бадай што не думае аб гэтых «шалёных» пытаннях <...>. І гора <...> таму, хто захоча хоць на адзін момант, адным вокам зірнуць на той бок заслоны! Яму адзін шлях к разгадцы, шлях страшны і, галоўнае, няпэўны, няпэўны шлях, і гэты шлях — смерць» [2, с. 33]. І таму ў сучасных чытачоў — у сваю чаргу — могуць узнікнуць звычайныя, а часам і неардынарныя пытанні: якія таямніцы хавае вёска ў нетрах сваёй душы? Каму са сваіх жыхароў яна аддае гаючае цяпло, а каго зводзіць са свету як адшчапенца, дэграданта, п'яніцу, распусніка, гультая-пярэваратня? Безумоўна, з даўніх часоў людзі разумелі сакральны сэнс зямлі і звязвалі ўзыход сонца з Богам Ра, а таму і радаваліся промням сонца, зараніцы, пачатку новага дня. Гэткую ціхую радасць, захапленне наваколлем мы заўважаем і з боку вяскоўцаў, няпростых па характары, але разумных і дасціпных па сваёй сутнасці людзей.

Не дзіўна, што ў гаманкой вёсцы любая навіна выклікае шматлікія гутаркі і нават фантастычныя ўяўленні. Адну з такіх фантазій апісвае Таццяна Барысік у апавяданні «Навіна тыдня»: «— Ну дык вось, — павучальна прамовіла Савончыха, — усю восень і зіму нябожчык спакойна ў зямлі ляжыць. А вясною і ўлетку з яго фосфар выходзіць. Круціцца белы слуп, а ўнутры агеньчыкі бліскаюць. Убачыш такое — стой на месцы і не дыхай, бо прыйдзе да цябе і задушыць» [1, с. 53]. Матыў містыкі Гарэцкага тут тлумачыцца вельмі проста:

чалавек, які выйшаў з вёскі, але абраў новы шлях, да горада яшчэ не прызвычаіўся. І таму яднае ў адно «метафізіку», навуку і «забабоны», не размяжоўвае іх. Адзначым і тое, што вясковы лад жыцця запаволены, а жыхары вёскі нават тэлевізар не заўсёды ўключаюць, дзякуючы чаму забываюцца пра свае страхі і хваробы, заўважаюць драбніцы жыцця, на якія жыхар мегаполіса не звярнуў бы ніякай ўвагі.

Адчуваецца, што Таццяну Барысік хвалюць праблемы вясковага жыцця з самага маленства, а яе дзяцінства і юнацтва напоўніцу былі звязаныя з традыцыйнымі святамі і сезоннымі ўборачнымі работамі (Новы год, Каляды, Радаўніца; жніво). А мы, чуйныя сучасныя чытачы, удумліва асэнсоўваем тое, што адбываецца ў вёсцы, мястэчку, на хутары. Эвалюцыянуе вёска ці дэградуе? Хто на сёння жыве ў вёсках — ранімы, чулы, з тонкім густам інтэлігент або так званы «зямны», практычны па сваіх перакананнях араты-хлебароб? І што трэба рабіць, каб перамагчы зло вёскі — п'янства, пляткарства, норму маралі — «каб було, як ва ўсіх»? На ўсе гэтыя пытанні Таццяна Барысік дае вычарпальны адказ, калі аналізуе духоўныя каштоўнасці і, што ні дзіўна, матэрыяльны клопат вяскоўцаў аб прыбытку пры ўтрыманні гаспадаркі (апавяданні «Па наезджанай каляіне», «Казліная помста» і інш.). Відавочна, багатая хата, урадлівая зямля, ранняе замужжа, вялікая колькасць дзяцей, кроўна-сваяцкае сяброўства, прызнанне заслуг пры максімальнай засяроджанасці на працы — як важныя складнікі паспяховасці жыхара беларускай правінцыі — выводзяць вёску на новы віток яе гістарычнага развіцця (апавяданні «Жанчына і леапард», «Кропелькі», «На Каляды»).

У сваіх апавяданнях аўтарка выяўляе адносіны вяскоўцаў і да рэлігіі. Як бачым, у іх разуменні царква зусім не абазначае ўсеагульную паяднанасць з Богам, а з'яўляецца пэўным атрыбутам (прыкметай) «правільнасці» здзейсненых учынкаў большасцю насельніцтва вёскі. Так, адзін з персанажаў-жанчын у аповедзе пра свой лёс адзначае: « Я ж у царкву не хаджу, таму хацяб і не перад Богам, дык перад людзьмі апраўдаюся. Мо лягчэй зробіцца» [1, с. 3]. Больш важнай стане адказнасць сталай асобы за сваіх малодшых братоў і сясцёр, разборлівасць у людзях, уменне згуртавана жыць сямейна-родавай супольнасцю (апавяданне «Па наезджанай каляіне»), а таксама схільнасць бачыць ва ўнутраным свеце чалавека лепшае і шматбакова выяўляць свае здольнасці ў рэчышчы мастацтва і літаратуры (апавяданне «Без чытачоў»). У той жа час аўтар кнігі выяўляе мізэрнасць душы некаторых персанажаў у іх абмежаваным светаадчуванні і памкненні да прызнання, славы пры ўнутранай спустошанасці, ненадзейнасці, абцяжарванні бацькоў сваім беспрацоўем і лянотаю (на прыкладзе жыцця Паўла з апавядання «Няўдалы прарок»). У кнізе Таццяна Барысік перадае адносіны сваіх персанажаў да супрацьлеглага полу, да ўласных дзяцей і бацькоў пры звароце да горкай іроніі: «Ларыса выперла мужа [Паўла. — Т.М.] з хаты, з Марынай таксама нешта разладзілася. Абедзьве падалі на аліменты. <...>.

На працы Паўлік пасварыўся з майстрам і звольніўся. Спачатку пашкадаваў трохі, а потым зразумеў — не так то яно і блага! Талерка супу заўжды ёсць, аліменты бацька з пенсіі плоціць <...>. Вольнага часу шмат — а гэта важна для творчага чалавека» («Няўдалы прарок») [1, с. 40—41]. Як бачым, «вольны час» і «творчы чалавек» — адрозныя паняцці і нават семантычна-лексічныя катэгорыі!.. У апавяданні «Няўдалы прарок» Таццяна Барысік ускосна вызначае жыццёвы досвед розных пакаленняў, прадстаўнікамі якога з'яўляюцца бацька і сын.

Сярод мастацкіх твораў празаіка выклікае глыбокую зацікаўленасць апавяданне «Пра любоў і дружбу». Яго фальклорыстычна-казачны пачатак настройвае чытача на аптымістычны лад у адчуванні паўнаты быцця: «За трыма лясамі, з трыма ўзгоркамі і адной канаваю, на ўскрайку невялічкай вёсачкі жыў чалавек. І была ў яго карова па мянушцы Малюта. Чалавек вельмі любіў сваю карову і ганарыўся ёю» [1, с. 49]. Аўтар кнігі перадае замілаванасць чалавека жывёлінай і асэнсоўвае значэнне такіх паняццяў, як «дружба», «любоў», «чыстыя ўзаемаадносіны». Адметна тое, што Таццяна Барысік не дае імені галоўнаму персанажу, не называе імя і старшыні калгаса — «трэцяга лішняга», з-за якога і была здадзеная на мяса Малюта. Ускосна празаік выяўляе спецыфіку таварна-грашовых адносінаў у гаспадарцы, што датычыцца «куплі-продажу» пэўных рэчаў на карысць асобы. Узнікае пытанне: якім чынам карыслівасць, якую мае на мэце чалавек, можа запляміць чыстую сутнасць асобы? І што тады можна казаць пра любоў, каханне, сяброўства, сумленне і справядлівасць ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі, што фарміруюцца, успыхваюць і гаснуць у душы асобы — нібы зоркі — незалежна ад паняццяў «прагматычнае выкарыстанне», «ужытак», але становяцца прадметам «куплі-продажу»?!. Таццяна Барысік асэнсоўвае, якім чынам ажыццяўляецца так званы абмен духоўных і матэрыяльных каштоўнасцей у сучасным грамадстве.

Аўтар кнігі выяўляе ўнутранае самаадчуванне сваіх персанажаў, іх духоўны рост ці яго спыненне пры аналізе паводзінаў асобаў у невыносна цяжкай, неспрыяльнай сітуацыі (апавяданне «Прыступка да поспеху»). Самі сітуацыі, калі адбываецца «выпадзенне» персанажаў з агульнапрынятага шаблона паводзінаў, Таццяна Барысік не драматызуе, але паказвае «вачыма суразмоўцы» экспрэсіўна, вобразна і дынамічна. Да прыкладу, у вышэйузгаданым апавяданні Віталь Мурашоў — прозвішча якога само па сабе сімвалічнае, — вымушаны выступаць з «Одай» на ўрачыстых мерапрыемствах універсітэта і ісці супраць сваіх перакананняў дзеля свайго будучага кар'ернага росту: «Віталь памаўчаў якую хвіліну. Пры словах «Краснапольскі раён» перад вачыма ўмомант пранесліся спалоханыя бацькі, незадаволены дзед, усмешачкі аднакурснікаў: во, маўляў, са скуры вылузваўся, а карысці? Гразкая дарога, новабудоўлі ў чыстым полі са шчылінамі таўшчынёю ў палец» [1, с. 38]. Безумоўна, Таццяна Барысік звяртаецца ў сваёй творчасці не толькі да праблемы вымушанага адмаўлення персанажамі ад свайго светапогляду, але і да праб-

лемы крызісу сям'і як ячэйкі грамадства (апавяданні «Тэлегісторыя», Маленства пад горку кацілася», «Вянок цыбулі» і інш.). Так, у апавяданні «Жадаю вам» аўтар кнігі асэнсоўвае становішча тыповай шараговай вясковай сям'і, дзе замест царквы наведваюць баптыстаў, заключаюць нетрывалыя шлюбы, якія распадаюцца; нараджаюць прыкладна пяцёра дзяцей і ўсё сварацца ды мірацца. Таццяна Барысік паказвае нечуваную ідылію сямейнага шчасця ў інтэртэкстуальным плане: «У сям'і пануе каханне, узаемапаразуменне ды згода. А калі нават паб'юцца ці нажамі парэжуцца <...> дык ужо назаўтра пахмеляцца, паміраюцца і шпацыруюць па вуліцы ў абдымачку. Маці, бацька й меншыя дзеці разам у будні і святы. У дзень палучкі ідуць у кантору. Потым — у краму па віно і цукеркі» [1, с. 45].

Таццяна Барысік глыбока асэнсоўвае праблему жыцця і смерці і перадае горкую праўду пра існасць чалавека пры выяўленні зрухаў у душы дзяцей і вясковай бабулі (апавяданне «Маленства пад горку кацілася»). Дзяцінства як пара бесклапотных гульняў, забаў і бяздумных учынкаў паказанае тут у кантэксце такіх падзей, як хаўтуры, смерць бабулі Несцяровічыхі і гарадскога хлопца Валеркі. Неабдуманыя словы Валеркі на хаўтурах жанчыны гучаць у душы апавядальніка як папярэджанне моладзі — ушаноўваць памяць аб памерлых і не смяяцца з незразумелых з'яў жыцця. Ужо ў апавяданні «Хроніка маладосці» вуснамі персанажа па імені Марына аўтар кнігі з доляй смутку і жалю падкрэсліць: «На хаўтурах гавораць пра памідорную расаду, каларадскіх жукоў і куды чый сын паступаць будзе» [1, с. 71]. Таццяна Барысік заклікае з большай цеплынёй і павагай ставіцца да старэйшага пакалення, да бацькоў (апавяданні «Хроніка маладосці», «Вянок цыбулі» і інш.), не забывацца на ўсталяваныя спрадвеку традыцыі (апавяданне «Дзень напаўжывога чалавека») і пазбавіцца сляпога афіцыёзу ў адносінах паміж людзьмі розных рангаў, узроставай, сацыяльнай, тэрытарыяльнай і іншай прыналежнасці (апавяданне «Перамагчы палтэргейст»).

Кніга «Жанчына і леапард» — праўдзівая ілюстрацыя жыцця жыхароў вёскі ў характарах. У кожным апавяданні яе аўтара можна вылучыць адметны характар ці тып персанажа (Віталь Мурашоў і Адам Кашлаты — у апавяданні «Прыступка да поспеху»; Павел — у апавяданні «Няўдалы прарок»; Любка — у апавяданні «Навіна тыдня»; Франусь, Маня, Грышка — у апавяданні «Казліная помста» і інш.). Таццяна Барысік, ідучы творчымі шляхамі беларускіх класікаў Якуба Коласа і Лукаша Калюгі, Кузьмы Чорнага і Максіма Гарэцкага, выказвае ў сваіх творах думку: людзі ад зямлі больш трывалыя, маральна ўстойлівыя і фізічна моцныя, чым тыя, хто пастаянна вітае ў аблоках, не хоча працаваць і марыць дасягнуць поспеху, не прыкладаючы сіл... Унікальнасць апавяданняў Таццяны Барысік у рэчышчы нацыянальнай духоўнай скарбніцы заключаецца ў тым, што яна ў кантэксце мастацкай прасторы і наяве пакідае права чытачу зрабіць свой выбар разам са сваімі персанажамі — без асуджэнняў і павучанняў, але з вялікай любоўю, пашанай і дабрынёй. Кожнае яе

апавяданне раскрывае тэму чалавекалюбства і любові да свету так, як гэта магчыма ва ўмовах сучаснай гуманізацыі грамадства.

## Літаратура:

Барысік, Т. Жанчына і леапард: апавяданні / Т. Барысік. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 132 с.

Гарэцкі, М. Выбраныя творы / М. Гарэцкі; уклад. Р. Гарэцкага і Т. Голуб, прадм. і камент. Т. Голуб. — Мінск: Кнігазбор, 2009. — 640 с.



# Анатоль Трафімчык

літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт.
Кандыдат гістарычных навук. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку.
Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы.
Жыве ў Мінску.

# Ад медытацыі да шансона...

***Дэбіш В. Чуйнар: вершы. Мінск: Кнігазбор, 2015. 224 с.***

***Кананові́ч І. Астэроід: вершы. Мінск: Кнігазбор, 2015. 124 с.***

Сёлета пабачылі свет зборнікі вершаў Васіля Дэбіша (не блытаць з яго братам, у тым ліку па мастацкім пяры, Анатолем) ды Ігара Кананові́ча. Для першага — чарговы, для другога — першы. Абодва аўтары для сачыняльніка гэтых радкоў — землякі: адпаведна — па цяперашняй Берасцейшчыне і па колішняй Клеччыне. Хаця на Берасцейшчыне мой і В. Дэбіша рэгіёны паміж сабой зусім неаднародныя. А вось з блізкай культурна Клеччынай мае Круговічы, згаданыя ўпершыню ў 1445 г. як вёска Клецкай воласці, разлучаны цяпер абласной мяжой.

Тым не менш, магчыма, якраз у сілу такога не без нацяжкі (а месцамі і без яе) зямляцтва ўспрыманне многіх радкоў азначаных дзвюх кніг, якія да таго ж і выйшлі ў адной серыі следам пад нумарамі — адпаведна — 58 і 59, супадала, пераклікалася, атаясамлялася. Хоць адпачаткова рэцэпцыя не прадвяшчала аналогій. Возьмем, да прыкладу, такую канцэптуальную рэч, як назва. У старэйшага паэта яна пракладае мосцік да традыцыі палескага паэтапісання, узыходзячы да слова-наватвора слыннай Ніны Мацяш: Чуйнар — «гэта анёл, які тлумачыць паэтцы сутнасць яе зямнога лёсу»[1]. У клецкага «першакніжніка» назва зборніка наадварот індывідуалізуе Аўтара, прычым не толькі на тле калег па пяры, але і ўсяго чалавецтва (чаго варты падзагаловак аднайменнага верша — «у перакладзе на чалавечую»):

*Хай вабяць зноў магутных зорак галасы —*
*Не даспадобы мне сістэм трывалых межы.*
*Я — астэроід. Я — Сусвету блудны сын.*
*Я ў вечным пошуку. Жыву, а не залежу.* («Астэроід», с. 47)

Адно не хапае клічнікаў і напісання слова «астэроід» з вялікай. Зусім іншыя інтанацыі ў В. Дэбіша:

*Гады так хуценька мінаюць.*
*Б'е ў звоны Вечнасці званар,*
*А метраном час адмярае —*
*Тваёй... «маёй душы чуйнар».*

Гэты праграмны для кнігі і самога Аўтара верш складаецца з дзвюх частак, і ў другой адбываецца ўжыванне лірычнага героя ў вобраз, які даў назву выданню (нездарма і водгук на гэты зборнік — ці не адзіны пакуль? — Міколы Сянкевіча мае найменнем цытату з апошняга чатырохрадковіка[2]):

*Я ўсяго толькі голас дрэў,*
*Толькі думка, што прагне плоці.*

---

[1] Лялько К. Апошні ліст // Наша вера, 2009, №1. С. 62.

[2] Сянкевіч М. "Я толькі голас дрэў…" // Новы час, 2015, 28 жн. С. 23.

*Вобраз. Дух. Толькі ціхі спеў*
*Ветру, спыненага на ўзлёце.* («Чуйнар», с. 4—5)

Разам з тым гэту страфу можна лічыць і алегарычнай дэфініцыяй паэзіі, вызначэннем у сэнсе таго вобразу, раскладзенага на морфы земляком... не В. Дэбіша, а якраз І. Канановіча Леанідам Галубовічам некалі таксама ў дэбютнай кнізе:

*Ты — боль, паэзія. Ты — быль.*
*Твае суровыя законы*
*Не для забаў, не для гульбы —*
*А пошук ісціны да скону*[3]*.*

Зрэшты, напэўна, так і павінна быць. І маладым трэба імкнуцца да таго, да чаго працярэблівае свой шлях І. Кананові — настаўнік па атрыманай прафесіі, але... грузчык па галоўнай працадзейнасці. Спадзяёмся, толькі на цяперашні момант. Як той казаў, дзеля біяграфіі. Хоць, відавочна, не ў біяграфіі прычына: «Проста захацелася чалавечых умоваў працы, прыстойнага заробку, нармальнага стаўленьня да сябе. Як аказалася, усё гэта ёсьць у грузчыка, але няма ў настаўніка»[4]. Дык вось, са слоў самога Аўтара яго «Астэроід» нясе пагрозу «стэрэатыпнаму ладу мысьленьня. Бывае, што пэўны верш — знарок скіраванае разьбіваньне стэрэатыпаў. Я стараюся гаварыць пра тое, пра што нельга казаць»[5].

В. Дэбіш больш спакойны. Як падаецца, у яго няма звышзадачы. Паводле яго, паэт, несучы свой «крыж пакутаў нятленны Хрыстовы»,

*Аслабелы, худы, адзінокі. Ідзе ён ледзь-ледзь.*
*Сонца плечы без жалю пячэ, вусны высушыў вецер.*
*Ён нясе праўды крыж і спрабуе душой зразумець*
*Тое, што зразумець могуць толькі маленькія дзеці.* («Крыж», с. 50)

У цэлым паэзія І. Канановіча пакідае, скажам аксюмаранічна, *асадак* больш *аптымістычны*, чым В. Дэбіша. Апошні ўздымаемыя пытанні нярэдка размінае з адказамі («Куды? Навошта? Каб жа гэта знаў!..» — «Рака жыцця», с. 56). А калі яны і адшукваюцца, дык, мякка кажучы, невясёлыя. Прычым па большасці закранаемых тэм. Асабліва ў асэнсаванні жыцця-быцця:

*Мы толькі пыл... Вось жменька пылу,*
*Як напамін, што мы былі.* («Мы — пыл. Мы толькі жменька пылу....», с. 57)

У той жа час І. Кананові знаходзіць «сімвал веры»:

*Мы не вартыя цудаў. І ўсё-такі верыць у нас*
*Бог магутны і светлы. Ён больш міласэрны, чым строгі.*
(«Сімвал веры», с. 49)

Калі ў В. Дэбіша (такое адчуванне) паэт не можа быць прызнаным — ні народам (с. 50), ні каханай (с. 41), то І. Кананові, якому таксама неабыякавае такое прызнанне, болей *разлічвае* на вышэйшую ласку:

---

[3] Галубовіч Л. Таемнасць агню: Вершы. Мінск: Мастацкая літаратура, 1984. С. 10.

[4] Скобла М. Ігар Кананові: У сярэдняй школе ўсё пранізана ідэалёгіяй // Радыё Свабода [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.svaboda.org/content/transcript/27264298.html. Дата доступу: 13.10.2015.

[5] Тамсама.

*Спадзяюся, па смерці не будзе бязмежна суровы*
*Найвышэйшы Прысуд, хоць ахвотна і часта грашыў.*
*Бо ў краіне трасянкі і дрэннай расійскай мовы*
*Я спяліў Беларусь у пякучай, зацятай душы...*

(«Беларуская аўтаэпітафія», с. 52)

Нездарма курсівам робіцца намёк на пэўны разлік у паэтычных практыкаваннях маладога паэта. Няма сумневу, што ён з гэтым не пагодзіцца. Таму падкрэслім са свайго боку суб'ектыўнасць гэтага меркавання. Таму што, бясспрэчна, большасць вершаў І. Канановіча — гэта слова, выгадаванае на глебе перажытага болю і нават пакутаў. Аднак у слове тым не адчуваецца намоленасці, быццам аўтар імпрэсіяністычна хацеў пазбавіцца перажыванняў. Магчыма, справа тут у жыццёвым (і, безумоўна, паэтычным) досведзе. Бо ў таго ж В. Дэбіша ўзяты пад увагу «каменні тыя, што губяць сілы маладыя» (Якуб Колас), не толькі са сваіх шляхоў, — творчасць берасцейца ў многім іманентна падмацавана «глыбамі і слаямі» (М. Багдановіч) беларускага прыгожага пісьменства наогул. Традыцыяналізм В. Дэбіша ўзыходзіць з беларускай класікі і, не мінаючы лепшых прадстаўнікоў кожнага пакалення, карэлюецца з творчасцю многіх творцаў, у тым ліку нашых з вамі сучаснікаў. Ці ж не запаралелены верш «Чарнобыль» з Караткевічаўскай «Дзяўчынай пад дажджом» 1969 г.? Для параўнання:

| В. Дэбіш | У. Караткевіч |
|---|---|
| Яна ў гэты міг вясёлы<br>Не знала пра цэзій і стронцый...<br>Дзяўчынка ў далоньках кволых<br>Трымала маленькае сонца. (с. 98) | Гнуткія лініі ног.<br>Бэзам з садоў павявала,<br>Вечна хацелася жыць.<br>Дзяўчына ад шчасця спявала.<br>Стронцый быў у дажджы...[6] |

Нягледзячы на прысутнасць імёна класікаў беларускага прыгожага пісьменства (у назвах, прысвячэннях і эпіграфах фігуруюць Ф. Багушэвіч, М. Багдановіч, У. Караткевіч, В. Быкаў, П. Панчанка) і перманентныя патрыятычныя матывы, мусім сцвярджаць, што творчасць І. Канановіча імкнецца да апоры на шырэйшы інтэлектуальны падмурак, чым нацыянальная культура (хоць з гэтай тэзай, напрыклад, Леанід Галубовіч можа і не пагадзіцца[7]). У адрозненне ад В. Дэбіша ў І. Канановіча назіраюцца спробы «касмапалітызаваць» свой голас. Часта — праз сістэму каардынат гісторыі: «Шукаю Крывію (як іншы — Атлантыду)... («Атлантыда», с. 12). Побач з героямі і канцэптамі генетычна нацыянальнымі (касінер) кляччанін звяртаецца да такіх паняццяў, як Валгала і конунг (с. 17), хранатопаў Рыма (с. 31) і Праванса (с. 29), формаў серэнады (с. 61) і накцюрна (с. 99)...

Усё вышэйсказанае — нібыта пра адрозненні ў паэтычных светах І. Канановіча і В. Дэбіша. Але, па-першае, кропкі супрацьпастаўлення — гэта і кроп-

[6] Караткевіч У.С. Збор твораў. У 25 т. Т. 2. Паэзія, 1961–1984 / падрыхт. тэкстаў і камент. Анатоля Вераб'я; рэд. Тома Вячаслаў Рагойша. Мінск: Маст. літ., 2012. С. 7.

[7] Гл. яго рэцэнзію на "Астэроід" І. Канановіча: Галубовіч Л. На сваёй арбіце // Новы час, 2015, 26 чэрв. С. 23.

кі супастаўлення. А яны ёсць! Па-другое, у наступнай частцы нашай рэцэнзіі пастараемся прадэманстраваць калі не сінанімічнасць, то пэўную сугучнасць творчасці абодвух.

Галоўнае, што кідаецца ў вочы, — тое, што абодвух аўтараў турбуюць тыя ж тэмы і праблемы. Перадусім: лёс Радзімы, чалавечае існаванне, тэма паэзіі і паэта, а таксама (як жа без гэтага!) каханне. Прычым у іх раскрыцці, нягледзячы на вышэйсказанае, разглядаемыя кнігі часта паўстаюць блізкімі па духу, практыкуючы прамаўленне, трохі дзеля эфекту кажучы, ад медытацыі да шансона. Ці, як хацелася і назваць гэту работу, ад Радзімы да шансона, але гэты варыянт падаецца занадта іранічным, бо вельмі нагадвае фармулёўку задання ў войску, паводле якога трэ было капаць ад плоту да абеду. Таму вернемся да медытацыі. Ёю «пахнуць» найперш паэтычныя карацелькі ці — па-дэбішаўску — жвірынкі. Генезіс іх, як і медытацыі, знаходзіцца ва ўсходняй паэзіі, таму І. Кананові́ч гэтага ўплыву не пазбягае і не хавае (адзін верлібр так і называецца «Харакіры», с. 64), а вось В. Дэбіш ідзе па шляху асіміляцыі. Аднак, што важна, у абодвух на выхадзе — удалыя вобразы і трапныя думкі:

*Плявок, што сабраў*
*усе твае пацалункі,*
*заледзянеў на пяту.*
*І не толькі ў зіме*
*справа...* (Кананові́ч, «Плявок», с. 81)

*Распусціліся*
*вясною кветкі*
*і... жанчыны.* (Дэбіш, с. 214)

Сімптаматычна, што аўтарства працытаваных радкоў можна ўстанавіць па стылі адносін да тэмы. У той жа час тут адчуваецца пэўная павярхоўнасць і банальнасць. Але калі паэты заглыбляюцца — як у метафізіку сваіх (?) душэўных перажыванняў, так і ў паэтычныя фарбы вобразнасці — «атрыбуцыя» радкоў становіцца больш складанай. Прывядзём прыклады без указання крыніцы:

| | |
|---|---|
| Кожнаму —<br>свой пакой,<br>і толькі цішыня —<br>адна на дваіх... | Жудасная<br>цішыня<br>смерці. |
| Бліскучы пыл<br>асядае на пальцы.<br>Рассыпаўся<br>схоплены<br>промень зоркі. | Сасмяглыя зоркі<br>п'юць<br>рэчку. |

Аднак падобных, вельмі якасных пункціраў (без алюзіі на Алеся Разанава тут аніяк не абысціся) у старэйшага Аўтара знаходзіцца болей. Да таго ж і падаюцца яны па-ювелірнаму вытанчанымі. Узяць хоць бы замалёўку, вартую эскізаў Клода Манэ:

*Павісла павуцінка*
*на кончыку*
*лета.* (с. 207)

Як сказаў бы(ў) зямляк В. Дэбіша вядомы паэт Алесь Каско, «нічога больш». Гэта ізноў да пытання пра пераемнасць традыцый.

Досыць багата ў абедзвюх кнігах адведзена месца пад любоўную лірыку — па раздзеле: у парадку старшынства — «Убачыць неба» і «На арбіце тваёй». Багацце тое не толькі колькаснае — яно характарызуецца варыяцымі, якія далёка не заўсёды дыферэнцыруюцца на шчаслівасць / няшчаснасць пачуццяў . У кожнага свае гісторыі і свае да іх словы. Больш гучныя — у маладзейшага. Сталасць крынічыць самавітасцю. Але на тое яно і пачуццё кахання, каб іншы раз і гады забываліся душою — бессмяротнай субстанцыяй, падуладнай не Хронасу, але Амуру. У апошняга, як вядома, ёсць яшчэ адно імя, даволі характарыстычнае — Эрот. Пра гэта, як ні дзіўна, найчасцей напамінае В. Дэбіш, старэйшы, а не малады паэт:

*Абуджаю пацалункамі*
*сонейкі*
*грудзей тваіх.* («Наіў», с. 109)

І. Кананові́ч, калі не хапае паэтычных фарбаў, як падаецца, бярэ надрывам[8]:

*Разбітых сэрцаў колькі за табой...*
*А як не пакахаць такія вочы?*
*...Прасіў, аддаўшы волю і спакой:*
*«Маё не разбівай — не трэба двойчы!..»*

*Туга, трывога, рэўнасці змяя —*
*Я помню, колькі горычы ў пакуце...*
*Даруйце, хлопцы: назаўжды мая.*

А ёй — за сэрцы вашыя даруйце... («Джэнтэльменскае пагадненне», с. 74)

Месцамі ізноў-такі перажыванні тоесныя, дакладней, іх выражэнне спараджае асацыяцыі з... шансонам. Толькі ў В. Дэбіша аналогіі з ім больш архаічныя, з прывітаннямі «сярэбранаму веку» і, як нехта можа ўбачыць, Аляксандру Вярцінскаму:

*Ты думаеш, што ты мяне пакінула,*
*Дык гэта я быць не хачу з табой.*
*Ну хто сказаў, што без цябе загіну я?*
*Я, нібы дрэва лютаю зімой,*

*Перацярплю завеі і марозы,*
*І снегападу ледзяны пажар.*
*Ну хто сказаў, што буду ліць я слёзы?*
*Гэй, паглядзі на мой спакойны твар.* (с. 147)

Нечакана. Асабліва, ведаючы В. Дэбіша такога, 20-гадовай даўніны (NB раўналетка І. Кананові́ча і таксама на той час «першакніжніка»):

[8] Гл. таксама: Грышчук Н. Жарсці над цёмнай вадой // ЛіМ, 2015, 21 жн. С. 7.

**Развітальнае**

*Я адыходжу. Бо цябе кахаю.*
*Не затрымаеш, не паклічаш, не...*
*Мне будзе цяжка без цябе, я знаю,*
*Але яшчэ цяжэй з табою мне.*

*Бывай... Мне не забыць твой воблік мілы.*
*Ты плачаш... Як жа цяжка моцным быць.*
*Я адыходжу. Дай мне, Божа, сілы*
*Сябе, нібы парог, пераступіць*[9].

Карацей, цікавінак у кніжках знойдзецца нямала. Тое ж датычыцца і патрыятычных вершаў. Яны — як пра краіну ў цэлым, так і з факусіраваннем паэтычнага вока на Бацькаўшчыне ў вузкім сэнсе. У абодвух апяянне радзімы мае канатацыі збаналізаванасці, а вось радкі, напісаныя пад дыктоўку роднага куточка, удаюцца лепей. Для параўнання — радкі В. Дэбіша:

| | |
|---|---|
| «Не любіш Беларусь», — шыпенне чую.<br>Што падкалодным мне ў адказ сказаць?<br>Не Беларусь, панове, не люблю я,<br>А трутняў, што на шыі ў нас сядзяць.<br><...><br>...Тых трутняў, што завуць сябе народам<br>І абражаюць, гнобяць свой народ. (с. 44) | Тут стужка згадак сцелецца прыгожых.<br>Усё — як і калісьці, як раней.<br>Да роднай хаты... дзе астылы ложак,<br>Такі мне родны, не забыў мяне! (с. 80) |

Канечне, такі вынік — натуральны. Як і пераклічка са зваротам Янкі Купалы да «ворагаў беларушчыны» — «панове», як і паралель Дэбішаўскага ложка ў бацькоўскай хаце з Барадулінскай такой жа клямкай з вядомай вершапесні:

*Не забыць, як марозам злым*
*Клямка пальцы пячэ балюча*[10].

Аднолькавы зварот — бо краіна адна. Для кожнага — ад класіка да сучасніка. А вось «клямкі» ці «ложкі» — гэта ўжо індывідуальна. Але без іх не бывае. І не толькі ў паэтаў.

Напрыканцы гэтай аналітыкі адзначым, што прафесійнай чытацкай увагі з яе друкаванай рэпрэзентацыяй атрымаў больш маладзейшы паэт (хаця «Астэроідаў» усяго 200 — на 50 менш, чым Дэбішавых «Чуйнароў»): дзве адносна вялікія рэцэнзіі ў рэспубліканскім друку супраць маленькіх дзвюх на кнігу В. Дэбіша, прычым адна з іх — даволі крытычная — у рэгіянальнай газеце[11] (з нам вядомых публікацый). Плюс яшчэ адной можна лічыць верш самога І. Канановіча:

[9] Дэбіш В. Лісты да Марыі: Вершы / Прадм. Н. Мацяш. Мінск: Маст. літ. 1996. С. 60.

[10] Барадулін Р. Трэба дома бываць часцей…: Выбр. старонкі лірыкі / Прадм. В. Быкава. Мінск: Маст. літ., 1993. С. 19.

[11] Бяласін Я. Два Дэбішы // Брестский курьер, 2015, 19 апр. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.bk-brest.by/2015/05/11650/. Дата доступу: 13.10.2015.

**Якое свята?**

Да нядаўняга выхаду зборніка
ўласных вершаў «Астэроід»

*Якое свята, браце? Не грашы!..*
*Павер, паэцтва пахне не малінай...*
*Стаў зборнік вершаў помнікам душы —*
*Расцягнутай, загаджанай. Адзінай.*

*Шэдэўры выбягалі з-пад рукі?*
*Магчыма. Але цешыла не дужа...*
*БЯДОЙ напампаваныя радкі!*
*Які ж ты блізарукі, любы дружа!..*

*Паэтам быць —*
*штодзень глядзець за край.*
*Высокі боль —*
*капкан, прысуд суровы.*
*Зайздросны лёс? Ну, дурань, забірай!*
*Яшчэ і даплачу — насі здаровы*[12].

Такім чынам Аўтар чарговы раз уздымае тэму паэта і паэзіі, але да ўсяго дае ацэнку сваёй паэтычнай творчасці і яе канкрэтным вынікам па іх свежых слядах. У прынцыпе, гэта не нова ў літаратуры, але ў вершаванай форме так аператыўна зрэагаваць на выхад сваёй кнігі — падыход досыць арыгінальны.

Што сказаць у заключэнне? Нічога адметнага — яго шукайце ў свежых зборніках. Бо яно — адметнае — у іх ёсць. Зрэшты, як і трывіяльнае (у каго яго няма?!). Апошняе таксама мае права на паэтычнае жыццё, асабліва пасля такога адваката, як Барыс Пастарнак:

*Поэзия, когда под краном*
*Пустой, как цинк ведра, трюизм,*
*То и тогда струя сохранна,*
*Тетрадь подставлена, — струись!*[13]

Але абавязкова варта падкрэсліць, хоць і не ўпершыню, што галасы І. Канановіча і В. Дэбіша па-сапраўднаму паэтычныя, і чытачы (калі не ўсе, дык ладная частка), якіх скора застанецца меней, чым саміх паэтаў, многія радкі з разгледжаных выданняў успрымуць нераўнадушна.

---

[12] Кананові І. Новы танец // Новы час, 2015, 24 ліп. С. 15

[13] Пастернак Б.Л. Собрание сочинений. В 5 т. Т. 1. Стихотворения и поэмы 1912 – 1931 / Редкол.: А. Вознесенский, Д. Лихачев, Д. Мамлеев и др.; Вступ. статья Д. Лихачева; Сост. и коммент. Е. Пастернак и К. Поливанова. М.: Худож. лит., 1989. 220.



# Вітаўт Мартыненка

публіцыст, паэт, перакладчык, музычны крытык. Працаваў у моладзевай прэсе 80—90-х гадоў, на «Радыё Свабода». Аўтар кніг «Праз рок-прызму» (сумесна з А. Мяльгуем), «Свой сярод чужых», «222 альбомы беларускага року і ня толькі» (сумесна з А. Мяльгуем), «Rock on-line». Падрыхтаваў і выдаў поўны беларускі тэкст рамана Генрыха Сянкевіча «Quo Vadis». Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Дыскаграфія

## «Wartha» быць папулярным?

***«Wartha» — «Azure Lakes», М., 2015, «SoundAge Productions».***

У снежні 2013-га «Верасень» (№2/9) пазнаёміў сваіх чытачоў з прадстаўніком нацыянальнага музычнага экстрыму — мінскім блэк-метал гуртом «Wartha», які яшчэ не ўсе ведаюць у Беларусі, а замежных выдаўцоў скарае адзін за адным. Дэбютны альбом выйшаў у Екацярынбургу, а другі праз год у Маскве. Чаму ж у нас папулярныя іншыя?

Існуе фэйкавая ісціна быццам папулярнасць у маскульце — ледзь не сінонім творчага поспеху. Мо і поспеху, але не творчага, а толькі камерцыйнага (дзе жыццёвы цэнз вымяраюць на ўзор свіней сытасцю: у каго карыта паўней — у таго і жыздңь удалазь). Але колькі разоў пераконваўся, што сапраўдныя шэдэўры ствараюць і зусім невядомыя (у шырокіх колах) гурты. Вось і па TV-радыё роднай Беларусі нешта не гучыць музыка гурта «Wartha», дый нават на канцэртных афішах яны нячаста ззяюць, а піша пра іх музычная прэса Бельгіі, іх паказваюць на тэлеканалах Сербіі й Бразіліі, а іхні дэбютнік «Паўстань» выдаў екацярынбуржскі лэйбл «Stygian Crypt Productions». Скажаце, ёсць выдаўцы і пасалідней, але праз год «Wartha» ўжо мела кантракт з міжнародным фольк-метал лэйблам «SoundAge Productions», які шуфлюе сваю прадукцыю ў Канаду і Японію, Фінляндыю і Украіну, Нямеччыну і Расію. Што й казаць, калі нашы славутыя «LitvinTroll» і «Стары Ольса» там выдаваліся. І якраз у лютым 2015-га каталогі SAPCD папоўніў нумар 277: «Wartha» — «Azure Lakes». Што ж такое, калі нашыя выдаўцы адзін за адным заяўляюць аб «апошнім выданні на фізічным носбіце», а беларускія гурты ўсё шырэй выдаюцца адмыслоўцамі ўсходу і захаду? Мо проста беларусу ўсё больш прырастаюць лапці да скуры па дарозе ў бульбашоўства. Але апошнія з магіканаў не тырчаць у бясплатных памыйках інтэрнэту, а знаходзяць сапраўдныя фірмовыя прадукты, якія насалоджваюць вуха і душу фірменным якасным вытворам для сапраўдных меламанаў.

Не пашкадаваўшы ў згаданым «Верасні» крытычных заўваг на пэўныя памылкі фанаграфічнага дэбюту, я ўсё ж пабойваўся й кардынальных зменаў саўнду калектыва, бо дысбаланс нямоцнага жаночага піску з суровым мужчынскім вакалам ствараў і нейкі адметны нюанс, як таямнічая ўсмешка Моны Лізы. Куды Да Вінчы без яе?

Дык разгорнем зграбны 12-старонкавы буклет з бездакорнай прасечкай тыльніка ў скрыні, каб пачаць знаёмства з гэтым яшчэ больш таямнічым «Azure Lakes».

Як дзівіла калісь спрэчка з кіеўскім гуртом «Тінь Сонця» наконт недаацэненай мной святыні балотаў, так і «Wartha» ўжо з мастацкай аздобы альбо-




ма прымушае думаць пра гэта. Як і абяцалі музыкі, «там будзе ўсё павольна, сонна ды непазбежна», дык і жыватворны балотны каларыт вокладкі нагадвае сэнс згубленых намі беларускіх каштоўнасцяў, якія ўсё ж застаюцца непазбежнымі. Ну і музыка...

Ці граюць яны black-metal, пра які заяўлялася на самым пачатку? Сумненні былі, калі паступовае заглыбленне ў фольк, паган-плыні, у сімфа-гармоніі парушала пэўныя стандарты. Але ці задача творчасці ў тым, каб заганяць вольны дух у стандарты й стэрэатыпы? Вунь жа й моц найбольш сілкуючай плыні мастацтва (фальклор) якраз у тым, што яго ствараюць не схематызаваныя вузкалобай чужынскай адукацыяй шкаляры, а НАРОД. Гэта інтуітыўная творчасць вольнага духу. Захавальнікі духу сілкуюцца прыроднай інтуіцыяй праз наіўныя прадчуванні і... выйграюць, ствараючы нешта неверагоднае.

Мы з дачкой, прызнацца, нудзімся метал-схемамі. Яна ўвогуле чакае эмацыйных адкрыццяў у панку, хардкоры, а то і ў кантры, але неяк зайшла да мяне ў час знаёмства з дэбютнікам «Паўстань». На песні «Гаспадар» выгукнула: «І гэта блэк-метал?! Нічога сабе!!!» Не марна ж у сеціўных характарыстыках іх пазначаюць тэрмінамі black-metal, folk-metal, heavy-metal, post-metal, power-metal, folk, pagan, epic, doom, progressive... Для мяне тут лішні доказ творчай смеласці. Яны не зацыкліваюцца на камерцыйных атрыбутах, не заганяюць сябе ў чыесьці шаблоны, а творча распрацоўваюць абраны шлях. А некалі яны абіралі black-metal і, мяркую, наўрад ці перайшлі да поп-софт кірункаў.

Не кожны слухач любіць інструменталы, але тут інструментальны ўступ такі шматабяцальны («Бусловы стогн»), што сэнс даходзіць без лішніх слоў. Адзіная англамоўная песня «Starpath» мо і слушна прэтэндуе на шырэйшы ахоп, але ці не пазбавілася пераканаўчасці для роднага адрасата, бо гаворка ж пра «Зорны шлях» не банальная, а моцна запатрабаваная тут. Прыкладна такая:

*Дрэвы ў цішы. Ніводзін лісток не прамовіць да мяне,*
*Нават травінка не варухнецца тут.*
*Чысціня вады паказвае лесвіцу ў неба.*
*А я ці адважуся дакрануцца да Зорнага Шляху*
*З маім чалавечым досведам і розумам?*

Васьміхвілінны «Змей возера» таксама гаворыць не пра далёкі Лох-Нэсс, а пра рамантычныя вобразы роднага краю, таму нягледзячы на «нефарматную» працягласць, пасляхова выканаў ролю аднаго з прамацыйных сінглаў, зацікавіўшы і беларускамоўную аўдыторыю, і меламанаў Расеі, Польшчы, Балгарыі, Сербіі... Мяркую, прэстыжнае выдавецтва пашырыць кола фанаў, але да сапраўднага мега-хіта рэлізу акурат падыходзім пасля яго. У «Azure Lakes» увогуле нямала якасных пераканаўчых гукаў, але як даходзіць да «наіўна-інтуітыўнага» фольку «Што й па мору», слухача проста прышпільвае ў фатэль. Вось калі разумееш сутнасць МУЗЫКІ, асэнсаванне якой наўрад ці дасць камп'ютарны фармат. Я слухаю на сціплай апаратуры hi-fi, а пасля перажытых эмоцыяў марыў бы і пра hi-end (sorry за згадку прызабытых стандартаў якасці, пластмасу вам у вушы).

«Што й па мору» — гэта не набор модных рыфаў, а жывая эмацыйная скарбонка чалавечага настрою. У дадзеным выпадку беларускага досведу. Невыпадкова на жаночы голас узялі неверагодную Эльвіру Сцельмашук з паляшуцкага метал-гурта «Omut». Дый мужчынскія вакалы небанальныя. Напрыклад, у загалоўнай кампазіцыі «Азёраў блакітных» (абедзьве версіі) яны ўзмацняюць пакутлівы пасыл трывалага сэнсу жыцця «каб толькі ўсё давесці да канца».

Беларускі класічны black-metal «Дайце ім памерці». Такіх эмоцыяў не дасць вам ніводзін «фарматны» хіт. Якая энергетыка! Мала што вакал магутны, дык і гітарныя рыфы так і хапаюць слых у цесныя абдымкі. Ці гэта асноўны гітарыст Ян Мачульскі, ці запрошаны Вадзім Шэндар — не ведаю, але гармоніі абодва дасягнулі пераканаўчай. Дый узорны драйв рытм-секцыі (бубны Івана Бакарова, бас Генадзя Харытонава) ці не на падставе гэтай гармоніі ўдаўся. А галоўнае: ці ўдалося б усё без такога нестандартнага кампазітарскага таленту Алега Зелянкевіча? А ён жа адказны яшчэ й за тэксты, вакалы ды нават дызайн.

Напалову англамоўны з дапамогай Веры Рыч класічны Янка Купала ў «Heritage» нагадаў мне й свае юначыя спробы прапанаваць нашу класіку гуртам «Warlock», «Lombard», але шлях гурта «Wartha» апынуўся больш плённым, бо акурат яны цяпер апярэджваюць нават той «Warlock» у статыстыцы чытанняў на сайце http://www.musicinbelgium.net (гл. раздзел «Des Chroniques»). Ад «Песняроў» захаваўся тужлівы настрой («нам засталася спадчына»), але адвечная крыўда выразна перарастае ў блэк-метале ў прагу барацьбы. Несупрычыннай.

«Вядзьмар» — разважная балада на жывых вакальных эмоцыях, падтрыманых пранізлівай гітарай, прысвечана Томасу Форсбергу з гурта «Bathory», вядомаму як Quorthon. Англамоўны драйв прыпева толькі ўзмацняе самой згадкай Satanic Nordland King адчуванне нарастаючага болю крыўды вечна рабаванага народа, які даў адметныя скарбы ў гісторыю чалавечай цывілізацыі.

Вакалы каверу «Мая зямля» ўзяла на сябе госць студыйнай сесіі альбома Эмілія Скарабагатая. І класічная наша «Мроя» прыдбала ў блэк-металёвай версіі таксама драйву не крыўды, а прагі барацьбы.

Захапленне альбомам «Azure Lakes» гурта «Wartha» засмучае толькі факт, што пазначаны на ім склад гурта таксама ўжо не актуальны ў краіне поўнага бесперспектыўняка айчыннага шоу-бізнэса. Радыё й тэлебачанне тут працуюць на чужога дзядзьку, а таленты марнеюць самастойна. Але пакуль жывыя! Як піша нейкі Джэф Фіннеган (Jeff Finnegan) на сайце http://www.folk-metal.nl у Галандыі, «Пакуль мы пражылі толькі 2 тыдні ў 2015 годзе, але ўжо маем дзіўна добры альбом: «Wartha» — «Azure Lakes». Вы можаце падзякаваць мне пазней, што я падарыў вам частку маёй таямніцы». І ад мяне таго ж!

## «Like a Gossamer» — гэта легенды і паданні па металу

***«Like a Gossamer» — «Клятва вернасці», Мн., 2014, «Vigma»/»Будзьма».***

Як бы вас ні адштурхоўвалі англамоўныя назвы беларускіх гуртоў, але не забывайце грунтоўны нацыянальны досвед такіх калектываў, як «Soulsides», «Weeping Twilight», «DeadMarsh», «Dialectic Soul», «Partyzone», «Re1ikt»... Вось і мінскі гурт «Like a Gossamer» ідзе шляхам не шматлікіх патрыётаў чужацтва кшталту «Vicious Crusade», «Drum Ecstasy», «Nuteki», а акурат шляхам асэнсавання сваёй адметнасці ў стракатым свеце. Пра гэта сведчыць і першая ластаўка іхняй дыскаграфіі — поўнафарматны CD «Клятва вернасці», які ўпершыню паслухаць мне пашанцавала яшчэ на прэзентацыі. Прызнацца, гурт не назавеш «белай воронай» нашага рынку, бо ўдзельнічаў у «Memento Mori Fest», «Vox Femina: Tribute Flëur», «Metal Hearts», выступаў у бабруйскім «Labirint Fest», трапіў у складанку «Прэм'ер Тузін'2007» (іхняя «Дарога» сярод 30 найлепшых песень года). Але канцэптуальны рэліз, працягласцю цэлую гадзіну, прапанавалі ўпершыню. І ён беларускі без зверкі пашпартоў.

Адразу згадваецца, як даводзілася мне ў рэцэнзіях папракаць музыкаў недастатковасцю канцэптуальнай распрацоўкі альбомаў, а тут цалкам наадварот — цягне папракнуць залішняй наварочанасцю канцэпцыі. У прэс-рэлізе яны нават напісалі: «Трэкі ахопліваюць шырокі спектр стыляў: андэрграўндная эстэтыка аб'ядноўвае progressive metal, medieval, folk, класіку і джаз». Спярша няўцям — радавацца ці сумаваць? А мо лепш задумацца? Што гэтаму віной — былы англамоўны досвед музыкаў у празе хутчэй вырвацца з чужых цянётаў ці апантанасць маладой паэткі Алены Жукавай, якая і падкінула ім адразу ўсё, чым дагэтуль хварэла сама. Падаецца, што менавіта яна сталася акумулятарам ідэі ўзнаўлення велічы беларускай культуры, а стомлены пустапарожнім англамоўем гурт проста апынуўся здольным разгарнуць Божае натхненне. Каму ўявілася нейкая экстрэмалка-экстрэмістка, дык дадамо, што піша Алена і кнігі для дзяцей.

У сеціве пэўны час стракацелі згадкі, што сярод сесійных музыкаў альбома заўважаны Аляксей Гладыш (бубнар «DeadMarsh»), Паліна Дулінец (ва-

калістка «Rokash»), але нельга забываць асноўны склад калектыву (пакуль студыйнага, але ўжо плённага), які створаны ў 2003 годзе Алесем Акульчыкам і Дзянісам Голіным ды спярша граў сярэднятэмпавы gothic/doom/death metal з англамоўнай лірыкай. З цягам часу стыль пачаў змяняцца ў бок прагрэсіву і неакласікі. Натуральна, англамоўныя тэксты саступілі месца беларускамоўным. Дык вось, у складзе — Алесь Акульчык, гітара, вакал, музыка; Дзяніс Голін, бас-гітара, бэк-вакал, аранжыроўка; Ягор Чарнамор, гітара; Крысціна Ганчарова, клавішы.

Спазіраючы рознастыльнасць праекту, прыгадваю бельгійскага рэцэнзента Аліўе Вутэрса, які пра амерыканскі гурт «White Denim» пісаў: «Як бачым, іх альбом ідзе ва ўсіх напрамках, таму часам слухачу даволі цяжка з'арыентавацца. Тым не менш гэта ці не плён з двух выдатных пачаткаў (апантанае безагляднае натхненне першаснай культурай і дасведчаная камерцыйная стылізацыя). Усё гэта хоць і нібыта робіць вас неўспрымальным да першага слухання, але з дапамогай паўтаральных пасажаў на вашым CD-плэеры паступова разгортваюцца сапраўдныя таямніцы. Добрая праца ў доўгатэрміновай перспектыве...» Усё гэта можна паўтарыць і пра «Like a Gossamer» («Як Павуцінка»). Яны насамрэч зацягваюць слухача ў свае цянёты, як павук муху. Вось такі postmodern metal гурт.




«...»Клятва вернасці», як адзначае прэс-рэліз, гэта міжнародны арт-праект, які з'явіўся на стыку сучаснай авангарднай музыкі, графікі і літаратуры. У альбоме слухач знаёміцца з маладым этнографам-фальклярыстам, які вандруе па Беларусі, гутарыць з людзьмі і запісвае іхнія апавяданні (трэкі «Зімовым шляхам», «Полем», «Вільня», «Залессе», «Вандроўка першая,.. другая,.. трэцяя,.. чацвертая,.. пятая», пабудаваныя на нотах канкрэтных гукаў студыі «ЛенДок», дзе працуе піцерскі беларус, а таксама ўдзельнік мінскага эксперыментальнага праекта «Favourite Mirror» Арцём Бусел). Кампазіцыі звязаны ў агульны сюжэт праз гукі рыпення снегу, роскату маршу жандарскіх ботаў, плёскання русалак. Гэта канцэптуальны музальбом (я б дадаў, пераважна метал-альбом), створаны паводле беларускіх легендаў і паданняў. Ён працягвае рамантычную традыцыю, закладзеную Янам Баршчэўскім у «Шляхціцы Завальні» і ўжо ў наш час развітую Уладзімірам Караткевічам».

Варта хіба дадаць, што графіку мастацкай аздобы буклету (24 старонкі), зробленую беларускай мастачкай з Нямеччыны Катарынай Філіст, таксама не

залучыш у каноны традыцыйнага шоубізу. Шагал адпачывае, як кажуць. Але мазгі ўключыць давядзецца й неахвочым, бо за плячыма Катарыны — супрацоўніцтва з беларускім гуртом «Re1ikt», з папулярным у Нямеччыне ды-джэем Алексам Нігеманам, музычнымі лэйбламі «Casual lab», «Soulfooled».

Скажу шчыра, асабіста мне слуханне спадабалася не адразу, але надзвычай глыбока. Найбольш працінаюць душу паэтычныя асэнсаванні ў тэкстах Алены Жукавай сімвалічных постацяў беларускай культуры, якія сталі персанажамі метал-легендаў: Усяслава Чарадзея, Міхала Клеафаса Агінскага, Кастуся Каліноўскага, фальклорныя вобразы метал-баладаў пра Свіцязь, пра вёску Шведы:

*Так, кожны мусіць сысці у глебу —*
*Прорву бясконцую, мяккі ложак.*
*А душа ў царства мёртвых адбыць не можа,*
*Бо не лёс злачынцам крануць бездакорнае неба.*

Вось і варажы над пакутамі сучасных нашчадкаў былых няўцямных марадзёраў. Хіба не часта ў нас наракаюць: «А ў чым жа дзеткі вінаваты?» Дык «Like a Gossamer» дапамагае знайсці слушныя адказы. Умей толькі слухаць і чуць! Песня «Шведы» вам у вушы. Вось дзе рэальны, а не тэатральны блэк-метал! Не рабуй мёртвых, а то «зацьміць розум чужое багацце»!!! Нават гроўлінг (вакальны хрып) узорна дарэчны.

Але асабіста мяне, гартаванага з 80-х гадоў металёўца, найбольш уразілі сапраўдныя топ-хіты «Клятва вернасці» (пра часіны хрысціянска-паганскіх барыканняў на нашай зямлі) і караценькі паўакустычны «Непачуты паланэз» (пра музычны геній чарговага беларускага выгнанца, які стварыў сусветны шэдэўр у сціплым фальварку Залессе перад выездам у Францыю). Не быў палякам у Рэчы Паспалітай, не схацеў быць і расейцам у крыважэрнай імперыі. Застаўся ліцвінам у Парыжы, як і многія суайчыннікі.

Сярод няўдалых трэкаў назваў бы стылістычна эклектычны «Край расамах, русалак і чарцей», фрагменты рэп-смецця ў «Шведах». Зрэшты, сапраўдных хітоў у альбоме хапае: «Чарадзей», «Заклятая гара», «Святаянскія муры».

Каму падасца занадта мёртвай фальклорная напоўненасць метал-альбома, усё ж не абысці ўвагай згаданую кампазіцыю-ключ «Край расамах, русалак і чарцей», якая адкажа на тупіковыя пытанні нашай векавечнай рэальнасці:

*Прысуд-краіна, ў той жа час — збавенне,*
*Якога гэтак прагна просяць душы,*
*Краіна несабранага камення,*
*Таму што тут краіна раўнадушных.*

А мо «краіна стабільных», а не раўнадушных? Бо столькі хцівых суседзяў (палякі, расейцы, шведы, немцы), а ўсё жыве Беларусь! Слушнай аблямоўкай канцэпцыі сталі беларускія народныя песні, выкананыя ў традыцыйнай манеры. І гэта крыніца дадатковых развагаў пра творчасць, гэтак мовячы, перабежчыкаў з розных культурніцкіх традыцый, хоць «Like a Gossamer» ні-

як не назавеш і неафітам у нацыянальнай плыні. У структуры альбома згадваюцца трывалыя традыцыі беларускай рок-класікі: памятаеце ключавыя фольк-спевы Таццяны Мархель у магутным альбоме «Краіна доўгай белай хмары» гурта «Ulis» (Warszawa, 1990, «Polskie nagrania»)? Дык пачаткам і фіналам альбома «Клятва вернасці» сталі фальклорныя спевы Паліны Дулінец у зімовай песні «Ой, стаіць бяроза» і восеньскай «Зашумела дубровачка». Дый музыкі «Like a Gossamer» паспелі трывала адзначыцца ў культавых праектах «Testamentum Terrae», «Weeping Twilight», «Re1ikt», таму ў здрадзе іх не папракнеш.

## «M.G.»: зноў Геніюш і Багдановіч у метале

***«M.G.» — «К чорту гарэлку», Мн., 2014, «БМAgroup».***

Чаму зноў? Ды як забыць мінскі гурт «DeadMarsh» 2003-га, які й Геніюш, і Багдановіча чароўна прапісаў у progressive thrash metal свайго бліскучага альбома «Грані». Што да стылістыкі навагрудскага гурта «M.G.», не будзем паўтараць за першымі каментатарамі вынайдзены імі абсурдны тэрмін бульба-трэш, хоць і музыкі пад яго стартавую песню стварылі, не ўзяўшыся патлумачыць, што маюць на ўвазе: thrash (калаціць) або trash (смецце). Паколькі паводле ўзроўню хлопцы ніяк не цягнуць на бульбашоўства, дык падумаем над стылем самі. Бадай, «M.G.» не капіюе калегаў папярэдняга дзесяцігоддзя, сягаючы ў больш экстрэмальныя плыні на мяжы metalcore, fusion, industrial metal. Адшукаўшы ў сеціве першыя водгукі («Аляксандр /05.07.2014/ 16:54 — Музыка лепш за голас, які пайшоў бы добра на бэк, а так нямоцна, дрыгацца нават не хочацца» — піша адзін ці не аматар танцавальнай музычкі), мушу сказаць, што вакал хоць і не ўражвае магутнасцю таленту Зоі Каральчук або Пятра Ялфімава, але надта не бянтэжыць (у павольных трэках нават захапляе), а вось гітарныя партыі так і ўзрушваюць слухача. Іх многа, яны разнастайныя і, важнейшае, віртуозныя. Менавіта на іх тле квітнее й жвавая рытм-секцыя.

Гурт «M.G.» быў заснаваны ў 2008 годзе ў Навагрудку гітарыстам Германам Кулікам, а таксама вакалістам і бас-гітарыстам Уладзіславам Мазалеўскім. У склад быў запрошаны й бубнач Артур Кулік. У такім складзе пачалі працу над сваім музычным матэрыялам. Потым было вырашана ўзяць у склад яшчэ аднаго гітарыста (Павел Рэвека). У тым жа 2008-м стварылі першы дэма-запіс, а ў 2011-м прома-альбом «Energy of rock». Удзельнічалі ў такіх фестывалях, як «БАСовішча» (2011), «Live in rock», «Музыкальный апельсин», выступалі ў клубах розных гарадоў нашай краіны, наведалі шмат рыцарскіх фэстаў (Мсціслаў, Камянец і г.д.). Пасля невялікага перапынку, звязанага з сыходам гітарыста ў войска, у канцы лютага 2014 пачынаюць у прафесійнай студыі «KeyOK» запіс новага альбома «К чорту гарэлку», які нарэшце выходзіць у прамысловы наклад пад знакамітым лэйблам «БМAgroup» (CD BMA 153).




Нягледзячы на такую даволі маляўнічую біяграфію, назва гурта яшчэ яўна не на слыху ў краіне, дзе няма музычнай прэсы, дзе тэлерадыёфарматы скіраваны супраць нацыянальнай рок-творчасці. Сеціўны пошук «M.G.» даў даволі прыкметныя брэнды аўтамабільнай індустрыі, электроннай вытворчасці, турызму, а меламану нешта не фарціла: ну на чым падвіслі навагрудскія музыкі, назваўшыся «M.G.», калі папярэдняя назва «Metalgues» («Металкаровы») увогуле нічога не тлумачыць? Хіба рэцэнзія мая прышпільна б называлася «Металкоравыя МЕТАЛКАРОВЫ», але... Мо дыхтоўная навінка салідных айчынных выдавецтваў (лэйбл «БМAgroup» і завод «Маркон») прасветліць таямніцы? Тут хоць лагатып на вокладцы шыкоўны. Дый рукі з бранзалетамі сімвалічныя для дэбюту.

Прэзентацыю альбома «К чорту гарэлку» (назву акурат і даў верш Ларысы Геніюш) гурт «M.G.» правёў 6 ліпеня ў сталічным клубе «TNT». Прадзюсарскі цэнтр «Арт-Сядзіба» заманьваў публіку акурат «скандальнай» песняй «Бульбатрэш», якая мне падалася ці не найбольш банальнай (за выключэннем хіба прышпільнага скрэтчынгу, які зазвычай імітуе скрыгат драпаных вінілаў, а тут — хрумст зажаванай лічбы):

*Пяць каністраў брагі была —*
*бутыляў па шэсць на рыла,*
*Фэстываль музыкі гралі,*
*вушы музу спажывалі...*

Ну і далей кшталту «тут усе піва п'юць, давайце ўсе адцягвацца, пакуль мянтоў няма». Я б назваў песню не скандальнай, а тупой, хоць і вельмі энергічнай, дынамічнай. Мяне рок-фэсты заўжды зусім не тым вабілі. Як і героя цудоўнай стужкі Кэмерона Кроў пра пачаткі рок-руху «Almost Famous» («Амаль знакаміты», 2000), але сёння не пра тое. Проста хлопцы маладыя, пакуль падпадаюць часам пад уплывы лёгкапісучых дзялкоў шоубізу. Але й да сэнсу душа цягнецца, што аж у загалоўнай песні схільны й да самадакораў:

*К чорту гарэлку, шэйкі і твісты —*
*У сэрца народа скіраваны выстрал,*
*Досыць нам голаў хлуснёю кружыць!*
*Жыць яму заўтра, альбо не жыць...*

У добрай песні й вакал Божанька разгарнуў адэкватна, пераканаўча загучаў, а песня з такою назвай трапіла яшчэ ў 2013 на складанку «Паэты жывуць у песнях». Бо самі словы натхняюць: «Вораг суровы і лёс наш круты,.. Выканаць нам, што бацькі не змаглі Аб волі, аб мове радзімай зямлі... Мы — стража ля нашай народнай калыскі... Мы сёння лёсу Радзімы зарука...» А хіба не?!

Альбом складаецца з сямі кампазіцыяў. Ларысе Геніюш належыць падзяка й за трывалы сучасны пасыл у фінальнай песні «Дзецюкі» (верш называўся «Не сумуйце»): «Не сумуйце, дзецюкі, начамі — Ўжо не дасца спутаць вольны дух! Мы былі і будзем Крывічамі. Ад хваль Угры аж па сіні Буг!» У музыцы сучасны экстрым не замінае выявіцца й фальклорным настроям гістарычных баявых баладаў. Ларыса Геніюш апынулася нават больш баявой за знакаміты гімн Максіма Багдановіча «Пагоня».

Колькі музыкаў ні бралася за геніяльны верш Максіма-Кніжніка (толькі з сучасных рок-гуртоў можна прыгадаць найперш «Песняры», «Краму», «Apocryphal»), а вабіць і надалей... І вось «M.G.» у самым цэнтры свайго дэбюту з «Пагоняй». Надзвычай розныя версіі, але ў «M.G.» акурат гімнам менш патыхае. Хутчэй такая патрыятычная застольная песня, такі народны thrash. Мо нам акурат і не ставала такіх спеваў за сталом? Распачынаецца гэтак лірычна, энергія ўсё нарастае, разгортваецца, гуртуючы грамаду пераканаўчымі гармоніямі («біце ў сэрцы іх, біце мячамі...»). І якраз вакал Уладзіслава Мазалеўскага тут найбольш дэманструе сапраўдны спеўны голас (было б нядрэнна прафесійнымі ўрокамі яго падцягнуць, паставіць).

Для аматараў патрэсці галавой у метал-танцы, як каментатар Алесь, — пара ангельскіх песень класічнага трэшу «Nail King» («Лякаваны кароль») і «Price of Life» («Кошт жыцця»). Вам, сур'ёзныя слухачы, яны асабліва не сапсуюць уражанне, бо выкананы смачна, на ўзроўні (мо нават брытанцы недзе там у сябе слухаюць і захапляюцца «Якая ж ты мілагучная, мова Купалы й Пушкіна!»). Пры чым тут Пушкін? А пры тым, што ёркшырскага дыялекту Бёрнса не чуваць, а ад белмоўных трэкаў таксама адрозніваецца. Тэхналагічны трэк «S.O.U.L.» (кшталту «Д.У.Ш.А.») я ўвогуле не зразумеў, дый што возьмеш з 45 секундаў (хоць і grindcore тут не патыхае)... Зноў прыгадваю подзіў аднаго канадца пра «Scorpions»: «Яны спяваюць па-ангельску?! А я думаў у іх нямецкая так чароўна гучыць». Нашы пойдуць следам. Але нядоўга, бо пераважны шарм іхняга дэбюту трывала беларускі.

Агульны настрой ад знаёмства з цалкам таямнічай навінкай музычнага рынку пакінуў неаднаразовае жаданне паўтарыць працэс. Кранае, я б сказаў. Нават валтузіць (дзякуй саўндпрадзюсару Андрэю Кійко)! Цікава, якім будзе працяг?

Чытайце «Верасень» у Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы kamunikat.org
а таксама на сайце tbm-mova.by




Да ведама аўтараў: рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца
Рэдакцыя не нясе адказнасці за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты